ВІКТАР ГАРДЗЕЙ

# ДОМ З БЛАКІТНЫМІ АКАНІЦАМІ

Аповесць і апавяданні



МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1984

Бел 2
Г 20

РЭЦЭНЗЕНТ ЛЕАНІД ЛЕВАНОВІЧ

**Гардзей В.**

Г 20 Дом з блакітнымі аканіцамі: Аповесць і апавяданні.— Мн.: Маст. літ., 1984.— 256 с.

У пер.: 90 к.

Кнігу складаюць аповесць і апавяданні. У аповесці — на складаным лёсе сялянскай сям'і глыбока даследаваны падзеі пасляваеннай вёскі. Героі апавяданняў — таксама сельскія працаўнікі. Аўтар паказвае нялёгкія шляхі станаўлення характараў, ставіць і вырашае маральна-этычныя праблемы сучаснасці.

Г $\frac{4702120200-022}{М302(05)-84}$ 9—84

**ББК 84Бел7**
**Бел2**

# ДОМ З БЛАКІТНЫМІ АКАНІЦАМІ

## Раздзел першы

### 1

Вярнуцца назад у яго не хапіла рашучасці. Але і заставацца дома ён ужо не мог. Было падобна на тое, што ён апынуўся паміж двух агнёў: паездка ў Сіняўку, магчыма, прынясе палёгку яго збалелай душы, з другога ж боку, яна, наадварот, можа прыбавіць новых пакут і сумненняў. І ўсё ж ён паехаў. Купіў на аўтастанцыі білет і сеў у амаль што пусты аўтобус. Тут, у аўтобусе, і закралася супярэчлівая думка: уласна кажучы, а ці варта яму ехаць у тую Сіняўку? Давыдчык памкнуўся выйсці з аўтобуса, хацеў вярнуцца дамоў, але схамянуўся занадта позна: аўтобус ужо ад'ехаўся ад шэрага, непрыветнага будыначка аўтастанцыі і, абмінаючы лужыны, марудна калываўся па калдобістай вуліцы раённага гарадка.

Давыдчык сеў на пашарпанае дэрмацінавае сядзенне, паставіў ля ног чырвоную гаспадарчую сумку, якую трымаў у руцэ, і, пакрысе супакойваючыся, пачаў глядзець у акно. Яго не цікавіла, што робяць і што гавораць суседзі па аўтобусе. Ён думаў пра сваё. З таго самага моманту, як наважыўся ў дарогу, Давыдчыка не пакідала адчуванне сустрэчы з вялікай, ні з чым не параўнапай стратай, якая аднойчы на-

паткала яго ў жыцці. Вось таму ён і ехаў у Сіняўку, дзе завязаўся тугі вузел яго пакут. Там ён павінен запоўніць пустату ў душы, развеяць свае трывогі. Відаць, гэта не проста капрызы памяці. У рэшце рэшт, Давыдчык меў права спытаць: чаму, з якой радасці ён быў абдзелены цеплынёй, ласкай, пяшчотай? Гэта трэба было высветліць, таму што памяць не давала спакою — памяць гнала яго з дому.

У Сіняўку Давыдчык выбіраўся як не з Новага года — ішоў на аўтастанцыю, браў білет і ніяк не мог рашыцца на гэтую паездку. Не сказаць, што і Сіняўка за светам — трэба праехаць па шашы некалькі вёсак, мінуць стары Машукоўскі лес, а там — праз хвілін трыццаць язды — пакажуцца шыферныя дахі пасёлка, што лепіцца па абодва бакі Брэст-Маскоўскай аўтастрады. Калі мераць сённяшнімі меркамі, дык нейкіх сорак вёрст, канечне ж, не дарога. Але Давыдчык упарта вяртаўся з аўтастанцыі, кожны раз не могучы вытлумачыць свой учынак.

Пэўна, яму балюча і цяжка ўбачыць тыя сцены, тыя вокны, якія павінны яшчэ помніць іншых людзей, іншыя крокі, іншыя беды і радасці.

Пакуль не споўнілася трыццаць гадоў, Давыдчык досыць спакойна адносіўся да таго, што недзе за лясамі, за даламі ёсць дом з блакітнымі — ці ж хоць з блакітнымі? — аканіцамі, які багата чаго значыў у яго жыцці. Да трыццаці гадоў чамусьці не думалася, што пражыты ўжо даволі ладны прамежак часу. Ды нечакана аказалася, што гэта ўжо абсяг, вышыня, з якой далёка бачыцца пройдзены шлях. Свой юбілей Давыдчык справіў яшчэ зімой, у самыя маразы, і вось з таго часу няма і няма спакою — як быццам душа і цела страцілі цвёрдую зямную апору.

Давыдчык стаў задумлівы, раздражнёны і капрызны, як дзіця. Ён пачаў баяцца цёмных начэй і таму позна заседжваўся з кнігай, хоць чытанне не лез-

ла ў галаву. Па начах сніліся жахлівыя і страшныя сны, і ён прахопліваўся ў халодным поце. Часцей за ўсё сніўся дом з блакітнымі аканіцамі. Дом гарэў, быў ахоплены полымем, а на самым вільчаку страхі хадзіў кот — вялікі і паласаты, як тыгр. Ніхто не рашаўся лезці ў полымя, ратаваць ката, і ён нема енчыў, пачуўшы сваю пагібель. Давыдчык бачыў агонь, крычаў у сне і прачынаўся ад жаху, а потым доўга не мог супакоіцца. Ён сядзеў на ложку і плакаў, але ні жонка Ліля, ні сын Толік не здагадваліся, што ён плача. Ён плакаў бязгучна, нябачна, плакаў збалелай, спакутаванай душой.

Пасля кашмарнай ночы Давыдчыка з новай сілай пацягнула ў Сіняўку, дзе ён павінен знайсці збавенне, паратунак ад сваіх блытаных і супярэчлівых дум. Пробліск гэтай надзеі з'явіўся яшчэ ля акенца аўтобуснай касы, калі ён стаяў у чарзе і глядзеў на белую руку, якая раз-пораз высоўвалася з акенца, падаючы людзям жоўтыя квіткі. Касірка, унурыўшыся ў работу, канечне, не заўважыла боль і ціхі смутак у яго вачах. Затое ў аўтобусе пасажыры дапытліва, з цікавасцю паглядзелі на Давыдчыка. Па нейкіх асаблівых прыкметах яны ўсё ж здагадаліся: не так сабе сцяў губы і нахмурыў шырокія бровы гэты высокі, змучаны і маўклівы чалавек. У душы паспачуваўшы яму, сівы дзядуля пасунуўся на дэрмацінавым сядзенні, таргануў Давыдчыка за крысо плашча:

— Сядайце во тутачкі. Не так будзе трэсці.

— Дзякую, месца ж хапае,— сказаў Давыдчык і, падумаўшы, усё ж сеў побач з дзядулем.

— І далёка едзеце? — дапытліва зазіраючы Давыдчыку ў твар, спытаў дабрадушны сусед.

— У Сіняўку.

— І я тэж туды. Старая паслала купіць шпалераў.

Дзядуля, мусіць, здагадаўся: маўкліваму, засяроджанаму мужчыне зусім не да яго, і адстаў з роспытамі. Давыдчык адчуваў, што яму трэба нешта сказаць у адказ, каб не пакрыўдзіць дзядулю, але не мог падабраць патрэбнае шчырае слова. Ён уставіўся ў акно, безуважна і няўцямна глядзеў на шэрае поле, што прабягала побач з шашой. За полем пачыналіся вёскі, за вёскамі зноў беглі поле і голыя пералескі. Магчыма, яны, гэтыя лужкі і паляны, што бачыліся за акном, былі незвычайнага хараства, але Давыдчыку было ўсё роўна. Ён сядзеў і маўчаў, маўчаў і думаў пра сваё. Толькі адзін раз устрапянуўся, ажывіўся, і то гэтае ажыўленне найшло тады, калі аўтобус уехаў у яшчэ адну вёсачку — Арэшніцу. Гэта ўжо зусім блізка ад таго месца, дзе пачалася для Давыдчыка нялёгкая трывога жыцця. За невялічкім ляском, зусім блізка (ці вёрст пяць набярэцца па гразкай лясной прасецы) быў Ясянец — яго родная вёска.

Аўтобус якраз праязджаў гулкі дашчаны мосцік, перакінуты цераз балоцістую і вузенькую, як паясок, рэчку, ці, дакладней, канаву. Рэчка, віхляючы ў алешніку, з Арэшніцы цячэ ў Ясянец, і таму яна цяпер узрушыла, расхвалявала Давыдчыка. Яна, гэтая безназоўная рэчка цякла ў Ясянцы акурат паўз яго хату. Вясной канава разлівалася і затоплівала вадою поплаў, які на кароткі час станавіўся возерам. Ясянецкія дзеці прыбягалі глядзець, як сярдзіта раве вада, шаруючы і ломячы крыгі. Паводка шумела дзень-два, а потым вада спадала, і хлопцы, узброіўшыся лукамі, хадзілі на канаву страляць лупатых, аблезлых жаб. Яшчэ пазней на аселіцы зацвітала лотаць, і ўсё вакол патанала ў зялёных і жоўтых фарбах. Давыдчык паехаў з Ясянца, пакруціўся па свеце, а свая канава-рэчка, што ўвесну злавала, як Прыпяць, не забывалася. Не дзіўна, што і цяпер у

яго зашчымела сэрца і ў душы тарганулася, заныла даўняя балючая стрэмка.

Даўно праехалі Арэшніцу, далёка ззаду пакінулі і рэчку, і балоцісты поплаў. Зараз аўтобус мякка пакалыхваецца па новай, пакуль яшчэ неразбітай і непашчэрбленай шашы. Была якраз тая пара года, калі яшчэ не скажаш: гэта ўжо сапраўдная вясна. Зямля яшчэ не адышла ад зімовых маразоў, але яна ўжо курыцца парай, успучваецца, набракае несусветнай сілай. Потым, калі поле скончылася, пачаўся стары Машукоўскі лес. Летам ён прыгожы, гэты стары, дрымотны лес, а пакуль што лес маўклівы і пануры. Снегу ўжо няма і тут, хоць звычайна пад дрэвамі ён доўга не растае.

Стары Машукоўскі лес, нягледзячы на сваю панурасць і маўклівасць, пачаў супакойваць Давыдчыка, і пакуль за акном мільгалі зялёныя сосны і елкі, ранішняя трывога трошкі ўляглася. Перамену ў ім, відаць, адчуў і дзядуля, таму што павесялеў, заварушыўся на сядзенні, разважаючы, з чаго б пачаць размову. Давыдчык бачыў, што дзядулю патрэбны субяседнік, але маўчаў, бо за знешнім спакоем у душы кіпеў вулкан пачуццяў. Давыдчык глядзеў у акно, лічыў сосны, што з адхонаў галасавалі аўтобусу, як быццам прасіліся пад'ехаць, глядзеў і не мог скласці ў адно абрыўкі думак. Перад вачыма стаяў нядаўні сон, ад якога Давыдчык прахапіўся ў халодным поце. Гарэў новы дом, гарэлі блакітныя аканіцы, а на самым вільчаку страхі раз'ятрана галасіў паласаты кот, якому, мусіць, ужо не выбрацца з агню, з гэтага гарачага і дымнага пекла.

За Машукоўскім лесам зноў пацягнулася шэрае поле, цёмныя пералескі, а пры самай шашы туліліся маленькія, непрыкметныя вёсачкі. І поле, і пералескі стаялі ў тумане. Вёсачкі былі малыя, а прыпынкі аказаліся надзіва люднымі, хутчэй за ўсё таму, што

была субота і многія ў гэты дзень хацелі куды-небудзь паехаць. Аўтобус спыняўся на шумных прыпынках, глытаў людзей у сваё халоднае жалезнае нутро, і можна было здзіўляцца, як яшчэ ўмяшчаецца ў ім такая процьма народу? Аўтобус уцягваў у расчыненыя дзверцы каляровыя хусткі, скамечаныя кепкі, сумкі, хатулі і тым самым, здаецца, шукаў сабе непрыемнасцей, бо вельмі ж проста паламаць рысоры ад такога грузу. Але асфальт гладкі і роўны: без ухабаў, без калдобін, і аўтобус спакойна сабе бяжыць і бяжыць па шашы, якая там, у Сіняўцы, увальецца ў шэрае рэчышча Брэст-Маскоўскай магістралі.

Пасажыры, што сядзяць і стаяць уперадзе, захваляваліся, загаманілі гучней, і гэта азначала — аўтобус уязджае ў Сіняўку. За акном паплылі шыферныя дахі з белымі камінамі і тэлеантэнамі, замільгалі прыдарожныя прысады. Давыдчык перастаў глядзець у акно, таму што і гэтыя шэрыя дахі, і гэтыя голыя таполі пачыналі хваляваць яго. Як і там, на аўтастанцыі, да яго закралася сумненне, ён зноў вінаваціў сябе за сённяшнюю паездку, таму што яшчэ не ведаў, якой будзе сустрэча з даўняй сваёй стратай. «Ат, нічога,— думаў Давыдчык,— пратрося, і то добра. У Сіняўцы, кажуць, гандляры ўмеюць працаваць — тавару якога хочаш. От куплю сабе туфлі альбо модны плашч».

Тое ж ён сказаў дома і жонцы: куплю туфлі альбо плашч. Ён баяўся, што Ліля дазнаецца пра яго душэўныя пакуты, і больш за ўсё баяўся яе цікаўнасці, роспытаў. Ён, вядома, быў дзіваком, Станіслаў Давыдчык. Ліля, як і кожная жанчына, здолела б зразумець усё, калі б ён адкрыўся перад ёю. Не трэба было баяцца Лілі, хавацца ад яе — аднаму цяжэй перажыць і гора, і боль.

Прывітаўшы Сіняўку зычным гудком, аўтобус

праехаў яшчэ якраз столькі, колькі яму трэба было праехаць да аўтакасы, і спыніўся побач з вялікай старасвецкай таполяй. З бразгатам рассунуліся створкі дзверцаў, аўтобус пачаў выкідваць усё, што колькі хвілін назад старанна заглытваў у сваё жалезнае нутро. Пад таполю вывальваліся кашміроўкі і пакамечаныя кепкі, хатулі і сумкі, стаяў вясёлы віскат і смех.

Калі Давыдчык падняўся з сядзення, людзей у аўтобусе ўжо амаль не засталося.

## 2

Асфальт пад таполяй быў стары, мокры і блішчаў, як абліты вадою. Але мокры ён не ад дажджу — неба над Сіняўкай чыстае і бязвоблачнае, хоць і не такое яснае, як улетку. На світанні, відаць, тут стаяў густы туман. Цяпер туман расплываўся, прападаў, асядаючы на галінах велізарнага дрэва кропелькамі вады. Кроплі час ад часу зрываліся з галін і гулка плёскаліся долу. Асфальт быў мокры ад туману, ад гэтых звонкіх кропель, што раз-пораз ляцяць уніз.

— Пайшлі, чалавеча. Лаўкі ўжо, пэўне, адчыніліся.

Давыдчыка запрашае ў сваю кампанію сівы пчуплы дзядуля, які ў аўтобусе сядзеў побач. Дзядуля, напэўна, лічыць, што ў Сіняўку едуць толькі дзеля таго, каб пабегаць па магазінах і накупляць усяго, што трапіцца на вочы.

— Ідзіце сабе. У мяне часу хопіць,— толькі цяпер адказаў Давыдчык на дзядулеву ўвагу.— Пакуру вось і таксама прайдуся па магазінах.

Таполя, пад якой спыніўся аўтобус, расце з правага боку шашы, а леваруч ад яе — цераз асфальт — стаіць аўтастанцыя. Таполя з кроны падобна на велі-

зарны паветраны шар, які вось-вось адарвецца ад зямлі і паляціць. Давыдчык закурыў, плячом прыхінуўся да шурпатага ствала, асабліва не клапоцячыся, што запэцкае плашч аб мокрую зялёную кару. Смактаў цыгарэту і разглядаў маленькі будыначак аўтастанцыі. Звонку будыначак акуратны і чысценькі, але занадта цесны. Пасажыраў многа, яны таўкуцца на вуліцы, хоць па іх не відаць, што хтосьці незадаволены гэтай цеснатой у аўтастанцыі. Пасля зімовых завірух мо ўпершыню ў ясным небе шчыравала сонца, і людзям дужа падабалася яго ласка, яго цяпло.

Людзі радаваліся вясне, сонцу, цёпламу, лагоднаму ветрыку, і многія ўжо адчулі смагу, а яе вельмі ж добра спаталіць халодным пеністым півам. Смага чамусьці больш за ўсё даймала мужчын, і яны станавіліся ў чаргу каля двух зусім аднолькавых ларкоў, якія, нібы спарышы, ляпіліся па абодва бакі аўтастанцыі. Ларкі пацягнуты жоўтай охрай і не глядзяцца на фоне суседніх дабротных будынкаў.

Падабенства ларкі маюць не толькі знешняе: і ў першым, і ў другім прадаюцца смажаная мойва, пячэнне, танныя цукеркі і піва. Трымаючы ў руках пеністыя куфлі, знаўцы гэтага д'ябальскага напітку жартуюць: «Піва ёсць?» — «Не, няма, толькі клецкае». Але ларкі іншы раз здольны пачаставаць не толькі кіслай прадукцыяй клецкага піўзавода. Аднойчы тут завяліся кавуны, і прадаўшчыцы аж цвілі ад гонару, што могуць прапанаваць рэдкі для палескіх мясцін, ледзь не заморскі ласунак. Праўда, кавуны былі пабітыя, з гнілымі бакамі, і ніхто не хацеў іх купляць.

Важкія кроплі зрываюцца з дрэва і ўсё пляскаюць і пляскаюць аб асфальт. Вакол таполі ўтварыўся вялікі — на ўсю шырыню кроны — мокры круг. «Усё адно як зачараванае кола»,— падумаў Давыдчык. Ён

стаяў у гэтым мокрым коле, што ўтварылася вакол таполі з ласкі ранішняга туману, і не мог зрабіць нават адзін крок. Яму ж трэба было ісці, каб не стаяць на месцы і не кідацца ў вочы людзям. Трэба было нешта рабіць, каб не таптацца пад дрэвам, а ён стаяў і хваляваўся, не маючы сілы, каб азірнуцца, каб убачыць тое, дзеля чаго ён, уласна, і прыехаў у Сіняўку.

Нават не азіраючыся, Давыдчык ведаў, што за яго спіной вострымі стрэхамі хат Сіняўка спускаецца ў лагчыну, якая пачынаецца ля самай шашы. За лагчынай, трохі зводдаль, уздымаецца пляскаты пагорак, а на ім стаіць школа — старая, двухпавярховая і не вельмі прыгожая. Не даходзячы якіх метраў сто да яе, на мяжы лагчыны і пагорка прыляпіўся дом — прадаўгаваты, не надта высокі, але яшчэ зусім прыстойны дом. Такіх цяпер не будуюць. Цяпер будуюць палацы, з трыма ці чатырма пакоямі, з вокнамі на ўсю сцяну, а тады, пасля вайны, каму было дбаць пра хараство і раскошу? Бацьку Давыдчыка яшчэ пашанцавала — ён працаваў у МТСе і па-знаёмству дастаў блакітнай фарбы, каб хоць збольшага паквэцаць ліштвы, аканіцы і дзверы. Добрым чалавекам быў той эмтээсаўскі кладаўшчык — не пашкадаваў бацьку паўвядра блакітнай фарбы, і гэта з яго дабрыні аканіцы ў новым доме сталі пад колер веснавога неба, як васількі ў жыце. Давыдчыку таму і цяжка азірнуцца назад, што яму хочацца, каб аканіцы ў тым доме, які прыляпіўся каля школы на схіле пагорка, не былі ні зялёнымі, ні чырвонымі, а іменна каб былі блакітнымі. Яму вельмі ж патрэбны блакітныя аканіцы.

Давыдчык усё яшчэ стаіць у мокрым зачараваным коле, і гэтае стаянне пад таполяй падобна ўжо на катаванне — зацяжное і пакутлівае. Яму больш не хочацца мучыць сябе і, растаптаўшы недакурак, ён

крута паварочваецца тварам да лагчыны. Летам яна, гэтая лагчына, зялёная і прыгожая, прынамсі, не такая шэрая, як цяпер. Летам хаты ад шашы заслонены пышнымі чупрынамі яблынь і сліў. Але за цяперашнюю шэрасць не трэба папракаць раннюю вясну — пупышкі на голлі ўжо тояць у сабе вялікую сілу, якая неўзабаве ўскінецца на дрэвах зялёным полымем. А пакуль што яблыні, слівы і грушы стаяць голыя і мокрыя. Мокрыя таксама платы і стрэхі хат. Не зззяе звыклай белізной дах на доме каля школы — і ён адсырэў, змакрэў у золкім і густым, як сырадой, ранішнім тумане. Але — ці не дзіва, ці не цуд гэта? — аканіцы на тым доме і сапраўды блакітныя. Блакітныя, як неба над галавой, як васількі ў жыце.

Гледзячы на блакітныя, васільковыя вокны ўдалечыні, Давыдчык трываў цераз сілу, стрымліваў сябе, але не змог: яму ўсё ж уздыхнулася горка і цяжка. Вось і адбылося шчымлівае і пакутлівае спатканне. Давыдчык уздыхнуў і тут жа заўважыў, што зрабіў колькі крокаў, выйшаў з мокрага круга пад дрэвам, з таго зачараванага кола, якое некалькі хвілін сваім нябачным сілавым полем трымала яго ў нерапгучасці, у паўзабыцці, у звярэдлівым роздуме. Па сырасці пад нагамі ён адчуў, што спускаецца ў лагчыну, але дом з блакітнымі аканіцамі чамусьці палохаў, і Давыдчык вярнуўся, падышоў да таполі, падхапіў з зямлі чырвоную гаспадарчую сумку, якую незразумела для чаго ўзяў з сабой.

Яму стала горача, душна, як быццам у гэтым быў вінаваты веснавы сонечны дзень. Гарачыня не праходзіла, перасохлі губы, а смагу трэба было спатаіць халодным півам. Два піўныя ларкі з другога боку шашы дражніліся з ім, падміргвалі вузкімі акенцамі, і было дзіўна бачыць, што чарга ля ларкоў знікла і ніхто не здзьмухвае з куфляў шыпучую пену. Давыдчык здагадаўся, што піва няма, але яму моцна ха-

целася піць, і праз момант ён ужо стаяў ля ларка, які туліўся з правага боку аўтастанцыі.

Падышоў, папытаў бурштынавага пітва, але жоўты ларок вінаватым голасам дзябёлай прадаўшчыцы расчараваў яго:

— Піва няма! Во толькі што скончылася.

Ларок, які стаяў леваруч ад будынка аўтастанцыі, таксама быў раўнадушны да таго, што некага мучыць смага. Піва скончылася і тут. Прадаўшчыца — маладзенькае дзяўчо, відаць, учарашняя дзесяцікласніца — просіць пачакаць трохі. Машына пайшла ў Клецк і вось-вось павінна вярнуцца з півам. Высунуўшы кірпаты носік праз акенца, прадаўшчыца ўсё ж шкадуе Давыдчыка.

— У сталоўку зайдзіце,— дасведчана раіць яна.— Ведаеце, дзе наша сталоўка?

— Дзякую і за гэта,— спрабуе ўсміхнуцца Давыдчык, але ўсмешкі не выходзіць. І ён злосна дабаўляе: — Гандляры называецца...

— Гэта вы дарэмна! Піва ў нас заўсёды ёсцека. Піўзавод жа, лічы, пад бокам.

Маладзенькае дзяўчо крыўдзіцца, нешта бубніць услед, але Давыдчык не прыслухоўваецца. Ён і праўда ведае, дзе тут сталоўка. Трэба крыху прайсці па вуліцы — галоўнай вуліцай у Сіняўцы лічыцца Брэст-Маскоўская шаша, затым, мінуўшы пошту, павярнуць направа, вунь да таго нізенькага будынačка, бокам уціснутага паміж двух цагляных дамоў. Тут, у Сіняўцы, наогул усё збіта ў адну кучу: і магазіны, і цырульня, і пошта. Выйдзеш з адной крамы, а перад носам дзверы другой.

Сталоўка стаіць першай, калі ісці ад аўтастанцыі, а за ёй пачынаюцца ўсе астатнія шматлікія крамкі і лаўкі. Сталоўка мае невысокі — на тры прыступкі — ганак. Праз якую хвіліну Давыдчык ужо стаяў на ім, таптаўся, выціраў мокрыя туфлі аб драцяную

сетку. Ручка дзвярэй была ў яго руках, і яна, гэтая старая, адпаліраваная ручка, ажно прасілася, каб яе хутчэй тузанулі, пацягнулі на сябе, і тады яна адчыніць дзверы, упусціць у памяшканне. Давыдчык так і зрабіў, тузануў за бліскучую медную ручку, і ў нос яму шуснуў пах кіслай капусты, катлет, смажанай бульбы і цыбулі.

У сталоўцы, нягледзячы на яе вонкавы несамавіты выгляд, аказалася надзіва ўтульна і чыста. Гэта было нават нечакана, таму што Давыдчык прывык бачыць у прыдарожных сталоўках нешта блізкае да неахайнасці. Тут жа было чыста і акуратна. Падлога вышаравана да жаўцізны, на сталах стаяць вазачкі, а з вазачак тырчаць зялёныя хваёвыя лапкі. Кветак яшчэ няма, нават пралескі яшчэ не высыпалі на лясных палянках, таму зялёныя хваёвыя лапкі ажывілі невялічкую залу.

Акуратнасць афіцыянтак спадабалася Давыдчыку. Ён сядзеў за крайнім ад буфета столікам і маленькімі глыткамі смактаў піва, удыхваў веснавы водар хвоі. Яму прыкметна палепшала, смага прайшла, хоць чырвань на шчоках не прапала. Твар гарыць, як быццам з марозу.

Цяпер у сталоўцы ўжо няма чаго рабіць. На выхадзе, каля дзвярэй, вісіць цьмянае, запацелае люстэрка. Праходзячы міма, Давыдчык прыгнуўся, і на яго глянуў зблажэлы, як быццам чужы твар. Люстэрка дражнілася, смяялася, збыткавала. З яго па Давыдчыка глядзеў малазнаёмы, скуласты, высакалобы чалавек. «І адхапіла ж Ліля красаўчыка»,— падумаў Давыдчык, і яму расхацелася глядзець на сябе — такога няўклюднага і не вельмі прывабнага. Ён спусціўся з ганка, перайшоў шашу і заўважыў, што непаслухмяныя ногі ўпарта вядуць пад таполю, ля якой ён толькі што стаяў — непрыкаяны, задумлівы і хут-

чэй засмучаны, чым узрадаваны, сустрэчай са сваёй колішняй стратай.

Давыдчык зноў стаяў пад таполяй, зноў думаў пра недалёкі дом з блакітнымі аканіцамі. На Давыдчыка пачалі паглядваць, акідваць цікаўнымі позіркамі. Але чужая цікаўнасць не хвалявала, ён не звяртаў на людзей увагі. У Сіняўцы Давыдчык бываў і раней, але не ўяўляў, што запомніцца адна такая паездка. Усяго год назад, якраз на спадзе лета, ён вёз з Баранавіч хворага бацьку. Вадзіцель пайшоў у аўтакасу падпісваць пуцявы ліст, забавіўся там, і аўтобус тады нешта доўга стаяў на абочыне, побач з аўтастанцыяй. Пасажыры пабеглі піць піва, а яны з бацькам ці не ўдвох засталіся ў аўтобусе. Бацька ўставіўся ў запыленае акно, глядзеў у той бок, дзе на пагорку віднелася старая двухпавярховая школа.

— Станіслаў! — бацька нарэшце павярнуўся да сына.— Бачыш унь той дамок пад гарой?Ета ж наш дамок. І ты ў ім некалі жыў. Ці хоць помніш? — Бацька памаўчаў, затым махнуў рукой.— Дзе там помніш? Маленькі быў, да стала ледзь даставаў.

Вадзіцель бавіўся ў аўтакасе, пасажыры цярплліва чакалі, жлукцілі піва каля спарышоў-ларкоў і не хацелі купляць гнілыя, пабітыя кавуны, якія, нягледзячы на іх сумніцельную вартасць, прадаўшчыцы стараліся ўсунуць аматарам пітва. На пакаты пагорак бацька больш не глядзеў — павярнуўся тварам у супрацьлеглы бок. Крыху наўскос ад ларкоў віднелася невялічкая плошча — надзіва роўная і гладкая, як укатаная. Да плошчы збягаліся вузенькія, крывыя вулачкі, і чамусьці нязвыкла пасярэдзіне яе стаяў электрычны слуп з ліхтаром. Давыдчык гадаў, дзе б гэта мог запрапасціцца вадзіцель аўтобуса, і таму адразу не ўцяміў, не расшалопаў, што сказаў бацька.

— А во тут, на етым пляцы, немцы павесілі Дусю Яўсееву,— паўтарыў бацька і, убачыўшы здзіўленне ў сынавых вачах, дадаў: — Канечне ж, ты яе не ведаеш. З нашага Ясянца яна была. Калі-небудзь раскажу пра Дусю. Бачыш слуп на пляцы? Акурат там стаяла вісельня,— паказаў рукой бацька. І на яго худым, маршчыністым твары прабег ці то смутак, ці то жаль.

## 3

Дуся Яўсеева родам была аднекуль з-пад Мінска. Яна прыехала ў Ясянец па камсамольскай пуцёўцы ў тую самую восень, калі, пагубляўшы па дарозе свае шмуткі і раверы, пілсудчыкі ўцяклі за Буг. У Ясянцы пуставаў дом, у якім раней жыў панскі аб'ездчык — далёкая радня вясковаму лодыру Інгу Мэгусю. У кінутым, нічыйным пяцісценку, ля якога расла кучаравая стройная бяроза, сельсавет пасяліў маладога фельчара. Тут жа, у лепшай палавіне дома, адкрылася лячэбная ўстанова — адначасова і амбулаторыя, і аптэка, і радзільны дом. За якога паўмесяца Дуся абышла ўсе ясянецкія двары, пабывала ў кожнай хаце, і, мусіць жа, было ў ёй нешта прывабнае, бо нават і тыя ясянчане, якія ніколі не хварэлі, пачалі заглядваць у стары дом пад бярозай. Дуся, непрыгожая з твару, была шчодрай на ласку і дабрату. Дзеці і то хутка перасталі баяцца яе бліскучага, з вострай іголкай шпрыца. Палешукам, якія спрадвеку жылі ў балотах і зналіся хіба што са знахарамі, было дзіўна, што маладзенькая дзяўчына ўмее лячыць іх хваробы, загойваць нарывы на нагах.

Дом пад кучаравай бярозай яшчэ не адзін месяц асцерагаў людзей ад розных немачаў і ў вайну, таму што Дуся не паспела выехаць, а хутчэй проста не захацела пакідаць Ясянец — засталася дзяліць з па-

лешукамі ўсе іх трывогі і беды. Ясянец ніколі не быў пакрыўджаны на цікаўных, дапытлівых людзей, але і ён не адразу даведаўся, што Дуся засталася ў вёсцы не так сабе, а таму што мела такое заданне. Пасля гаварылі celebrasnae, выказвалі самыя супярэчлівыя здагадкі і меркаванні, але напачатку, у першыя месяцы вайны, ніхто нават і не здагадваўся, што Дуся хавае партызан, лечыць параненых... У глухую палескую вёсачку, якая раскінулася на пясчаных выдмах сярод непраходных балот, немцы з Ганцавіч заглядвалі рэдка, і ў Ясянцы было адносна спакойна.

Праўда, ад людзей не схавалася тое, што апошнія дні перад сваёй раптоўнай гібеллю Дуся хадзіла нечым устрывожаная, як быццам спалоханая, а каля яе жылля кожны вечар віжаваў Інго Мэгусь — яшчэ не адкрыты бандыт, яшчэ не паліцай, але чалавек вельмі сумніцельнага занятку. Пры белапалякаx Інго Мэгусь быў канакрадам. Яго лавілі, білі жорстка, зацята, але, ачухаўшыся ад пабояў, ён зноў браўся за сваё рамяство. Яго ведалі далёка ад Ясянца, і пры ўсім гэтым ніхто не мог сказаць, дзе ў канакрада імя, а дзе мянушка. У яго, магчыма, было прозвішча, але для Ясянца ён назаўсёды застаўся Інго Мэгусем. Яго не любілі, і ён не любіў нікога, ненавідзеў нават дзяўчат, хоць сам быў старым халасцяком, а калі ў Ясянец прыехала Дуся, ці не з першага дня Інго пачаў улягаць за ёю.

Пазней ужо, калі здарылася бяда, калі ўжо нічога нельга было направіць, увесь Ясянец — ад мудрага дзеда да бязвусага сысунка — папракалі Дусю, ушчувалі за даверлівасць, слепату. Хіба яна не бачыла, што звязалася з гультаём, з гэтым абібокам Інго Мэгусем, які нават спіць не распранаючыся? Пры немцах гэты няўдаліца, пустадомак, былы канакрад сам не пайшоў у паліцыю, але з вырадкамі ў чорных шынялях дружбу вёў адкрытую. Мэгусь блытаўся па

Ясянцы, вынюхваў, нешта выглядаў. Прыязджаючы на конях у Ясянец, паліцаі чамусьці ішлі якраз у тыя хаты, дзе гаспадары ўпотай зачавілі свінчо, дзе яшчэ пахла свежанінай і перагнанай брагай. Інго Мэгусь баляваў разам з паліцаямі, жлукціў гарэлку, глытаў мяса, а, напіўшыся, улукаткі плёўся ў таямнічы дамок пад бярозамі, дзе жыла Дуся. Паліцаі весяліліся без яго, пакуль не цямнела, а з першым прысмеркам уцякалі з Ясянца.

Потым, калі Дуся невядома дзе прапала, адразу выявілася, што нехта бачыў, нехта чуў, пра што гаварылі Мэгусь, без пяці мінут паліцай, і Дуся — спалоханая, схуднелая ад перажыванняў. У той вечар, калі ўсё гэта сталася, аказваецца, Інго Мэгусь сядзеў за сталом на покуце, перад ім стаялі пляшка і міска з квашанай капустай. Інго Мэгусь наліваў самагонку, піў, хапаў капусту, чавіў яе воўчымі зубамі, пасляікаў, адрыгваючы і капусту, і чужую свежаніну. Мусіць, ад яго несла гарэлкай, потам, кіслай капустай, таму што Дуся закрывала рукой нос, спрабавала ўцячы з-за стала. Інго Мэгусь лавіў яе за руку, садзіў назад на ўслон.

— Сядзі і не рыпайся,— скрыгітаў ён зубамі, і яго вялікі, глюгаваты нос звісаў над міскай.— Сядзі, пакуль я добры. Ох, я магу пачапаць!

Інго матляў патламі, ківаў нямытым, смярдзючым пальцам, рагатаў на ўсю хату. Дуся баялася яго. Яна адсоўвалася ад стала, але Мэгусь трымаў яе, балюча ашчаперыўшы руку.

— Сядзі, пташачка! Думаеш, я не ведаю, хто ты такая? Думаеш, не ведаю, хто ў цябе на гарышчы? У скрыні, дзе аб'ездчык ссыпаў яблыкі, схаваны партызан.— Інго Мэгусь талопіў калючыя вочы на Дусю, спрабаваў нешта ўспомніць.— Ну, і чорт з ім, з партызанам! Хай памірае...

— Ніякага партызана ў мяне няма,— смяялася

Дуся.— Выдумаў ты ўсё — хапіў лішняга, дык вярзеш абы-што.

— І яшчэ вып'ю. Налі от мне. А твайго партызана чапаць не буду. Я — добры!

Інго адным махам выліў у рот самагонку, якую падала Дуся, і, кракатануўшы, паўтарыў:

— Я — добры! Дарма, што канакрад і гультай, і бог яшчэ ведае хто.

— І п'яніца.

Гарэлка моцная і пякучая, як агонь, здаецца, не магла зваліць гэтага п'янага быка. Інго піхнуў стол, падняўся з лаўкі і, хістаючыся, пасунуўся да дзвярэй. Ля парога павярнуўся, зноў пагразіў:

— Выходзь за мяне замуж, то і пальцам не чаплю. Я мо шчэ і сам у партызаны ўцяку.

— Так цябе там і чакаюць, ваяку такога.

— Мне ўсё адно, куды ісці...

У сенцах забрашчалі клямкі і зашчапкі, потым на двары зарыпеў снег — Інго напралом гробся цераз сумёты. Застаўшыся адна, расказвалі пазней, Дуся трывожна забегала па хаце, сашчапіўшы на грудзях рукі. Яна, мусіць, думала, як уцячы, як ашукаць гэтага несусветнага лайдака Інго Мэгуся.

А потым была ноч — доўгая, цёмная і, як высветлілася, страшная і трывожная ноч. Назаўтра Ясянец быў здзіўлены, быў збянтэжаны тым, што ў доме пад старой бярозай з коміна не ідзе дым. Пачакалі трохі — Дуся не бяжыць да студні па ваду. І наогул у хаце не бачна прыкмет жыцця — вокны за ноч замураваў мароз.

Гэта здзівіла, затрывожыла людзей, і яны пайшлі паглядзець, што з Дусяй, ці не захварэла яна? Прыйшлі і здзівіліся яшчэ больш: у астылай хаце ўсё на месцы, нічога не раскідана, не ўкрадзена, а Дусі нідзе няма — як скрозь зямлю правалілася. У тую ноч лютавала завіруха, і ніякіх слядоў не засталося ні

каля парога, ні каля варотаў — усюды бялеў нечапаны снег. І зноў знайшліся відавочцы, якія нібыта бачылі, чулі, што ноччу на вуліцы храплі коні і гаманілі людзі. І гэта было падобна на праўду. Многія потым успомнілі, што сапраўды пасярод ночы храплі коні і не без прычыны заядаліся сабакі.

Дуся прапала без весткі, таямніча, загадкава. Розныя думкі лезлі ў галовы: мо ўцякла да бацькоў, мо сабралася і ціхенька пайшла ў партызанскі атрад? Але чаго ж так заядаліся ноччу сабакі? І тут нехта ўспомніў, што вечарам апошні ў Дусі быў Інго Мэгусь. Ён і павінен ведаць, дзе Дуся. Мэгусь жыў у другім канцы вёскі, на хутары, і мужчыны пайшлі туды. Інго звалаклі з халоднай печы, выцягнулі з трантаў, прывялі ў Дусін дом і пачалі дапытвацца, чаго ён сядзеў вечарам, што яму трэба было ад маладога фельчара? Інго стаяў каля сцяны, распатланы, смярдзючы, і калаціўся болей ад страху, чым ад холаду.

— Далібог, нічога не ведаю. Хрыстом богам прашу, адпусціце! Не чапаў я Дусю...

— Бачыш, бога ўспомніў, акаянец! — падступалі да яго жанкі.— Табе чалавека ўдавіць, што каня ўкрасці.

— Нічога не ведаю, людцы,— прасіўся Інго.— Ну, праўда, піў гарэлку, але не чапаў я Дусю. Далібог, не чапаў. Мо яна ў атрад, у парцізаны, пайшла? Казала, што пойдзе...

Самы паважаны ў Ясянцы чалавек, мудры і разумны Сцяпан Баразна насцярожыўся:

— Кажаш, у парцізаны? І ты ведаў? Паслухай, дуралей, а ці не прагаварыўся ты перад тымі вылюдкамі што-небудзь пра Дусю?

Інго Мэгусь збялеў яшчэ больш.

— Не помню. Хоць забіце, не помню.

Сцяпан Баразна, насупіўшы бровы, сказаў:

— Вось што. Сёння мы адпусцім цябе. Але калі што кепскае з Дусяй, дык на тым свеце знойдзем. Зразумеў?

— Зразумеў.

Шурпатыя рукі аслабіліся, адпусцілі Мэгуся, прыпёртага да сцяны, адступілі бабы, і вясковы гультай, злодзей і пустадомак ірвануў так, што ажно снег закурэў з-пад яго ног. Людзі пачапілі на дзверы Дусінай хаты замок і, горка ўздыхаючы, разышліся. А праз некалькі дзён па Ясянцы папаўзла страшная чутка: немцы павесілі Дусю Яўсееву ў Сіняўцы — яе і яшчэ нейкага забінтаванага, моцна знявечанага чалавека. Нехта паехаў у Сіняўку і, вярнуўшыся, расказаў, што гэта праўда, што там на плошчы стаіць шыбеніца і вецер гайдае на ёй два ўчарнелыя трупы. Не адразу стала вядома, што паліцаі забралі разам з Дусяй і партызана, якога яна лячыла.

Пасля вайны ў Ясянцы пуставалі дзве хаты: стары дамок пад бярозай і маленькая развалюха на другім канцы вёскі, дзе калісьці цэлымі днямі дрыхнуў на аблезлай печы Інго Мэгусь. Мардатага канакрада хутка забылі, а Дуся ўспаміналася часта: ледзь хто парэжа палец — і міжволі ўспомніць яе. Ясянец хацеў знайсці Дусіну магілу, але фашысты не капалі магіл. Нехта добра падумаў і вырашыў, што няблага было б напісаць сваякам пра Дусіну смерць. Ды аказалася: ніхто не помніць, ніхто не ведае, адкуль родам Дуся і наогул ці ёсць у яе сваякі? Невядомым засталося і прозвішча партызана, які хаваўся на гарышчы, у вялікай скрыні з-пад яблык.

У супрацьлеглых канцах вёскі трухлелі, гнілі без належнага догляду дзве пустыя хаты. Прайшло гадоў пяць, і ў Ясянец — нечакана, нягадана і, канечне ж, нязвана прыблытаўся Інго Мэгусь. Сваім вяртаннем ён нікога не абрадаваў. Ясянец яшчэ памятаў Дусю, і абадраны, зацухмолены вахлак поў-

заў на каленях перад людскім натоўпам, біў ілбом аб зямлю, прасіў літасці:

— І коней я краў, і картоплю з капцоў выграбаў. Але не выдаваў я Дусю... Я адно страшыў яе, каб за мяне замуж пайшла. Даруйце, людцы добрыя, я сваё адсядзеў.

Людзі не верылі яму, не верылі ніводнаму яго слову, не верылі яго шчырасці, але перад імі поўзаў не той ранейшы Інго — мардаты і чырвоны, перад імі выгінаўся вужом худы, як кашчэй, змардаваны стары, прасіў літасці, і людзі разышліся, нічога не сказаўшы яму. Сёй-той вылаяўся, сёй-той сплюнуў ад прыкрасці, а Інго Мэгусь застаўся жыць у сваім берлагу наводшыбе вёскі і быў, здаецца, рады, што ніхто не чапае яго. Ён рэдка калі паказваўся на вочы людзям, сноўдаўся па лясах і балотах, і тыя лясы і балоты, мусіць, і кармілі яго. Мэгусь драў лыка, збіраў грыбы, журавіны і збываў нарыхтоўчай канторы, каб мець які рубель на абыходак.

Тады, калі немцы павесілі Дусю, Інго ўцёк з Ясянца, і гэта выратавала яго. Ён доўга бадзяўся па лясах, баяўся і сваіх, і немцаў, а потым, за месяц да вызвалення, усё ж неяк прыбіўся да партызан і разам з атрадам пайшоў на фронт. У самым канцы вайны Ясянец выпадкова даведаўся, што Інго Мэгусь, спалохаўшыся смерці, уцёк з фронту і цяпер разам з недабіткамі паліцаямі туляецца ў навакольных лясах. Ясянец стаяў удалечыні ад вялікіх дарог, і сюды ў любую ноч маглі прыйсці ўзброеныя недабіткі. Спаць клаліся завідна, моцна зачыняючы дзверы. Але хутка Ясянец уздыхнуў вольна: салдаты акружылі бандыцкае логава і перабілі лясных ваўкалакаў. Для апазнання здраднікаў прывезлі ў Сіняўку, і скурчаныя іх трупы ляжалі на плошчы, акурат на тым месцы, дзе пры немцах стаяла шыбеніца — жудасныя арэлі смерці.

Людзі ездзілі пазнаваць забітых паліцаяў, але Мэгуся сярод трупаў не было. І на гэты раз ён сумеў выкруціцца: пайшоў і здаўся ўладам за нейкі дзень да таго, як знішчылі банду. Але доўгія месяцы бадзяння па гіблых балотах, начлегі ў сырой зямлянцы для Мэгуся не прайшлі марна: захварэў на сухоты і вярнуўся ў Ясянец раней часу, не адсядзеўшы свой тэрмін. Для Ясянца Інго роўна нічога не значыў, каб пра яго можна было гаварыць. Ясянец памятаў Дусю Яўсееву і таму стараўся забыць, выкрасліць з памяці аблуду, пустадомка, былога канакрада Інго Мэгуся. Да хаты наводшыбе Ясянца, дзе ён жыў, не было нават сцежкі, бо сцежкі, калі па іх не ходзяць, зарастаюць травой.

## 4

Давыдчык, канечне ж, не памятаў Дусю, не мог уявіць яе твар, вочы, таму што нарадзіўся пасля вайны, праз гадоў тры пасля Дусінай жахлівай смерці. Ён не ведаў яе, але многае з таго, што расказаў у аўтобусе бацька, было вядома яму. Скупа, цьмянымі абрыўкамі час ад часу ўспамінаўся дзень, калі Інго Мэгусь поўзаў на каленях перад людскім натоўпам. І ўжо зусім добра запомнілася пустая Дусіна хата, якая без догляду пахілілася, пачала гніць і вельмі хутка струхлела. Дварышча пад бярозай стала месцам дзіцячых гульняў. Давыдчыку запомнілася, як неразумныя хлапчукі лавілі вераб'ёў, ставячы сілкі на збуцвелых шулах плота. Дусіна хата стаяла пустая і халодная, але шыбы ў ёй былі цэлыя, хоць Ясянец тады, пасля вайны, пачынаў будавацца і шкла не хапала. Ясянец шанаваў памяць Дусі Яўсеевай.

Тое было даўно, а сёння Давыдчык стаяў у Сіняўцы і глядзеў на плошчу, з якой Дуся апошні раз ба-

чыла і гэтыя панурыя хаты, і голыя, пустыя сады. Ён абышоў плошчу вакол, вяртаючыся назад, пастаяў каля ліхтара. Уверсе пад іржавым каўпаком цьмяна паблісквала лямпачка. Яму было няёмка, што лямпачка гарыць сярод яснага дня, бо па роду прафесіі меў якраз справу з электрычнасцю, але гэтая няёмкасць заглушалася іншай думкай, шкадаваннем, якое раптам прыйшло да яго пад вулічным ліхтаром, чамусьці не выключаным на дзень. Давыдчык глядзеў на плошчу, і яму раптам захацелася, каб на гэтым месцы, дзе ён стаіць, быў помнік. На помніку трэба напісаць прозвішча Дусі і ўсіх тых, каго ў страшнае ліхалецце тут калыхалі жудасныя арэлі смерці. Плошча як знарок роўная, чысценькая, добра глядзіцца з шашы. Вакол помніка можна было б пасадзіць дрэвы, пасеяць кветкі, разбіць газоны, і атрымаўся б зусім прыстойны скверык. Ён, канечне ж, упрыгожыў бы Сіняўку. Але скверыка яшчэ не было, не было Дусінага помніка, а быў толькі Давыдчык са сваімі супярэчлівымі і гарачымі жаданнямі, і яшчэ быў вулічны ліхтар, укапаны на месцы шыбеніцы.

Давыдчык, як непрыкаяны, стаяў пасярод плошчы і яшчэ неўсвядомлена, не розумам, а нейкай сотай доляй душы ўлоўліваў сувязь, што была паміж Дусяй і ім, паміж блакітнымі аканіцамі і пясчанай пусткай. Ён яшчэ не мог асэнсаваць гэтую сувязь, але яна жыла ў ім, мучыла яго, і яе не так лёгка было ўлавіць і зразумець. Для гэтага яму трэба было многае ўспомніць, перажыць нанава. Давыдчык глядзеў на ліхтар, на бліскучыя правады, і тое, што алюмініевыя драты цягнуліся з плошчы па вузкім завулку некуды ў бок школы, здавалася яму сімвалічным. Але многае яшчэ трэба было перажыць, перадумаць, каб сімвал стаў рэальнасцю.

Каля аўтастанцыі, скіроўваючы з шашы на ўзбо-

чыну, прасігналіў груваскі чырвоны аўтобус. Вадзіцель, просячы ў людзей дарогу, прасігналіў зусім нечакана для Давыдчыка, і гэты густы, басавіты гудок ацверазіў яго, вывеў з задуменнасці. Давыдчык усміхнуўся. Нічога не выйдзе: патрэбен кол, патрэбен добры дрын, каб прагнаць яго адсюль, каб ён не мазоліў людзям вочы. І праўда, трэба ісці, каб не тырчаць каля аўтастанцыі, як свечка. Час не ранні — сонца ўжо высока вісела над Сіняўкай і зверху шчодра асыпала сырую зямлю цяплом і пяшчотай. Праходзячы міма таполі, дзе сумаваў надоечы, Давыдчык заўважыў, што кроплі больш не падаюць з кроны і асфальт вакол дрэва высах. Зачараванае кола, у якім стаяў Давыдчык, знікла, прапала.

Гэта было неверагодна, што пасля зімовых завірух мо ўпершыню зырка свяціла сонца і што ў такі цёплы, пяшчотны дзень можна думаць пра нешта іншае, пра нешта горкае, крыўднае і балючае. А людзі ўмелі радавацца вясне, шчодраму сонейку. Каля аўтобуснай касы віраваў шумны натоўп, ларкі зноў гандлявалі півам — толькі што, мусіць, падвезлі з Клецка. Давыдчык мінуў ларкі-спарышы, сталоўку і спыніўся якраз на тым месцы, дзе стаяла процьма розных лавак і крамак. Яму трэба было спяшацца, таму што хутка павінен ісці аўтобус, а ён яшчэ нічога не зрабіў, нават не купіў сыну ласункаў.

Адразу за сталоўкай Давыдчык убачыў новы прамтаварны магазін, абкладзены кафельнай пліткай. Гэты магазін якраз і патрэбен Давыдчыку. Ён зайшоў сюды, і дзверы, якія былі на спружыне, моцна піхнулі яго ў плечы. У магазіне было ціха і пуста, таму што на дварэ стаяла вясна, свяціла сонца, і нікому не хацелася тырчаць у цёмным памяшканні. Адна прадаўшчыца сумавала ля касавага апарата, пазяхала, і вочы яе зліпаліся. Раптам у гэтых заспаных цыганскіх вачах засвяціўся агеньчык цікаўнасці,

таму што адзіны пакупнік спыніўся ў аддзеле верхняга адзення і прыцэньваўся да плашча, мацаў, перабіраў у пальцах матэрыю.

Было падобна на тое, што ён зараз здыме з вешалкі сіні плашч, прымерае і купіць яго. Але Давыдчык стаяў, не паказваючы ніякага жадання прымераць плашч, які яму не падабаўся, і прадаўшчыца ўжо глядзела на пакупца з непавагай, з непрыязнасцю, без ранейшай цікаўнасці. У яе, напэўна, гарэў план, бо быў канец месяца, гарэлі прэміяльныя і да таго ж прападала ўсякая надзея, што сёння ўдасца прадаць плашч. Вунь той сіні, модна пашыты, на які, нібы баран, утаропіўся няўклюдны, маўклівы мужчына.

І ўсё ж Давыдчык нешта купіў, прадаўшчыца нешта загортвала яму ў паперу, ён укінуў пакунак у сумку, заплаціў грошы. Прадаўшчыца ўжо са злосцю выхапіла няшчасныя пяць рублёў, спапяляючы яго позіркам, таму што быў канец месяца, гарэў план, а да плана не хапала якраз столькі, колькі каштуе сіні замежны плашч.

— А вы не дужа ласкавыя,— не стрымаўся Давыдчык, ідучы да дзвярэй.

— Набярэшся на кожнага ласкі! — агрызнулася прадаўшчыца з шэрымі вачыма.— Тут за дзень сотні такіх пераварочваецца.

На ганку магазіна Давыдчык глянуў на гадзіннік і заспяшаўся на аўтастанцыю. Аўтобус на Ганцавічы будзе адпраўляцца праз якой паўгадзіны, але трэба яшчэ пастаяць у чарзе, каб купіць білет. Ён хваляваўся дарма: чаргі ў касе не было, купіць білет удалося досыць лёгка. Пакуль прыйдзе аўтобус, можна яшчэ пасядзець, адпачыць — і так аж паўдня правёў на нагах. Каля сцяны, на самым санцапёку, стаяла пашарпаная лаўка-крывуля, і Давыдчык апусціўся на яе, адчуваючы, што калені гудуць ад стомы.

Драўляная пашарпаная лаўка стаяла на самым санцапёку, і было прыемна адчуваць на твары дотык ласкавых промняў. Навярэджаныя ногі пабылі ў спакоі і хутка перасталі ныць. Прыгледзеўшыся да свайго суседа па лаўцы, Давыдчык з жахам пазнаў у ім дзядулю, з якім разам ехалі ў аўтобусе. Дзядуля дрэмле, пахрапвае ў сне, і, памятаючы яго гаварлівасць, Давыдчык баіцца варухнуцца, каб не разбудзіць старога. Давыдчыку трэба пабыць аднаму, самнасам са сваімі думкамі. З лаўкі вельмі добра відзён пагорак, на якім стаіць школа. Цяпер усё там змянілася. Лагчына, застаўленая хатамі, пасвятлела і ўжо не здаецца такой шэрай, як раніцай, калі яшчэ віселі шматкі туману. Пазней, у маі, на пагорку зацвіце сад, і тады наогул там будзе хараство. Давыдчык глядзіць на школу, і яму хочацца, каб дом з блакітнымі аканіцамі, які туліцца на схіле пагорка, таксама быў прыгожы ўлетку. Цяпер жа ён яшчэ не глядзіцца на фоне школы, толькі блакітныя вокны зіхацяць на сонцы і таму прыцягваюць да сябе ўвагу.

Давыдчык адчуў, што нешта зноў заныла, засмактала ля сэрца, і ён адвёў позірк убок. Разамлеўшы на сонцы ад вясны і чыстага паветра, дзядуля па-ранейшаму дрэмле побач, паклаўшы рукі на сетку з ружовымі рулончыкамі. Тут, у Сіняўцы, заўсёды прадаюцца добрыя шпалеры, і людзі нават здалёку па іх едуць сюды. Цяпер, калі зноў заныла пад сэрцам, Давыдчык ужо не баіцца паварушыцца, наадварот, яму хочацца, каб дзядуля хутчэй прачнуўся, каб сказаў што-небудзь. Давыдчыку патрэбна хоць якая, хоць самая пустая размова, каб толькі не сядзець і не маўчаць. Але стары не прачынаўся, не выручаў суседа па лаўцы, і Давыдчык зноў думаў пра Ясянец, пра Дусю, пра сваю сённяшнюю паездку ў Сіняўку.

Канечне, ён патраціў шмат часу, прыехаўшы сюды, але дзіўна: шкадавання не было. Наогул яшчэ ж

і не высветлена, ці дарэмна быў патрачаны час. Сёння Давыдчык адчуў, пераканаўся, што паміж гэтым домам, які стаіць пад горкай, і гэтай плошчай, што раскінулася побач з аўтастанцыяй, існуе нейкая няўлоўная сувязь, і ён хацеў зразумець яе, хацеў спасцігнуць, адчуць яе не душой, не сэрцам, а розумам.

Сівы дзядуля, нічога не ведаючы пра турботы свайго суседа, соладка пахрапвае ў сне, а дом, які стаіць пад гарой, свецячыся блакітнымі аканіцамі, кружыць і кружыць Давыдчыку галаву. Вакол гэтага дома заблытаўся такі клубок дум, трывог і пачуццяў, што не так проста разблытаць яго, раздзяліць, раскласці ўсё па палічках.

Гэтаму дому наогул пашанцавала — зразумела, не цяпер, а пашанцавала даўно, даўным-даўно. Пашанцавала блакітным аканіцам, пашанцавала дзвярам, падлозе, вокнам. Ох, і добрым распуснікам рос колішні Слаўка Давыдчык! Не адзін і не два разы ён разбіў бы ў гэтым доме шыбы, і бацька бедаваў бы, што няма дзе дастаць кавалачак шкла. Кірпаты і вушасты хлапчук пазаганяў бы ў абцасы кірзачоў жалезныя шарыкі, і ад тых шарыкаў на падлозе засталіся б глыбокія пісягі. Ён парэзаў бы падаконнікі і потым доўга хаваўся б ад бацькавай папругі. Малы Давыдчык спісаў бы крэйдай смалістыя сцены, і плашчакі, на якіх красаваліся б тры крывыя, каравыя літары, плакалі б, сачыліся б жывіцай ад вялікай ганьбы і сораму.

Але гэтаму дому пашанцавала, таму што ён уцёк ад малога распусніка, уцёк тады, калі Слаўка Давыдчык яшчэ не ведаў літар і не ўмеў пісаць. Толькі таму чыстымі засталіся смалістыя сцены дома, які стаіць вунь там, пад гарой, і блакітнымі вокнамі здалёку кружыць і кружыць Давыдчыку галаву.

## Раздзел другі

### 1

Будаваць новы дом пачалі з вясны.

— Мо як да восені справімся,— сказала мама, калі бацька сабраўся расчышчаць стары пляц.— Што самі, што людзі памогуць.

— Канечне, памогуць,— адказаў бацька, саскрэбваючы пясок з рыдлёўкі.— Талаку склічам. Не век жа ў гэтай дзедавай хібарцы векаваць.

Увачавідкі падсыхала раскіслая ад снегавой вады зямля. На сцежку каля вязаў, пачуўшы цяпло, павыпаўзалі чорныя жучкі і казюркі. Каля канавы над поплавам запырхалі белыя і жоўтыя матылькі.

Пустка каля старой бярозы зелянела, бралася травой проста на вачах. І бацька стараўся расчысціць пляц, пакуль яго не забіла бульнікам і палыном. Крапіва, асот і розная іншая непатрэбшчына чамусьці любяць сяліцца на старых печышчах.

Будавацца Слаўкаў бацька надумаўся пад старой бярозой, дзе калісьці стаяла хата панскага аб'ездчыка, а пазней у ёй жыла Дуся Яўсеева. Без належнага догляду хата спарахнела дарэшты — згнілі вуглы, завалілася страха. Зімой мужчыны разабралі развалюху на дровы. Раскідалі на апал і стары, збуцвелы плот.

Стаяла ранняя вясна, бурна ішло ў рост зелле, і трэба было спяшацца, каб яно не заглушыла пляц. Тады будзе цяжэй расчысціць. Бацька сабраў у кучку розны хлам і спаліў, акуратна склаў у стажок старыя, абгарэлыя цагліны ад печы. Цэлымі днямі, пакуль ён махаўся з рыдлёўкай, Слаўка круціўся на пляцы і толькі замінаў працаваць.

— Адыдзіся, сынок. Яшчэ зачаплю чаранком.

— Я ж хачу табе памагчы.

— Як той казаў, памагу і я табе — пасняваю аб сяўбе,— смяяўся бацька, і абодвум ім было весела.

Спрытна ходзіць рыдлёўка ў бацькавых руках — зараўноўвае ямкі, зграбае друз і смецце. Нарэшце пляц гатовы — крапіва і асот цяпер не пагражаюць яму. Бацька запрагаў маленькага чорнага коніка і вазіў на пляц бярвенні. Слаўка пільнаваў, калі з кустоў пакажуцца крывулі, і бег насустрач. Цераз гразкую грэблю каля канавы жвавы конік выбіваўся з сіл. Колы крывуляў груззлі, завальваючыся ў калдобіны, і Жук цяжка хроп, ад натугі ажно выпростваўся ў аглоблях. Грэблі, здавалася, не было канца, бацька ўпіраўся ў бервяно рукамі, памагаў каню, але грэбля ўсё ж канчалася, і воз з цяжкай паклажай выкочваўся на сухое. Бацька, радуючыся, што не зламалася вось, не лопнулі атосы, браў Слаўку пад пахі і садзіў на сырое гладкае бервяно. Слаўка ехаў на ім да самай бярозы. Адной рукой бацька падтрымліваў сына, а другой кіраваў лейцамі. Бервяно, на якім сядзеў Слаўка, пахла папараццю, дзеразой і жывіцай.

— Прыехалі, слава богу!

Каля бярозы іх чакала мама. Яна кожны раз выходзіла сустракаць фурманку. Бацька развязваў крывулі і, калі паблізу не было дзеда, сам скочваў бервяно з калёс. Мама спрабавала падсабіць, але бацька не даваў.

— Не лезь, Анютка! І сам не ўломак. Табе ж няможна цяперачы перасільвацца,— ласкава гаварыў ён, і Слаўка радаваўся, што ў яго такі дужы і добры бацька.

— Як жа так, Юзік? Я хоць Баразну ці Струкача гукну? — трывожылася маці.

— Не трэба. Адзін спраўлюся. У лесе мне толькі ляснік памагае.

Куча бярвенняў пад бярозай расце і расце. Ужо і

каню лягчэй — пакуль бацька дзень за днём ездзіў у лес, грэбля падсохла, гразь прапала, і дарога пасля канавы пачынае нават пыліць. Цягнучы доўгі і цяжкі воз, Жук ужо не выпростваецца ў аглоблях, не тужыцца, і пена з яго не падае kавалкамі. Вецер разносіць па ўсяму дварышчы пах смалы, водар лесу — гэта ад сасновых камлёў, што звалены пад бярозай. А неяк раніцай, прыбегшы на пляц, Слаўка ўбачыў тут дзівосныя прылады, вельмі ж падобныя на казлы, на якіх рэжуць дровы, але куды большыя.

— Тата, што гэта?

— Сталюгі,— растлумачыў бацька.— Вось зацягнем на гэтыя штукі бервяно і распусцім на дошкі. Трэба, каб дошкі высахлі за лета.

— А-а! — разумее Слаўка.

Пілаваць дошкі бацьку памагаюць суседзі — смяшлівы і порсткі Антось Струкач і маўклівы, худы, як трэска, Сцяпан Баразна. Мужчыны зацягнулі на вялізныя казлы бервяно, і сталюгі аж увагнуліся на сваіх драўляных, з перакладзінкамі, нагах. Наверх залез і ходзіць па бервяне, не баючыся ўпасці, Антось Струкач. Яму падалі канец пілы — даўжэзнай, з папярэчнымі ручкамі. Папляваўшы ў далоні, бацька сказаў:

— Ну, як, мужчыны, пачнём?

— Што тут чакаць? — азваўся Баразна.— Май на носе.

Зашоргала даўжэзная піла, зазвінела, з-пад вострых зубоў струменем пырснула пілавінне. Пад бярозай яшчэ гусцей запахла смалой, лесам. Шасьшась, шась-шась. Пахне жывіцай, сыплецца пілавінне, а піла ўсё далей і далей уядаецца ў бервяно. Аберучы трымаючыся за папярэчныя ручкі, знізу пілу цягаюць бацька і Сцяпан Баразна. Тут яны — галоўная сіла, а зверху, паволі адступаючыся па бервяне, імі камандуе Струкач. Таму, хто на сталюгах, сілы трэ-

ба менш. Струкач вядзе пілу, сочыць, каб рэз быў роўны, каб не крывіла дошку. Ходырам ходзяць сталюгі, угінаюцца ад цяжару. Яны як быццам ведаюць, што Слаўку патрэбна новая хата, і таму стараюцца ўтрымаць на сабе і бервяно, і Струкача разам з дзіўнай, зубастай пілой. Дзве сталюгі ад цяжару прутка ўпіраюцца ў зямлю чатырма парамі ног. Дужыя сталюгі!

— Як вы там? — крычыць зверху Струкач.— Не патаміліся яшчэ?

— Цярпець можна,— адгукаецца знізу бацька.— Але адпачыць трэба.

Мужчыны перакурваюць, а Слаўка, як у пяску, качаецца ў пахучым пілавінні.

— Не блытайся пад нагамі,— падымаецца з бервяна бацька.— А то хай бы апілкі згроб.

І зноў шоргае піла. Шоргае піла — і расце пад бярозай куча свежых, белых, як сыр, дошак, а пад сталюгамі сумётам ляжыць пілавінне. Яно ўжо замінае мужчынам, і яны па калені ўжо стаяць у ім. Прыходзіць бабуля, збірае пілавінне ў хвартух, носіць у свінушнік пад парасяты. А дзе тут наносішся, калі цэлымі днямі шоргае піла і апілкі сыплюцца і сыплюцца белыя як снег. Але вось піла сціхае. Пасядзеўшы трохі, дзядзькі складваюць дошкі ў ярус — хай праветрываюцца, сохнуць на вешняку, а сталюгі забірае нехта з суседзяў. Пасля вайны выйшла льгота з лесаматэрыялам, і Ясянец, хоць у ліхалеццe пацярпеў не вельмі — згарэла адна ці дзве хаты, адбудоўваецца нанава. То тут, то там шоргаюць пілы, цюкаюць сякеры, надвячоркам гараць вогнішчы каля новых зрубаў. Ясянец знае сабе цану, не хоча больш жыць у старых развалюхах і будуецца з размахам, якога дагэтуль не ведаў.

Нахапаўшыся за дзень, дзядзькі надвячоркам сядзяць на кучы бярвенняў. Кураць, успамінаюць пра-

жыты дзень. Сцяпан Баразна расчэсваецца, вычэсвае з валасоў смецце, уважліва разглядае грэбень, ці няма на ім апілкаў, і толькі тады хавае ў кішэню. Антось Струкач трэскай ачышчае ад пілавіння боты — яны запыліліся і сталі белымі, як у муцэ. Слаўкаў бацька сядзіць, сашчапіўшы рукі на каленях, і з любоўю, прагна глядзіць на ярус свежых дошак. Потым да мужчын далучаецца дзед — надвячоркам ён прыходзіць з калгаснага двара, дзе робіць вартаўніком. У дзеда рыжыя, пракураныя вусы, барада гладка паголена, і сам дзед не здаецца такім змучаным, як дзядзькі. Ён таксама любоўна аглядае пляц, завалены бярвеннямі і, выняўшы з зубоў люльку, гаворыць Слаўкаваму бацьку:

— А някепскага ты, Юзік, навазіў лесу.

— Але, добры лес,— умешваецца ў гаворку Струкач.— Адна смаліна.

— Стрыжнёвы,— устаўляе сваё слова Баразна.— Доўга стаяць будзе. Каб трапіўся сітаваты, то і загніваць хутка пачаў бы.

Бацька ў душы ганарыцца, радуецца, што ў яго такі добры, хвойны лес, а ўголас кажа:

— Пры чым тут я? Які лес адбіў ляснік, такі і прывёз.

Пачынае вечарэць, на зямлю кладзецца змрок, і ярус дошак у ім здаецца ўжо зусім шэрым. З недалёкай канавы цягне вільгаццю, павявае халадком. Там, у балацявіне, зацягнутай туманам, крумкаюць жабы.

— Пайшлі хіба па хатах,— першы падымаецца бацька.— І ты, Слаўка, ідзі. Нябось, нарабіўся за дзень?

Стараючыся не адставаць, Слаўка подбегам ідзе за бацькам. Жывуць яны цераз дарогу, у старэнькай дзедавай хатцы. Цесна тут Слаўку, няма разгону. Бацька змайстраваў сыну ложак, дык не было дзе

паставіць — прыйшлося выкінуць на двор клышаногі стол. Застаўся толькі шкапчык. Калі мужчыны зайшлі ў хату, на ім дымілася гарачая бульба, смачна пахлі скваркі.

— Сядайце, мужчынкі, вячэраць,— запрашае бабуля.— Астыне картопля.

Бацька мые рукі і сядае на табурэтку. Слаўка мые рукі і таксама лезе на ўслон. Бацька есць з апетытам, ажно папярхаецца, і Слаўка хоча так есці. Але чаўкаць зубамі і папярхацца ён яшчэ не ўмее. Яму наогул не хочацца есці. Вочы самі зліпаюцца.

— Ідзі ўжэ спаць,— гаворыць бацька і нясе Слаўку на ложак.— Памочнік мой...

Засынаючы, Слаўка чуе, як бацька гаворыць маме:

— Тут сёння праязджаў дырэктар з эмтаеса. Запрашаў на работу. Цесляроў там у іх не хапае.

— І ты — што? Згадзіўся? — палохаецца мама.— А як жа хата?

— Не, не цяпер,— супакойвае яе бацька.— На восень дамовіліся.

— Ну, хіба што восенню.

Слаўка спіць салодкім, моцным сном чалавека, які за дзень ледзь не горы перавярнуў. Спіць смачна, доўга, і ложак, на якім ён спіць, нават раніцай не хоча расставацца са Слаўкам. У вокнах залаціцца сонечная, ясная раніца, на яблынях свішчуць, аж заходзяцца, шпакі, а Слаўка спіць — нічога не бачыць, нічога не чуе. Толькі тады, калі на пляцы загакала сякера, вочкі расплюшчваюцца самі па сабе. У хаце ля печы калупаецца адна бабуля.

— Чаму не разбудзіла? — сварыцца на яе Слаўка і, пакуль бабуля думае, чым апраўдацца, унук, свецячы нямытай мордачкай, выбягае на вуліцу.

— Тата, а вось і я. Давай мне сякеру. Я таксама хачу часаць бервяно.

— Дык ты ж не ўмееш, яшчэ нагу пасячэш,— заклапочана глядзіць на сына бацька.— Вось што, Слаўка. Спачатку пастоі во тут ды павучыся, што трэба рабіць.

І Слаўка вучыцца абчэсваць сасновыя бёрны, вачэй не зводзіць з бацькі, усё запамінае, што робіць той. Гакае і гакае сякера, толькі трэскі ляцяць у бакі. Вось гатовы адзін плашчак, бацька бярэцца за другі. На тарцы берввяна — якраз на таўшчыню сцяны — ён робіць засечкі пад ровень, пасля счэсвае кару ўздоўж бервяна. Трэба, каб плашчак выйшаў прамы і гладкі, а для гэтага ў бацькі ёсць надта хітрая прылада. На вялізнай шпулі намотаны шнур, а на канцы шнура прывязаны цвічок. Бацька забівае цвічок у тарцы, пад засечкай, трэ шнур галавешкай, а другі канец шнура кладзе ў засечку з супрацьлеглага канца бервяна. Цяпер работа ёсць і ў Слаўкі.

— Нацягвай мацней шнур,— просіць бацька.— Мацней, яшчэ мацней!

Натужваючыся, Слаўка нагамі ўпіраецца ў зямлю. Бацька становіцца якраз пасярэдзіне бервяна, двума пальцамі падымае шнур, нацягвае яго, як цеціву лука, і рэзка адпускае. Шнур страляе, гулка ляскае, а над бервяном курыцца пылок. Там, дзе счасана кара, абазначаецца роўненькі чорны пасак. Такі ж пасак яны адбіваюць і з другога боку бервяна.

— Гатова,— кажа бацька і, папляваўшы на далоні, зноў бярэцца за сякеру.

— А што мне рабіць?

— Скруці шнур ды ідзі гуляй. Не замінай мне.

Слаўка скручвае на шпулю шнур, і рукі становяцца чорныя, як у камінара. Цяпер іх і мылам не адмыеш. Затое вунь якое роўнае бервяно выходзіць! Бацька збольшага абчасаў плашчак сякерай, паадбіваў аполкі і зараз склюдуе бервяно, каб яно было гладкае, як габлёванае. У бацькавых руках цяпер

3*

другая сякера — з кароткім тапарышчам і прадаўгаватым вострым лязом. Склюд называецца. Іх Слаўка аднойчы бачыў на малюнку. Там на троне сядзеў цар, а каля яго стаялі людзі з вось такімі ж сякерамі, як і ў бацькі. Дзед зірнуў на малюнак і сказаў, што гэта дваране прыслужваюць цару.

Слаўка сядзіць на бервяне, глядзіць на бацьку, і яму здаецца, што перад ім зусім не бацька, а той дваранін з казкі. Слаўка сядзіць, грэецца на сонцы, а дваранін усё махае і махае склюдам, толькі трэскі ляцяць. У двараніна цячэ з ілба пот, навылет прамокла белая кашуля. Слаўка глядзіць на бацьку, на свае запэцканыя рукі і ўздыхае: тым дваранам, што стаялі каля цара, усё ж было лепш — ім, прынамсі, не трэба было будаваць новы дом.

## 2

Калі дзед не бывае на старажоўстве, то часам памагае бацьку. Удвох яны варочаюць цяжкія, сырыя плашчакі, мераюць хлысты жоўтым складным метрам і распілоўваюць іх на кавалкі. Пляц пад бярозай усыпаны пілавіннем і трэскамі. Слаўка цэлымі днямі круціцца каля мужчын, і было б дзіўна, каб ён сяму-таму не навучыўся ў іх.

— Дзеду, а, дзеду, давай я буду пілаваць.

— То ж ты, унучак, пілу не пацягнеш.

— Пацягну!

Дзед запытальна глядзіць на бацьку:

— Юзік, табе не здаецца, што бервяно качаецца?

— Качаецца, яшчэ і як качаецца,— зразумеўшы дзедаву хітрасць, скардзіцца бацька.— От каб хто патрымаў?

— Я патрымаю!

Слаўка садзіцца вярхом на бервяно, зашчаміўшы яго паміж ног, і бервяно ўжо не вагаецца, ляжыць

роўна на лягарах. Здаецца, спарней зашоргала піла — шась-шась. І мужчынам цяпер зручна пілаваць дрэва, і Слаўку добра памагаць ім. Вось толькі аднаму Курашчупу дрэнна. Маленькі, беленькі, калмаценькі сабачка з зайздрасцю паглядае на Слаўку — лісліва заглядае ў вочы, віляе хвосцікам.

Курашчупа надоечы Слаўку падарыў дзед, і калматы белячок прывязаўся да хлопчыка. Слаўка нясе ваду мужчынам, а Курашчуп бяжыць ззаду, падбрэхвае, як быццам кліча іх спаталіць смагу. Разумнае стварэнне, адно што на бервяне так, як Слаўка, сядзець не можа — звальваецца і знізу пакрыўджана цяўкае. Пад абед Курашчуп зусім знікае з пляца. Вось дык сабачка! Уцёк, бо, мусіць, баіцца зарабіць укол. Тут, на пляцы, грабучыся ў пяску, Слаўка знайшоў тоўстую шкляную трубку з бліскучай іголкай на канцы.

— Шпрыц ета,— паглядзеўшы, сказаў бацька.— Яшчэ ад Дусі застаўся. На, гуляй,— і бацька цяжка ўздыхае.

Слаўка тады парнуў бліскучай іголкай Курашчупа, які круціўся ля ног, але сабачка быў зусім здаровы, і такая ўвага да сябе яму не спадабалася. Падцяўшы хвосцік, ён ад страху цурыў з двара і да вечара не паказваўся на вочы. Слаўка схаваў шпрыц пад бярозай — выкапаў ямку і загроб зямлёй. Праўда, тое месца, дзе ляжыць шпрыц, затапталі мужчыны. Але таквеле бяды — знойдзецца, трэба толькі добра пакапацца пад бярозай.

Мужчыны, завіхаючыся на пляцы, не шкадуюць сваіх рук, і хутка высвятляецца, што ўсе бярвенні распілаваны, акораны і абчасаны. Адсклюдаваны нават чатыры дубкі, якія пойдуць на падваліны. Бацька паехаў у лес, надраў цэлы воз зялёнага моху. На пляцы горбяцца і чатыры валуны — на іх лягуць дубовыя падваліны.

— Здаецца, можна клікаць талаку,— выціраючы пот з ілба, гаворыць бацька.

Ён стаіць пад бярозай, стараецца схавацца ў цень, а ў яго вачах свеціцца радасць.

— Ды, відаць, ужэ час,— разважае дзед.— Вунь ужэ і грэчку пасеялі. Не паспеем агледзецца, як і лета прыйдзе.

— Добра было б да восені справіць наваселле,— клапоціцца бацька і, убачыўшы Слаўку, дае яму наказ: — Пабяжы, сынку, пакліч Струкача. Хай ідзе памагаць. І яшчэ скажы, што я прасіў тэбель. Бачыў калі тэбель?

— Бачыў! — ускліквае Слаўка.— Гэта свярдзёл такі вялікі.

— Малайчына! — хваліць яго дзед.— Ды і Баразну варта было б гукнуць.

Струкач і Баразна жывуць на адной вуліцы з Давыдчыкамі. Струкач бліжэй, а Баразна трохі далей — яго хата стаіць побач са школай. Уласна, у Ясянцы і тых вуліц адна. Затое доўгая — мо больш як на вярсту. Паабапал яе лепяцца старыя сялянскія хаты, а новых яшчэ мала. Ясянец толькі пачынае разбудоўвацца. Новыя дамы стаўляюць найбольш у гэтым канцы вёскі, таму што з другога боку нізовіна, лагчына, і там заўсёды гразка. Далей лагчына пераходзіць у поле. У тым канцы вёскі жыве вельмі дзіўны чалавек Інго Мэгусь. Ён аброслы і кульгавы, і дзеці яго баяцца. Убачаць здалёк і ўцякаюць хто куды, як вераб'і.

Слава бяжыць па вуліцы, і ён зусім не баіцца сустрэцца з валасатым Інго. Праўда, і бегчы тут — два крокі. Струкачова хата — другая ад бярозы, але па такую патрэбную штуку, як тэбель, Слаўка мог бы пабегчы і ў другі канец Ясянца. А тут і бегчы не трэба, нават у хату не трэба заходзіць — Струкач вунь сам нечага тупчацца па двары.

— Дзядзька Антось, дзядзька Антось! — крычыць Слаўка.— Ідзіце да нас. Будзеце нам новы дом стаўляць. А яшчэ тата прасіў, каб вы далі свой тэбель.

Струкач хапаецца за вушы, закрывае іх рукамі — яму хочацца ўцячы ад гэтага шустрага смаркача.

— Не крычы, таўкач, бо аглушыш. Іду зараз.— Струкач раптам хмурыцца, вясёлыя чорцікі скачуць у яго вачах: — А бацьку скажы, што ён маім тэблем не будзе круціць.

— Чаму?

— Бо я яму яго не дам.

Слаўка ледзь не плача — губы крывяцца, а ў вачанятах круцяцца слёзы.

— Калі дасцё, то будзе круціць.

— Ладна, таўкач, дам, калі етак просіш.

Струкач ідзе ў кладоўку і выносіць на двор вялізны і цяжкі, як падняць, свердзел. Ззаду рыпяць варотцы, стукаюць аб шула, а Струкач і Слаўка ідуць будаваць новы дом. Уперадзе шырокімі крокамі сцібае Антось, задаволены, што так лоўка пакпіў з хлопца, а за ім подбегам перабірае нагамі ашчасліўлены і радасны Слаўка. Перад сабой, прыціснуўшы да грудзей, ён нясе вялікі і цяжкі тэбель. Цяпер, калі Ясянец будуецца, цаны няма гэтаму свердзелу. То адзін, то другі пазычае. Наперахват і сам Антось Струкач — ён адмысловы майстар: умее рубіць дамы хоць у просты, хоць у нямецкі вугал. Толькі скупаваты трохі: бачыш, ледзь выпрасіў у яго тэбель.

— Во прынёс,— Слаўка асцярожна кладзе свердзел на кучу імху.— Цяжкі, зараза.

— А ты думаў што? — смяецца Сцяпан Баразна.— У жыцці лёгкім нічога не бывае.

На пляцы ўжо сабралася цэлая талака — тут Струкач і Баразна, ды яшчэ суседзі падышлі. Мужчыны пачынаюць звязваць падваліны, пераносяць дубкі, і твары ў дзядзькоў чырванеюць ад натугі, а

на руках уздуваюцца жылы. Мужчынам ужо горача, і, паскідаўшы пінжакі, яны працуюць у адных палатняных кашулях. Сонца, падняўшыся над Ясянцом, узялося ў сілу і добра прыпякае — таму і горача мужчынам. Слаўка круціцца каля іх, яму не цярпіцца, калі ж пачнуць круціць дзіркі тэблем, які ён прынёс? Але мужчыны не разумеюць яго цікаўнасці і праганяюць ад сябе:

— Ідзі з хлопцамі гуляй. Што табе тут рабіць? Яшчэ нагу прыцісне паленам.

Тэбель мужчынам спатрэбіўся толькі на другі дзень. Яны звязалі падваліны і цяпер кладуць першы вянец. Дзіркі ў бёрнах па чарзе круцяць то дзед, то Слаўкаў бацька. Тэбель лёгка, як у сыр, лезе ў драўніну, і аднекуль з сярэдзіны плашчака паверх выкручваюцца ружовыя стружкі. Аднак круціць дзіркі, мусіць, не так проста і лёгка, бо чаму ж так пачырванеў і абліўся потам дзед?

— Давай я,— кажа бацька, і ў яго руках тэбель, здаецца, спарней укручваецца ў бервяно.

Галоўны закапёршчык на пляцы Антось Струкач: ён і бярвенні выбірае, і камандуе, што каму рабіць. Сам жа вядзе і вуглы, бо выдзеўбці вуглавыя замкі не кожны ўмее — трэба ж дапасаваць плашчакі так, каб і холад не забіраўся праз шчыліны і каб прусакам не было дзе жыць. Струкачу памагае Баразна — гэты таксама добра разбіраецца ў вуглах: нешта мерае, нешта крэсліць алоўкам на тарцы плашчака, а калі чаго не разумее, кліча на дапамогу Струкача. Баразна хоча паравярнуць плашчак, напінаецца, а Струкач стаіць побач і моршчыць нос.

— Сцяпан, ты нічога не чуеш?

Ад гэтага балабона ўсяго можна чакаць, і Баразна насцярожваецца:

— Быццам не чую? А што?

— Анічога. Проста мне падалося, што каля цябе вецер у нешта ўкачаўся.

— Які вецер? — не разумее Баразна і тут жа чырванее, пачынае апраўдвацца: — Ну і нос! За вярсту чуе. Панімаеш, гэта ж картоплі нагрукаўся з кіслым малаком. От і пушыць жывот. А тут яшчэ напяўся.

— Ад кіслага малака бывае,— падтаквае Струкач, і абодва яны рагочуць.

Раптам цесляры перастаюць смяяцца. Не цюкаюць сякеры, не паскрыпвае ў бервяне тэбель. З таго канца вуліцы, дзе балацявіна і дзе нават цяпер гразка, кулдыбае аброслы, як поп, Інго Мэгусь. Ён наогул мала выходзіць на людзі, а калі гады ў рады паказваецца са сваёй развалюхі, дык глядзяць па яго, як на якое дзіва. Інго ходзіць кульгаючы, абапіраючыся на кій, і Ясянец не можа ўзяць да толку, ці гэта прытвараецца ваўкалака, ці мо і праўда ў яго баліць нага? Ясянец не помніць зла, многае можа дараваць, а вось Інго Мэгуся ніяк не можа памілаваць. Ясянец глядзіць па яго з пагардай, плюецца яму ўслед.

— Памажы вам божа! — падыходзіць і вітаецца Інго Мэгусь.

Мужчыны маўчаць. Бацька хмурыцца, не ведае, што рабіць — ці то адказаць на прывітанне, ці то прамаўчаць. А магчыма, ён думае, што трэба турнуць гэтага злыдня, былога канакрада, каб тут і духу яго не было. Хмурыцца бацька, маўчаць цесляры.

Інго стаіць на вуліцы. Падысці бліжэй да людзей, відаць, не рашаецца.

— Добры лес,— хваліць ён зруб.— Адна смаліна...

Ніхто яму не адказвае. Мужчыны раптам успомнілі, што пачынаецца лета, што ў іх навалам работы, і яшчэ спарней зацюкалі сякеры, яшчэ хутчэй закру-

ціўся тэбель у дужых бацькавых руках. Інго Мэгусь здалёк глядзіць на мужчын, на зруб, потым пачынае кашляць. Яго б'е ліхаманка, ён трасецца ўвесь, пакуль не праходзіць прыступ кашлю. Інго Мэгусь адхарквaецца, з запалых вачэй цякуць слёзы, на нягоЛеным твары выпірае храшчаваты нос. Ён усё яшчэ стаіць на вуліцы, стаіць, як бы чакае нечага, і ўсё ж, мусіць, рашаецца сказаць тое, дзеля чаго, відаць, і прываложся сюды:

— А людзей у цябе, Юзік, малавата. Хай бы мне сказаў, то з ахвотай памагаў бы.

Бацька здзіўлены такой прапановай, абураецца ў душы і, ледзь стрымліваючы сябе, гаворыць:

— Як-небудзь абыдземся самі. Куды табе з тваім здароўем лезці на зруб. Яшчэ звалішся...

— І то праўда,— згаджаецца Мэгусь.— Слабы я стаў.

Ён бачыць, што яго дапамога тут не патрэбна, што з ім не хочуць гаварыць. Паварочваецца назад, ідзе па вуліцы — згорблены, худы, ледзь цягнучы за сабой хворую нагу.

— Работнічак знайшоўся! — смяецца яму ўслед Антось Струкач.— Дзе ты быў, калі Дусю прапіваў?

— Да вайны, бывала, усе грады ў баб наапалвае. Дзе якая цыбуліна завядзецца, дык з корапем вырве,— успомніў Сцяпан Баразна.— Ці ж хоць спіцца яму начамі пасля ўсяго, што нарабіў?

— Перажывае. Канечне, перажывае,— сказаў Слаўкаў бацька.— Высах жа, як трэска.

— Дзе яму дало перажываць! — злуецца дзед.— Каб прымеў, дык я яго самога б на шыбеніцу завёў. А Дуся хай бы жыла...

Мужчыны спрачаюцца, успамінаюць усё, што звязана з Інго Мэгусем, і толькі адзін Слаўка нічога не разумее ў гэтых справах. Ён тут хлопчык на пасылках: то ровень каму падасць, то вады прынясе. Калі

няма чаго рабіць, проста валяецца на кучы моху, які пачынае падсыхаць і ўжо месцамі пабялеў. Побач сядзіць Курашчуп. У самую гарачыню ён цяжка дыхае, высалоплівае ружовы язык, і Слаўка палохаецца: ці не захварэў Курашчуп? Калі б даць сабачку ўкол, то мо і не дыхаў бы так цяжка? Але ўкол нельга зрабіць, таму што шпрыц, які застаўся пасля Дусі, яшчэ не знайшоўся. Слаўка перакапаў усю зямлю пад бярозай і — ніякага следу.

— Паганы чалавек, а вы мне кажаце,— дзед усё яшчэ не астыў ад злосці.— Ох, я яго ведаю...

Дзеду трэба на калгасны двор, на старажоўства, і ён, чымсьці незадаволены, пакідае зруб, на якім цюкаюць сякеры і раз-пораз шоргае піла.

## 3

Агонь каля зруба патух — пад бярозай засталося ачахлае вогнішча, застаўся попел, чорныя, абгарэлыя аскабалкі дрэва. Агонь быў патрэбен цеслярам — яны грэліся ля яго, таму што ў пачатку лета ішлі нудныя, зацяжныя дажджы; у агні, апроч таго, мужчыны напальвалі галавешку, якой шаравалі шнур і адбівалі ім роўныя чорныя паскі на бярвеннях.

Але вось касцёр патух і работа каля зруба прыціхла: перасталі цюкаць сякеры, не шоргаюць пілы. Агонь патушаны не дажджом. Наадварот, у канцы чэрвеня няшчадна паліла сонца і ў дзедавым садку зачырванелі вішні, а на поплаве, каля канавы, бурна пачала расці трава. Трава была ўжо ў пояс чалавека, яна магла перастаяць на пні, і сенажаць захвалявалася, затрывожылася — хвалі пабеглі па ёй з краю ў край, схіляючы ў нізкім паклоне і медуніцу, і дзятлік, і іншыя травы.

Сенажаць, якая пачыналася ля канавы і вузкай палосай агінала вёску, хвалявалася, што травы пера-

стояць, і тады Ясянец, забыўшы пра свае іншыя турботы, выйшаў на луг — на сяле скрозь заклекаталі малаткі, пачуўся ажыўлены гоман. Дужыя мужчынскія рукі ўзялі накляпаныя, вострыя, як брытвы, косы і пачалі касіць яшчэ не праспелую, высокую траву, валіць яе ў пракосы, разбіваць валкі, сушыць сена і — пахучае, духмянае — складаць у стагі.

Дужыя шурпатыя рукі махалі косамі і граблямі, а сонца няшчадна паліла зверху, і людзі радаваліся яму, хоць на сенажаці было неміласэрна спякотна, як быццам сонца хацела іх жыўцом зварыць у гэтай духаце. Людзі змарыліся змагацца з гарачынёй, далоні іх апякалі крывавыя мазалі, але тут высветлілася, што сенажаць ужо ляжыць голая, як бубен, а сена зграбена, высушана, застагавана. Зелянцовыя стагі занялі ўвесь поплаў, і здавалася, што тут адпачывала войска веліканаў, але чамусьці, у нейкай спешцы яно ўцякло з луга, забыўшы ўздоўж канавы свае шаломы.

Гледзячы на гэтыя вялікія зялёныя стагі, Ясянец уздыхнуў з аблёгкай, уздыхнуў вольна, і зноў у вёсцы зацюкалі сякеры, зазвінелі пілы. Зноў пад старой бярозай гарыць агонь, і ў ім смыліцца галавешка. Часам да агню прыбяжыць Курашчуп, пасядзіць трошкі і зноў некуды знікае. Мужчыны на сонцы загарэлі, як чэрці, твары і рукі ў іх сталі як бронзавыя. Цяжка выстаяць цэлы дзень на зрубе, на самым санцапёку, але дзядзькам, напэўна, было б яшчэ цяжэй, калі б не Слаўка.

— Слаўка, прынясі папіць,— просіць зверху Антось Струкач.

І Слаўка нясе карэц вады — сцюдзёнай, халоднай, аж ломіць зубы. Калодзеж стаіць пад вязам, у цяньку, і мо таму вада ў ім такая халодная.

— Слаўка, ты не бачыў, дзе ровень падзеўся?

— Бачыў, бачыў, дзядзька Сцяпан, вы ж у руках яго трымаеце.

А ўсё-такі добра мужчынам: калі што якое, дык Слаўка тут як тут — і падасць, і прынясе, і пагля-дзіць, каб у агні датла не згарэла галавешка. Раней каля зруба клапацілася мама — то зграбе трэскі, то дасць мужчынам добрую параду. А цяпер Слаўка адзін — мама жне жыта на Кругляку. Гэта тут неда-лёка, за дзедавымі соткамі. Да вайны Кругляк нале-жаў панскаму аб'ездчыку, а цяпер стаў калгасным полем. Пасеялі калектыўнае жыта, дык не нацешац-ца ім людзі — густое, рослае, як чарот. Так сказала мама, калі вярнулася з зажынак.

— А зярняты, што боб,— дадала яна.

— І не дзіва, гэтулькі гною навазілі,— кажа Ан-тось Струкач.— А за вайну поле абяднела.

— Каму яго было ўрабляць? Усе мужчыны — хто ў атрадзе, хто на хронце,— згадзілася з ім мама.— Вось і не радзіла зямля.

— Колас ад коласу не пачуе голасу,— гэта ў га-ворку ўмяшаўся Сцяпан Баразна.— Зноў жа, я вам скажу, цэхніка што значыць! Бачылі ж, як трахтар спраўна зaараў Кругляк.

— Я быў у Германіі, дык бачыў там машыны та-кія — самі і жнуць, і малоцяць,— гаворыць бацька. радуючыся, што на Кругляку ўрадзіла такое добрае жыта.— От каб нам тую германскую машыну.

— Нічога, пабагацеем і мы,— уздыхае Сцяпан Баразна.— Адно ж год пры калгасах жывём.

— Факт, што пабагацеем! Надоечы я быў у Круг-ловічах, у эмтаэсе, дык там гэтых машын поўны двор,— паведамляе важную навіну Струкач і нечa-кана просіць Слаўкаву маму: — Ты, Анюта, хіба пачаставала б нас свежым караваем?

— А што! І пачастую,— абяцае мама.— Хлеб я

ўмею расчыняць. Хай во Юзік скажа. Адно свой загончык сажну.

— Праўду кажа. Смачны пячэ хлеб.

— Чаго ж ета я стаю? — спахопліваецца мама.— Уходжвацца трэба. Ды зноў пабягу на поле.

Мама жне жыта на Кругляку, мужчыны будуюць хату — вунь які высозны зруб стаіць. Слаўка памагае дзядзькам, і выходзіць, што ўсе працуюць, усе заняты, ніхто не гультуе. Мужчыны пічыруюць, дзень за днём на цэлы вянец падрастае зруб. «Цяжка ім,— думае Слаўка.— А маме яшчэ цяжэй. Ёй нагінацца кепска, таму што жывот вялікі». І Слаўка ўжо хоча пабегчы на Кругляк, памагчы маме, але тут, як бы апярэджваючы яго думкі, бацька выпроствае спіну, глядзіць на сонца, якое ўвачавідкі хіліцца над вёскай.

— Слаўка, хай бы ты збегаў на Кругляк. Скажы маме, каб не бавілася да цямна. Сёння мы кладзём ашлапы, дык трэба вячэру зрабіць.

— Я адразу і пабягу.

Паўз дзедаву хату, цераз дзедаў запылены садок Слаўка клубком коціцца на Кругляк. За зялёнымі соткамі, якраз на мяжы, стаіць старая дзічка, і яна, напэўна, дзівіцца: што гэта за мурзатае стварэнне перакульваецца ў разорах? Бяжыць, блытаецца нагамі ў бульбоўніку, падае і, падняўшыся, зноў коціцца напраскі цераз соткі. Дзічка стаіць, чакае Слаўку, і з яе разгатых галін раз-пораз на дол падаюць чарвівыя дзікія яблычкі. Хоць чарвівыя, хоць маленькія, а есці можна. Слаўка бярэ на зуб чырванаваты, прадаўгаваты яблычак, і рот яго сцягваецца ад кіслечы.

— Цьфу ты,— плюецца ён.— Яшчэ нельга есці.

Кругляк стракаціць жоўтымі, чырвонымі і белымі хусткамі, на сонцы паблісквающь сярпы. Увесь Ясянец сёння на полі. Вось і паспрабуй разбяры, дзе тут

мама, а дзе суседка — здалёк не пазнаеш. Але вочы ў Слаўкі маладыя і зоркія — далёка, далёка бачаць.

Мама жне збажыну з краю Кругляка, і не адна — ёй памагае бабуля. Ад дзічкі туды, дзе блішчаць сярпы, яшчэ бегчы ды бегчы. Колецца ржэўнік, пад нагамі блытаюцца васількі, якім удалося выслізнуць з-пад вострых сярповых зубікаў.

— Мама, чуеш? Мама! — яшчэ здалёк на ўсё поле гукае Слаўка.— Ідзі дадому.

Мама выпростваецца, трымаецца левай рукой за паясніцу. Яна незадаволена, што яе адарвалі ад работы.

— Ну, што там у цябе?

— Трэба мужчынам вячэраць. Яны там апошні вянец кладуць.

Бабуля круціць перавясла, вяжа сноп і кладзе ў мэндлік. Другі сноп ломіць так, што са снапа атрымліваецца шапка. Саламянай шапкай яна закрывае снапы, якія ў мэндліку ляжаць каласамі ўсярэдзіну, а ґузырамі ўніз. Гэта для таго, каб каласы не замачыў дождж.

— Ідзі,— кажа бабуля.— Я тут адна трохі парачкую. Ідзі, Анюта.

У бабулі маршчыністы твар, на ёй панадзявана мо пяць спадніц. Дзіўна, як бабулі не ґорача? Блытаючыся ў шырокіх спадніцах, яна зноў бярэцца за работу.

— Не стой, не паранее.

Мама і Слаўка ідуць цераз поле, і яно колецца ржэўнікам, казыча ім лыткі. Слаўка хоча паднесці серп, але мама не дае: можна парэзацца. Тады Слаўка забірае ў мамы шэры сачык, які пахне жытам. Поле заstaўлена бабкамі і мэндлікамі. На мяжы каля дзічкі цвітуць васількі. Яны хіляцца пад ветрам, як быццам скардзяцца, што іх, такіх прыгожых, абмінулі сярпы. Дзічка ўжо не дзівіцца з Слаўкі, таму што

на сотках ён больш не падае, не блытаецца ў бульбоўніку, моцна трымаючыся за маміну руку.

Яны ідуць па мяжы, ідуць цераз садок, і скрозь галлё ім відаць, што цесляры ўжо тоўпяцца каля дзедавай хаты, мыюць рукі ў цэбры.

— Збяры, Анюта, што-небудзь на стол,— просіць бацька.— А мы пакуль пасядзім на двары, пакурым.

— Гуркоў хіба накрышу са смятанай. І сала насквару. Цяперачы і пара такая, што няма чым людзей пакарміць,— бядуе мама, і ў голасе яе чуваць скруха.

Бацька, раптам нешта ўспомніўшы, рагоча на ўвесь двор.

— Не бядуй дужа. Пра нашу вячэру ўжэ Курашчуп паклапаціўся.

— Хіба зноў напасіў? — палохаецца мама і чырванее.— Забіць яго трэба.

Мама ідзе пад паветку і за галаву хапаецца: ля сцяны тут у радок ляжаць курыныя яйкі. Іх напасіў Курашчуп. Адкуль у яго такая зладзейская звычка, ніхто не ведаў, але яйкі пад паветку Курашчуп носіць акуратна. Мама і біла яго, і мордай таўкла ў тыя яйкі, але не адвучыла калматага ад зладзейства. Курашчуп цэлымі днямі гойсае па чужых дварах, шукаючы курыныя гнёзды, а калі знойдзе, то пераняce яйкі ў зубах, нават поклад не забудзе. Яйкі ля сцяны зеленаватыя ад таго, што ляжалі недзе ў сырой крапіве або быльніку.

— Ты хоць нікому не кажы,— просіць мама бацьку.— А то перад людзьмі сорамна.

— От бяры ды рабі яечню,— смяецца ён.— З'ямо ды Курашчупу дзякуй скажам.

Калматы лёгкі на ўспамін: прыбег пад паветку, паклаў ля сцяны яшчэ адно бруднае зеленаватае яйка. Зрабіў сваю справу і адбегся, завіляў хвосцікам, не ведаючы, што яму за гэта будзе — ці пахвала, ці дубец.

— От зладзюга,— сварыцца на яго мама і ідзе ў хату.

Хутка на стале пад яблыняй, дзе стаіць клышаногі стол, сквірчыць у патэльні яечня, і дзядзькі чынна рассаджваюцца вакол яе на столках і табурэтках, вынесеных з хаты.

— Вячэра проста царская! — агледзеўшы стол, смяецца Антось Струкач.— А мы, сказаць па праўдзе, добра выбалелі.

— Дык вы ешце,— саромеецца мама, што стол зусім не такі багаты, як гаворыць сусед.— Ешце, я і больш напяку яек.

Яна ідзе ў хату маруднай, цяжкай хадой і, не дайшоўшы, садзіцца проста на лаўку каля парога. Слаўка глядзіць на маму і бачыць, што яна вельмі стамілася — вочы ў яе запалі, нос завастрыўся і толькі жывот выпірае наперад. Але не тое бянтэжыць Слаўку — у маміных вачах ён заўважае сум, і гэты яе сум трывожыць, хвалюе яго.

— Мама, ты чаго? Ты плачаш?

— Не, не плачу, сынок. Проста я стамілася моцна.

— І правільна, мамка, не плач. У нас жа цяпер будзе новы дом.

— Разумнічак мой.

Мама цалуе Слаўку, цалуе ў лобік, у нос, ласкава кудлаціць валасы, і яму добра з ёю, і яму не хочацца ўжо адсюль нікуды ісці. Але мама падымаецца з лаўкі, і вялікі мамін жывот лёгенька, мякка адштурхоўвае Слаўку ад сябе.

— Пагуляй, а то спаць ідзі,— заклапочана гаворыць мама.— У мяне яшчэ таквеле работы. Пайду гляну да мужчын — мо яшчэ трэба што падаць?

Спаць, канечне, яшчэ рана, і Слаўка, радуючыся свабодзе і цяплу, бяжыць на вуліцу. Ззаду, падбрэхваючы, за лыткі хапае Курашчуп, і абаім весела да

адурэння. Ім хочацца гуляць, куляцца ў кучы сухога моху, што ляжыць каля зруба. Сонца ўжо зайшло, і толькі чырванаватыя аблокі плывуць па небе. Змрок усё гусцее, павявае ветрык, і раптам Слаўка палохаецца. Пад бярозай ля зруба ўспыхваюць агеньчыкі — мужчыны пайшлі і забылі пагасіць агонь. Яго трэба патушыць, заліць вугольчыкі, што раздзьмухоўвае ветрык, а для гэтага ў Слаўкі ёсць вельмі надзейны спосаб. Шыпяць трэскі, шыпяць вуглі, над вогнішчам курыцца пара.

— Ха-ха! — нехта рагоча побач.— Бачыш, як дадумаўся.

Каля вогнішча стаіць і рагоча Антось Струкач. Ён вясёлы і абыходлівы, гэты вясковы балака, занадта вясёлы, бо нездарма каля патэльні стаяла паўтарачка, заткнёная кудзеляй.

— Ха-ха! Але ж усё не патушыў. Яшчэ вуглі засталіся. Дай таўкач, хіба і я памагу...

І зноў шыпяць вуглі, шыпяць галавешкі, і над вогнішчам падымаецца пара ўперамешку з дымам.

Слаўка ў захапленні, Слаўка дрыжыць ад радасці. Гэта ж адзін міг — і агонь пагас. Цяпер ён не перакінецца ноччу на новы зруб.

— А зараз пайшлі спаць,— дзядзька Антось нешта шамоліцца ў змроку, потым кранае Слаўку за плячо.— Там цябе ўжо мама шукае.

Слаўка кліча Курашчупа і бягом імчыцца цераз вуліцу. Азірнуўшыся, заўважае, што Струкач паволі сунецца паўз платы, а над Ясянцом, над старой бярозай, над новым зрубам вісяць буйныя, зіхатлівыя летнія зоры.

## 4

Стол, які з-за цеснаты давялося выкінуць з дзедавай хаты, стаіць пад яблыняй, мерзне золкімі начамі, мокне пад кароткімі і шумлівымі летнімі дажджамі. Пад раніцу на стале збіраюцца сівыя кропелькі расы, і здаецца, што ён пацее, прастудзіўшыся на скразняку. Клышаногі стол сумуе без свайго адвечнага занятку — ён прывык, каб на ім курылася гарачай парай бульба, каб стаяў гарлач з расолам. Стол сумуе па місках і шклянках, па вясёлых застольных песнях, якіх нямала яму давялося пачуць на сваім вяку.

Але сталу, за якім не так даўно вячэралі мужчыны, нечакана зноў пашанцавала. Аднойчы Слаўка выйшаў на двор і ўбачыў, што па грэблі марудна клыгае перагружаны воз. Ехаў ён не так сабе, бо чаго ж на ім сядзяць такія прыбраныя жанкі і з павагай, з вялікай пашанай углядаюцца на новы зруб? Быў спас, і Слаўка адразу здагадаўся, што прыехалі маміны цёткі і сёстры з Паначы. На спас яны кожны год прыязджаюць у госці.

— Мама, а да нас з Паначы прыехалі!

Цёткі і сёстры злазяць з воза, атрэсваюцца ад саломы і камечаць Слаўку — той ужо не рады, што трапіўся ім у рукі.

— Ой, зацалуеце вы яго,— завіхаецца каля іх мама і не ведае, як прыняць, дзе пасадзіць гасцей.— Мо пойдзем пад яблыню, у садок, га? Там і стол стаіць. Як па-твойму, Юзік?

— Хай будзе і ў садку. У хаце ўсё адно не памесцімся.

Слаўку тузаюць з усіх бакоў, шчыпаюць за пухнатыя шчокі, соваюць у рукі цукеркі. Мама прыходзіць сыну на выручку — кліча гэтых панацкіх мучыцеляў палуднаваць. Але і за клышаногім сталом, які нарэшце дачакаўся свайго шчасця, Слаўка заста-

ецца ў цэнтры ўвагі — яго разглядаюць, захапляюцца, наперабой хваляць:

— Уга, які вырас.

— Кавалер!

— Расце, як на лес гледзячы,— цешыцца мама.— А ці ж даўно замуж выходзіла? Як сёння тое было.

— У вайну ты выходзіла,— успамінае тоўстая, як качулка, цётка Зося.— Якое там было вяселле — у лахманах хадзілі. А Юзіка дык адразу на хронт забралі.

— Помню, як жа, помню,— ківае галавой мама.— Слаўка ўжэ пасля вайны знайшоўся.

За сталом бразгаюць відэльцы, па кругу ідзе чарка, і раптам у садку звініць песня. Песня шчымлівая і тужлівая — пра тое, што за туманам нічога не відна. Мама нерухомее.

— Не спявайце сумных песень,— просіць яна.— Нешта па сэрцы рэжа.

І песня за сталом, у спякотным садку, дзе пахне антонаўкамі і слівамі, звініць новая — залівістая і вясёлая. Жанкі спяваюць суладна, сакавітымі, моцнымі галасамі, і калі чаго не хапае ў іх хоры, дык гэта гарманіста. Асабліва стараецца Верка — нейкая далёкая маміна сваячка. Верка выцінаецца, напружваецца, і голас яе адрываецца ад астатніх галасоў і сігае далёка над садком. Верка спявае, а сама не зводзіць вачэй з Слаўкавага бацькі. Мама гэта бачыць, злуе і пасылае яго то прынесці агуркоў, то парэзаць хлеба. Мама не хоча, каб Верка ездзіла ў госці, і за вочы называе сваю далёкую сваячку лазінай — мо таму, што Верка тоненькая і вельмі ж высокая. Верка не здагадваецца, што мама яе не любіць, і кожны раз прыязджае ў госці. Падвыпіўшы, Верка спявае, і тады Слаўка хоча заткнуць сабе вушы.

— Годзе, наелася,— першай адстаўляе табурэтку цётка Зося.

І стол пад яблыняй у момант пусцее. Госці ходзяць па садку, частуюцца спелымі слівамі і антонаўкамі. Мама не спускае з Веркі вачэй і трымае каля сябе бацьку — не хоча, каб ён быў побач з Веркай.

— Ты ж глядзі сябе,— адводзіць маму ўбок цётка Зося.— Шануйся. Сама знаеш, якое ў цябе здароўе.

— Ды ўжо як-небудзь...

— Аддайце нам Слаўку,— просіць Верка.— Я проста закахалася ў яго.

Слаўка любіць ездзіць у Паначу да маміпай радні. Гэта і недалёка. Трэба мінуць грэблю, потым ехаць цераз лес, а калі лес кончыцца, то ўжо і Панача блізка. Але ехаць аднаму да Веркі яму не хочацца.

— Не паеду, не хачу,— тупае нагой Слаўка.

— Ну, добра, не паедзеш,— суцяшае яго мама.

Надвячоркам госці збіраюцца назад, у сваю Паначу. Бацька ловіць на аселіцы іхняга каня, запрагае воз, і вось ужо той воз грукоча па кладках на грэблі. Канём кіруе цётка Зося, а маладзейшыя, абляпіўшы воз з усіх бакоў, махаюць хустачкамі па развітанне. Цётка Зося ўжо здалёк крычыць маме:

— То ты ж помні, што я казала!

У цёткі Зосі густы, прыемны голас, але і яго перабівае вісклівы Верчын галасок:

— У госці прыязджайце да нас!

— Добра, прыедзем,— абяцае мама.

Але Слаўка ведае: нікуды яны ў госці не паедуць. Адно што мама недалюблівае Верку, а другое — часу няма раз'язджацца, як панам, па тых гасцях. Калі б дом быў зрублены, то тады яшчэ можна было б падумаць. А так нічога не выйдзе. Мужчыны і без таго працуюць, як апантаныя, панабівалі на руках крывавыя мазалі. Засталося самае важнае — трэба паставіць кроквы, палаціць іх, а затым ужо можна і на-

крыць зруб. Бацька яшчэ зімой нарэзаў шчапы, і яна ляжыць у кучы пад паветкай.

Гатовыя кроквы збоку падобны на літару «А»,— адзіную літару, якую ведае Слаўка. Кроквы стаяць каля зруба, прыхінутыя да сцяны, каб не паваліў вецер. Пасля спаса зацягваць іх на зруб прыйшлі Антось Струкач і Сцяпан Баразна. Паставіць кроквы, аказваецца, не такая простая штука. Іх трэба паставіць не коса і не крыва, каб кроквы стаялі як улітыя і каб латы на іх ляглі роўна, таму што дах атрымаецца крывабокі, праз шчапу будзе працякаць вада. Струкач у гэтай справе зубы з'еў, ведае толк, і таму ён лезе на рыштаванне, зверху камандуе мужчынамі, якія, напружваючыся, цягнуць на зруб збітую з акораных жэрдак літару «А».

— Сцяпан, чуеш ці не? — крычыць зверху Струкач.— Во еты бок заводзь! Ну, паднатужся. Ці мо зноў кіслага малака нагрукаўся? Га-га!

— Добра табе зверху кпіны строіць,— злуе Баразна.— А тут і так жылле лопае.

— Пачакай, зараз памагу.

Струкач скача з рыштавання на мох, і кроква ўжо спарней паўзе на зруб, займае сваё месца ў пазах, загадзя выразаных у верхнім плашчаку. Потым на сваё месца становяцца другая, трэцяя кроквіны — зруб увачавідкі набывае абрысы і контуры хаты.

— Пякельная работа,— выцірае пот Антось Струкач.— І сонца яшчэ смаліць.

На пляц зноў прывалокся Інго Мэгусь, але, як у мінулы раз, у памочнікі не набіваўся. Пастаяў каля кучы трэсак, абапершыся на кій, пакашляў і, падцягваючы нагу, павалокся назад.

Струкач спусціўся з рыштавання, выняў капшук з кішэні і кіўнуў у той бок, дзе па вуліцы, сагнуўшыся, ішоў Інго Мэгусь.

— Чаго тут круціцца еты таўкач? Штосьці я не разумею.

— А што тут разумець! — дзівіцца з яго Баразна.— Хіба ж ты забыў, што тут, пад бярозай, некалі жыла Дуся? Нешта ж рупіць Мэгусю, калі сюды прыходзіць.

— Загубіў кабеціну і даўно забыў,— махае рукой Струкач і ад вялікай прыкрасці сплёўвае на зямлю.— А сухоты ўсё ж падчапіў.

Мужчыны закурваюць. Сіні, з кутасамі, Струкачоў капшук ідзе па кругу і, прыкметна ўбавіўшы ў вазе, вяртаецца да гаспадара. Нават не глянуўшы, Струкач хавае яго ў кішэню.

— Я во стаю і думаю,— кажа бацька пасля таго, як мужчыны пастаялі моўчкі.— А можа, не вінен Інго? Мо Дуся як сама напаролася на немцаў? Ведама ж, маладая, нявопытная была...

— Заступнік мне знайшоўся! — дакорліва чмыхае Спяпан Баразна.— Мо бачыў, як ён пакутуе? То-та ж. Пакутуе, значыцца, душа не на месцы. Значыцца, сумленне мучыць.

Ля зруба гатова ўсчацца сварка, і Струкач першы адчувае гэта, пераводзіць гаворку на іншае.

— Вунь да тае, апошняй крэквы трэба прыбіць крыжык,— кажа ён і запытальна глядзіць на Слаўкавага бацьку.— Добра было б, каб і кветак якіх нарваць.

Бацька шукае вачыма Слаўку, кліча яго да сябе.

— Нарві кветак,— просіць ён сына.— Ці лепей скажы бабцы. Хай яна пашукае. Ды каласоў з гумна не забудзьце ўзяць.

— А навошта яны?

— Трэба вянок сплесці на апошнюю крокву. Ета — традыцыя такая.

— Ага, прынясу.

Слаўка подбегам панёсся цераз вуліцу, а Кураш-

чуп, не адстаючы, кінуўся за ім. Слаўка бяжыць на мяжу, дзе, помніцца, каля дзічкі раслі сінія васількі. Там і праўда яшчэ шмат сініх васількоў. Кветкі яшчэ жывыя, не пажухлі, і Слаўка нарваў іх цэлую жменьку. Курашчуп прынюхваецца да кветак, брэша, як быццам і ён разумее нейкі толк у васільках.

— Цю-цю, пабеглі назад.

Пад нагамі блытаецца бульбоўнік, сцёбаюць па лытках пруткі быльніку, але, на шчасце, Слаўка нідзе не спатыкнуўся і не ўпаў. Кветкі цэлыя. Бабуля прынесла з гумна жытніх каласоў і цяпер, седзячы на цурбаку, пляце вянок. Не вельмі прыгожы выходзіць ён — калючы ад каласоў і мала сіняга. Сцяпан Баразна, апусціўшыся на калені, вычэсвае на парозе зруба драўляны крыжык, потым збівае яго цвічкамі. Так робяць усе, хто будуе новы дом: прыбіваюць да кроквы крыжык. Раптам Баразна моцна войкае, хапаецца за левую руку і, як ляльку, трасе яе перад сабой. Сякера з грукатам падае на зямлю.

— Ета ж трэба,— енчыць Баразна.— Акурат па пальцы абухам угадзіў.

— А божачка ж мой,— мітусіцца каля яго бабуля,— і доктара няма. Хоць бы заражэнне не пайшло.

Кінуўшы ўжо амаль сплецены вянок, бабуля бяжыць у хату і праз хвіліну нясе белы шматок палатна. У Баразны пабіты палец увачавідкі пухне, набракае, ногаць сінее, наліваецца крывёй. Бабуля асцярожна закручвае палец шматком белага кужалю, а для моцы сцягвае суравой ніткай.

— Ну і як? Баліць? — бабуля з трывогай глядзіць Баразне ў вочы.

— Чаму ж не, баліць,— моршчыцца Сцяпан.— Баліць, але цярпець можна.

Антось Струкач бачыць, што нічога страшнага не адбылося — палец цэлы, суцяшае Баразну:

— Палец пабіў... Хіба ж ета боль? От як мне

асколкам на Вісле саданула, дык тады, братка, балела.

— То цябе па назе сцебанула,— кажа Слаўкаў бацька.— А палец таксама балючае месца. Можна без памяці ўпасці.

— Каб ёдай змазаць,— бядуе бабуля, падымаючы з зямлі недаплецены вянок.— Але дзе ты яго возьмеш? Бывала, хоць Дусю можна была паклікаць, калі што якое. Ах, горачка маё!

Мужчыны спачувальна глядзяць на Баразну, які яшчэ крывіцца ад болю — прыскуляла ўсё-такі добра, калі апух і счарнеў палец. Потым яму становіцца лягчэй, таму што Сцяпан глядзіць на Слаўку і раптам падміргвае яму:

— Ат, чаго тут крывіцца! Да вяселля загаіцца. Праўда, Слаўка?

— Праўда, дзядзька Сцяпан.

Пабіты палец, канечне ж, баліць Баразне, але ўжо не так, як раней, і Слаўка радуецца, што мужчыны збіраюцца ставіць апошнюю крокву, на якой будзе вісець калючы вянок з васількамі. Хутка ўсё ўляжацца. Слаўка перабярэцца ў новы дом. Тата прыме з-пад яблыні клышаногі стол, каб не мок пад дажджом. І палец у Сцяпана Баразны абавязкова загоіцца.

## Раздзел трэці

### 1

Наваселле справілі за тыдні два перад пакровамі. Мужчыны рукі паўрывалі, з дня ў дзень гакаючы сякерамі, але да халадоў усё ж удалося перабрацца ў новы дом. На двары дагарала восень, з бярозы зрываліся жоўтыя лісткі, калі былі закончаны пярэбары.

Цяжкі хатні скарб бацька перавёз на каламажцы, а што было лягчэйшае — вілкі, міскі, столкі — насілі цераз вуліцу. І вось цяпер у новы дом зайсці адна любата. На кухні, якраз насупраць печы, бацька паставіў шкапчык для посуду і дзве табурэткі. На кухні ўвогуле пакуль што пуста і гола, затое святліца абжыта лепей. Тут стаіць стол, той самы клышаногі, які мок пад яблыняй, але стол мама накрыла квяцістым настольнікам, і ён прыкрыў свае хібы. Тут жа, у святліцы, каля сцяны знайшлося месца для маленькага куфра, а два драўляныя ложкі ўпрытык пастаўлены каля другой сцяны. Трэці — трохі меншы — якраз змясціўся за грубкай.

— Небагатае ўбранства,— акінуўшы позіркам святліцу, сказаў бацька.— Ці то здаецца з непрывычкі?

— Не бядуй — абжывёмся,— супакоіла яго мама.— Проста не верыцца, што такую хароміну адбухалі.

Бацька глядзіць на яе і смяецца:

— Павэдлуг дзедавай хібаркі сапраўдны палац.

У новым доме, як і павінна быць, пахне сасной, сырой глінай і мелам. Печ яшчэ не высахла як след, у ёй гараць дровы, і печ ажно паруе. На сценах з пазоў вытыркае мох, і ў хаце таксама чуецца яго прэсны, лясны пах.

— Трэба будзе абрэзаць мох сякерай,— клапоціцца бацька,— а сцены пабелім або паклеім газетамі.

Мама тупча па хаце, радуецца свайму жытлу, але ёй цяжка хадзіць, і яна раз-пораз сядае на ложак.

— Не турбуйся пакуль. Жыць і так можна. Адно каб вайны не было. Кажуць, што мярыканцы нейкім атамам пужаюць.

— Не павінна быць вайны,— дасведчана гаворыць бацька.— Яшчэ ад той не адышлі. А што да атама, дык ён не ў адных мярыканцаў е.

— То і добра,— радуецца мама.— Хай на яго халера, на еты атам.

Цяпер, калі ўвесь скарб перавезены і рассунуты па вуглах, нечакана высвятляецца, што дом зусім не выглядае бедна. А калі мама павесіла на вокны фіранкі, абкруціла вышыванымі ручнікамі абраз, то хата здалася і вельмі прыгожай. На сценах развешаны асадкі з фотаздымкамі, з якіх на Слаўку глядзяць знаёмыя і зусім невядомыя яму людзі. Але больш за ўсё Слаўка любіць асадку, дзе пад шклом татаў фотаздымак. Тата зняты ў вайсковай форме, у руках яго аўтамат. У таты дзіўна бліпчаць вочы, калі ён разглядае свой фотаздымак, і Слаўка бачыць, што бацька пастарэў, а на картачцы ён яшчэ зусім малады.

— Добры дзень у хату!

— Можна зайсці?

Раз-пораз адчыняюцца дзверы, і ў новы дом заходзяць сваякі, суседзі — яны ідуць павіншаваць Давыдчыкаў з наваселлем. Такая ў Ясянцы завядзёнка: людзі радуюцца, калі ў некага шчасце. Толькі адна бабуля, здаецца, незадаволена — ёй часта трэба мыць падлогу. Прыходзяць людзі, дык дзе тут асцеражэшся, каб не наслядзіць, ды яшчэ калі на двары лье дождж? Мыць падлогу мама не можа, і ёй кожны раз памагае бабуля. Таму яна і злуе, калі хто прынясе ў хату гразі. Вышараваная падлога бліпчыць, пахне жывіцай. Падлога пазней пажаўцее, стане, як жаўток.

— Карбунец яе бяры. Здаецца, чыста,— кажа бабуля і далёка не хавае дзяркач з анучай.

Бабуля, стаміўшыся з мыццём, садзіцца на ложак каля мамы. І Слаўка пліпчыцца туды. Ён хоча прытуліцца да мамы, але перашкаджае яе вялікі жывот. Слаўка цікаўна, нічога не разумеючы, з дакорам гля-

дзіць на маму. Заўважыўшы яго позірк, бабуля тлумачыць:

— У цябе скора будзе сястрычка альбо брацік. Каго ты хочаш?

— Хачу, хачу...— Слаўка яшчэ не вырашыў, хто лепш — сястрычка ці брацік, і таму ласкава глядзіць на маму.— Мне ўсё роўна.

— То я пайду,— падымаецца з ложка бабуля.— Вечарам, калі вернецца Юзік з работы, дык мо яшчэ забягу праведаць.

Адразу пасля пярэбараў бацька пайшоў на работу ў МТС — яшчэ ж вясной дакляраваў дырэктару, што пойдзе цесляром. З работы ён вяртаецца позна, бо хадзіць у Кругловічы, няблізкі свет — якіх вёрст шэсць цераз лес. Слаўку ўжо і сядзець надакучыць, але бацьку чакаць трэба: кожны раз ён прынясе штонебудзь — то салодкі пернік, то бліскучую гайку. А неяк бацька прынёс з эмтээса паўвядра блакітнай фарбы і пакфэцаў ёю дзверы, ліштвы, вокны і аканіцы. Цяпер дом прыгожы, расфарбаваны, як лялька.

Адно кепска ў новым доме: бацька не паспеў прыбудаваць да яго сенцы. І калі адчыняюцца дзверы, у хату заходзіць холад з двара. Замест сенцаў бацька прыставіў наўскос да сцяны жэрдкі і абкідаў іх бульбоўнікам. Але ўсё адно холад урываецца ў хату, і таму на кухні Слаўка амаль не гуляе. Разгону яму хапае ў святліцы — хоць дурэй, хоць ваўчком круціся. Ніхто і не крыкне на шаляніцу — не тое што ў цеснай дзедавай хатцы.

Мама сядзіць на ўслоне і глядзіць у акно.

— Заўтра пакровы,— кажа яна ні то сабе, ні то яшчэ каму.— Зіма на носе.

Слаўка падбягае да яе і таксама глядзіць у акно. І праўда: на двары шэра і непрыветна, імжыць дробны дождж. Дрэвы стаяць панурыя, затое па саламянай страсе дзедавай хаты зеляneюць шапкі моху.

Страха прагнулася пасярэдзіне і здалёк падобна на вялікае сядло. Слаўка глядзіць на шэрыя дрэвы, і яму не хочацца, каб прыходзіла зіма. Зімой не пускаюць гуляць на вуліцу.

— Снегу хутка нападае,— уздыхае Слаўка, і мама як быццам чытае яго думкі.

— Баішся, што на вуліцу не пойдзеш? — пытаецца яна.— Ну, не бядуй. У цябе чаравікі е, сяды-тады пагуляеш на дварэ. А то буркі пашыем. Адно каб маразоў вялікіх не было.

Каля Слаўкі трэцца аб нагу рыжы, паласаты Капрыз — выцягвае шыйку, варушыць доўгім хвастом. Кот абжываецца ў новай хаце, прыслухоўваецца, але мышэй не чуваць, і Капрыз круціцца каля малога.

— Ідзі ж сюды,— кліча ката Слаўка.

Кот сядзіць на каленях, і яму тут добра — заплюшчыў жоўтыя вочкі і нешта мурлыкае ў сне. Слаўка забаўляецца з катом, а мама сядзіць ля акна — параненшаму засмучаная і маўклівая. Яна чакае бацьку, а калі той з першым прысмеркам прыходзіць, то ўжо не можа схаваць свой кепскі настрой. Бацька бачыць гэта і стараецца быць вясёлым, расказвае, як яму сёння працавалася.

— У лес ездзілі — валілі сосны. Намучыліся, канешне, але зрабілі ўсё чын-чынам.

— Ты паеш ды адпачні,— кажа мама.— Я пасцялю зараз.

— Што з табой? — гледзячы на маму, трывожыцца бацька.— Калі што, дык у бальніцу трэба.

— Абыдуся мо як,— не хоча ў бальніцу мама.— Здаецца, рана яшчэ. Ды і нічога ў мяне — адно што жывот пабольвае. Але ж ты ведаеш — ета даўно.

— Глядзі сама. Каб пасля нічога не казала.

Мама сцеле пасцель, потым кліча Слаўку:

— Ідзі спаць, сынок. Ужэ позна...

Яна накрывае яго новай фабрычнай коўдрай, па якой намаляваны розныя малюнкі, і Слаўку становіцца цёпла і хараша. У ногі грэе ад грубкі, і гэта добра, што грубка цёплая, добра напалена. Засынаючы, Слаўка думае: «Пакуль не выпаў снег, трэба выкапаць з зямлі шпрыц і прынесці ў хату. Яшчэ згубіцца».

Прачынаецца ён раніцай ад гоману ў хаце, ад едкага дыму. Расплюшчыў вочы, прысеў на ложку. Побач сядзіць мама, грэецца ля грубкі. І праўда, у хаце поўна людзей, а дым клубамі паўзе аж да столі. На лаве каля стала прымасціўся Антось Струкач, побач з ім яшчэ некалькі суседзяў. Каля грубкі на кукішкі апусціўся Сцяпан Баразна. Яго пабіты палец даўно паправіўся, і цяпер на пальцы расце новы пазногаць. Мужчыны кураць, гавораць паміж сабой, а позіркі іх скіраваны на Слаўкавага бацьку. Дзядзькі пільна сочаць за кожным яго рухам, як быццам Юзік Давыдчык, іх сусед, стаў якімсьці чараўніком.

Пасярод хаты стаіць табурэтка, а на табурэтцы, абапнуўшыся старой хусткай, сядзіць Слаўкаў дзед. Бацька на цыпках ходзіць перад ім — то прысядзе, то загляне ў твар, то забяжыць ззаду і адхопіць нажніцамі пасмачку валасоў.

— Проста на вачах маладзее дзед Васіль! — жартуе Струкач.— Хоць ты ў сваты яго выпраўляй.

— Дзеда можна і пад бубен падстрыгчы,— насуперак Струкачу гаворыць Сцяпан Баразна.— Усё адно да дзявок не пойдзе.

— А ты адкуль ведаеш, што не пайду? — аж кіпіць дзед.— Ты мне ў порткі лазіў, ці што?

Мужчыны таксама прыйшлі стрыгчыся. У буднія дні часу не хапае, а для таго, каб трошкі прылюдзіць сябе, застаюцца адны святы. Гледзячы, як майстар шчыруе каля дзеда, яны пакорліва чакаюць сваёй

чаргі. Машынку бацька прывёз з Германіі — валялася пад нагамі, дык падняў, а потым высветлілася, што гэта надта карысная штука. Што рабілі б суседзі без татавай машынкі, цяжка сказаць. Напэўна, хадзілі б, як папы, аброслыя.

— Вось і ўсё,— бацька здымае з дзеда хустку і дзьмухае на машынку, каб здуць валасінкі.— Здаецца, нішто сабе полечка.

На табурэтку садзіцца Струкач, і зноў пстрыкаюць нажніцы, мерна чахкае машынка. Астатнія пакорліва чакаюць, пільна сочаць за чаргой — хто першы прыйшоў, той першы і сядзе. Накурана, хоць сякеру вешай. На падлозе ляжаць пасмы валасоў. Самы старэйшы, хто прайшоў праз бацькавы рукі, быў дзед, ну і Баразна ўжо не зусім маладзы, а валасы на падлозе белыя, як іней. Цяпер у Ясянцы мала чорнагаловых мужчын — многія прыйшлі з вайны з пасівелымі скронямі. Бацька топчацца па гэтых белых, святых валасах і раз-пораз напраўляе машынку, бо яна забіваецца шчэццем.

— А што ні кажы, важнецкая штука,— хваліць ён машынку.— А тады, дурань, не хацеў браць. І вось добра, што ўсунуў у кішэню. Спатрэбілася.

— Дзіва што,— кажа Струкач. Пастрыжаны і чысценькі, ён ужо сядзіць на ранейшым месцы.— Пасля немцаў іржавага цвіка не было, не тое што машынкі.

На табурэтку прымошчваецца Сцяпан Баразна.

— Што ета машынка? — разважае ён.— Вунь Алесь Заваротны з той Ерманіі чумайдан касцюмаў прывёз. І сабе ходзіць, як баярын.

— І правільна зрабіў Алесь,— гаворыць Струкач.— Не збяднелі немцы на тых касцюмах ды во на етай машынцы. Колькі яны нашага дабра пераразілі! Абабралі да нітачкі.

— А лесу колькі высеклі? — умешваецца ў га-

ворку дзед.— У Кругловічах, дзе цяпер эмтаес, такі стаяў гонкі бор! Помніце?

Слаўка з цікавасцю слухае дарослых, асабліва калі яны пачынаюць гаварыць пра вайну: як пераходзілі цераз Віслу, як бралі Берлін. Толькі сёння ім, здаецца, не ўдасца выгаварыцца да канца, таму што на кухні ляскае клямка, чуваць цяжкія крокі. Расчыняюцца філёнчатыя дзверы, і ў святліцу заходзіць Папіха — самая старэйшая дзедава дачка, а значыць, яго, Слаўкава, цётка. Папіха, відаць, ужо абвялася чарачкай, таму што вельмі ж вясёлая і чырвоная — ткні ў шчокі, дык, здаецца, кроў пырсне.

— Ліха матары вашай, чаго насы павесілі? — з парога крычыць яна.— Мужыкі задрыпаныя! А дзе ваша чарка, ці мо забылі, што сёння пакровы?

— Ідзі, Альбіна, сюды,— кліча Папіху мама і пасоўваецца на ложку.— Пасядзі ля мяне.

— А мне не сядзець, мне гуляць хочацца! — выгуквае Папіха і, прытупнуўшы, пускаецца ў скокі. Яна ідзе, танцуючы па хаце, дакружваецца да стала, тармошыць Антося Струкача, цягне яго да сябе ў пару.

— Адчапіся, сатана ліхая,— злуе Струкач.

Ён аднекваецца, не хоча ісці ў круг, не хоча вылазіць з-за стала. Пачынаецца вясёлая валтузня, але Папісе так і не ўдаецца раскатурхаць Струкача, і яна зноў кружыць па хаце, прытупваючы абцасамі брудных гумовых ботаў:

Ой, дазвольце пагуляць,
Ой, дазвольце топнуць.
Сцены ў хаце задрыжаць,
Падваліны лопнуць.

— От Альбіна! От зараза! — захапляюцца Папіхай мужчыны.— Як чорт, носіцца.

Яна нарэшце змарылася, угаманілася, стомлена

апускаецца на ложак. Цяжка сапе, аддыхваецца, і агеньчык весялосці ў яе вачах паступова гасне.

— Ета ж я прыйшла вас у госці клікаць,— успамінае Папіха.— Мае Аляксандар і Соня прыехалі з Плотніцы.

— Дык як жа я пайду? — аднекваецца мама.— Сама бачыш — сяджу, як гура.

— То ты, Анютка, дома пабудзь. Во хай Юзік ідзе. І Слаўку з сабой возьме.

У хаце ўжо не ляскаюць нажніцы, не стракоча больш машынка: мужчыны — пастрыжаныя і памаладзелыя — пайшлі па хатах. Бацька падмёў падлогу, укінуў белыя як снег валасы ў печку і запытальна глядзіць на маму.

— За мяне не турбуйся,— кажа яна.— Я дома пабуду. Ідзі і не думай нічога.

## 2

Хатка ў Папіхі небагатая, ды чысценькая. Падлога вымыта і вышаравана, што на ёй, здаецца, і пылінкі не ўбачыш. Каля маленькага акенца насупраць дзвярэй стаіць ложак, пры печы зроблены палок, стаяць яшчэ стол, дзве табурэткі — вось і ўсё цётчына багацце. Хатка ўсяго на адну палавіну, і ў ёй цесна. Усё ж тут разам: і кухня, і святліца, і спальня. Папіха мажная, здаровая кабета, ёй у гэтых сутачках і самой не павярнуцца, а тут столькі народу найшло.

На покуці за стол селі Аляксандар і Соня. Яны сёння самыя ганаровыя госці, таму што прыехалі недзе аж з-пад Пінска, дзе Соня замужам. Слаўка ўсеўся бацьку на калені і цяпер з увагай і пашанай разглядае стравы на стале. Аляксандар чакае, калі ўсе пасядуць, і, здаецца, не хавае таго, што ён відны і цікавы малады мужчына. А Соня дык сапраўдная прыгажуня: шчочкі ружовыя, вочкі вялікія — Папіха

не налюбуецца дачкой. Каля Соні плішчацца за стол малодшыя яе сёстры — Зіна і Волька. Дзед кліча іх да сябе, але яны хочуць сядзець не каля яго, а каля Соні. У Папіхі яшчэ адна дачка, самая меншанькая — Тома. Але Томе за сталом месца не хапіла, і яна румзае на палку.

— Хадзі, Томка, да мяне,— кліча пакрыўджаную сястру Соня.— Месца ж хопіць, адно не хныкай.

— Ды і ў мяне можна на каленях прыгарнуцца,— кажа дзед.

— Не хачу,— румзае Тома.

Тому пакрыўдзілі, і цяпер яна хоча, каб яе хораша папрасілі. Таму і плач нейкі дзіўны — слёз няма, а толькі хныканне. Тому да сябе па чарзе клічуць Аляксандар, Соня, старэйшыя сёстры. І яна нарэшце згаджаецца на ўгаворы, злазіць з палка. Цяпер усім добра. Тома сядзіць на каленях у Соні якраз насупраць Слаўкі, Слаўка сядзіць на бацькавых каленях насупраць Томы. Цётка Папіха заваліла ўвесь стол ядой, і яны бяруць усё, што мае найбольш прывабны выгляд. Тома хрумстае сухарыкам, а Слаўка ўжо і нос выпацкаў у тлушч, грызучы гусінае крыльца.

На стале і так міска на місцы, а Папіха нясе то студзень, то аўсяны кісель. Яна разагрэлася ля печы, упарылася, скінула з ног гумавыя боты і тупча па хаце босая.

— Хай бы, мама, якія сандалі знайшла,— глядзіць на яе босыя ногі Соня.— Так і застудзіцца можна.

— І праўда,— шкадуюць маму Зіна і Волька.— Падлога, пэўне ж, сырая і халодная.

— Іш, якія шкадобнікі знайшліся,— глядзіць на малодшых дачок Папіха.— У хаце я не praстуджуся. Ці такое бачыла? Пасля вайны, як вы яшчэ меншыя былі, я ўспаруся пасярод ночы ды пяшком у Ганцавічы, на базар, з кошыкам яек. Босая. І халера не

ўзяла. Бывала, віней белы на траве, пальцы гарэць, але я іду — бо трэба ж прадаць тыя яйкі ды вашы лыткі прыкрыць.

— То цеперся было,— незадаволена кажа дзед.— Слава богу, сёння ўжо е што абуць.

— А мне і так добра,— не згаджаецца абуць сандалі Папіха.— А то, помню, яшчэ і так было. Пракалеем мы, бабы, на базары ды бяжым у сталоўку пагрэцца. Хоць чаю якога выпіць. Аднаго разу стаю ля бухвета, прыглядаюся, што б сваім дзеўкам купіць. «Пайшлі, Папіха»,— крычаць бабы ўжо з парога. Не помню, што я там купляла, мо цукеркі якія, хвацъ іх з прылаўка і — за бабамі. А бухветчыца глядзіць на мяне і дзівіцца: «Мусіць жа, і поп той добры п'яніца, калі папіха босая». Во як было — і смех тут, і гора.

За сталом дружна смяюцца — і Аляксандар, і дзед, а Зіна з Волькай пырскаюць ад смеху, хаваючыся, каб гэтым не ўгнявіць маці. І нават Слаўка смяецца з той нездагадлівай буфетчыцы. Ніякая ж Папіха не папова жонка — гэта ў яе мянушка такая. Томінага бацьку звалі па-вулічнаму Попікам. За тое, што насіў доўгія валасы і быў тоўсценькі, як бочачка. Попік вярнуўся з вайны пакалечаны, не доўга пажыў, а яго мянушка перайшла на цётку Альбіну.

— Ой, замарыла цешча,— выцірае слёзы Аляксандар.— Ой, дык пацеха.

Пасмяяўшыся ўволю, усе налягаюць на яду, і хутка высвятляецца, што варанае і паранае, якім застаўлены стол, больш не лезе. Паклаўшы відэльцы, госці слухаюць дзеда, які, схіліўшы галаву, заводзіць сваю любімую Марусю:

Маруся, ты, Маруся,
Вясной сады цвілі,
А бедную Марусю
У больніцу вязлі.

Дзед, калі падап'е, заўсёды спявае пра бедную Марусю. Абапрэцца на рукі, звесіць сівую голаў і спявае — сумным, жаласным голасам. Тыя, хто сядзіць побач, пачынаюць плакаць ад гэтага журботнага і жаласлівага голасу.

— Сумная песня,— кажа бацька.— Хіба лепшых няма?

— Хай спявае,— заступаецца за дзеда Папіха.— Што табе абыходзіць?

— Ды так сабе...

Слаўка ўжо наеўся і напіўся, сядзець за сталом і слухаць журботныя песні не хочацца, і ён выпстрыквае з бацькавых калень, а следам за ім выграбаецца з-за стала і Тома. Яны выбягаюць на двор на свежы вецер, бо ў хаце стала горача — ад разагрэтай печы, ад таго, што надыхалі людзі.

— Ой, хто гэта? — адчыняе дзверы і палохаецца Тома.— Слаўка, глянь.

На парозе сядзіць Курашчуп і віляе хвастом, убачыўшы Слаўку. Разумны сабачка, прыбег па слядах, і за гэта, канечне, заслужыў пачастунак. Слаўка вяртаецца ў хату, хапае са стала абгрызеныя гусіныя костачкі.

— Ты што, косткі будзеш грызці? — перастаўшы спяваць, пытаецца Аляксандар.— Пачакай, во мяса ўпару.

Ён торкае відэльцам у міску, нешта напорвае там і падае Слаўку. На відэльцы — кавалак гусінага пупа. Пуп сіні, добра ўвараны і на зрэзе пераліваецца рознымі колерамі, як перламутравы. Курашчуп, вядома ж, узрадуецца такому царскаму пачастунку. Але Слаўка асцярожны: чакае, калі адвернецца Тома, і толькі тады Курашчуп шчоўкае зубамі, у момант расправіўшыся з сінім гусіным пупам. Тома адразу сказала б маме, што Курашчуп зжор мяса. А вось

цяпер Курашчупу можна даць і гэтыя абгрызеныя костачкі.

— Хрусь-хрусь,— чуецца на парозе.

— Маруся, ты, Маруся,— зноў далятае з хаты жаласная дзедава песня.

— Давай адгэтуль уцячом,— раптам гаворыць Тома.

— Куды?

— А хоць бы да вас. Да цёткі Анюты...

Мама! І як гэта Слаўка забыўся пра яе?

— Пабеглі.

Папіха жыве на хутары, сярод кустоў, на нейкім пясчаным астраўку, які з аднаго боку абкружаны лесам, а з другога — балотам. На хутар з Ясянца вядзе прасека — гразкая, уся на ямах. Калісьці тут была грэбля. Яшчэ Попік наслаў, а цяпер кладкі пагнілі і патрухлелі. Прасека выходзіць на дарогу ўжо ля самага Ясянца, якраз дзе будуецца калгасны двор. Адтуль да Слаўкавага дома рукой падаць — трэба толькі мінуць Хартонаў лужок і выбіцца на вясковую вуліцу.

— Даганяй! — крычыць Тома.

Ногі ў яе цыбатыя, як у бусла. Дзе ўжо тут угонішся! Слаўка адстае, а за Томай улёг Курашчуп. Брэша, цяўкае на ўсю прасеку, хапае Тому за лыткі. Ён не ўкусіць — Томку ён толькі палохае.

— Не бяжы так хутка! — просіць Слаўка.

— Даганяй!

На шчасце, прасека хутка канчаецца, і яны выбягаюць на дарогу, прама ля калгаснага двара. Справа ад дарогі стаяць два кароўнікі. Мужчыны разбіраюць у Ясянцы гумны і звозяць іх сюды. З тых квадратных гумнаў і зроблены кароўнікі — доўгія, як аборы. Побач і трэці будынак, праўда, яшчэ не скончаны — канюшня. Калі яна будзе скончана, дзед прывядзе сюды свайго чорнага коніка, а пакуль што Жук

стаіць у дзедавым хляве. Мо як да вясны і пабудуюць канюшню.

Недалёка ад калгаснага двара стаіць старая хата з зялёнай ад моху саламянай страхой. Тут жыве Барыс — Томін аднакласнік. Ён вельмі задзірысты і ганарлівы, таму дзеці празвалі Барыса Фафаном. Тома і Слаўка прабягаюць міма старой хаты, дзверы ў ёй нечакана адчыняюцца — на парозе стаіць Фафан.

— Зайдзіце да мяне,— кліча ён. Мусіць, і Фафану сумна жыць наводшыбе вёскі.

— Зойдзем,— рашае Тома.— Мо што смачнае дасць?

Фафан садзіць гасцей за стол, дае Слаўку кніжку, каб глядзеў малюнкі, а сам лезе пад ложак — поўзае там на жываце, чхаючы ад пылу, нешта выграбае з кутка. Тома ажно падрасла ад цікаўнасці: няўжо тое смачнае Фафан хавае пад ложкам?

— Пачакайце, зараз будзем піць гарэлку...

З-пад ложка выкочваецца маленькая дубовая бочачка, і па тым, як яна звініць, бачна, што бочачка парожняя. Следам, выпацканы ў пыл, з павуціннем на носе, вылазіць Фафан. Ён яшчэ не ведае, што бочачка пустая, беражна падымае яе і нясе на стол.

— А дзе ж маці? — пытаецца расчараваная Тома.

— Дзе ёй быць? Недзе пляткарыць пайшла. Каб бацьку не забілі ў партызанах, то, канечне, сядзела б дома.

Фафан ставіць на стол шклянку, пераварочвае бочачку сычыкам уніз, але з яе нават і не капнула. Фафан не верыць, трасе бочачку перад сабой, прыслухоўваецца, а потым падстаўляе пад сычык рот. Усё ж некалькі кропель трапляюць яму на губу. і Фафан у момант п'янее — то быў чалавек, а раптам стаў п'яны як гразь. Вочы вырачаныя, рот раскрыты, блішчаць зубы. Фафан як звар'яцелы круціцца па хаце, падае, потым падымаецца і бяжыць да Томы.

— А зараз я вас буду біць,— грозна абвяшчае Фафан.— Ты, Слаўка, сядзі, я Тому буду біць.

Тома палохаецца, зрываецца з лаўкі і бяжыць у парог. Фафан даганяе, хапае за косы. Але Тома дужэйшая за свайго мучыцеля — дарма, што такая худая. Яна вырывае косы, штурхае Фафана з усёй сілы, і той падае на падлогу. Услед за Томай на двор выбягае Слаўка, і яны, што ёсць духу, уцякаюць ад разгневанага Фафана. Пераводзяць дыханне толькі ля Хартонавай сажалкі. Фафан далёка не бег, вярнуўся, і цяпер, пасмялеўшы, на яго здалёк брэша Курашчуп. Тома плача.

— Фафан прытварыўся,— кажа яна, і ёй зусім не хочацца ўспамінаць, чаго яна заходзіла да яго.— Думаеш, я не дала б яму рады? Дала б!

— Дала б! — згаджаецца з ёю Слаўка.— Ён — слабак, адно што злосны.

Над Хартонавай сажалкай кучаравіцца туман, ад вады цягне вільгаццю і холадам. Непрыкметна звечарэла, але тут ужо і Слаўкаў дом блізка. Вось у змроку паказаліся новыя сцены, забялеў дах. Сцены пахнуць смалой, пахнуць лесам. З вокан выбіваецца чырвонае святло лямпы.

Дзверы ім адчыняе бабуля. Яна выносіць з хаты вядро і, мусіць, не чакала ўбачыць ля парога задыханых, расчырванелых і вясёлых унукаў.

— І ты, Тома, тут? — узрадавалася бабуля.— Бяжы, дзіцятка, назад. Скажы дзеду і дзядзьку Юзіку, што Анюце зусім блага. Трэба запрагаць каня ды мчаць у бальніцу. Я сама ўжэ нічога не магу зрабіць...

Слаўка глядзіць на бабулю і не можа скрануцца з месца. Яму не трэба было ісці ў госці да цёткі Альбіны. Чуваць, як па вуліцы тупаціць цыбатымі нагамі перапалоханая Тома. Шкада ўсё ж, што цётчына хатка стаіць так далёка.

## 3

Усю ноч у хаце гарыць лямпа, падвешаная да столі па кароткім іржавым дроціку. Ашчаджаючы газу, бабуля прыкруціла кнот, і агеньчык, патрэскваючы, ледзь цепліцца ў закураным камінку.

— Спі, мой коцік,— просіць бабуля Слаўку.— І не плач, вернецца мама.

— Добра, я буду спаць.

Бабуля тупча па хаце, раз-пораз спыняецца насупраць абраза на покуці і моліцца. Потым уздыхае, садзіцца ля грубкі і грэе абвіслыя, прыгорбленыя плечы.

— Каб жа добра абышлося,— шэпча яна.

Маму павязлі ў Ганцавічы, у бальніцу. На возе паслалі сяннік, палажылі на яго маму, а зверху накрылі старым дзедавым кажухом. Бацька паклаў маміну галаву на свае калені, дзед сеў у перадку воза, нацягнуў лейцы і замахнуўся дубцом:

— Но-о, Жук, пайшоў!

— Вы ж асцярожна вязіце,— паспела сказаць бабуля.— Каб не трасло Анюту вельмі.

— Ты мяне не вучы,— як не сваім голасам адказаў дзед.— Сам ведаю. Ты от хлопца глядзі, а то з плачу заходзіцца.

Па дарозе затарахцелі колы, заляскацелі лёсткі ў драбінах, і хутка ў тым баку, куды скіраваў Жук, усё заціхла.

— Пайшлі ў хату,— бабуля ўзяла Слаўку за руку.— Добра, што хоць мужыкі скора прыбеглі.

— Яны заўтра прыедуць? — пытаецца Слаўка і ўвесь дрыжыць ад холаду, ад страху за маму.

— А як жа, прыедуць. А ты спі, засні і не думай нічога.

Слаўка і хоча заснуць і не можа. Ужо і пеўні заспявалі, а ён ляжыць на ложку і нават не задрэмле.

Не спіцца і бабулі — яна то грэецца ля грубкі, то тупча па хаце. І ўсё ж бабуля стамілася ад гэтай тупатні, ад гэтай калатнечы — бярэ столак і прымошчваецца каля Слаўкі, накрываецца старой дзяружкай, а босыя ногі прасоўвае паміж лёстак у біле — каб грэліся ля грубкі.

— Бабуля, у мяне брацік будзе?

— Будзе, будзе, а цяпер спі. І мне дай супачыць.

За акном зноў чуваць, як у дзедавым ці мо ў суседскім хляве спявае певень — хутка і дзень настане. З ложка Слаўку відаць акно — чорнае як сажа. Акаліца сарвалася з кручка і час ад часу ляпае па сцяне. На сталі, дзе вісіць лямпа, адбіўся жоўты кружок святла, а ўся хата патанае ў змроку. Слаўка раптам ажно ўцягвае голаў ад страху. З акна нехта разглядае хату — у шыбіне тырчыць валасаты, агідны твар. Валасатая пачвара ўставілася на Слаўку, і яму здаецца, што з акна глядзіць Інго Мэгусь. У пачвары агідны патлаты твар, і хлопчыку робіцца зусім страшна.

— Баба, не спі... Ля акна нехта стаіць.

Ён дрыжыць ад страху, а бабуля, паглядзеўшы на акно, туліць унука да сябе:

— Табе падалося. Нікога там няма.

Слаўка горнецца да бабулі і непрыкметна засынае. Лямпа ў хаце гарыць усю ноч, і раніцай гэта пачынае турбаваць суседак. Ясянец губляецца ў здагадках: чаму ўсю ноч свецяцца вокны ў Давыдчыкаў? Цікаўнасць бярэ верх, яшчэ не паспела добра і развіднецца, як на разведку прыходзіць Струкачова Гэлька.

— Добрай раніцы,— вітаецца яна і разглядае хату.— А дзе ж Анюта? Нешта не відно яе?

— Бачыш, няма,— разводзіць рукамі бабуля.— Яшчэ вечарам памчалі ў бальніцу. Зусім, небарака, знемаглася. Нешта аж на душы пячэ.

— Не бядуйце, бабка Мотра. Паправіцца... Наша бабская доля такая.

Дома ў Гэлькі, напэўна, падгарэла бульба ў чыгуне, выкіпеў крупнік у гаршку, але яна забыла на ўсё, сядзіць каля бабулі, слухае, што тая расказвае.

— Хоць бы ўсё добра было,— жагнаецца бабуля па абраз.— Здаецца, і не рабіла цяжка Анюта.

— Я ж ведаю — асцерагалася...

У сенцах зноў бразгае клямка, расчыняюцца дзверы, і на парозе стаіць Папіха. Зайшла не так, як учора — з шумам і песняй,— зайшла ціха, спынілася на парозе і запытальна глядзіць на жанок.

— Нічога яшчэ не чуваць,— гаворыць бабуля.— От сядзімо, чакаем.

Папіха здымае з плячэй брызентавую сумку, кідае на падлогу, а сама садзіцца на куфры. Века пад ёю прагнулася, жаласна рыпнулі дошкі. Угледзеўшы Слаўку, Папіха кліча яго, бярэ да сябе на калені, чорнымі, парэпанымі пальцамі перабірае валасы.

— Бедненькі ты мой, мамку заждаўся?

— Угу,— хліпае носам Слаўка.

— Скора прыедуць.

Папіха разносіць пошту, ёй трэба ісці ў Кругловічы, але яна сядзіць на куфры, вырашыўшы дачакацца мужчын. Ля грубкі, разявіўшы зяпу, ляжыць вялікая брызентавая сумка, а гаспадыня і не думае падымаць яе. Грубка яшчэ пахне сырой, нявыветранай глінай.

Той начны бляск у вокнах новага дома не на жарт устрывожыў Ясянец, і ён шле сюды сваіх пасланцоў. Раз-пораз адчыняюцца дзверы, у хату заходзяць суседкі ў рыжых плюшаўках, у суконных бравэрках, а ў вачах у кабет — трывога. Услонаў і табурэтак не хапае, і бабуля рассаджвае суседак на ложках, а сама стаіць, прытуліўшыся да грубкі. Ужо каторы раз пачынае расказваць:

— Прыходжу ета я да Анюткі, а яна ляжыць на ложку белая як мел. Я і то давай рабіць, і другое... Бачу — не памагае.

На дварэ даўно прайшоў змрок, ужо і раніца мінулася, хутка полудзень, а мужчын з Ганцавіч няма і няма.

— Ці ж блізкі свет? — супакойвае Папіха і сябе і жанок.— Пакуль даклыгаюць на возе, а Жук-то і не вельмі быстры на ходу.

— Твая праўда, матка,— згаджаецца Гэлька Струкачова.— Бывала, і ў Ганцавічы не трэба было ехаць. Бывала, Дуся добра спраўлялася з нашымі хваробамі.

— Няма Дусі,— уздыхаюць кабеты.— Інго са свету звёў, каб на яго сарочка ў дзесяць столак не налезла!

Папіха абураецца:

— І скажы: жыве, паршывец! Не забілі тады, як бандзюкоў знішчылі.

Гэлька Струкачова адсунула край фіранкі і выглянула ў акно.

— Едуць, здаецца, едуць,— і голас яе ў момант абвяў.— А божачкі, што ж гэта робіцца на свеце?

Папіха саскочыла з куфра, паставіўшы Слаўку на падлогу, і таксама збялела, не можа слова сказаць.

— Гляньце, людцы... Юзік плача...

Баб, як віхор, вымятае з хаты.

Ля воза стаіць бацька. Ён звесіў голаў, яму душна, яму трэба расшпіліць ватоўку, каб сагнаць гарачыню, а пальцы непаслухмяна шкрабуць па матэрыі і не знаходзяць гузікаў. Бацька і праўда плача.

— Няма Анюты, не давезлі мы яе ў бальніцу...

Дзед завязвае на драбінах лейцы, ашчупвае воз, скручвае сяннік, атрасае ад саломы стары кажух. Ён не глядзіць на кабет, баіцца падняць вочы, але яны чакаюць яго слоў, і дзед з цяжкасцю іх выціскае:

— У дарозе яшчэ стала канаць. Каб троху раней, а так не давезлі.— Разумеючы, што гэтага мала, дзед пачынае апраўдвацца: — Дарога цяжкая, цемрадзь, што свету не відаць. Не разгонішся вельмі. А тут бойся, каб не трасло воз моцна.

Бацька ўчарнеў ад гора, згорбіўся, на твары мокрая дарожка ад слёз. Слаўка круціцца ля яго, туліцца да сіняга галіфэ. Бацька бярэ сына на рукі:

— Няма ў нас мамкі. І браціка табе не будзе... Так-то яно выйшла...

Дзед ужо трохі супакоіўся, расказвае, што было далей:

— Прыехалі мы ў бальніцу, дактары кінуліся да Анюты, а што толку? Няма ўжэ Анюткі. Хацелі забраць, ды не аддалі яе нам. Будуць рэзаць. Трэба от рабіць труну ды ехаць па нябожчыцу.

На ўвесь двор галосіць, заломваючы рукі, Папіха, плача бабуля, выцірае мокрыя вочы Струкачова Гэлька. Пад журботную бярозу збегся ўвесь Ясянец. Хутка ў вёсцы не застаецца нікога, хто б не ведаў пра вялікую бяду, што напаткала маленькага Слаўку.

Ля новага дома захліпаюцца ад слёз жанкі. Слаўка яшчэ не ўсё можа зразумець і, адвярнуўшыся, глядзіць на каня. Увагнуўшы галаву, Жук перабірае нагамі, храпе, чмыша ў ноздры. Конь як быццам ведае, што прывёз у гэты прыгожы новы дом страшную вестку, і таму нецярпліва перабірае нагамі, каб уцячы, каб схавацца дзе-небудзь. Вялікія сінія вочы каня зацягнуты павалокай смутку.

Але каня не распрагаюць — дзед кладзе яму сена, а сам ідзе ў хлеў, сцягвае з вышак сухія дошкі. Іх дзед хаваў для сябе — дошкі ляжалі на вышках не адзін год і высахлі, сталі цвёрдыя, як косць. Дзеду памагае белы, маўклівы Сцяпан Баразна. Затым прыходзіць Антось Струкач, і пад паветкай пазвоньвае піла, шоргае рубанак — Струкачу і Баразне прыхо-

дзіцца рабіць не толькі новыя дамы. З-пад рубанка сыплюцца ружовыя габлюшкі, скручваюцца ў тугія кольцы.

— Эх, жызня наша,— уздыхае Струкач.

На двары і не холадна, і не цёпла, ва ўсякім разе Слаўка не мерзне, хоць выскачыў на вуліцу ў адной кашульцы. Наплакаўшыся, бабы да часу разышліся з двара, а бацька сядзіць на ганку, апусціўшы галаў на калені. Бабуля стаіць ля яго, потым паварочваецца і ідзе на вуліцу. Яна ідзе як сляпая — спатыкаецца, мала як не падае. І ўсё ж бабуля заўважае, што Слаўка выбег на двор у адной кашулі.

— Пайшлі ў хату, сірацінка ты мая,— кліча бабуля, і гэтае незнаёмае, груваслкае слова рэжа Слаўку слых.— Пайшлі, дам паесці, а то і накарміць забылася.

Бабуля адчыняе шкапчык, заглядвае ў печ, каб што знайсці для ўнука. Слаўка сядзіць ля грубкі, чакае яе і дзівіцца:

— Бабка, а чаму лямпа гарыць днём?

— Ат, хай яе кадук. Забылася патушыць.

Бабуля падстаўляе ўслон, крэкча, узбіраючыся на яго, і, дзьмухнуўшы ў камінок, тушыць лямпу, якая яшчэ з ночы сваім дрыготкім бляскам растрывожыла ўвесь Ясянец.

## 4

Каля дома журботна гайдае вецце і плача бяроза. Яна тужліва нахіляе вершаліну, як бы хоча зазірнуць у вокны, і плача — наўзрыд, па-жаночы, не шкадуючы слёз. Слёзы яе — жоўтыя лісцікі, што трымцяць на вецці, як на вейках, і, сарваўшыся з галінак, падаюць долу. Зямля пад бярозай уся заслана слязамі-лісцікамі.

Трохі воддаль, цераз вуліцу, каля дзедавай хаты, наглядзеўшыся на плакальшчыцу бярозу, самотна

курчацца старыя вязы. Але гэтыя больш стрыманыя, па-мужчынску суровыя — лісце з вязаў падае не так густа, і наогул на вязах лісця засталося мала. Вецер пазрывае яго да часу, раскідае па вуліцы, а людзі нагамі і фурманкамі ўтапталі ў гразь.

Трымціць на галінках пажухлае, скурчанае лісце, і калі з-за хмар выглядае сонца, то добра відаць, што дрэвы стаяць ужо амаль голыя — выплакаліся, спусцілі долу свае горкія слёзы. На сонцы новы дом ля бярозы нечакана засвяціўся белізной сцен, заззяў блакітнымі аканіцамі. Але Ясянец баіцца глянуць на гэтыя белыя сцены, на гэтыя блакітныя аканіцы. Уздоўж вуліцы, каля варотцаў стаяць мужчыны і жанкі, выбеглі дзеці, кінуўшы свае гульні. Мужчыны паскідалі шапкі, а бабулькі хрысцяцца, калі міма іх праязджае воз з трупой. А там, адкуль выехаў на вуліцу гэты журботны воз, плача бяроза, выціскаюць з галін апошняе лісце старыя вязы.

Людзі, якія прыйшлі праводзіць Слаўкаву маму, запрудзілі сабой вуліцу, і вось ужо за возам ідзе ўвесь Ясянец, панура апусціўшы галовы, да крыві закусіўшы губы. Уперадзе воза ідзе Аляксандар, Папісін зяць, на плячы ён трымае белы драўляны крыж. За Аляксандрам нясуць харугвы Сцяпан Баразна і Антось Струкач. Услед за імі, абмінаючы, дзе можна, лужыны, ідзе нізкі і тоўсты поп. Хвалды пазлачонай рызы развінаюцца на ветры, як крыллі, і Слаўку здаецца, што поп хоча паляцець. Побач з труной, выціраючы чырвоныя вочы, ціха ступаюць самыя блізкія сваякі і родзічы. Папіха трымаецца за біла, каб не ўпасці,— яна наплакалася мо больш за ўсіх. Панура ідуць побач з возам маміны цёткі і сёстры з Паначы. Яны яшчэ ўчора прыехалі ў Ясянец, даведаўшыся пра вялікае няшчасце. Нават Лазіна тут, і яна таксама плача, выціраючы ражком хусткі затуманеныя вочы.

Слаўка добра бачыць, што робіцца на вуліцы, таму што сядзіць на возе, у галавах каля мамы. Яму смешна, што поп спатыкнуўся і ледзь не ўпаў. Ніхто гэтага не заўважыў, акрамя Слаўкі.

— Сядзі, не круціся,— шэпча дзед. Ён ідзе збоку і кіруе канём.— Хіба ж не знаеш, куды едзем?

— Неразумнае дзіцё! — уздыхае Папіха.— Не шалопіць яшчэ нічога.

У канцы гразкай вуліцы, каля старога замшэлага крыжа, поп моліцца, а людзі стаяць, чакаюць яго. Затым воз скіраваў на няроўную пясчаную дарогу, што міма лесу вядзе ў поле. Справа ад развілкі відна старая хатка-развалюха. Тут, удалечыні ад людзей, жыве Інго Мэгусь. Цяпер ён выйшаў з хаты, стаіць каля загарадзі, глядзіць на людзей і таксама зняў шапку.

— І гэты ваўкалака высунуўся,— кляне Мэгуся Папіха, і Слаўка не разумее, за што: усе ж ідуць, зняўшы шапкі?

— Памаўчы, сястрыца,— упікае Папіху бацька.— Грэх не бяры на душу.

Бацька цяжка ступае за возам, вочы яго поўны смутку і жалю. Ён глядзіць сабе пад ногі, баіцца падняць вочы. Цяжка, няўклюдна ідзе бацька. Марудна паўзе воз — скрыпіць восямі, пазвоньвае атосамі. Але вось дарога пагладчэла, менш стала калдобін — воз наблізіўся да астраўка зялёных сосен, што вытыркнуліся пасярод чыстага поля. Гэта могілкі. Тут будуць хаваць маму. На беразе астраўка стаяць мужчыны: яны пайшлі з раніцы капаць дол і цяпер стаяць каля старых панурых сосен, чакаюць людзей.

Дол мужчыны выкапалі блізка ля дарогі — паміж мокрых ствалоў яшчэ здалёк бачна куча жоўтага пяску. Труну зносяць з воза і ставяць каля магілы, на гэты сыры і жоўты пясок, што недарэчна свеціцца на фоне шэрых камлёў. Зноў доўга моліцца поп, і з

кадзіла, якім ён махае, цэдзіцца саладкаваты густы дымок, заглушыўшы сабой гарэнкі пах смалы, ігліцы і шыгалля.

— Амінь! — кажа поп, і жанкі, хрысцячыся, паўтараюць за ім: — Амінь!

— Ну, можна развітвацца.

Бацька — расхрыстаны, непричасаны — стаіць каля труны на каленях і цалуе маму ў лоб. Лоб у мамы жоўты, як і гэты пясок, на які ўкленчыў бацька.

— Пацалуй мамку і ты. Больш не ўбачыцеся, сынок...

Бацька плача.

Слаўка вырываецца з яго рук, цісьнецца назад, кідаецца пад ногі жанкам і мужчынам, якія цесным колам стаяць вакол труны.

— Не хачу, не буду. Хай мамка вочкі адкрые.

— Анютачка, што ж ты нарабіла? — ірве на сабе валасы Папіха.

— Сястрычка ты мая,— галосіць цётка Зося з Папачы.— Казала ж табе: беражыся, сястрычка.

Уздрыгнулі сосны, зашумелі глуха і трывожна — па іх вершалінах прайшоўся верхавы вецер. На труну кладуць абабітае паркалем века, і Сцяпан Баразна заганяе ў яго цвікі. На вяроўках труну апускаюць у сыры, жоўты дол. Трывожна і журботна шумяць старыя сосны.

— Засыпайце,— гаворыць поп і, на хаду скідаючы пазлачоную рызу, адыходзіць убок.

Бацька першы бярэ жменьку пяску і сыпле яго ўніз, на белыя дошкі. Усе сыплюць пясок, а Слаўка ўжо ненавідзіць папа, які прывёз маму пад старыя зялёныя сосны. Ён пачынае разумець, што здарылася, але пясок усё сыплецца і сыплецца ўніз, і хутка ад кучы жаўцяку нічога не застаецца. На тым месцы, дзе была яма, вырастае сыры жоўты грудок. Муж-

чыны абчэсваюць, гладзяць яго рыдлёўкамі і забіваюць у свежы падатлівы пясок драўляны крыжык. Усю дарогу крыжык нёс Аляксандар, які з далёкай Плотніцы прыехаў да цешчы ў госці.

Людзі па адным выбіраюцца з сасновага астраўка і, не азіраючыся, унурыўшы галовы, ідуць па дарозе. Слаўка трасецца ад плачу, яго б'е ліхаманка, і ён чуе, як чыесьці рукі бяруць яго пад пахі і садзяць на воз. Гэта дзед, гэта яго рукі паднялі Слаўку і пасадзілі на скамечаную салому. Падыходзіць Струкачова Гэлька і совае яму ў рукі два яблыкі — дзве вялікія жоўтыя антонаўкі.

— Не плач, хлопчык. Ужо мамку не вернеш.

— Етым летам Анюта частавала нас свежым хлебам,— расказвае жанкам Сцяпан Баразна.— Такі быў смачны хлеб!

Каня ніхто не падганяе, але Жук і сам спорна бяжыць па дарозе, як быццам хоча хутчэй уцячы ад зялёнага астраўка, ад панурых старых сосен, якім ніколі не суджана легчы ў сцены дома. Слаўка грызе яблыкі, якія дала Струкачова Гэлька, і патрошкі супакойваецца. Дрыжыкі больш не калоцяць яго. Каля замшэлага крыжа воз абганяе маміных цётак з Паначы, і Слаўка бачыць, што Лазіна ўжо не плача, як там, на могілках — вочы ў яе сухія. Ён паварочваецца ў другі бок і глядзіць на хату-развалюху, у якой жыве Інго Мэгусь. Гаспадара ўжо не відаць на двары. Старая хатка абведзена загараддзю, стаіць свінушнік, і — нічога больш няма.

— Эх, Анютка! — уздыхае дзед і злосна сцябае дубцом каня.— Но-о, пайшоў, воўчае мяса!

Вуліца гразкая і калдобістая, з-пад колаў разлятаюцца пыркі вады. Ужо відаць зажураная бяроза каля новага дома, як быццам пацямнелі блакітныя аканіцы.

Каля дзвярэй стаіць бабуля — на галаве ў яе чор-

ная хустка. Бабуля на могілкі не паехала — засталася дома рыхтаваць жалобную вячэру. Дзед здымае з воза Слаўку, сам едзе распрагаць каня.

— Заходзьце ў хату,— горка ўздыхаючы, запрашае бабуля.— Усё ўжэ гатова.

У святліцы стаяць прыбраныя сталы. На іх расстаўлены талеркі з ядой, ляжыць пакроены на лустачкі хлеб. Па краях сталоў гараць свечкі. Яны аплаўляюцца, сцякаюць жоўтымі пісягамі расплаўленага воску. Свечкі стаяць у слоіках, у якіх насыпана жыта, і расплаўлены воск капае на зярняты, злепліваючы іх. Жыта насыпана ў слоікі, каб свечкі не падалі, стаялі роўна.

Бабуля гаворыць малітву, потым абносіць людзей місай з нейкай пахучай стравай. Усе чэрпаюць з місы па лыжачцы. Ад свечак па сценах скачуць цёмныя цені, мітусяцца, як жывыя. Слаўку становіцца жудасна, і ён уцякае на двор.

— Слаўка, ідзі сюды.

На вуліцы стаіць Фафан. Ён вучыцца ў другой змене і вяртаецца са школы, калі цямнее.

— Слаўка, не злуй на мяне,— просіцца Фафан.— Я і праўда не хацеў тады вас біць. Я ж прытварыўся п'яным, дык толькі хацеў напалохаць.

— А я і не спалохаўся. Гэта Тома румзала.

— Прыходзь да мяне,— запрашае Фафан.— Я табе кніжку з малюнкамі аддам, а то і бусла пакажу.

— Якога бусла? — не верыць Слаўка.— Дзе ж ты яго ўзяў?

— То ж даўно ў мяне бусел. Яшчэ як у вырай ляцелі. Буслы паселі на Хартонавым лужку, дык я падбіў аднаго з рагаткі.

Яны гуляюць на двары, пакуль добра не сцямнела. Слаўка ўспамінае, што яму трэба дахаты. З-пад бярозы пад ногі кідаецца Курашчуп, і Слаўка гладзіць яго па калматай галаве.

— Дзе ж ты гуляеш, сабачка? А мы мамку без цябе пахавалі.

У хаце ўжо няма сталоў, прыбраны посуд, толькі на акне стаяць агаркі свечак. Суседзі разышліся, таму што памінкі — гэта не вяселле, не будзеш спяваць песні. Дома засталіся толькі бацька, маміны сваякі з Паначы і бабуля. Панацкія баяцца ехаць цераз лес на ноч гледзячы, а Папіха нічога не баіцца — апоўначы можа хадзіць адна па сваёй гразкай прасецы.

— Дзе ж ты валачыўся да етага часу? — кажа яна і туліць Слаўку да сябе.

Сваякі цяпер глядзяць на Слаўку, бянтэжаць яго спачувальнымі, жаласлівымі позіркамі.

— Дарма маўчыш, Юзік,— гаворыць цётка Зося, і Слаўка здагадваецца, што ў хаце, пакуль не было яго, вялася нейкая сур'ёзная размова.— Мы ж табе не ворагі. Радня, і нават блізкая. А возьмеш Верку, дык падзякуеш пасля. Але, праўду ж кажу... Табе гаспадыня патрэбна, а во яму, Слаўку, як без маці?

Бацька ўсё адно маўчыць, зацята курыць, нагнуўшы галаў. Ён не ведае, што рабіць,— глядзіць то на бабулю, то на Папіху, шукаючы ў іх падтрымкі. Тыя адводзяць вочы ўбок, і бацька не ведае, што сказаць.

Лазіна сядзіць каля грубкі, на Слаўкавым ложку, і твар яе гарыць ад хваляванпя.

— Я што? Я магу застацца,— кажа яна.— Слаўка, ідзі да мяне. Ідзі, хлопчык.

Бацька доўга думае, потым кідае недакурак і растоптвае яго нагой.

— Мо і праўду кажаш, Зося. Усё адно прыйдзецца некага шукаць... Адно каб мне Слаўку Вера глядзела.

Лазіна сядзіць на ложку, не зводзіць вачэй з бацькі, сіліцца стрымаць сваю радасць і не можа.

Яна падхопліваецца з ложка і ледзь не сілком вырывае Слаўку з Папісіных рук.

— Я цябе буду добра глядзець. Ужэ і ў Паначу не паеду. Праўда, Слаўка?

— Як хочаш,— паціскае Слаўка плячыма, не разумеючы, чаго ад яго хоча гэтая цыбатая. з падмаляванымі губамі маміна сваячка, якую мама не любіла.

— Іш ты, якая шустрая! — ружавее ад злосці Папіха.— Яшчэ ад тае пасцель не астыла, а яна ўжэ — застануся! Лаза ты балотная! А ты, Юзік, што губу развесіў?

Каля грубкі ў самым праходзе ляжыць вялізная брызентавая сумка. Папіха хапае яе і, больш не кажучы ні слова, вылятае з хаты. На кухні грукаюць паваленыя столкі, брынчыць клямка.

— Асцервянела яна, ці што? — дзівіцца цётка Зося.

Дадому збіраецца і бабуля. Яна тупча ў парозе, штосьці думае і нарэшце, не паварочваючы галаў, гаворыць:

— Тут і праўда без розуму застанешся. Што ж да мяне, то я нічога супроць Веры не маю. Во хай Юзік сам рашае. Яму з ёю жыць, хай і рашае.

У хаце стаіць цішыня, чуваць, як за акном тужліва рыпіць веццем старая бяроза. Яна стогне, заглядвае ў хату праз шыбы і не перастае плакаць. Журботна і маркотна старой, раскідзістай бярозе.

## Раздзел чацвёрты

### 1

Пасля пакроваў тыдні два стаяла цёплае і сухое бабіна лета. На ўзлесках дагарэлі барвовыя асіннікі, у лясах адцвітала воўчае лыка. Дрэвы дарэшты вы-

плакаліся жаўталістам, у агародчыку ля дзедавай хаты, як апошнія ўсплёскі завядаючай восені, дацвілі астры і вяргіні.

А потым падсохлую, чорную зямлю прыціснулі прымаразкі. Раніцай дрэвы стаяць махрыстыя ад вогкага інею, зямля зацвярдзела і, здаецца, гудзе пад нагамі, як звон. За адну ноч у агародчыку ўчарнелі, звялі астры і вяргіні — іх прыхапіў прымаразак. Кветкі Слаўка шкадаваў, таму што іх пасеяла мама. Яна заўсёды любіла кветкі.

Але зіма, сапраўдная зіма — снежная, марозная і завейная — чамусьці бавілася ў дарозе. Днём яшчэ прыгравала сонца, іней на дрэвах раставаў. Пачаліся асеннія капяжы: вада збіралася на галінках і кропля за кропляй скочвалася долу. На лужынах пазвоньвае тонкі, як шкло, лядок. Потым прымаразкі адступілі, зачасціў дробны халодны дождж, на вуліцы стала гразка. Слаўка гуляе на двары, і настрою ў яго няма. Хутчэй бы ўжо тая зіма, а то з-за гэтай слоты ў Слаўкі адны непрыемнасці. Ледзь узлезе на парог, як Лазіна пачынае жміндзіць:

— Вытры чаравікі. Зноў па пуду гразі прывалок. Я ж толькі падлогу шаравала, а ці пазнаеш? Паспявай адно за такім рачкаваць. Ідзі, ідзі выцірай ногі і не аглядвайся.

Слаўка не спяшаецца выціраць чаравікі аб мокрую анучу, але і пераступіць парог не рашаецца.

— А хіба я вінаваты? Гразь сама чапляецца. Дай мне хлеба, дык зноў пайду на вуліцу.

Лазіна адрэзвае ад булкі скібачку:

— На ўжо еш, выгаладаўся як. І не лазь у хату без патрэбы.

Пячы хлеб Лазіна не ўмее. Ён у яе глёўкі, ацеслівы, як выме з печы, дык хутчэй хавае тыя буханачкі — пляскатыя, што скаваароднікі.

— Жыта парасло. От і хлеб малады — з лапаты ўцякае рошчына,— апраўдваецца Лазіна.

— Як жа так? — дзівіцца бацька, калі бывае дома.— Лета ж, здаецца, не дажджлівае было.

— Але парасло жыта. Табе б адно смяяцца.

Мама пякла хлеб смачнейшы. І падлога ў хаце была чысцейшая, хоць і тады Слаўка не вельмі абмінаў лужыны і пясок. Сумна цяпер. І нават лустачка хлеба, якую дала Лазіна, даўкая і не лезе ў горла.

З дзедавага двара на кані выязджае бацька. З Лазінай ён збіраецца ў Паначу. Лазіна яшчэ не прывыкла да Ясянца і кожную нядзелю цягне бацьку да сваіх родзічаў. Той не ўпіраецца, паездкі да Лазініных сваякоў яму падабаюцца, таму што калі прыязджае з Паначы, то ад яго заўсёды пахне гарэлкай.

— Тпру, Жук! — спыняе бацька каня насупраць новага дома. Глядзіць на вокны, ці не сабралася Лазіна, і заўважае ля бярозы Слаўку.

— Сынок, а што ж ты надзьмуўся як мыш на крупы? Мо з намі паедзеш?

— Не-а, не хачу. Я з бабуляй пабуду.

— Глядзі, каб пасля не крыўдаваў.

Воз марудна клыгае па разбітай грэблі, па якой бацька вазіў бярвенні, потым фурманка хаваецца ў кустах. За тымі кустамі, за тым шэрым лесам ненавісная цяпер для Слаўкі Панача.

— Паехалі, і карбунец іх бяры,— глядзіць на грэблю бабуля, беручы Слаўку за руку.— Пайшлі, унучак, я там верашчакі наварыла. Любіш верашчаку?

— Угу.

— То-та ж,— задаволена смяецца бабуля і, убачыўшы ля парога чародку курэй, турбуецца: — Пачакай трохі, я спярша курам сыпану.

Бабуля ідзе ў каморку, выносіць у пасітку жыта і сыпле зярняты на зямлю. Куры сакочуць, дзяўбуць

жыта, а ля іх на цыбатых нагах ганарліва круціцца певень, як быццам гэта ён расстараўся для чубатак добрага жыта. Адпекуль прыбег Курашчуп і з ходу ўбіўся ў курыную чараду. Курашчуп злосны на курэй, таму што цэлую восень у бур'яне яму не трапляюцца курыныя гнёзды. Ды і самога бур'яну няма — высах. Куры дзяўбуць жыта, кудахчуць, як бывала, на гнёздах, і гэтая акалічнасць дужа турбуе Курашчупа. Блізка ад паветкі, у густым вішняку, яшчэ зеляненюць кусцікі крапівы, і сабачка, адлучыўшы з чарады спалоханую чубатку, з брэхам ганіць яе ў зялёную крапіву. Курыца не разумее, чаго хоча ад яе гэты малы, патлаты гвалтоўнік, і з кудахтаннем пералятае цераз плот, пакінуўшы ў зубах Курашчупа значную частку свайго хваста. Курашчуп не бянтэжыцца: робіць новы заход да курынай чародкі, і зноў у вішняку чуецца кудахтанне, разлятаецца ў бакі пер'е. Загнаць чубатак на гняздо не ўдаецца, і Курашчуп нарэшце пакідае іх у спакоі, уцякае кудысьці за хлеў.

— Ідзі ж, Слаўка, у хату,— кліча бабулька.— Верашчака стыне.

На стале ляжыць горка пшанічных блінцоў, дыміцца ў місцы смачная вара. Па нядзелях бабуля заўсёды стараецца падаць на стол што-небудзь скаромнае. А так, у буднія дні, корміць дзеда бульбай і варанай капустай з грыбамі.

— Еш, унучак! Лазіна ж так не накорміць.— кажа бабуля, а Слаўку і прасіць не трэба: за абедзве шчакі аплятае пушыстыя пшанічныя блінцы.

— Дзякуй, бабка,— кладзе ён лыжку.— Наеўся ўжэ.

— Хай бы яшчэ пасёрбаў.

— Не хачу. І так пуза набіў.

І зноў Слаўка гуляе на двары. Бабуля дала яму пададзець цёплы фрэнч, і цяпер вецер не прадзімае

паліто наскрозь. Можна пабегчы далёка — хоць да дзеда на калгасны двор, а хоць і ў школу. Яна стаіць тут блізка, адразу за хатай Сцяпана Баразны. У школу Слаўка пойдзе мо праз год, мо праз два, але ўсё роўна ён любіць стаяць на школьным двары, слухаць, як звініць званок.

— Не баўся нідзе,— крычыць з двара бабуля і хутка хаваецца ў хаце.

Слаўка бяжыць па вуліцы, а вуліца тая гразкая, выбоістая, толькі ля платоў сушэй. Тут, паўз платы, коламі вазоў выбіты дзве глыбокія каляіны. Раней на вазах ездзілі пасярод вуліцы, але паявіліся машыны, і вазы саступілі ім дарогу, а самі пачалі ціснуцца бліжэй да платоў.

— Гэй ты, не хадзі па каляіне! — нехта крычыць ззаду.

Слаўка спалохана азіраецца: ужо блізка ля яго стаіць Фафан. Што за мода падкрадвацца знячэўку?

— Чаму?

— У мацеры будзе паясніца балець.

— Хто сказаў?

— Усе так кажуць. Вот і я сказаў.

— Дык у мяне ж няма мамы.

— А-а-а! — бянтэжыцца Фафан.

Слаўка глядзіць на яго і толькі цяпер бачыць, што Фафан не адзін. Слаўка аж скача ад захаплення. У школу Фафан вядзе бусла — таго самага, пра якога расказваў надоечы. Дакладней, Фафан едзе на буслу ў школу. Ён неяк дахітрыўся запрэгчы бусла ў каламажку, і цяпер бусел вязе на ёй торбачку з кніжкамі. Пахістваючыся, птушка чыкіляе цыбатымі нагамі па сцежцы, а Фафан важна ідзе збоку. Бусел не можа паляцець, таму што крылы ў яго звязаны вяровачкай.

— Пайшлі разам,— кажа Фафан, радуючыся, што буслам, які возіць яго кніжкі, здзівіцца ўся школа.

— А я ўсё адно пайду па каляіне,— упарта гаворыць Слаўка.— Хай пабаліць у Лазіны паясніца.

— Як сабе хочаш,— паціскае плячыма Фафан і дубчыкам падганяе бусла.— Ну што стаў? — Праз колькі часу пахваліўся: — А бусько мой рахманы.

— Дык кепска ж гэта, калі рахманы,— палохаецца Слаўка.— Хто-небудзь прылашчыць і забярэ бусла.

— Хай адно паспрабуе! — гразіць некаму Фафан.— От прывяжу ля школы, і хай чакае, пакуль урокі скончацца.

Па вуліцы якраз ідзе Сцяпан Баразна, бусел у запрэжцы яго зацікавіў не менш, чым Слаўку. Але Баразна не ўмее захапляцца: спыніўся і недаўменна глядзіць то на бусла, то на Фафана. Раптам ён пачынае злавацца:

— Ну і гіцаль жа ты, ну і жывадзёр! За што жывёліну мучыш?

— То ж пташка, а не жывёліна.

— Я от зараз пакажу табе пташку,— Баразна выхоплівае з рук Фафана павадок, ірве вераўчаную вупраж і нагой адпіхвае каламажку.

— От жывадзёр дык жывадзёр!

Ён развязвае буслу крылы і лёгенька падштурхоўвае:

— Ляці, дурненькі, чаго стаіш?

— Бусько замерзне зімой,— румзае Фафан, збіраючы з зямлі кніжкі.— От пабачыце.

— Не прападзе. Знойдзе які прытулак і дачакаецца вясны.

Але бусел як быццам і не рады, што яго вырвалі з рук гэтага замурзанага жывадзёра, выпусцілі на волю. Ён стаіць — даўгадзюбы і цыбаты, падскоквае на месцы, лапоча крыльцамі. Неба ў трывозе, неба, здаецца, прыгнулася да зямлі: ці ж хоць паляціць гэты ўладар яго бяскрайніх прастораў? Бусел усё ж

імкне шэраму небу насустрач, моцна махае крыламі і адрываецца ад зямлі. Неба ўздыхнула, пасвятлела. Бусел ужо высока ляціць над дамамі, робіць кругі над вёскай і нарэшце знікае ўдалечыні каля лесу.

— Баразна, Баразна, ты ці чорт, ці сатана! — дражніцца Фафан і, прыгнуўшыся, штосілы імчыць у школу. Там ужо звініць, заліваецца званок, збіраючы дзятву на ўрокі.

— Распуснік, што ты з яго возьмеш? — уздыхае Баразна.— Ета ж такую боскую птаху хацеў спляжыць. А так выжыве. Знойдзе які шалаш і перазімуе, дажджэцца цяпла.

Слаўка цяпер з павагай глядзіць на Баразну: мо і добра зрабіў, што адабраў у Фафана бусла? Ідучы дадому, Слаўка раз-пораз паглядае на неба: ці не пакажацца там цыбаты бусел? Але неба як нежывое — па ім плывуць аблокі, імжыць дождж.

— Знайшоў сабе шалаш,— радуецца Слаўка.

І ўсё ж бусел паявіўся над Ясянцом. Слаўка ўбачыў яго ўжо надвячоркам, калі пачало цямнець. Бусел кружыў і кружыў над вёскай, гартанна клекатаў. Блізілася ноч, па небе плылі дажджавыя хмары, і бусла, мусіць, палохала доўгая асенняя ноч, ён баяўся дажджу, таму кружыў і кружыў над вёскай, збянтэжаны сваёй адзінотай.

— Бедная птаха,— пашкадавала бусла бабуля, склаўшы рукі на грудзях.— Прападзе бусько нізашто.

— Баразна казаў, што не прападзе,— супакойвае яе Слаўка.

— Ат, многа ведае твой Баразна,— перадражнівае бабуля і прыслухоўваецца: — Не шумі! Здаецца, ці не нашы паначанцы едуць?

І праўда, па грэблі рыпіць коламі воз, храпе, натужваючыся, Жук. Воз пад'язджае бліжэй, і ўжо чуваць, што на ім рохкае, паквіквае свінчо.

— Япручка во прывезлі,— пад'ехаўшы да хлява, кажа бабулі бацька.— Хай сабе кідаецца памаленьку. Да вясны, глядзіш, добрая скварка будзе.

Бабуля падазрона глядзіць на бацьку, як быццам прынюхваецца да яго:

— Скварка-то скваркай, але і піць табе, Юзік, няможна. Як прыедзеш, дык хоць здымай з воза.

З хаты выходзіць дзед, нясе з сабой запалены ліхтар. Цяпер змрок адступае, на возе серабрыста паблісквае салома. На ёй, у задку драбін, ляжыць звязаны япрук — ён вялікі, але худы і лычаваты, поўсць на хібе стаіць тырчком.

— Дык яго за зіму не адкорміш, худобіну. Пасаг называецца...

— Ой! У печы трэба прапаліць,— раптам успомніла Лазіна і ўцякае з дзедавага двара.

Япрука асцярожна спускаюць з воза, вядуць у свінушнік і зачыняюць дзверы на зашчапку. Япрук рохкае, непакоіцца на новым месцы, і на яго сярдзіта падбрэхвае Курашчуп. Дзед распрагае каня, а бацька бярэ Слаўку за руку і моўчкі ідзе дамоў. На вуліцы ён спатыкаецца, хоча вылаяцца, але замест лаянкі ціха шэпча:

— Япрука прывёз...

Гразь ужо не ліпне да ног так, як днём. Перастаў імжэць дождж: нанач, мусіць, бярэцца мароз. У голлі вязаў шуміць вецер, дрэвы рыпяць і гудуць у прадчуванні халадоў. Цяпло і так стаяла доўга — мо якія два тыдні свяціла сонца і на ўзлесках барвовымі асіннікамі дагарала бабіна лета.

## 2

Раніцай яшчэ ацёмначы Лазіна паліць у печы, рыхтуе сняданак, а потым, калі правядзе бацьку на работу, лажыцца на ложак і дасыпае сваё. Пасля

яна прачынаецца, седзячы на пасцелі, доўга пазяхае, аж трашчаць пашчэнкі. Нарэшце апранаецца і пачынае ўходжвацца. Спачатку корміць япрука, які да гэтага часу выгаладаўся ў свінушніку і вішчыць так, што чуваць цераз вуліцу. Япрук доўгім лычом ледзь не выбівае ражку з рук, не дае выліць вобмешку ў карыта. Лазіна чакае, пакуль ён з'есць з ражкі, стаіць каля загарадкі, радуючыся, што япрук добра есць і ўвачавідкі папраўляецца.

Потым Лазіна кладзе ў яслі сена і пачынае даіць карову. Тугі струменьчык малака б'е ў дно даёнкі, па хляве плыве меладычны звон. Карова яшчэ не ацялілася, і, вядома, колькі таго малака — як забяліць крупнік. З хлява Лазіна прыходзіць амаль з пустым вядром і яшчэ не паспявае пераступіць парог, як пад ногі вобцасам кідаецца галодны Капрыз.

— Апсік! — тупаціць нагамі Лазіна.— Каб цябе аршэнец заеў! Тут і без цябе не ведаеш, як удзяліць етую кроплю.

Але Капрызу і клопату мала, што гаспадыня ашчаджае малако. Кот енчыць, мяўкае, носіцца па хаце, не знаходзячы сабе месца ад паху сырадою, які ачмурэла б'е ў яго расшыраныя ружовыя ноздры. І худы паласаты Капрыз усё-такі дабегаўся. Лазіна бразнула клямкай, адхлябесціла дзверы, і кот, як каралевіч, на наску гаспадынінага чаравіка вылецеў на двор. Капрыз не супакойваецца і там: драпае дзверы кіпцюрамі, даказваючы сваё права на спадачак малака.

Лазіна, перасмыкнуўшы губамі, працэджвае малако ў збанок, потым бачыць, што на яе глядзіць яшчэ адзін рот, думае і ўсё-такі налівае кубачак сырадою, падае Слаўку:

— На пі! А то скажаш бабе, што малака шкадую.

Сырадой шуміць, пеніцца, і белы шум падымаецца аж да краёў кубачка.

— І Капрызу дай,— патрабуе Слаўка.— Ці мо не чуеш, як просіць?

— Скулу яму ў бок,— злуе Лазіна.

Яна ставіць збанок у шкапчык, мые цадзілку і соладка зяхае, сашчапіўшы рукі на патыліцы. Цяпер Лазіна зноў будзе спаць, і Слаўка з трывогай глядзіць на яе. Лазіна, напэўна, зноў ляжа на яго ложак, бо вельмі ж любіць на ім спаць. Прасоўвае ногі праз дзіркі ў біле, прыстаўляе да гарачай грубкі, каб пякло ступакі. Лазіна, не распранаючыся, гэцае на Слаўкаў ложак. На ложку заслана новенькая фабрычная коўдра, на якой намаляваны дзівосныя ўзоры. Пасярэдзіне коўдры вытканы чырвоныя зоркі і сонца. а на ражках цацкі іншыя. З правага боку ўнізе стаіць студня з вядром і коваратам, а з левага боку прыгожая жанчына прадзе кудзелю. Слаўку іншы раз здаецца, што на малюнку сядзіць з калаўротам яго мама. Такія ж цацкі вытканы і на адваротным баку коўдры — толькі там і сонца, і студня, і мама з калаўротам не чырвоныя, а чорныя.

Яму шкада, што гэткую прыгожую коўдру камечыць Лазіна, як кажа бабуля, сваімі худымі мошчамі. Ён падбягае да ложка і тузае Лазіну за плячук:

— Злазь з майго ложка!

Лазіна расплюшчвае вочы, не разумеючы, што ад яе хочуць.

— Не твая коўдра, а маміна. І ложак не твой,— тупча нагамі і плача Слаўка.

— Бачыш ты — падзяліў ужэ! — злуе Лазіна і выцягвае ногі з білаў.— І ў каго ўдаўся такі гадкі дзіцёнак?

Яна ледзь не есць Слаўку вачыма, але з ложка падымаецца, ідзе да куфра і адчыняе века. Цяпер Лазіна будзе спаць на печы, але на кухні халаднавата, і яна шукае ў куфры якую апратку, каб накінуць на плечы. Лазіна прымярае зялёную кофту,

кладзе назад і выцягвае з куфра шэры сачык. На Лазіне сачык сядзіць як на калу, але яна не скідае яго, моцна стукае векам куфра і ўжо стаіць перад люстэркам. Сачык таксама мамін, у ім мама была, калі жала жыта, і здаецца, што яшчэ і цяпер сачык пахне полем і васількамі.

— Не чапай мамін сачык,— тузае Слаўка Лазіну за спадніцу.— Палажы назад.

— Адлезь, а то горай будзе! — грозіцца Лазіна.— Во зараз адлупцую. І бацька яшчэ дабавіць, як скажу. Ну, што за ўрода ўрадзілася?

З Лазінай у Слаўкі кожны дзень вайна. Але калі яна прыводзіць у сваю абарону такі важкі козыр, як бацькава папружка, тут ужо Слаўка мусіць здацца, адступіць, хоць, пафарсіўшы перад люстэркам, Лазіна ўсё-такі кладзе сачык у куфар. Можна лічыць, што перамога на баку Слаўкі, і ён, хапіўшы з лаўкі старую салдацкую шапку, хуценька выбягае на двор.

Каля парога ледзь не наступае на Капрыза. Гаротнік сядзіць на камені, мерзне і больш не драпае кіпцямі ў дзверы. Здаецца, што ён сядзіць і плача. Становіцца шкада беднага Капрыза, і Слаўка, трохі счакаўшы, крадзецца ў хату, каб не пачула з печы Лазіна, і налівае ў кубачак малака. Капрыз хлебча малако, мурлыча, як бы дзякуе за пачастунак. Але малака мала, кубачак у момант пусцее. Капрыз, аблізваючыся, удзячна глядзіць на Слаўку. Потым кот пачынае кашляць.

«Значыцца, прастудзіўся»,— думае Слаўка і кажа ўслых:

— Ты не бядуй, я табе ўкол зраблю. Адразу і паправішся.

Але для таго, каб зрабіць кату ўкол, трэба знайсці шпрыц, а Дусін шпрыц яшчэ ад вясны ляжыць пад бярозай. Слаўка тупча ля дрэва, шукае месца, дзе закапаны шпрыц, і нічога не можа ўспомніць.

Ля бярозы, здаецца, перагрэблена ўся зямля, а блішчастай шкляной трубкі з іголкай няма. Слаўка стаіць апусціўшы рукі, думае, і раптам твар яго крывіцца, у вачах круцяцца слёзы. Ну, і дурань жа ён, Слаўка! Навошта было хаваць шпрыц? Калі хварэла мама, ён яшчэ як спатрэбіўся б, і хто ведае, як усё павярнулася б — мо і жыла б мама? Слаўка адчувае сваю віну, і яму хочацца плакаць, і ён, напэўна, абліваўся б горкімі слязамі, але тут на вуліцу выглянула бабуля і ўбачыла ўнука пад бярозай.

— Слаўка, ці чуеш? — кліча яна.— Чаго ты глівееш ля бярозы? Ідзі ў хату, не мерзні.

Узяўшы яго за рукі, бабуля божкае:

— А божачкі! Рукі — рыхтык жабы. Ці ж можна пускаць такую малечу на холад? Каб на цябе сарочка ў тры столкі не злезла! Сама, нябось, на печы выграваецца.

Слаўка ведае, што бабуля кляне Лазіну, і падтаквае:

— Але, на печы ляжыць.

— От жа сухарэбрыца! — не перастае злаваць бабуля і вядзе Слаўку ў хату.

Бразгае засланка, грымяць вілкі. З печы вырываецца цёплы дух, б'е ў ноздры пах смачнай вары. Праз мінуту гэты пах шыбае з міскі, якую бабуля ставіць на стол.

— Еш, унучак, крупнік. Я яшчэ малака падалью. Тая ж сухарэбрыца наўрад ці пакарміла?

— Не, не карміла,— даносіць Слаўка.— І Капрызу малака не дала.

— От бачыш! І куды той Юзік глядзеў?

Слаўка не любіць Лазіну, сваю новую маму, і яму радасна, калі бабуля сварыцца на яе. Слаўка хоча яшчэ сказаць і пра коўдру, і мамін сачык, але тут бразгае клямка, і ў хату, прыгнуўшыся ў нізкіх дзвярах, заходзіць Антось Струкач.

— Добры дзень у хату! — вітаецца ён і азіраецца вакол.— А дзе ж будзе дзед Васіль?

— Дык жа на хверме ён, на дзяжурстве,— кажа бабуля і запрашае суседа: — Праходзь, Антось, сядай.

— Ды я не надоўга. Дзела ў мяне да дзеда Васіля.

— Кажы, то мо я памагу?

— У дзеда Васіля, я чуў, змеевічок е. Мне на адзін вечар. Зарабіў бочачку брагі, дык трэба выціснуць,— тлумачыць Струкач.— Мая Гэлька яшчэ не скора раскідаецца, але ж запас бяды не чыніць. Дык мо вы, бабка Мотра, і без дзеда далі б змеевічок?

— Чаму ж, пагляджу. Усе яго ў нас бяруць, бо ўсім жа трэба.

Бабуля ўкленчыла перад печчу, качаргой выграбае з падпечка змеевічок, а Струкач чакае, прысеўшы на ўслон. Слаўка есць крупнік, і яму ўжо не хочацца есці, таму што Струкач пільна глядзіць на яго і, здаецца, глядзіць з абурэннем.

— А хіба ж так можна? — пытаецца Струкач.

— Што можна?

— Ну, у шапцы сядзець за сталом? Перад ядой шапку трэба здымаць.

Слаўкава шапка ляціць у парог, у самы качарэжнік, ля якога стаіць, укленчыўшы, бабуля. Слаўная бісалдацкая шапка! Яна адступала з-пад Брэста, білася з фашыстамі пад Гданьскам, потым свяцілася чырвонай зорачкай на вуліцах Берліна, а такой ганьбы, такога сораму, як ляжаць у качарэжніку, яна не бачыла. Слаўка чырванее, слёзы капаюць у крупнік.

— Што там у вас? — паварочваецца ад печы бабуля.

— Шапку... дзядзька Антось кінуў,— раве Слаўка.

— Нічога, я падыму,— суцяшае бабуля.— А ты, Антось, хай бы паласкавей быў да яго. Без мамы ж гадуецца.

— Канечне,— бянтэжыцца Струкач.— Адно ж і ў шапцы не дзела сядзець за сталом.

— Але, твая праўда.

Слаўка, напэўна, перастаў бы плакаць, але бабуля ўспомніла маму, і яшчэ большая жаласць агарнула яго. Даўно пайшоў Струкач, а ён усё не супакоіцца. Слёзы як боб коцяцца па шчоках, цякуць па барадзе, і Слаўка злізвае іх языком. На барадзе ў Слаўкі балячкі, і калі на іх падаюць слёзы, балячкі пякуць. «Вогнік»,— кажа бабуля. А вылезлі яны на твар ад таго, што Слаўка плюе на агонь. На агонь няможна пляваць, таму што будуць балячкі. Вось ужо і паплакаць няможна — вогнікі баляць ад слёз.

— Не тры рукамі! — крычыць бабуля.— Горш пячы будзе. Вось зараз прыйдзе дзед, дык высеча болькі.

— Не трэба! — палохаецца Слаўка.— Ужэ не пячэ.

— Усё адно трэба высеч.

Прыходзіць дзед, глядзіць на заструпленыя вогнікі і нешта доўга корпаецца ў капшуку, замест таго каб узяць сякеру і высечы балячкі. Але дзед і не думае браць сякеру. Ён вымае з капшука скалку — тонкі пляскаты каменьчык, падносіць скалку да ўпукавых балячак і шморгае па ёй крэсівам. Дзед высякае іскры, яны вылятаюць са скалкі чырвоным пучком, абсыпаюць увесь твар. Слаўка плюшчыць вочы ад страху, ад гэтага чырвонага ззяння, але яму зусім не баліць — іскры пападаюць на вогнікі і адразу гаснуць.

— Цяпер загоіцца,— упэўнена кажа дзед і складвае свае прычандалы ў капшук.— У мяне лёгкая рука.

— Ета ж насланнё нейкае,— вохкае бабуля.— Увесь тварык каравы, як тарка.

Дзед кладзе капшук у кішэню, з увагай глядзіць на бабулю:

— Кажаш, насланнё? Прастудзіўся хлопец, во і высыпалі балячкі.

— Дзіва што! — адгукваецца бабуля, зноў бразгаючы засланкай.— Цэлымі днямі па вуліцы гойсае... Тая ж з печы не злазіць.

Дзед маўчыць, нагнуўшы галаў, перабірае пальцамі свае сівыя валасы.

— Прападзе за ёю Юзік,— кажа бабуля і нясе на стол міску з гарачай варай.— Прападзе, дурань.

За акном уже сцелецца вечар, у хаце ўвачавідкі пачынае цямнець. Ведама ж, які асенні дзень — раз-два, і ўжо вечар. Слаўка шукае шапку, нацягвае на галаў — трэба ісці дамоў. Зараз з работы вернецца бацька, дык мо прынясе якую гайку ці салодкіх пернікаў?

### 3

Усё-такі зіма нарэшце ўспомніла, што недзе на Палессі, ушчаміўшыся вузкім пясчаным астраўком паміж бяскрайніх балот, стаіць невялічкая палеская вёсачка Ясянец. Зіма ўспомніла пра дзятву, якая жыве тут, і, адчуваючы перад ёю сваю віну, аднае ночы яна скавала лёдам Хартонаў лужок, замяла лясы і поле, шчыруючы за сваё спазненне. За адну ноч паміж платоў папаўзлі сумёты, а хаты надзелі белыя папахі.

У той вечар, калі пачаў ісці снег, спраўлялі саракавіны па маме. У слоіках зноў гарэлі, аплываючы ў жыта, свечкі, людзі былі панурыя і маўклівыя. Раз-пораз уздыхала Папіха, а Лазіна як быццам прыкіпела да ўслона — не паварушыцца. У хаце

было тужліва, самотна, і Слаўку хацелася, каб ужо хутчэй гэтыя саракавіны скончыліся. За вокнамі выў вецер, у шыбах было цёмна. Слаўка хаваўся за грубкай, баючыся зноў убачыць у вокнах патлатую, страшную морду Інго Мэгуся.

Раніцай бацька разнёс суседзям сталы, што пазычалі на саракавіны, вярнуўся, абабіў у парозе снег з ботаў, сказаў глуха:

— Зіма пачалася, а я яшчэ дроў не прыстараўся.

— Гаспадар етакі,— азвалася Лазіна ад печы.— У людзей поўныя паветкі — і колатых, і яшчэ непарэзаных.

— Дык то ж у людзей,— чамусьці ўздыхнуў бацька і пайшоў у святліцу.

Не распранаючыся, ён стаіць каля сцяны, на якой развешаны асадкі з фатаграфіямі. Там ёсць і мамін маленькі здымак. Бацька стаіць перад ім, глядзіць на маму і хрускае пальцамі.

— Трэба фатографа,— кажа ён.— Хай трохі пабольшыць. Вера, ты не ведаеш добрага фатографа?

Лазіна б'е ў грубцы галавешкі, быццам не чуе, што пытаюць у яе. Добрага фатографа яна, мусіць, не ведае, бо магла б нешта сказаць, падтрымаць бацьку.

— Так-то яно,— уздыхае бацька і вешае асадку з маміным здымкам на сцяну.— Трэба ў Ганцавічы калі паехаць.

Лазіна зноў маўчыць, як вады ў рот набрала. Бацька снедае, апранаецца цяплей, бо збіраецца ісці на работу. У дзвярах затрымліваецца, сурова глядзіць на Слаўку.

— Распуснікам расцеш? Цётку Веру не слухаеш? Глядзі ж, а то дабяруся я да цябе!

Дзверы зачыняюцца, і там, дзе толькі што стаяў бацька, вырастае слуп марознай пары. Слаўка і рот не паспявае раскрыць, як за сцяной ужо рыпяць

цяжкія бацькавы крокі. На Слаўку ўчора паскардзілася Лазіна, а на Лазіну пасля таго, як дзед высек на яго барадзе вогнікі, сварылася бабуля. Яна прыйшла раззлаваная і такая сярдзітая, што нават Слаўка здзівіўся.

— Што ты думаеш сабе, кабеціна, га? — крычала на ўсю хату бабуля.— Ты глянь толькі на яго! Увесь тварык на адзін струп зліло.

— Хіба ж я вінавата? — апраўдвалася Лазіна, баючыся бабулінага гневу.— Ета ж такі ўрода расце. Анічуць мяне не слухае!

— Глядзі мальца. Не дай бог што якое...

— Дальбо, не пушчу на двор,— клянецца Лазіна, прытуліўшы далонь да грудзей.— Дальбо, не пушчу.

Калі за бабуляй зачыняюцца дзверы, яна трасе кулаком перад Слаўкавым носам:

— Дагуляўся, валацуга! А цяпер — з хаты ні на крок! Пакуль балячкі не зажывуць, пра двор і не думай.

Лазіна паставіла ў кутку вядро, каб Слаўка разпораз не бег на вуліцу, а сама ўляглася на ложку за грубкай. Коўдра з дзівоснымі малюнкамі скамячылася пад ёю, але Слаўка ўжо стаміўся ваяваць з Лазінай. Яна не толькі распараджаецца ложкам, але і маміны сукенкі носіць.

Слаўка сунуўся ў адзін куток, у другі, нічога цікавага, каб пагуляць, не знайшоў і прысеў ля акна. Пасядзеў, паглядзеў, што робіцца на вуліцы, азірнуўся на грубку, прыслухаўся, як у сне пахрапвае Лазіна, і, кулём скаціўшыся з табурэткі, асцярожна націснуў на клямку. Ужо на двары, калі ўздыхнулася вальней, зашпіліў паліто, пачаў зашнуроўваць чаравікі.

— Гэй, малы, ідзі сюды.

Слаўка, завязваючы шнуроўкі, не адгінаецца — хто ж можа паклікаць, як не Фафан?

— Ідзі сюды, нешта скажу,— не цярпіцца Фафану.

Шнуроўкі не хочуць завязвацца, але кадук з імі, шнуроўкамі гэтымі, калі Фафан скажа штосьці цікавае! Азірнуўшыся на блакітныя вокны, Слаўка бяжыць на вуліцу.

— Ты яшчэ нічога не чуў? — пытаецца Фафан.

— Не-а, не чуў.

— От дзівак! — смяецца Фафан.— Да мяне ўчора бусел вярнуўся. Пачуў халады, дык вярнуўся.

— Ды ну! — не верыць Слаўка.— Хлусіш!

— Далібог, не хлушу,— божыцца Фафан і глядзіць такімі расшыранымі вачыма, што не верыць яму цяжка.— Хочаш, пакажу?

— Хачу.

Бусла Фафан трымае ў хлеўчыку, дзе раней стаяў кормнік. Япрука закалолі, а цяпер у котусе стаіць бусел. Як толькі з віскатам расчыніліся дзверы, бусел радасна заклекатаў, задзёршы дзюбу ўгару. Ён ужо, відаць, забыў, хто падбіў яго з рагаткі, і сумаваў, што падоўгу не бачыць свайго замурзанага гаспадара. Бусел хоча замахаць крыламі, але крылы ў яго звязаны, і бусел, адчуўшы гэта, супакойваецца.

— Паглядзеў? — пытаецца Фафан.

— Паглядзеў.

— То выходзь. Буду зачыняць хлеў.

Зноў вішчаць варотцы, Фафан стукае засаўкай.

— У школу на ім будзеш ездзіць?

Фафан задумваецца:

— Каб жа не Баразна. Як убачыць, дык адбярэ. Хай пажыве да вясны, а там мо выпушчу ў лес.

Слаўка глядзіць на Фафана і раптам штосілы бяжыць у бок Хартонавага лужка. Фафан нічога не разумее.

— Куды ты?

— Дахаты. Лазіна, як агледзіцца, то будзе біцца.

Слаўка бяжыць дадому, але Лазіна прачынаецца перш, чым ён паспявае ўбегчы ў хату. Яна ўбачыла Слаўку праз акно і ўжо стаіць на парозе з бацькавай папружкай.

— Дзе ты валочышся, паршывец малы? Мне вячэру трэба гатаваць, а не цябе шукаць. Ета ж адвярніся на хвілінку, дык і за дзень у хату не сышчаш. От я табе, неслух!

Лазіна замахваецца папружкай, але біць Слаўку раздумвае — баіцца бабулі. А бацьку яна ўсё ж паскардзілася, і сёння ён пайшоў на работу раззлаваны. Лазіна цяпер спіць, а Слаўка зноў сядзіць на табурэтцы і глядзіць у акно.

На дварэ падае снег, шулы і платы ўздоўж вуліцы стаяць у белых шапках. З акна добра відзён школьны пляц. На ім валтузяцца дзеці, падаюць у снег, спрабуюць качаць балваны, але снег не зліпаецца, таму што на дварэ прыціскае марозік. Слаўка паставіў на падаконнік люстэрка і старанна наближае той дзень, калі ён зможа выйсці на вуліцу. Маршчыніць лоб, зрывае пальцамі струпкі з падбародка і, дзе можна, залізвае ранкі языком. Там, дзе былі вогнікі, застаюцца чырвоныя плямкі. Твар ад гэтага, як апараны. Слаўка курчыцца ад болю, але не кідае свой занятак. Лазіна, калі пабачыць, што болек ужо няма, то мо і выпусціць на двор.

Па вуліцы, расчырванеўшыся на холадзе, прабег Фафан, і Слаўка памахаў яму кулачком. Разграбаючы снег валёнкамі, прайшоў Сцяпан Баразна, і Слаўка праз шкло прыветна ўсміхнуўся яму. Баразна падперазаны папружкай, а за папружкай тырчыць сякера. Сцяпан, відаць, кіруецца ў лес — секчы дровы ці яшчэ што рабіць. Ён цяпер не бывае ў іхнім новым доме, і Слаўка заўсёды радуецца, калі ўбачыць Баразну, а вось калі на вуліцы, разграбаючы нагой снег, пакажацца Інго Мэгусь, то Слаўка ады-

ходзіць ад акна. Слаўка баіцца гэтага патлатага чалавека. Раней не баяўся, а з таго вечара, калі захварэла мама, баіцца нават глянуць на яго.

Сумуе Слаўка ў акне — і дзень і два і тры. Фафану памахае кулачком, Баразне ўсміхнецца, ад Мэгуся схаваецца. А снег на дварэ падае і падае. Суседскія хлапчукі выцягнулі з-пад паветак санкі і з'язджаюць з гурбаў снегу, што горбяцца, як вярблюды, каля платоў. Потым мароз намаляваў на шыбіне дзівосныя ўзоры, але Слаўка прахукаў дзірачку, і яму зноў стала добра відаць, што робіцца на вуліцы.

Там, развешаная на платах і дрэвах, палошчацца на ветры белая прасціна снегападу. І раптам з-за гэтай снежнай заслоны вывальваецца Папісіна Тома. Сёння ў яе няма торбачкі з кніжкамі, а замест торбачкі Тома нясе рознакаляровыя ланцужкі, склееныя з паперы. Як жа Слаўка забыў? Хутка ж Новы год, дык Тома бяжыць у школу, нясе цацкі, каб упрыгожыць ёлку.

— Тома! — кліча яе Слаўка і штосілы грукае ў раму акна.— Тома!

— Якая яшчэ Тома! — падхопліваецца з ложка Лазіна.— Чаго раскрычаўся?

Але Тома, разумная і добрая Тома, здагадалася, чаго гэта трывожыцца замураванае марозам акно, і, павярнуўшы з вуліцы на сцежачку, бяжыць у хату. Тома цяпер рэдка бывае ў Слаўкі. Бяжыць міма, азірнецца на вокны, а ў хату не заходзіць. І наогул пасля мамінай смерці стала сумна. Нават мужчыны больш не прыходзяць стрыгчыся, таму што Лазіна злуе, не хоча за імі падмятаць падлогу.

— Слаўка, гэта ты стукаў у шыбу? — стаіць на парозе Тома.— Я ж спяшаюся, у школу бягу. Там сёння ёлка.

Слаўка разглядае Томіны цацкі і, зайздросцячы ёй, хваліць папяровыя ланцужкі:

— Прыгожыя!

— Цёця Вера,— паварочваецца Тома да Лазіны.— Няхай Слаўка са мной у школу пойдзе. Ёлка там у нас. І цукеркі будуць даваць.

— Ідзі сама, калі ідзеш,— злуе Лазіна.— Нікуды ён не пойдзе. Каб старая кляла мяне? Не, не пойдзе. Бытта яму цукерак мала? То ж і тае нядзелі купляла.

Тома бачыць, што Лазіну не ўгаворыш, і ціха шэпча Слаўку, як апраўдваецца:

— Бачыш, не пускае... Але нічога, ты пасядзі. Буду назад бегчы, дык загляну.

Тома зачыняе дзверы, а Слаўка з сумам глядзіць ёй услед. Ён садзіцца ля акна і пільнуе, калі Тома будзе ісці назад. Праз дзірачку відаць, як ля бярозы, задзёршы пыску, брэша Курашчуп. Слаўку не відаць на каго, але ён ведае, што на бярозе кучамі сядзяць вароны. Яны заўсёды прылятаюць сюды перад халадамі. І Курашчуп брэша на варон, аж захлынаецца ад злосці.

На вуліцы пачынаецца вецер, гоніць паўз платы пасмы снегу. А Томы ўсё няма і няма. Слаўка ўжо не радуецца, што прыйшла сапраўдная, снежная ды марозная зіма. Ну, няўжо да самай вясны яму сядзець і сумаваць у гэтым замерзлым акне, з якога праз шчылінку і вуліца не ўся відаць?

## 4

Пад падлогай на кухні ляжаць камяні. У канцы лета бацька дзён колькі збіраў іх на полі і засыпаў у сярэдзіну зруба. Думаў, што добра будзе, а выйшла наадварот — на падлогу не ступіць босай нагой. Курашчуп і той, калі забяжыць у хату, па чарзе падымае лапы — дошкі ж, як лёд.

Вокны замураваў мароз, і яны аж сівыя, з шэрым

налётам. Нават дзірачку Слаўка не здолеў прахукаць, каб паглядзець на дарогу. На Новы год Лазіна і бацька зноў паехалі ў Паначу гасцяваць, а Слаўка застаўся дома. Прыходзіла бабуля, забірала да сябе, ды Слаўка не захацеў — там усё роўна няма такой волі, як дома.

Печ за дзень выстыгла і ачахла, на кухні вада ў вядры ўзялася лядком. Прыцемкам на двары рыпяць палазы. Гэта вярнуліся паначанскія госці. Лазіна носіць дровы, распальвае ў печы і грубцы, каб абагрэць выстыглы дом. Бацька, як і заўсёды, прыехаў з Паначы на добрым падпітку — ляжыць на ложку, мармыча ў сне, енчыць, скрыгіча зубамі. Слаўка баіцца яго такога, цішком лезе пад коўдру і засынае.

Раніцай Лазіна адпойвае бацьку кавай. Адзін хіба ўсявышні ведае, дзе яна дастала гэты боскі пахучы напітак. Пачак з кавай, на якім намаляваны два рыжыя ячменныя каласы, Лазіна кожны раз хавае ад Слаўкі. Чаго добрага, гэты акаянец уб'ецца ў пачак, з'есць чорны, перасыпаны цукрам парашок, і тады хоць у госці не едзь.

Бацька спяшаецца на работу, п'е гарачую каву прагна, папярхаючыся, таму што яда сёння яму і ў рот не лезе. Слаўку таксама хочацца той смачнай кавы, ды вось бяда: у Паначу ён не ездзіць. Падзьмухаўшы на кубак, які сыходзіць парай, бацька глядзіць то на Лазіну, то на Слаўку.

— Налі і яму, чуеш?

— От бо яшчэ! — злуе Лазіна.— Не будзе ён піць етую чорную атруту. Сама я не люблю яе.

— Буду піць,— кажа Слаўка. .

Лазіна налівае яму кавы і бразгае кубак на стол:

— Пі, як захацеў.

— Вера, чуеш? — падумаўшы, гаворыць бацька.— Хай бы ты сёння на работу пайшла ў калгас? Лён трапаць ці яшчэ што рабіць.

— А чаму табе захацелася выганяць мяне з дому? — здзіўлена глядзіць на яго Лазіна.

— Я не выганяю. Толькі няёмка ад людзей, што ты дома сядзіш.

— Паспею з козамі на торг,— кажа Лазіна і хаваецца ў святліцы, моцна бразнуўшы дзвярыма.

— Такія вось нашы справы,— уздыхае бацька, падымаецца з услона, апранаецца і ідзе ў МТС.

Слаўка дапівае сваю каву і глядзіць, як у печы палаюць дровы. Хароміна-печ яму чамусьці нагадвае чалавечы твар. Чырвонае зева, у якім ажно гудзе агонь, падобна на рот, дзве юшкі чарнеюць уверсе, як вочы. Нават і нос можна ўявіць — шырокі і прыплюснуты. Адна юшка цяпер высунута, і печ, здаецца, хітра падміргвае Слаўку. У гарачым зеве б'юцца аб чалеснік языкі полымя. Печ як быццам хоча выдаць Слаўку сваю вялікую тайну, ды не можа — толькі бясконца гудзе і ўздыхае. А тая яе тайна даўно ўжо для Слаўкі не тайна. Пачак з кавай Лазіна схавала ў пячурцы, што справа ад качарэжніка, а зверху напіхала розных анучак ды яшчэ ў дадатак паставіла пачак з соллю. Лазіна заткнула пячурку, усміхнулася, радуючыся сваёй хітрасці, а таго не ведала, што ў мінуту гэтай вялікай хітрасці праз дзірачку з дзвярэй на яе глядзеў Слаўка, і тайна для яго перастала быць тайнай.

Языкі полымя ў печы, так нічога і не расказаўшы Слаўку, увачавідкі слабеюць, распадаюцца на кволыя, асобныя агеньчыкі. Сінімі чорцікамі агеньчыкі скачуць па чырвоных вуголлях. Прыходзіць Лазіна, б'е галавешкі качаргой, каб хутчэй дагарэлі, а потым выграбае жар на прыпек. На хату пойдзе гарачы дух, дык мо за раніцу адтануць замураваныя снегам вокны.

Лазіна перастаўляе ў печы гаршкі, засланяе чорнае зева бляхай, але спаць, як звычайна, на Слаўкаў

ложак не ідзе. Апранае старую бацькаву бравэрку, тупча ў парозе.

— У капераціў пайду. Каляды на носе, а ў нас уся газа выйшла.

— Ідзі,— адпускае яе Слаўка.

— Сядзі ціха, не дурэй, як раскол,— наказвае Лазіна і, узяўшы бляшанку з-пад газы, выходзіць на вуліцу.

Пасля таго як Лазіна выграбла на прыпек жар, на кухні адразу пацяплела. Юшка не засунута да канца, каб не было чаду, і Слаўку здаецца, што печ зноў падміргвае яму, намякаючы на сваю вялікую тайну. Ох, ужо гэтая тайна! Слаўка бярэ табурэтку, нясе ў качарэжнік і, стаўшы на яе, лезе ў пячурку. Вось яна ў руках, тая горка-салодкая атрута, напалову перасыпаная цукрам! Слаўка смакуе каву, ліжа языком, а потым бярэ лыжку. Пакуль не растане цукар, кава салодкая, а потым яна і праўда гаркаватая. Ды нічога, Слаўкаў язык любіць яе і такую. Трэба было ўжо даўно паставіць пачак на месца, трэба было не даваць такой волі языку, але Слаўка не мае сілы што-небудзь зрабіць з сабой. Апамятаўшыся, ён суне амаль пусты пачак у пячурку, закрывае анучкамі. Але ад таго, што Слаўка дрыжыць ад страху, кавы ў пачку не пабольшае. Цяпер адно выратаванне: трэба ўцякаць да бабулі.

Слаўка хапае палітко, старую салдацкую шапку і стрымгалоў ляціць да дзвярэй. Але ўцякаць да бабулі, здаецца, ужо занадта позна. Каля парога нехта шоргае нагамі, потым дзверы адчыняюцца і ў хату заходзіць Лазіна. Яна падазрона глядзіць на Слаўку:

— Ты куды?

— Да бабулі. Пайду пераведаю, чаму да нас не прыходзіць? Мо захварэла?

— Шкадобнік які знайшоўся.

Лазіна глядзіць на Слаўку, заўважае, што ў яго выпацканы нос у чорную муку, і раптам здагадваецца чаму. Лазіна, збялеўшы ад нечаканай бяды, пераводзіць позірк на пячурку. Так і ёсць: і соль вунь не гэтак стаіць, і анучкі тырчаць не так, як раней. Лазіна бяжыць у качарэжнік, выхватвае з пячуркі анучкі, і Слаўку падалося, што печ аж прысела ад жаху, шырока разявіўшы свой шчарбаты рот. Каве хана, гэта ясна як божы дзень. Хапіўшы бацькаву папружку, Лазіна насоўваецца на Слаўку:

— Прызнавайся, раскол! Ты з'еў каву?

— Не-а, не еў.

— Пытаю? Ты з'еў?

Слаўка пачынае румзаць.

— Я яе не еў. Я каву злізаў.

— Ах ты, раскол! Яшчэ і смяяцца ўздумаў? Збыткі строіш!

Раменная папружка, як гадзюка, абвівае Слаўкава плячо. Яму добра прыскулела, запякло, і ён, ускрыкнуўшы ад болю, кідаецца ў прачыненыя дзверы і без аглядкі імчыцца да бабулі. Слаўка клубком коціцца па пратаптанай у снезе слізкай дарожцы, а ззаду чуецца грознае сапенне Лазіны.

— Бачыш, смаркач, уцякаць уздумаў...

Трывожна закрычалі вароны на вершаліне бярозы, а слізкая дарожка, па якой уцякае Слаўка, раптам выгінаецца спружынай і кідаецца пад ногі Лазіне. Пакаўзнуўшыся на сумёце, Лазіна падае, рые носам снег, раскінуўшы ўбакі рукі. Папружка таксама ляціць у снег. З-за рога дзедавай хаты Слаўка бачыць, як Лазіна кешкаецца на сцежцы, спрабуе ўстаць, нарэшце такі падымаецца і, накульгваючы, бо, мусіць, моцна выцела калена, сунецца назад. З парога Лазіна махае кулаком:

— Папомніш, акаянец! Дадому хоць і не прыходзь.

Слаўка з ровам адчыняе дзверы дзедавай хаты.

— Мяне... мяне Лазіна набіла...— хныкае ён і не выцірае з твару слёзы, каб іх бачылі дзед з бабуляй.

Дзед, яшчэ нічога не разумеючы, недаўменна глядзіць на ўнука.

— Ідзі сюды, рыбка. І раскажы толкам, чаго плачаш?

Бабуля палатнее, хапае Слаўку за плечы і глядзіць яму ў вочы:

— Я так і знала! Калі-небудзь тая паршыўка знявечыць хлопца.

— Я яе каву з'еў,— тлумачыць праз слёзы Слаўка.— Дык яна мяне за гэта папружкай.

— Якую яшчэ каву? — не разумее дзед.

— Псюк стары! — зняважліва глядзіць на яго бабуля.— Бытта ён кавы ніколі не бачыў! Некалі яе толькі паны пілі.

— А-а,— здагадліва цягне дзед, быццам усё жыццё ён толькі і ведаў, што піў каву.— І з-за такой ярунды трэба хлопца хвастаць?

Дзед ужо раззлаваўся, нервова тупае па хаце.

— І не кажы, Васіль,— у лад яму гаворыць бабуля і вядзе ўнука да акна.— І па чым жа яна біла цябе?

— І вось тут біла, і вось сюды,— паказвае Слаўка то на плечы, то на паясніцу, то ніжэй.

Неспадзявана ў хату заходзіць Папіха. Яе вялізная брызентавая сумка біткам набіта газетамі. Папіха глядзіць на Слаўку і здагадваецца, што не так сабе плача нябож і не будзе ж без дай прычыны тупаць па хаце насуплены дзед.

— Што за бяда ў вас такая?

— Ды ета ж Слаўку Лазіна сперыла на горкі яблык,— кажа бабуля.— Во ідзі сама глянь, якія пісягі на целе.

— Мой жа ты бедненькі хлопчык,— вохкае Папіха. Яна прыйшла чырвоная з марозу, а тут пачырванела яшчэ больш.— Ці ж можна так?

Дзед маўчыць, курыць люльку, злосна сплёўвае на падлогу. Маўчыць і Слаўка, бо добра помніць, што Лазіна ўдарыла яго мо адзін, мо два разы. Яму трошкі сорамна, і ён маўчыць, выцершы сухія ўжо вочы.

— Ой, і паскуда ж тая! Галетніца панацкая,— чаўпе Папіха.— Ета яна так хлопца глядзіць? Во і сарочка закарэла ад гразі і гузікаў у палітку нямашака. Хіба ж не магла прышыць?

— Праўда твая,— згодліва хітае галавой бабуля.— Не глядзіць хлопца.

Дзед па-ранейшаму маўчыць, седзячы на ўслоне, смокча люльку, нарэшце выдыхвае дым і гаворыць як сам сабе:

— Прападзе Юзік. Прападзе за сабачыя лямцы.

— Выганяць трэба тую падлу,— бушуе ў хаце Папіха.— Выганяць трэба.

Потым у хаце трошкі цішэе, Папіха з бабуляй, пасеўшы ля печы, перамываюць Лазіне костачкі, і выходзіць, што яна такая няўдаліца, такая гультайка, што другой такой і свет не бачыў, і людзі не чулі.

— І дзе ў Юзіка вочы былі? — абураецца Папіха.— Казала, не бяры! Хіба ж яна раўня нябожчыцы Анюце? Ані ў жысць...

Слаўка на вуліцу не ідзе: хіба ж ён дурань, каб яшчэ раз трапіць у Лазініны лапы? Зноў жа ў дзедавай хаце нават лепш, чым дома. Тут цесна, але затое цёпла і ўтульна. Дома халадэча, мерзне нос, бо, мусіць, дарма бацька навазіў столькі камянёў увосень. Ад іх дом настывае, падлога робіцца як лёд.

## Раздзел пяты

### 1

Лазіну выганялі так настырна і настойліва, што ёй, перапалоханай ушчэнт, не хапіла нават часу звязаць у клунак свае рэчы і з належнай годнасцю выйсці з дому, напаследак моцна бразнуўшы дзвярыма. Суд над ёй быў кароткі і бязлітасны, таму што галоўным суддзёй і выканаўцай прысуду тут была Паліха. Яна трэсла перад носам Лазіны кулаком і выкрыквала на ўсю хату:

— Марш адсюль, сухарэбрыца! І каб духу твайго тут больш не было!

— Я тады не працівілася, каб Юзік жаніўся на табе,— больш разважліва гаварыла да Лазіны бабуля.— А во зараз шкадую, што не працівілася. Сама ты вінавата, кабета. Хто ж так дзіцятка глядзіць? Кашулька вунь на ім якая брудная. Ды б'еш ты яго. Хлопцу маці патрэбна, разумееш ты?

Пракурорскія паўнамоцтвы ва ўсёй гэтай катавасіі і калатнечы належалі, вядома ж, дзеду Васілю. Ён мог бы прыкрыкнуць, і кабеты ў момант угаманіліся б, прыкусілі б языкі, ён мог бы, урэшце, тупнуць нагой, і варожыя бакі пачалі б шукаць прымірэння. Але дзед нічога гэтага не рабіў. Перад тым як ісці вяршыць суд над Лазінай, ён выпіў добрую чарку самагонкі, надта ахвотна паднесенай бабуляй, і цяпер за хабар трэба было плаціць. Расчырванеўшыся ці то ад выпітай гарэлкі, ці то ад нечакана нахлынуўшай злосці, дзед тыцкаў у жывот Лазіне тоўстым арэхавым кіем з жалезнай булдавешкай на канцы.

— Унучыка біць уздумала? Дык я ж табе за гэта пуза прапару! Каб вантробы вываліліся! Каб душа твая вон!..

Лазіна, як спалоханая каза, бегае па хаце з кута ў куток, але нідзе не знаходзіць сабе паратунку. Сілы нападаючага боку размеркаваны так, што свабодны застаецца толькі выхад у дзверы. Лазіна бачыла гэтыя дзверы, расхлябешчаныя насцеж, але там, за дзвярыма, была зіма, быў снег і мароз, а на холад ёй не хацелася. Яна спрабавала прарвацца праз другія дзверы ў святліцу і, зачыніўшыся там на зашчапку, перачакаць гэтае ліха. Але дзед апярэдзіў яе, прадбачліва стаў ля дзвярэй, засланіў іх плячыма, наставіў на Лазіну жалезную булдавешку.

— Куды прэшся, худоба! — дзед пагардліва скрывіўся, мо ўпершыню ўбачыўшы Лазіну так блізка.— Хе-хе! Дзе ў таго Юзіка вочы? У цябе ж, кабета, ні цыцок, ні тых сцёгнаў.

— А лыткі, як у курыцы! — падтаквае дзеду Папіха.

Апошні шанц адчапіцца ад раззлаваных людзей, схаваўшыся ў святліцы, быў перахоплены, і Лазіна, зразумеўшы гэта, пачала паспешліва апранацца, накінула на сябе старую зрыжэлую плюшаўку, хапіла з лаўкі кашміроўку і ўжо з парога агрызнулася:

— Мы яшчэ пабачым, ці выгналі вы мяне! От пабягу ў эмтаес да Юзіка. Ён вам галовы паскручвае! І табе, Папіха, і табе, стары дурань.

Высокі суд, аднак, не дае ёй ніякага права на абскарджанне, не пакідае нават надзеі вярнуцца ў гэты халодны і пусты новы дом. Пачуўшы ад нялюбай сваёй нявесткі, што ён дурань, дзед аж затросся ад злосці, папусціў ёй наўздагон кій з вострай жалезнай булдавешкай. Лазіна спрытна крутнулася, кій прасвістаў над галавой.

— Ух-х, паскуда! — як леў, зароў на ўсю кухню дзед.

З плачам Лазіна выбягае на двор. Не разбірае дарогі, грузне ў сумётах, пакуль не выбіваецца на

тупкую сцежку, па якой бацька звычайна ходзіць на работу ў Кругловічы.

— Хай сабе скардзіцца,— захінаючы фіранку, гаворыць Папіха.— Я Юзіку тое самае скажу. Дурань, скажу, ты нябіты. Каго ў хату ўзяў? Пустадомка, от каго ўзяў.

— Саўсім замарыла хлопца,— як быццам апраўдваецца перад сабой бабуля.— Мох вунь на шчоках парос.

Трохі астыўшы пасля нядаўняга замарачэння, бабы прыбіраюць хату, падмятаюць і мыюць падлогу. Стаўшы адной нагой на дзяркач, Папіха ездзіць на ім сюды-туды, і на падлозе застаюцца брудныя пісягі. Потым увесь бруд змылі цёплай вадой, вышаравалі апучай, і дошкі заблішчалі, стаў відзён кожны сучок. У хаце, як і восенню, пры маме, зноў запахла лесам і хвояй.

— Прылюдзілі трохі хату,— кажа Папіха.— Ой, мне ж трэба пошту разнесці!

— Ідзі,— дазваляе ёй бабуля.— Я яшчэ ў печы прапалю...

Пасля таго што здарылася, Слаўка сядзіць маўклівы, вінавата апусціўшы галаву. Трэба ж было яму з'есці тую салодка-горкую каву! У грубцы, страляючы вугельчыкамі, гарадь дровы, а Слаўка сядзіць ля агню, грэецца, і яму брыдка за свой учынак. І каву з'еў, і бабулі пахлусіў, што яго моцна набіла Лазіна. Хутка прыйдзе бацька, дык невядома яшчэ, што ён скажа.

Марудна цікаюць ходзікі на сцяне. Снег на двары пасінеў, настае вечар. З першым прысмеркам прыходзіць бацька, хукае на замерзлыя рукі, а Слаўка баіцца глянуць яму ў вочы. Бацька ведае ўсё, што здарылася тут без яго, але не сварыцца з бабуляй, сядзіць каля грубкі і таксама глядзіць на агонь.

— Не бойся,— гладзіць ён Слаўку па валасах.— Пастрыгчы цябе трэба.

— Я каву не ўсю злізаў,— тулячыся да шырокіх бацькавых грудзей, шэпча Слаўка.— Яшчэ трохі засталося.

— Ліха з ёй, з той кавай. Мо і добра, што злізаў. Усё адно Лазіна была мне не пара.

— Пара — як з самавара,— умешваецца ў гаворку бабуля.— Разышлася, і — няма.

— Не трэба, маці, пра ета,— просіць бацька.

Яны вячэраюць і кладуцца спаць. Слаўка сёння спіць разам з бацькам на адным ложку. Марудна цягнецца доўгая зімовая ноч. Бацька спіць неспакойна, варочаецца з боку на бок. Слаўка баіцца цемнаты, бо ўваччу стаіць патлатая, чорная морда, якая тады, увосень, глядзела праз акно. Ён нацягвае на галаву коўдру, плішчыцца бацьку ў ногі, але страх не праходзіць, патлатая морда не знікае. Слаўка дрыжыць, пакрываецца халодным потам і будзіць бацьку.

— Чаго ты калоцішся, сынок? Калі замёрз, дык туліся да мяне.

— Мне страшна.

— Не бойся, дурненькі. Я ж каля цябе.

Бацькава цёплая рука абдымае Слаўку за плечы, горне да грудзей, і ён пакрысе супакойваецца, дрыжыкі праходзяць. Вейкі змружваюцца, зліпаюцца, патлатая морда нарэшце знікае з вачэй. Слаўка спіць і ў сне моцна сціскае бацькаву руку. Калі ён прачынаецца, бацькі дома ўжо няма — пайшоў на работу. У вокнах свецііцца ранак, а каля грубкі, самотна схіліўшы голаў, сядзіць бабуля. Яна ўжо ведае пра Слаўкавы начныя страхі і пачынае распытваць:

— Чаго ж ты, унучак, баяўся ноччу?

— Я не баяўся. Толькі трошкі дрыжаў.

— Мо хто цябе напалохаў? — не адстае бабуля.— Дык лячыць трэба.

— Я ноччуваласатую галаву бачыў.
— Хто ж ета быў, не помніш?
— Інго Мэгусь. Аднаго разу ён глядзеў нам у акно, і ад таго часу я баюся.
— Інго ці не Інго, а вылівать уляк трэба,— рашае, падумаўшы, бабуля.— Мо таму ты і худы, што спужаны.
Па дарозе на пошту ў хату зноў заходзіць Папіха. Слаўка нанова расказвае пра свае начныя страхі.
— Канечне, спужаны,— пацвярджае бабуліны словы Папіха.— Дзіва, што етага ваўкалаку спужацца можна.
— Недзе ж я хавала агаркі свечак,— руміцца бабуля і падымаецца з табурэткі.— Калі дзе іх Лазіна не спляжыла.
Агаркі свечак знаходзяцца за асадкай, бабуля адшчыквае кавалак воску і кладзе на патэльню. У грубцы дровы ўжо дагарэлі, але на сподзе яшчэ застаўся прысак. Бабуля раздзьмухвае вугельчыкі і ставіць на жар патэльню. Хутка яна разаграецца, воск плавіцца, сквірчыць, як сала. Слаўку прымушаюць стаць на калені, Папіха трымае над яго галавой міску з халоднай вадою, а бабуля вымае з грубкі патэльню і злівае ў міску расплаўлены воск.
— Ужэ ўсё. Можаш падымацца,— дазваляе яна.
Воск у халоднай вадзе зацвярдзеў, застыў і плавае па ёй жоўтай бугрыстай скалкай. Бабуля торкае ў міску пальцы, паварочвае грудку воску, жмурачы падслепаватыя вочы. Па тым, які малюнак адбіўся на жоўтай скалцы, яна хоча пазнаць, хто спужаў Слаўку.
— Як быццам і праўда чалавек? — няўпэўнена кажа бабуля.— От сама ж ткале глянь. Во галава, во нос.
— І вушы, і рот вуняка,— паказвае пальцам Па-

піха.— Ну, выліты Інго Мэгусь. І чаго яму, патлатаму падле, было рабіць каля нашых вокан?

Цяпер і бабуля ўпэўнена, што на скалцы воску выліўся Інго Мэгусь, і таксама пачынае бэсціць яго:

— Каб ты апух сам, як мне дзіцятка спужаў! Дусі табе было мала?

З сваёй хаты бабуля прыносіць бутэльку свянцонай вады, налівае трохі ў кубачак. Потым, адвярнуўшыся ў кут, доўга шэпча на ваду, кладзе нейкія чары.

Слаўка выпівае загаворанае пітво, аддае бабулі кубак і адчувае, што нікога ён ужо не баіцца: ні Лазіны, ні Інго Мэгуся. Хай пакажацца на парозе каторы! І ноччу цяпер ён будзе спаць добра, без дрыжыкаў.

— Пройдзе, абы не зацягнулася хвароба,— гледзячы на Слаўку, гаворыць Папіха.— Сумна яму аднаму. Каб таварыства яму якое.

— Хай бы Тома прыходзіла. Удваіх весялей ім будзе.

Папіха глядзіць на бабулю, пакутліва думае, разважае і выказвае ўслых тое сваё выпакутаванае рашэнне:

— Што Тома? Таксама яшчэ дзіцё горкае. Я хіба сюды сваіх Зіну і Вольку прыжану. А што? І за Слаўкам паглядзяць, і ў печы выпаляць. Ды і скаціну пакормяць — нечага дома гультаяваць.

— І Тома хай прыходзіць,— просіць Слаўка.— У мяне ж і Курашчуп, і Капрыз е. Разам гуляць будзем.

— Ну, хай прыходзіць,— смяецца Папіха і лашчыць нябожа.— Хай забягае, як у школу ісціме.

Бабуля зачыняе ў коміне юшку, вылівае ваду з міскі, а скалку воску, на якой адбіўся патлаты твар Інга Мэгуся, камечыць і хавае назад за асадку. Калі ў Слаўкі не пройдзе спужанне, дык яшчэ раз трэба

выліваць воск. Навёўшы парадак, бабуля садзіцца на ўслон і глядзіць на Папіху.

— Кажаш, сваіх дзявок прышлеш? А самой дома не цяжка будзе? Усё-такі памочніцы твае.

— Як-небудзь абыдуся,— махае рукой Папіха.— Сама яшчэ не ўломак.— І, нешта ўспомніўшы, мяняе гаворку.— Ну, а як Юзік? Нічога не казаў, што выгналі Лазіну?

— Маўчыць. Відно, што не па нутру яму, але маўчыць.

— То і добра,— радуецца Папіха.— Як-небудзь утрасецца. І без таго панацкага гультая Юзік абыдзецца. От прышлю дзявок, і будуць глядзець у хаце, пакуль тое ды сёе.

## 2

У буднія дні бацька на рабоце, прыходзіць позна; чакаючы яго, Слаўка як не ў кожным кутку натыкаецца на Лазініны рэчы. Каля печы, у качарэжніку, стаялі чырвоныя стаптаныя чаравікі. Слаўка грабянуў іх нагой, і чырвоныя чаравікі апынуліся ў падпечку. На комінку ляжаць парваныя панчохі — Лазіна збіралася іх цыраваць, ды так і не паспела. Каля дзвярэй на вешалцы вісіць ясёнка, у якой Лазіна яшчэ пры маме прыязджала ў госці. На ясёнцы маленькі хлясцік і чорныя бліскучыя гузікі. Хлясцік застаўся, а гузікі Зіна адпарола і прышыла іх да Слаўкавага паліто.

З Лазінінага дабра застаўся яшчэ лычаваты япрук, і бабуля не ведае, што з ім рабіць. Яна не можа чуць, як галодны япрук вішчыць у свінушніку, але і карміць яго не хоча. Лазіна ўсё адно прыедзе і забярэ свой пасаг.

— Карміце,— па-даросламу раіць бабулі Зіна.— Свінчо ж невінавата, што так выйшла.

— Эге ж, унучка, прыйдзецца хоць раз насіць яму есці,— уздыхае бабуля.— Яшчэ апруцянее, тады горай будзе.

Папісіны старэйшыя дочкі цяпер жывуць у Слаўкавым новым доме. Зіна — разважлівая і спакойная, а ў Волькі дурасці яшчэ многа ў галаве. Яна хапае Слаўку, турбушыць, а потым папускае ў яго маленькай падушачкай-ясікам. Слаўка ловіць ясік і шпурляе ім у Вольку.

— Паціхніце, чэрці! — крычыць Зіна, таму што іх шумныя гульні ёй не падабаюцца.

Зіна адчыняе века куфра, перабірае маміны сукенкі — што прымярае на сябе, што кладзе назад. Сукенкі ёй не падыходзяць, таму што мама была невысокая, а Зіна вырасла як не да вушака. Яна засмучана складвае ўборы, але затое ў прыскрынку знаходзіцца нешта такое, што адразу падымае яе настрой. З прыскрынка Зіна вымае пудэлка, адчыняе яго і радасна ўсміхаецца: у бляшанцы ляжыць пудра і агрызак чорнага алоўка.

— Чыё ета? — пытаецца Зіна.— У цёткі Анюты, здэцца, не было такога пудэлка. І без таго на цэлы Ясянец была прыгажуня.

— Лазініна, чыё ж яшчэ! — дасведчана кажа Слаўка.— З пудэлкам яна ўсё каля люстэрка круцілася.

— Маладзілася, старая выжла,— крывіцца пагардліва Волька.— Шкура на ёй гарэла.

Слаўка ні разу не бачыў, як на Лазіне гарэла шкура, ды затое шкура тая пачынае гарэць на самой Вольцы — вясёлай, непаседлівай таўстушцы. Яна тупча каля Зіны, заглядвае ў пудэлка, а потым выхоплівае з бляшанкі агрызак чорнага алоўка.

— Мне ета, а табе, Зінка, хай пудра астаецца.

— Хітранькая! Нашто ж пудрыцца, калі бровы

не падведзены? — не радуецца такой дзяльбе старэйшая Зіна.— Ану аддай!

У хаце пачынаюцца вэрхал, тупаніна, віскат. Сёстры дубасяць адна другую па плячах, тузаюцца за косы. І Слаўка тут — ушчаміўся паміж дзяўчат, шчыпае іх то за грудзі, то за сцёгны. Сёстры вішчаць яшчэ болей. Волька заціснула аловак у кулаку, а Зіна не дасць рады растуліць ёй пальцы. Новы дом ажно ходзіць ходырам — ён не баіцца вэрхалу, ён здзіўлены, ён збянтэжаны, што ў яго сценах чуцен бесклапотны, радасны смех.

— Слаўка, не шчыпайся! — пішчыць Волька.

— Дальбог, вушы паабрываю! — гразіцца Зіна.

Нарэшце дзяўчаты ўціхамірваюцца, стамляюцца. Усё канчаецца тым, што сёстры вырашаюць карыстацца пудэлкам супольна, агулам. Пудра і аловак ім вельмі дарэчы. Як толькі прыцямнее, на вячоркі прыйдуць сяброўкі. Ну, канечне ж, і хлопцы. Гэтых, праўда, ніхто не кліча — самі прывалакуцца. Ды як жа гасцей не сустрэць па-людску? Зіна і Волька сядзяць каля люстэрка, чапурацца. Не праходзіць і хвілін колькі, а шчокі ў іх ружавеюць, як з ветру.

— От каб было яшчэ чым губы падфарбаваць! — уздыхае Волька.— Няўжо ў Лазіны не было нічога?

— Здэцца, не было,— кажа Слаўка.— Я ў пудэлка глядзеў і раней, але нічога не бачыў.

— А буракі? — раптам пляскае сабе па лбе Волька.— Буракі вараныя на прыпеку стаяць.

Яна бяжыць на кухню і хутка вяртаецца са скрылікам чырвонага бурака, а яшчэ праз колькі часу губы ў сясцёр пунсавеюць, як вішнёвыя.

Слаўка глядзіць на расфарбаваных дзяўчат і смяецца:

— Цыганкі!

Дзяўчатам такая ацэнка дужа даспадобы.

— Волька, даставай прасніцы,— камандуе Зіна.— Пад ложак я іх засунула.

Пачынае цямнець. Белая страха дзедавай хаты зліваецца з шэранню неба. Зіна запальвае лямпу і прыслухоўваецца да гукаў на вуліцы. Там нехта ідзе — чуваць крокі, рыпіць снег, чуецца звонкі смех. Расчыняюцца дзверы, і ў хату гурбой увальваюцца з прасніцамі суседскія дзяўчаты. У хаце запахла кудзеляй і марозам.

— Ой, Зінка! Ой, Волька!

— Якія вы прыгожыя!

Сёстры сціпла маўчаць, выстаўляюць напаказ свае цыганскія шчокі.

— Праходзьце, дзевачкі,— запрашае Зіна.

Вечарніцы рассаджваюцца хто на табурэтцы, хто на ложку. Для іх Слаўка не шкадуе сваёй фабрычнай коўдры, на якой намаляваны дзіўныя ўзоры: з аднаго боку чырвоныя, а з другога — чорныя. Нічога з коўдрай не зробіцца. Гэта ж не Лазіна: пасядзяць сабе і пойдуць. Хай бы яшчэ і хлопцы прыйшлі, а то ў дзяўчат ніяк без іх работа не клеіцца. Вечарніцы ўпотай паглядваюць на вокны, прыслухоўваюцца. На дварэ зноў рыпіць снег, пад вокнамі чуюцца галасы, і тут ужо спарней пачынаюць мільгаць дзявочыя рукі, званчэй жыкаюць верацёны. Даўно б так!

— Добры вечар у хату!

На парозе стаіць Косцік Падгайскі. Ён трэ вушы, потым збівае з ботаў снег.

— Ну і халадзіна! Во забег пагрэцца.

На кухні зноў гупаюць боты. Гэта — Родзя Заяц. І ў яго таксама памерзлі вушы. Ён трэ іх і азірае хату.

— А дзядзькі Юзіка няма?

— Няма! Няма! — чуецца ажно некалькі галасоў.

Тут быццам мех развязаўся — за Родзем у хату

хлопцы заходзяць адзін за адным. Заходзяць не так сабе: у аднаго знайшлася пільная справа да Слаўкавага бацькі, другому трэба закурыць, у трэцяга зноўтакі памерзлі вушы, і ён забег у хату, каб вушы, крый божа, не адваліліся. Тыя, хто выхаваны трохі лепш, цішком садзяцца ля стала, а больш дасціпныя кавалеры адразу палезлі да дзяўчат абдымацца. Дзяўчатам гэта не падабаецца.

— Адстань, Косцік!

— І ты, Родзя, не хварсі вельмі.

Многа разоў ля вокан рыпеў снег, многа разоў адчыняліся дзверы. Ужо і ў хаце не павярнуцца, і ад дыму ўжо можна зайсціся. Нехта з бязвусых залётнікаў выцягнуў з кішэні пачак «Боксу», і той «Бокс» пайшоў па крузе, пакуль у пачку не засталося ніводнай тоненькай, як запалка, папяроскі. За сталом заселі карцёжнікі. Ім хутка становіцца горача, карцёжнікі распранаюцца, і іхнія бравэркі ад стала ляцяць на куфар. На куфры ўжо цэлая гара адзення.

Цяпер, калі карты пайшлі ў работу, дзяўчатам становіцца сумна. Зноў не танцуюць іхнія рукі, зноў не жыкаюць верацёны.

— Давайце будзем спяваць! — прапаноўвае Волька.— Зінка, пачынай «Каробачку».

І Зіна запявае:

Ой, полным-полна коробушка,
Есть и ситец и парча.
Пожалей, душа-зазнобушка,
Молодецкого плеча.

Дзяўчаты стараюцца не горш за тых карцёжнікаў. Песня плыве на хаце — важкая, густая. Слаўка спрабуе падпяваць, уплятае ў стройны хор і свой тонкі, пісклявы галасок, але шаляніцу дружна праганяюць, таму што ён толькі псуе песню.

— Не пішчы, як камар,— прыкрыквае на яго Волька.

— Ой, як жа я забыла? — палохаецца Зіна.— Нам жа няможна спяваць з-за цёткі Анюты.

— І то праўда,— згаджаюцца сяброўкі, і «Карабачка» больш не плыве па хаце.

Косцік Падгайскі адным вокам глядзіць у карту, а другім цікуе, што робіцца ў яго за спіной.

— За што ж вы хлопца пакрыўдзілі? Ідзі, Слаўка, да мяне. Я табе чалавечка намалюю. Хочаш чалавечка?

— Хачу.

— То і добра. Лісток паперы е?

Слаўка знаходзіць лісток паперы, а Косцік Падгайскі пачынае маляваць. Косцік умее маляваць чалавечкаў. З-пад алоўка чалавечак выходзіць надзіва прыгожы — з вялізнай, як гарбуз, галавой, з растапыранымі пальцамі, а замест ног — дзве палачкі. Слаўка спачатку сам любуецца малюнкам, затым чалавечак ідзе па руках, і дзяўчаты хваляць Косціка Падгайскага:

— Хораша намаляваў.

— Ета каб хварба была масляная,— сціпла гаворыць ён.— А так што?

— Не задавайся, задавака! — кпіць з яго Зіна.— На чорта падобен твой чалавечак.

Косцік хацеў нешта сказаць Зіне, але тут прачыніліся дзверы і з халоднай кухі ў цяпло вылез Капрыз. Усе скіравалі позіркі на яго, як быццам ката ў вочы не бачылі.

— Які ж ён худы! — дзівіцца нехта з дзяўчат.

— Апсік! — праганяе ката Зіна.

Але Капрыз і вухам не вядзе. Стаіць на парозе і толькі міргае зеленавата-жоўтымі вочкамі. Поўсць на ім пакамечаная, з вушэй тырчаць пучкі валасоў.

У ката доўгія вусы, а хвост дык проста сцелецца па зямлі. Капрыз і праўда худы, адны рэбры ды шкура.

— Ета ён такі ад таго, што хвост доўгі,— кажа Родзя Заяц.— Каб яму трошкі хваста адсекчы, то адразу папраўіўся б.

— Слаўка, дзе тут у вас сякера? — пытаецца Косцік.— Мы ета мігам.

— На кухні, пад шкапчыкам.

— Нясі сюды.

Паміж грубкай і сцяной стаіць бярозавы круглячок, на якім шчапаюць смалякі на распалку. Косцік Падгайскі ловіць ката, ушчэмлівае яго галаву сабе паміж ног, а доўгі хвост кладзе на круглячок. Сціхлі верацёны, дзяўчаты замерлі ад жаху. Правай рукой Косцік бярэ сякеру і лёгенька цюкае па круглячку. На бярозавым цурбане застаецца кончык хваста, а Капрыз, нема заекатаўшы, вылузваецца з чужых рук. Як ачмурэлы, ён гойсае па хаце — заляцеў на верх грубкі, адтуль скочыў на ложак, а з ложка ўцёк на кухню.

Дзяўчаты нарабілі віскату, з кулакамі накінуліся на Косціка Падгайскага:

— Душагуб ты пракляты. Хіба ж кату не баліць?

— Ну і што тут такога? — апраўдваецца Косцік.— Пабаліць ды перастане. Цяпер кот абавязкова паправіцца.

Косціку хоць сапраўды ўцякай з хаты ўслед за паласатым Капрызам. На Косціка, выперадзіўшы сяброўак, наступае расчырванелая Зіна.

— Хай бы свайму кату хвасты сек!

— Чаму ж не сек?

Косцік адступае, бокам-бокам і — выкочваецца на кухню. Зіна за ім. На кухні чуюцца валтузня, вэрхал, звініць у шкапчыку посуд. Барацьба там хутка спыняецца, і назад Зіна прыходзіць яшчэ больш расчырванелая, чым была. На шчацэ ў Кос-

ціка дзве ружовыя палоскі — ад бурачнага соку, а губы ў Зіны ўжо не такія вішнёвыя. Дзяўчаты зайздросцяць, робяць выгляд, што нічога не бачаць — падумаеш, уцяклі, каб пацалавацца! Нічога не заўважае і Волька: да яе грудзей з-за грубкі цягнецца Родзева рука, але Волька як быццам не бачыць яе. Рука ж не стаіць на месцы.

— Ой, не трэба,— шэпча Волька, а сама туліцца да той спрытнюшчай рукі.— Дурань, дзяўчаты ж глядзяць.

Дзяўчаты прадуць, і ім ужо не хочацца прасці. Верацёны ледзь круцяцца ў іх руках. Кудзелі на прасніцах амаль і не паменшала. Дзяўчаты нічога не заўважаюць, што робіцца вакол, а толькі злосна зыркаюць на карцёжнікаў. Заселі, а няма таго, каб які здагадаўся так, як Косцік, адсекчы хвост кату. Прападзеш з такімі. Было б і зусім сумна, але тут яшчэ раз адчыняюцца дзверы і на парозе стаіць ужо не кот, а Антось Струкач. Ён часта, асабліва калі на добрым падпітку, уцякае ад жонкі на дзявочыя вячоркі.

— Здрасце, таўкачы! — гэта да хлопцаў, а да дзяўчат: — Добры вечар, галубкі!

Дзяўчаты пырскаюць ад смеху, клічуць Струкача да сябе, але разгулянца яму не прыходзіцца.

— Бачыш, дзе ён, псюк стары! Да дзевак яму захацелася.

Ніхто не заўважыў, як у хату зайшла Гэлька — Антосева жонка. Слаўка глядзіць на яе і ўздыхае. Цётка Гэлька вельмі ж падобна на яго маму. У яе такі ж вялікі жывот і такое ж рабацінне на шчоках і на лбе.

— Пайшоў дахаты, сцягач! — лаецца Струкачыха.— Я ж табе пакажу дома...

Струкач падміргвае дзяўчатам і, утульваючыся ад жончыных грымакоў, бяжыць на двор.

— Дзяўкі, дык позна ж ужэ. Пайшлі і мы.

Хата ў момант пусцее. Толькі дзве прасніцы, барадатыя ад кудзелі, стаяць ля сцяны. Хлопцы ідуць праводзіць дзяўчат, а Зіна і Волька, падмёўшы падлогу, кладуцца спаць. Слаўка бяжыць на кухню піць ваду і бачыць, што на печы спіць бацька. Калі ён прыйшоў, з-за гармідару ніхто і не пачуў.

## 3

Шэрая навалач хмар парвалася на шматкі, і з прагалу выглянула чырвонае зімовае сонца. На дрэвах, на платах іскрыцца снег. Захутаная ў рыжую кашміроўку, па дарозе бяжыць Папісіна Тома, жмурыцца ад сляпучага сонца, іскрыстага снегу. Вось ужо бразгае клямкаю, тупча ў парозе, абіваючы з бурак мёрзлы снег. Прыадкрыўшы хустку, Тома крычыць на сясцёр:

— Мама казала, каб вы, сучкі, дадому ішлі. Трэба сечкі нарэзаць карове. І дроў ужэ няма колатых. Іш, якія гультаі!

Тома, відаць жа, гаворыць мамінымі словамі. Сёстры дружна выштурхоўваюць яе з хаты, а самі пачынаюць збірацца ў дарогу. Настрой у іх сапсаваны. Адно сядзець у цяпле, маляваць губы, а другое — калоць дровы. Але ісці трэба — маці адна не настарчыцца на ўсіх. Зіна і Волька апранаюцца і ўжо ў парозе запрашаюць Слаўку:

— Пайшлі з намі.

Слаўка адмаўляецца:

— Не-а, я дома пабуду.

Была б ахвота, нейкія дзве вярсты мясіць снежныя сумёты!

— А баяцца не будзеш?

— Не-а! Я да бабкі пайду...

— Глядзі ж, каб потым нічога не казаў. Надвячоркам мы вернемся.

Слаўка застаецца адзін. Сядзіць ля акна і позіркам праводзіць сясцёр. Тома пачакала на двары Зіну з Волькай і цяпер бяжыць за імі, як сабачка. Сёстры ідуць паволі, ледзь перабіраючы нагамі. Усё ж, мусіць, нялёгка рэзаць тую сечку карове? Вось дзяўчаты прападаюць за вёскай, губляюцца ў снежнай смузе. Адразу становіцца сумна. Сядзець ля акна надакучыла, а з Капрызам не пагуляеш. Кот не вылазіць з падпечка, залізваючы свой балючы хвост.

— Так табе і трэба! — злуе на Капрыза Слаўка і выбягае на вуліцу, у сляпучы іскрысты снег.

Сонца абманлівае: свеціць, а не грэе. З акна здавалася, што на двары стаіць цяплынь, а тут дзьме пранізлівы сівер, мароз пашчыпвае вушы. Слаўка зашпільвае паліто. Бліскучыя гузікі вялікія, бо з Лазінінай ясёнкі, і з цяжкасцю лезуць у гафткі. Вецер усё ж праціная навылет. Затое нагам цёпла. З старога бацькавага шыняля бабка вымучыла ўнуку валёнкі, а дзед падшыў іх шкуратам. Добра ў валёначках — і цёпла, і лёгка, не тое што ў цяжкіх амерыканскіх чаравіках з меднымі заклёпкамі, якія Слаўка насіў раней.

— Эх, зімка-зіма! — кулём ляціць з сумёта Слаўка.

Падняўся, атрапаў з сябе снег. Каля сумёта цягнецца ланцужок слядоў. Тут прабег Курашчуп, і, мусіць, нядаўна, таму што сляды яшчэ свежыя. Яны вядуць цераз дарогу ад дзедавага хлява, і гэта пачынае непакоіць Слаўку. Курашчуп сядзеў у будцы, на прывязі, ды чамусьці парваў вяровачку і ўцёк немаведама куды. Дурненькі, хіба ж зімой знойдзеш хоць адно курынае яйка?

— От бо зараза,— уздыхнуў Слаўка і пабег шукаць Курашчупа.

Збіўся з ног, абабег усе закуткі і завуголлі, а сабачку не знайшоў. Спачатку Слаўка ішоў па свежым следзе, але хутка зразумеў, што ўсё марна. Сабачыя сляды былі злева і справа, увесь снег быў здратаваны імі. Сабак у Ясянцы процьма, вось тут і разбярыся, дзе Курашчупаў след, а дзе чужы?

Вёска стаіць у сумётах як не да самых стрэх. Ледзь не з кожнага двара на Слаўку гаўкаюць і цяўкаюць, брэшуць і падвываюць праціўныя стварэнні. А вось і школа. Якраз ідзе ўрок і на двары пакуль што ціха. За рогам школы туляецца Фафан — хаваецца ад настаўнікаў, каб пакурыць. Рукой Фафан дае знак, каб Слаўка падышоў да яго.

— Ты куды сабраўся, малеча? Хочаш пакурыць?

— Не-а, не хачу. Курашчупа шукаю.

— Курашчупа? — Фафан моршчыць лоб, нешта ўспамінаючы.— Прабягаў нядаўна.— І рукой Фафан паказвае, куды пабег Курашчуп.— Унь туды, здэцца, пабег.

Калі што датычыцца сабак, а не ўрокаў, то памяць у Фафана проста такі выключная. Ён сказаў праўду. Адразу за школай, мінуўшы яшчэ некалькі хат, пачынаецца поле. Слаўка хутка натрапіў на свежы сабачы след. Сабачка прабег тут мо якую мінуту назад, таму што ямкі ў снезе яшчэ не засыпала мяцеліца. Слаўка прайшоў колькі метраў і здзівіўся: цераз роўнае поле след вядзе ў густы хмыз, за якім стаіць халупка Інга Мэгуся. Вось дык здзівіў Курашчуп! У таго ж Мэгуся куры зроду не вяліся.

На палоні, адкрытым месцы, снег глыбокі і плыўкі: дзе-нідзе Курашчуп поўз на пузе, пакідаючы за сабой разоркі. Тут і сам правальваешся ў снег як не па пахвы. Слаўка разагрэўся, упацеў, ажно дыхаць цяжка. Але яшчэ трохі — і гэты глыбокі снег скончыцца. Перад самай хатай кусты расступіліся, стала бачна, што Курашчуп тут прабягаў каля сця-

ны, пасля павярнуў за плот, якім абгароджаны стары, збуцвелы свінушнік. Свінушнік без страхі, адарваныя латы бязладна звісаюць з крокваў.

«Цю-цю!» — хацеў паклікаць Слаўка сабачку, але раптам Курашчуп азваўся з-пад плота сам. І заекатаў ён такім голасам, што Слаўку стала не па сабе. Асцярожна, каб не рыпець снегам, Слаўка падкраўся да хаткі і выглянуў з-за вугла. Аднак тое, што ўбачыў там, прымусіла яго застацца на месцы і затаіць дыханне, калоцячыся ад страху.

Так, Курашчуп быў тут. Але было падобна на тое, што трапіў ён у вялікую бяду. Калматы сабачка быў зачынены ў цеснай загарадцы, а за ім з кіем у руцэ бегаў сам Інго Мэгусь. Бедны Курашчуп тыцкаўся мордачкай у шчыліны паміж частаколін, але дзіркі былі замалыя, каб ён мог вырвацца на волю. Сабачка апантана мітусіўся па загарадцы, часам Інго даставаў яго сукаватым ражном, і тады Курашчуп крыўдліва, жаласна цяўкаў. Інго Мэгусь цяжка дыхаў, валасы распатлаліся, і на яго было боязна глядзець.

Раптам Інго кінуў ламачыну, укленчыў і на каленях напоўз да Курашчупа, змяніўшы злосць на ласку.

— Цюцік, цюцік! — клікаў ён сабачку.— Ах, ты мой харошы.

Інго Мэгусь, відаць, меў намер загнаць Курашчупа ў свінушнік, дзе яго будзе лягчэй злавіць. Інго дратаваў каленямі снег, поўз да сабачкі, працягваў кашчавыя рукі, і Курашчуп, адбрэхваючыся, кусаў яму пальцы. Снег каля свінушніка быў акрываўлены, набракаў цёмнымі плямамі. Курашчуп вішчаў, скакаў на плот, але частакол быў высокі, і сабачка падаў назад, тыцкаючыся агузкам у снег.

— Цюцік, цюцік!

Скасабочаныя дзверы ў свінушніку былі адчыне-

ны, і Мэгусь стараўся завабіць сюды Курашчупа. Той, відаць, разумеў, што там яго чакае пагібель, усяляк абмінаў дзвярны праём. Нечакана, злаўчыўшыся, Інго хапіў з акрываўленага снегу ламачыну і з усяго маху апусціў яе на Курашчупа. Кій дастаў якраз па галаве, і сабачка, ашаламіўшыся, слепа папоўз у свінушнік. Радасны хрып вырваўся з грудзей Мэгуся. Ён кінуў ламачыну, ускочыў у свінушнік і зачыніў за сабою крывыя дзверы.

Слаўка стаяў за рогам хаты ні жывы ні мёртвы. Ён баяўся варухнуцца, баяўся кашлянуць, а холад пачаў ужо забірацца яму пад паліто, і ногі ў валёнках пачалі мерзнуць. У свінушніку стаяў вэрхал, чуўся прарэзлівы сабачы віскат. Раптам там усё сціхла, і Мэгусь вылез са свінушніка. У руках ён нёс Курашчупа. Курашчуп ужо быў мёртвы, але Інго ўсё яшчэ круціў яму шыю. Было чутна, як хруснулі пазванкі, сабачая галава бездапаможна абвісла,ываліўся мокры язык. Мэгусь кінуў Курашчупа на снег, а сам, прыпершыся да шула, аддыхваўся, цяжка соп, выціраў з ілба пот. Рукі яго былі запэцканы ў сваю і сабачую кроў.

Слаўка хацеў закрычаць ад жаху, ды не хапіла голасу. Першай да яго вярнулася здольнасць варушыць нагамі і рукамі. Ён уцякаў ад гэтага воўчага логава, і кусты балюча білі яго намерзлымі галінкамі па шчоках. Білі, мусіць, за здраду, за баязлівасць. На палоні ўвушшу засвістаў вецер, і здавалася, што гэта вішчыць Курашчуп. Слаўка блытаецца ў сумётах, падае, падымаецца. У валёнкі і рукавы набілася снегу, але Слаўка не чуе холаду. Пакуль убег у вёску, засопся, змарыўся, ногі не слухаюць. Ясянец намерзлымі вокнамі здзіўлена глядзіць на яго: што гэта сталася з хлопцам?

Ужо ля самай дзедавай хаты Слаўка пачынае плакаць. Гарачыя слёзы застываюць на марозе, апякаю-

чы шчокі. Тут вяртаецца яшчэ адна здольнасць: аказваецца, Слаўка можа крычаць:

— Баба! Бабулечка!

Бабуля, блытаючыся ў сваіх шырокіх спадніцах, выбягае насустрач, спалохана глядзіць на ўнука:

— Кажы хутчэй, што з табою? Чаго плачаш?

На Слаўку ад страху нападае ікаўка.

— Курашчупа за-ду-шыў...— ікае ён.— Назусім задушыў...

— Не вярзі абы-чаго! Хто задушыў? Якога Курашчупа?

— На-ша-га! Інго задушыў. Я сам бачыў.

Бабуля прытульвае Слаўку да сябе, вядзе ў хату, садзіць на тапчан і сама сядае побач. Слаўка пакрысе супакойваецца, і яго ўжо можна слухаць — ікаўка прайшла. Бабуля просіць расказаць усё па парадку, і Слаўка расказвае, як ён бег шукаць Курашчупа, як трапіў да Інго Мэгуся і там убачыў...

— Жывадзёр пракляты! — бабуля аж трасецца ад злосці.— То ж такі хвайны сабачка быў. Столькі яек за лета прыносіў. Дзе цяпер другога такога знойдзеш?

Бабуля топча па хаце, нешта думае, на нешта рашаецца.

— Пасядзі каля печы,— кажа яна.— Я зараз вярнуся.

Слаўка пагрэўся, разуўся, вытрас снег з валёнак, зноў абуўся. Нарэшце адчыняюцца дзверы і бабуля кліча:

— Пайшлі са мной, унучак! Я пакажу таму ваўкалаку, як душыць чужых сабак. Як улялюшчу паміж плеч, то і духу не ўкажа, акаянец!

Бабуля ваяўніча трасе тоўстым бярозавым кіем, на якім намерзлі ледзяшы. Яна, відаць, і забавілася таму, што доўга не магла знайсці важкі, замашны дрын.

— А мо ты нахлусіў, хлопчык? Занішто ж чалавека зувечу.

— Не-а, не нахлусіў. Сам бачыў.

— То пайшлі.

Бабуля ўздыхае, кожнаму сустрэчнаму расказвае, які добры быў Куранічуп і што з ім зрабіў гэты нелюдзень Інго Мэгусь.

— Што ты кажаш, бабка Мотра? — дзівіцца Струкачова Гэлька.

— Ён жа так і з Дусяй абышоўся,— хітае галавой другая суседка.

— Я яму, шкурадзёру, хрыбетнік пераб'ю,— бабуля зноў трасе бярозавым дрынам.

Суседкі далей не сустракаюцца, таму што за школай вуліца канчаецца, і Слаўка з бабуляй паварочваюць па сцежачку, прабітую ў сумётах. На снезе бачны глыбокія ямкі. Яшчэ больш іх у хмызняку, дзе Слаўка з гарачкі, яшчэ нічога не ўсведамляючы, падаў часцей.

— Не спатыкайся, унучак,— цягне за руку бабуля.

Хата Інго Мэгуся сустракае іх смуродам, горкім пахам гарэлага тлушчу. Слаўка пераступіў парог і адразу ж затуліў нос. Бабка як знерухомела. Інго Мэгусь спалохана глядзіць на яе і адступае за печ. Рукі ў яго акрываўленыя і трасуцца. Інго паспеў ужо расправіцца з Куранічупам: аблузаў шкуру і цяпер топіць з сабачага мяса тлушч. У печы гарэць дровы, на чаране стаіць чорная патэльня. У ёй сквірчыць сабачае сала, хапаецца агнём.

— Цьфу ты! Усю хату запаскудзіў,— пачынае лаяцца бабуля.— Ну, то скажы: нашто задушыў нашага сабачку?

Інго Мэгусь стаіць каля печы, патлаты, замурзаны, і з грудзей яго б'е сухі, цяжкі кашаль. Ён ха-

паецца за грудзі бруднымі рукамі, і гэтыя акрываўленыя рукі, і сам Мэгусь смярдзяць псінай.

— Чаго стаіш? Кажы!

— Не ведаў я, што ета ваш сабачка,— апраўдваецца Інго.— Каб ведаў, то, далібог, не чапаў бы.

— Добра ты ведаў, сукін сын! — бабуля поркае Мэгуся бярозавым кіем.— Каб ты так сабаку з'еў, як не ведаў!

— Праўду кажу, далібог, праўду,— божыцца Інго.— Даруйце, бабка Мотра.— Я даўно прыглядаўся, каб якога сабаку злавіць. Сухоты ж у мяне, дык трэ сабачы тлушч піць.

— Хай бы і лавіў якога другога.

— Проста сказаць. А ў мяне сілы, як у камара. Дзе ўжо там з сабакам справіцца. А тут выйшаў на двор і бачу: во еты белячок у загарадцы катлыбушыцца. Я і прычыніў варотцы.

— Каб ужэ цябе самого прычынілі,— кляне бабуля Мэгуся, але злосці ў яе голасе ўжо менш.

— Усе вы мяне хочаце са свету зжыць,— адкашляўшыся, гаворыць Інго.— Во крывёй харкаю. А каб хто добрае слова сказаў. Во і Дусю мне прыпісалі. А я яе, можа, і пальцам не крануў.

— А хто з паліцаямі бегаў? А хто кублы чужыя патрашыў? А хто з хронту ўцякаў? Усё ты — Інго. А яшчэ крыўдзішся. Дыму без агню не бывае.

Інго стаіць, апусціўшы галаву, нічога не гаворыць, ды і гаварыць яму, мабыць, няма чаго ў сваё апраўданне.

— Пайшлі, унучак,— бабуля цягне Слаўку за рукаво.— Пайшлі адсюль...

Напаследак Слаўка аглядае Інгову хату. Сцены з сярэдзіны чорныя як сажа, бо даўно ўжо не бачылі мелу. На падлозе гугі бруду. Ад печы месцамі адваліўся тынк, і печ адтаго здаецца пярэстай. У качарэжніку, згомчаная ў клубок, ляжыць пушыстая бе-

ленькая шкурка з чырвонымі плямкамі на поўсці. Слаўка пазнае яе і ўздрыгвае.

— Пайшлі, унучак, чаго прыпыніўся? Тут задыхнуцца можна.

— Сухоты, я кажу, у мяне,— спрабуе раздобрыць бабулю Інго.— Трэба сабачы тлушч піць.

— От, жыві сабе,— махае рукой бабуля і адчыняе дзверы.— Жыві...

Яны ідуць зноў па той жа дарожцы, якую, бегучы да сваёй пагібелі, пралажыў Курашчуп. Бабуля маўчыць, думае, ідзе, апіраючыся на бярозавы кій, потым спыняецца, прыкладвае далонь да Слаўкавага лба.

— Гарачы,— трывожыцца яна.— Мусіць, моцна спужаўся?

— Але, спужаўся.

— Трэба зноў выліваць уляк. От галава: не помню, дзе я той воск палажыла?

— У нас за асадкай.

— То і добра. Спужанне не трэба зацягваць — трэба адразу лячыць.

Бабуля ідзе першай, месіць глыбокія сумёты, потым зноў паварочваецца да Слаўкі:

— Ты ж хоць дзеду не скажы пра Курашчупа. Чаго добрага, узлуецца ды пабяжыць, заб'е етага ваўкалаку. А тады што? Астрог. Ты любіш дзеда?

— Люблю.

— То і не кажы нічога.

— Добра, не скажу.

І яны зноў ідуць па сухім, сыпкім снезе. Над Ясянцом стаіць чырвонае зімовае сонца, але цяпер, апоўдні, снег так не іскрыцца, як уранку.

## 4

Трашчаць калядныя маразы. Па начах гулка страляюць сырыя сцены, вецер вые ў коміне. Раніцай бяроза ля акна стаіць белая, як снягурка. Вогкі іней шапкамі вісіць на гнуткім вецці, і нават вароны, якія прылятаюць сюды падкарміцца, не могуць асыпаць снег з галін. Ясянец па самыя стрэхі застраг у сумётах, і з іх яму ўжо не выбрацца да самай вясны. Над заснежанымі хатамі кучаравяцца шызыя дымы, сцелюцца над платамі, пахнуць смажанінай, здорам, а то раптам вецер прыпясе аднекуль гаркаваты пах падгарэлай брагі.

Ясянец святкуе каляды, і робіцца гэта з густам і смакам, як заўсёды, на шырокую нагу. Ледзь не ў кожнай хаце гудзе застолле, звіняць калядныя песні, а дзе-нідзе не абыходзіцца без сваркі. То адзін, то другі ясянчук, якому сёння і мора па калені, раптам занаровіцца, уцячэ з дому, п'е гарэлку дзе-небудзь у суседзяў, пакуль тут яго не залыгае жонка. Небарака пляцецца назад пад канвоем, ледзь цягнучы ногі праз сумёты.

Слаўкаў бацька разгавеўся раніцай з дзедам, а потым трапіў у госці да Антося Струкача. Там дабавіў яшчэ і выскачыў на двор у адной кашулі. Ля парога пакаўзнуўся, упаў, потым падняўся і, заграбаючы ботамі снег, кінуўся да плота, пачаў адрываць кол ад прасла. Выскачыў Струкач, абхапіў бацьку за плечы, марскануў ад плота, стаў сарамаціць:

— Здурэў ты хіба, Юзік? Не смяшы людзей? Каго ж ты біць уздумаў?

Бацька перастаў вырывацца з дужых Струкачовых рук, абвіс на плоце, выдыхнуў з сябе:

— Усіх буду біць! А Мэгуся — першага. Я яго, суку, на той свет адпраўлю...

— Грэх на душу возьмеш.

— А мне цяпер чалавека забіць, што плюнуць. Мала я на хронце тых паганцаў пастраляў?

Бацька хіснуўся, ледзь не ўпаў, усё ж неяк астояўся і раптам заплакаў, ірвануўшы кашулю на грудзіне. Гузікі пстрыкнулі ў снег.

— Анюта, чуеш, Анюта? Чаму ты не са мною?

Прыбеглі дзед з бабуляй, на шум выйшла з хаты Струкачова Гэлька. Ісці ёй цяжка, таму што з сукенкі выпірае цца вялікі жывот. Гэлька ўбачыла расхрыстанага суседа, дакорліва захітала галавой:

— Што ж ты робіш, Юзік? Сараматнік! Бога пабойся. Такі святы дзянёк, а ён бачыш, што вычварае!

Падышла бабуля, таргапула бацьку за рукаво:

— Супакойся, сынок. Што было, таго ўжо не вернеш. Вунь і Слаўка глядзіць на цябе.

— Дзе Слаўка? Ідзі, хлопчык, да мяне. Бацька твой п'яны... Бо самы няшчасны чалавек на свеце...

Убачыўшы сына, бацька здаўся на ўгаворы, згадзіўся ісці спаць. Струкач з дзедам пад рукі прывялі яго ў хату, падсадзілі на печ, сцягнулі з ног боты. Бацька адразу ж захроп.

Шчыруюць калядныя маразы. Гулка патрэскваюць заснежаныя вязы каля дзедавай хаты.

Па вуліцы чародкамі прабягаюць дзяўчаты, паважна, з форсам праходзяць хлопцы. Боты ў іх пароблены гармонікамі, з халявак тырчаць «вушкі». Такая ў Ясянцы мода.

Хлопцы і дзяўчаты рымсцяцца справіць кудзельніцы. Усё ёсць: і добры настрой, і музыканты, а памяшкання няма. Хто ж пусціць гульбішча да сябе ў хату? Здратуюць падлогу, што і за тыдзень не адмыеш. Сяброўкі ўгаварылі Папісіну Зіну пайсці да бабулі і папрасіць, каб яна дазволіла справіць кудзельніцы ў новым дзядзькавым доме.

— Проста не знаю, што і казаць? — задумваецца бабуля.— Мне-то і не шкада сынавай хаты. Хай бы сабе і павесяліліся. Але ж па Анюце яшчэ жалоба не прайшла.

— То саракавіны па цётцы ўжэ былі,— удакладняе Зіна.

— Саракавіны адно, а жалоба — другое. Цэлы год няможна радавацца. Прама не ведаю, што і сказаць вам.

Зіна і дзяўчаты, якія прыбеглі ёй на падмогу, ледзь што не з'ядаюць вачыма бабулю — так ім, бедненькім, прыперла пусціцца сёння ў скокі.

— Вось што. Пайду я да суседзяў,— кажа бабуля.— Што яны парадзяць, так і зраблю.

Бабуля толькі што адлучылася з хаты, а дзяўчатам здаецца, што з таго часу прайшла цэлая гадзіна. Яны нецярпліва выглядваюць у вокны, не могуць пасядзець на месцы. А вось і бабуля.

— Можна,— гаворыць яна.— Сваім няможна, а чужым можна. Вядзіце свайго гарманіста.

— Бабулечка! — крычыць Зіна і цмокае бабульку ў запалую, сухую шчаку.— Якая ты харошая!

— Ат, ідзіце, балаболкі!

Божа мой, якая ж тут пачалася бегатня, тупаніна! Аднекуль, як з-пад зямлі, вынырнулі хлопцы, і вось ужо ў Слаўкавым доме стаяць сталы, засланыя беласнежнымі сурвэткамі. Дзяўчаты зрабілі дзёрзкі налёт на свае паграбы і кублы, і вось ужо на сталах цесна ад місак з каўбасой і салам, са студзенем і шаткаванай капустай. А печ чорнымі вейкамі юшак падміргвае хлопцам: маўляў, і гэта яшчэ не ўсё. У печы нешта сквірчыць, нешта варыцца.

Слаўка першы дапяў да тых багатых сталоў, наеўся, напіўся і яшчэ ў кішэні нечага напхаў. Дзяўчаты, як птушкі, лётаюць па хаце, штурхаюцца, смяюцца, а ў хлопцаў дык і клопат мужчынскі: яны —

па адным, а то і купкай — заходзяць у хату і, яшчэ не распранаючыся, ставяць на сталы і падаконнікі паўтарачкі і паўлітроўкі, закаркаваныя кудзеляй. Косцік Падгайскі з пашанай аглядае ўбранства сталоў і, відаць, застаецца задаволены.

— Проша сядаць! — на польскі манер запрашае ён, і гэта значыць, што кудзельніцы пачаліся.— Ну, што пасталі? Калі ласка, за сталы.

Стаіць вясёлы піск, смех. Сам Косцік Падгайскі лезе за стол, дзе сядзіць Зіна.

— Па поўнай налівай!

— Святкаваць дык святкаваць!

— Родзя, не шчыпайся!

Цяпер Слаўку няма чаго рабіць каля гэтых кудзельнікаў, і ён ідзе на кухню. З печы даносіцца бацькава пахрапванне. На лаўцы ляжыць пашарпаны гармонік, а ля шкапчыка стаіць бубен з бліскучымі меднымі талеркамі. Вядома, які музыкант Слаўка, але ён бярэ гармонік, рыпае на ім, выціскае нейкія хрыплыя гукі. Ну яе, з такой музыкай! Слаўка хапае булавешку і з усёй сілы лупіць па сабачай скуры, якою з двух бакоў абцягнуты шырокі жалезны абруч. Бубен гудзе на ўсю хату, і на яго рэў з святліцы выбягае Косцік Падгайскі.

— Паграць захацеў? Калі-небудзь навучу, а цяпер паглядзі збоку, як граю я.

Гармонік у Косцікавых руках плача, усхліпвае, стогне. Гэта Косцік прабуе галасы, бяздумна перабірае пальцамі лады, а потым пачынае граць сур'ёзна. Гарманіст рэжа польку, і галава яго хітаецца ў такт музыцы. Косцік прытупвае нагой, трасе чубам і гукае на другую палавіну хаты:

— Гэй, вы, паскакухі! Ці доўга я граць буду аднаму Слаўку?

Там грымяць столкі, звініць пасуда, падаюць відэльцы, а праз момант усе дзяўчаты ўжо таўкуцца

на кухні. З разгону яны пускаюцца ў скокі, і сцены аж дрыжаць ад іхняга тупання.

— Ух-х, я, ух-х, я, ах ты долечка мая!

За полькай ідзе сербіянка.

— Сербіянка, мая мамка, не хадзі па вуліцу...

За сербіянкай — барыня за барыняй — мяцеліца. Дзяўчаты ўжо стаміліся, дзяўчаты ўжо ледзь не падаюць з ног, а гарманіст без пярэдыху перабірае гузікі ладоў. Нарэшце Косцік дае танцорам адпачыць, гармонік усхліпвае і змаўкае. Дзяўчаты разбягаюцца па кутках і, вышморгваючы з рукавоў хусточкі, выціраюць узмакрэлыя твары. Хутка гэтыя хусточкі тырчаць з хлапцоўскіх кішэняў. У Ясянцы такі звычай — забіраць ад дзяўчат хусточкі. У куце, за вешалкай, Родзя Заяц заціснуў Вольку і нешта ёй шэпча на вуха. У хату на гукі музыкі набілася поўна баб, і яны з цікаўнасцю пазіраюць у бок вешалкі, перашэптваюцца:

— Цікава, ці ёсць у Папіхі добры кабан?

— А навошта?

— Як жа? Вунь маладыя любяцца.

Гэлька Струкачова глядзіць у другі кут і весела гаворыць бабам:

— Дык трэба два кабаны. Вось жа і Зіна з Косцікам.

— Бедная Папіха!

Плача і галосіць гармонік, гулка бухае бубен. Ад духаты ў хаце пачынаюць адтаваць вокны, з падаконнікаў сцякае вада. На дварэ ўжо надвячорак. Хутка сцямнее зусім. Слаўка хоча спаць, але дзе тут адпачнеш, калі гэткі гармідар у доме? Сцены трасуцца, а на печы, нічога не чуючы, спіць бацька. Калі працверазее, то, напэўна, здзівіцца: адкуль гэтулькі людзей?

Слаўка пліпічыцца паўз баб, навобмацак ціснe на слясак клямкі, і дзверы адчыняюцца, пацягнуўшы

за сабой Слаўку. Ля парога сядзіць і енчыць кот. Капрыз ужо забыў пра сякеру, хвост ужо загаіўся, кот енчыць, таму што хоча есці. Слаўка ўспомніў, што ў кішэні ляжыць вантрабянка, і крышыць кілбасу згаладаламу кату.

— Еш, кіска, еш!

Успомніўся Курашчун, і Слаўка ледзь не плача. У руцэ яшчэ застаўся добры лычык вантрабянкі, але каму яе даць? Уздыхнуўшы, Слаўка запіхвае кілбасу ў кішэню і хуценька бяжыць цераз вуліцу ў хатку пад вязамі. Расчыпяе дзверы і крычыць:

— А вось і я!

— То і добра, што прыйшоў,— кажа бабуля.— Я ўжо сама хацела па цябе ісці. Ды і Юзіка трэба будзіць. Зараз вячэраць будзем.

Каля печы стаіць Папіха, ружовая з холаду, на хустцы, як дыхала, асеў іней — зайшла ў хату перад Слаўкам.

— Папільную, каб мае сучкі тут не скруціліся,— тлумачыць яна бабулі.— Ведама ж, маладыя, дык дзе той розум у іх?

Ад дзвярэй, як заходзіў Слаўка, дыхнула холадам, а ў хаце востра запахла летам. Пахнуць травы. Іх бабуля з вясны збірае па лужках і лясных расцяробах. Сцены хаты скрозь увешаны торбачкамі, з якіх высоўваюцца то чабор, то светаяннік. У хаце пахне мятай, верасам, зуброўкай. Травамі бабуля лечыць і сябе, і суседзяў, калі яны прыходзяць са сваімі хваробамі. Грошай не бярэ, бо добра ведае, як напакутаваліся людзі без доктара. А, лічы, нямала прайшло ўжо часу, як немцы павесілі Дусю. Год сем ці восем будзе. Канечне ж, пасляваенная разруха, дзе тых дактароў набярэшся? Добра і так, што ў Ясянцы ёсць бабуля Мотра са сваімі пахучымі травамі.

— Як хораша пахне! — круціць носам Папіха.— Бытта на луг трапіла.

— Праходзь да стала, Альбіна,— кліча яе дзед.— У нагах праўды няма.

За сталом дзед не адзін. Аблакаціўшыся на цыратавы абрус, каля дзеда сядзіць Сцяпан Баразна і курыць. Ён дужа паважае дзедаў мультан і таму часта наведваецца ў госці. Вялізны, з кутасамі, капшук ляжыць перад ім на стале. Па гушчыні дыму ў хаце можна меркаваць, як Сцяпан моцна любіць дзедаў тытунь.

— Пасунься, дымакур! — Папіха штурхае Баразну ў плячо.— Мо і я сесці хачу.

— То хіба я не даю?

Папіха скідае з галавы кашміроўку, расшпільвае гузікі рыжай аблезлай плюшаўкі, аглядае хату.

— А дзе ж Юзік? Нешта не відаць яго.

— Дома. Дзе ж яму быць! — уздыхае бабуля.— Разгавеўся з раніцы, то цяпер ніяк не адаспіцца. Ой, бяда з ім, каб хоць зусім не спіўся наш Юзік.

Папіха згодліва ківае галавой.

— Але, бяда! А што думаеш, мама? Ён за Анюту ўсё яшчэ перажывае.

— Мэнчыцца душой, хоць віду не паказвае. Зноў жа з Лазінай няскладна выйшла.

Папіха кліча да сябе Слаўку, бярэ на калені, гладзіць жорсткія, як драцяныя, валасы.

— Шкадуеш, Слаўка, бацьку?

— Шкадую!

— От каб не піў, то добрым чалавекам быў бы.

Але, з бацькам проста-такі бяда. Зусім адбіўся ад рук. Дамоў прыходзіць позна, а што заробіць, дык у той жа дзень спусціць у магазіне. Тыя разы хоць цукеркі і пячэнне прыносіў. А цяпер забыў бацька пра Слаўку — нічога не прыносіць. Аднойчы бабуля спрабавала паўшчуваць яго, але бацька злосна агрызнуўся:

— Не прыставай, мама. І без таго моташна на душы. Лепей бы мяне там, на хронце, забіла, чым жыць от так.

— Дурань ты, Юзік. Дурань і ёсць.

Але бабуля адступілася, не прыстае больш да бацькі, калі той прыходзіць, выкачаны ў снезе.

— Сап'ецца Юзік,— бядуе яна.— Бо слабавольны, як цеста.

Папіха перастае гладзіць Слаўку па галоўцы, задумваецца і, прасветленая нейкай ёмкай ідэяй, горача гаворыць:

— Ведаеш, мама? Трэба Юзіка ажаніць. На Лазіне спатыкнуўся, дык не ўсе ж бабы такія. А етага пустацвету па сённяшнім часе хоць гаць гаці.

— Разумныя твае словы,— сумна ўсміхаецца бабуля.— Ды толькі не паслухае нас Юзік. Ён жа і пагаварыць не даецца. Яшчэ ацёмначы на работу, у сваю амтаес, уцякае.

Сцяпан Баразна круціць новую самакрутку, прыслухоўваецца да размовы, потым паварочваецца тварам да жанок.

— Я пагавару з Юзікам,— кажа ён.— Я на такія штукі дужа здатны. Усё жыццё тым і займаюся, што сватаю жаніхоў.

— А мой ты браток! — радуецца Папіха. Яна аж прыўстала з тапчана.— Няўжо пагаворыш?

— Канечне! Я сказаў, так і будзе.

— Добра б і кабету знайсці талковую. Каб не шалахвостка якая.

— І кабета ёсць на прыкмеце. Каля Сіняўкі, у Звонцы, яна жыве. Немаладуха, канечне, але з рабацяшчага роду.

— Паедзь, Сцяпан, пагавары з ёю,— просіць бабуля.— За намі не станецца. Трэба ж неяк Юзіка ратаваць.

— Сам бачу.

Сцяпан Баразна падымаецца з-за стала, ідзе да дзвярэй і, ужо ўзяўшыся за клямку, зноў абяцае:

— Як-небудзь падскочу ў Звонку. І Юзіка з сабою вазьму... Мо злюбяцца як...

— Дай божа!

— Пачакай, Сцяпан. І я ўжэ іду.

Паніха яшчэ не ведае, што ёй трэба калоць за раз два кормнікі, і, на хаду зашпільваючы плюшаўку, бяжыць у парог.

— Ой, бяда з етымі дзяўкамі. Пайду напільную.

Дзверы адчыняюцца, і ў хату разам з марозам урываюцца пошчак бубна, пераборы галасістага гармоніка. У новым Слаўкавым доме, напэўна, дрыжаць сцены: адно ж раз у год хлопцы і дзяўчаты гуляюць вясёлыя кудзельніцы. Таму і дрыжаць сцены ў доме пад заснежанай самотнай бярозай.

— Слаўка, лезь на палок. Буду тушыць лямпу,— кажа бабуля.

У хаце становіцца цёмна і ціха. Толькі чуваць, як на двары свішча вецер, шалпоча за сцяной сухім снегам. Напач зноў узяўся добры мароз. Ён будзе стаяць да самых грамніц. На грамніцы, калі певень нап'ецца вадзіцы, сонца паверне ўжо на вяспу.

## Раздзел шосты

### 1

За гэты час, калі бушавалі завірухі і трашчалі маразы, Лазіна ні разу не паказалася ў Ясянцы. Мо таму перашкодзілі заснежаныя дарогі, а мо Лазіна чакае, што аднойчы па яе прыедуць і прывязуць, як паню, назад у новы дом з блакітнымі акаліцамі, які так няласкава абышоўся з ёю.

Там, у сваёй Папачы, Лазіна дарма ўглядаецца

ў заснежаную далеч: ніхто па яе і не збіраецца ехаць, Слаўка, калі і сумуе, то, канечне ж, не па мачысе. Іншы раз яму хочацца ўбачыць цётку Зосю, іншых маміных сясцёр, але тыя таксама не прыязджаюць у Ясянец. Мусіць, здорава пакрыўдзіліся за каву, якую з'еў Слаўка. Каб не з'еў, то і не загарэўся б сыр-бор.

На двары гуляе мяцеліца. Каля варотцаў, пад вязамі, толькі што быў відзён санны след. На лёгенькім вазку Сцяпан Баразна ўсё-такі павёз бацьку ў сваты. Пакуль выбіраліся ў дарогу, Жук, накрыты дзіравай гунькай, нецярпліва перабіраў нагамі. Ён замёрз на холадзе і, як толькі Баразна зняў гуньку, узяў у рукі лейцы, конь, застаяўшыся на марозе, адразу рвануў бягом — і падганяць не трэба.

— Чакайце вечарам,— паабяцаў Баразна, а бацька нават і галаву не падняў. Сядзіць, захутаўшыся ў кажух, і маўчыць, як бы нечага саромеецца.

— Дай бог, каб усё добра было,— перахрысціла іх бабуля.— Каб з пустым не вярнуліся.

Яна стаяла каля варотцаў, пакуль рыжы вазок не згубіўся ў снежнай каламуці. Падмятаючы снег шырокай спадніцай, бабуля ідзе ў сынаў дом, сказаць унучкам, каб добра прапалілі ў печы, а санны след на вуліцы ў момант засыпаў снег. Дзіва, такая ўсхадзілася кудаса!

Да самага вечара бабуля не знойдзе сабе месца: то стаіць ля акенца, то выглядае на дарогу. Не абы-які клопат рупіць бабулю.

— Едуць! Едуць! — Слаўка першы ўбачыў вазок, які светлай плямай нечакана выкуліўся з-за высокіх сумётаў.

Накінуўшы на сябе кабат, бабуля за Слаўкам выбягае на двор. І Жук, і вазок, і самі вазакі белыя, быццам з пыцеля прыехалі. Бабуля глядзіць на заснежаных вазакоў, нічога не пытае, спрабуючы на іх

паводзінах пазнаць, з якой навіной вярнуліся яны. Бацька вядзе вазок да хлява, распрагае каня і зачыняе ў хлеў, а Сцяпан Баразна, хукаючы ў рукі і прытупваючы нагамі, ідзе ў хату.

— Пагрэй рукі, Сцяпан,— кажа бабуля і вымае з печы заслонку.

З печы шыбае гарачы дух, Сцяпан Баразна суне пакрэплыя рукі ў чалеснік, у самае цяпло. Губы ў яго здранцвелі ад холаду. Сцяпан хоча нешта сказаць, але не можа.

— Грэйся, грэйся, потым скажаш,— бачыць яго пакуты бабуля.— Чую, што з добрым прыехалі.

Сцяпан Баразна, трошкі сагрэўшыся, паварочвае ад печы галаў.

— З добрым, ды не зусім.

— Як ета — не зусім? — трывожыцца бабуля.

— Не хвалюйся, бабка Мотра. Дзеўку твайму Юзіку я ладную сасватаў. Руплівіца!

— Ды ты пра тое гавары...

— Я і гавару. Словам, прыехалі мы ў Звонку. Расказаў я, хто мы і чаго прыехалі. Нас адразу за стол, яечню на стол. Ну, і гэта самае...

— Гарэлку, канечне.

— Але, гарэлку. Кацярына, так завуць тую дзеўку, згадзілася ісці за Юзіка. А вось маці яе, дык чыстая халера! Адну ўмову яна паставіла...

— Якую ж? — непакоіцца бабуля.

— Вяселле трэба гуляць, от што. Кажа, без вяселля — якое ж ета замужжа?

Бабуля сама не свая ад новай бяды.

— Бачыш ты — вяселле! — услых разважае яна.— Патраціцца прыйдзецца. Не, я не пра расходы. Канечне ж, сёе-тое знойдзецца, каб справіць гульбу. Я пра другое. Ці ж можна так? Увосень былі хаўтуры, а праз паўгода — вяселле. Што людзі пра нас скажуць?

— Анічога не скажуць,— суцяшае бабулю Сцяпан Баразна.— Самі ж бачаць, як тут павярнулася. І нябожчыца Анюта не пакрыўдзіцца. Усё ж робіцца, каб яе Слаўку лепей жылося.

Бабуля сядзіць задуманая, збянтэжаная, у пэрым сваім кабаце, які спераду, дзе бралася рукамі, вышмуляваны, бліпчыць ад тлушчу. Памаўчаўшы, яна пытае ў суседа:

— І на калі ж тое вяселле назначылі?

— Праз тыдняў два, кажуць, можна спраўляць...

— А божачкі! Ці ж паспеем?

— А што тут бедаваць? Мы, суседзі, паможам.

— Хай так і будзе,— рашае бабуля.— І ўсё ж ета грэх, грэх вялікі.

З двара вярнуўся бацька, потым прыйшоў дзед, мужчыны павячэралі, і ўжо апёмначы Сцяпан Баразна пасунуўся дахаты. А назаўтра ўвесь Ясянец даведаўся, што Давыдчыкі рыхтуюцца да вяселля. Хто там што казаў, бабуля не надта прыслухоўвалася, а вось ад помачы суседзяў не адмовілася. Сцяпан Баразна і Антось Струкач зарабілі па кадушачцы брагі і выціснулі добрай самагонкі. Бабуля зліла яе ў бітон з-пад малака і, каб ніхто не бачыў, схавала пад палок, абкруціўшы бітон анучамі. Зіна і Волька як апантаныя лётаюць па Ясянцы, зносячы відэльцы, міскі, талеркі. А ў дзеда і бацькі іншы клопат. Дзед, прыгнуўшыся ля акна, точыць на бруску шыла і вялікі, як каса, нож.

— Заўтра на цямочку і абвалім,— кажа ён бацьку.

— І якога ж япрука вы хочаце зачавіць? — пытаецца бабуля.— Свайго ці таго, што з Панáчы?

Дзед выпростваецца, глядзіць на бацьку: ён гаспадар, хай сам і рашае.

— А на халеру карміць яго? — нахмурыўшы бровы, разважае бацька.— Во абвалім, і ўсё тут.

— Каб жа потым звягу не было?..— сумняваецца дзед.

— Які звяг! Мо паўкапца нашай бульбы спёр, дак чаго тут баяцца?

— І праўда, паўкапца з'еў,— хітае галавой бабуля.

Яна, здаецца, задаволена такім паваротам справы. Свой япручок хай пастаіць да вясны, а Лазінінага ёй не шкада. І ўсё ж бабуля абачліва радзіць:

— На цямочку смаліце, каб людзі не бачылі. Мала што...

Яна прачынаецца першай і адразу распальвае ў печы, ставіць вялікія чыгуны, каб грэлася вада. Сёння вады спатрэбіцца не адно вядро. І мужчыны ўжо на нагах. Узяўшы начынне, яны ідуць у хлеў. Адтуль хутка даносіцца квік, будзіць Слаўку, які начуе ў бабулі. Япрук доўга не даходзіць, квічыць, і Слаўка ведае, што мужчыны цяпер сядзяць на ім вярхом, трымаюць, каб не ўцёк. Япрук соўгае нагамі, апошні раз выпроствае іх, а падняць іх пад чэрава ў яго ўжо не хапае сіл. Квік ля хлява сціхае.

— Усё, дайшоў,— чамусьці шэпча бабуля.

У шыбах стаіць бляск. Адцягнуўшы далей ад хлява, дзед з бацькам смаляць япрука. З саломы круцяць вехці, і тыя вехці гараць зырка, асвятляючы ўвесь пападворак. Пачынае развідняцца, Слаўка, не ўцярпеўшы, хапае з тапчана палітко і выбягае з хаты.

— А вось і я...

— Ну, пастой паглядзі,— дазваляе бацька.

Япрук ляжыць на чэраве, чорны, як асмалак. Снег пад ім растаў, і туша глыбока апусцілася ў сумёт. Снег пахне гарэлай шчэццю, паленай саломай. Япрука пераварочваюць на спіну, дагары нагамі. Палаючым вехцем дзед высмальвае пахвіны, складкі на нагах, а пасля, нагрэўшы капытцы, круціць іх і «разувае» япрука. Сарваныя капытцы кідае ва снег.

Шыпіць сырая шчэць, пахне паленай саломай. З разяўленай зяпы ў япрука тырчыць камень. Гэта для таго, каб не папарыліся кішкі. Мужчыны стараюцца добра высмаліць свіную галаў, вушы, ногі. Нарэшце бацька кідае на снег астаткі вехця і просіць Слаўку:

— Пабяжы, сынок, хай бабка нясе ваду.

На снезе дымяцца вехці. Салома-праміца тут больш не патрэбная. Дзед бярэ куль, які застаўся, і нясе ў хлеў, а выходзіць адтуль з абярэмем пакамечанай саломы. Чорную тушу абліваюць гарачай вадой, ухутваюць саломай, якую прынёс дзед. Мужчыны сядаюць на япрука, прыціскаюць салому і чакаюць, калі гразь на ім адапрэе.

— А бытта і нічога сабе япрук,— прыкідвае дзед.— Сала павінна трохі быць.

— Ды няўжэ ж. Столькі картоплі зглуміў,— кажа бабуля, якая на момант адарвалася ад гарачай печы. Паглядзела, што робяць мужчыны, бразнула пустымі вёдрамі.— Чаго ж я стаю? Яшчэ ж трэба вады.

— Можна скідаць салому,— камандуе дзед.— Будзем мыць.

Мужчыны скрабуць, чысцяць і мыюць япрука так старанна, што абодва аж упацелі ад работы. Дзед завіхаецца з касой, а бацька лье яму пад рукі гарачую ваду. Япрук ніколі пры жыцці не быў такі чысты, як цяпер. Ляжыць сабе гладзенькі, жоўценькі, і нічога яго больш не турбуе. Закасаўшы рукавы, бацька бярэ вялікі востры нож і тут жа на двары пачынае разбіраць гэтага гладзенькага чысцёху. Зразае з чэрава гузічкі цыцак, адшчыквае кончык хваста і лыча, сыпле ўсё гэта Слаўку ў далонькі і просіць занесці ў хлеў, выкінуць у котусе, дзе стаяў япрук.

— Навошта, тата?

— А ета для таго, каб у нас свінні вяліся. Разумееш?

— Разумею,— кажа Слаўка, хоць сам і праўда нічога не разумее.

Бацька вялікі майстар рабіць свежаніну. Не праходзіць і паўгадзіны, як амаль увесь Лазінін япрук перанесены ўжо ў хату. На стале, на тапчане, на падаконніку ляжаць, астываючы, чырвоныя дымныя кавалкі мяса. Бацька паласуе плахі сала, а Зіна і Волька носяць іх з двара ў хату. Яны таксама не вытрпелі, прыбеглі да бабулі на свежаніну. А раз так, то трэба і памагчы.

На тым месцы, дзе ляжаў япрук, засталася чорная вытаптаная пляма, снег ружовы ад крыві. Дзед прыносіць драўляную лапату і засыпае чорныя і ружовыя плямы чыстым снегам, прытупвае яго нагамі, каб не разнёс вецер.

— Хутка, аднак, управіліся,— кажа дзед.— Быстра ты яго ўходаў.

Выціраючы нож мокрай анучкай, бацька сціпла адзываецца:

— Добра хоць, што буры не было. Каб завіруха была, то наўрад ці справіліся б.

— Але, ціха сёння. То пайшлі ж у хату. Рукі будзем мыць.

А з хаты ўжо шыбае ў нос саладкавы, дзіўны пах смажанай свежаніны. Бабуля пячэ мяса і не шкадуе яго. Каб Лазіна забрала япрука, то ніякай свежаніны і не было б. А так увесь стол застаўлены міскамі, і ў печы яшчэ скварчыць і шыпіць на патэльні.

— Сядайце і не застуйце мне,— завіхаецца бабуля каля стала.— Цесна, праўда, але як-небудзь усе памесцімся.

— Не турбуйся, бабка. Мы ж не ў гасцях,— разважліва гаворыць Зіна.

— Усім месца хопіць,— дадае Волька.

— Я ў дзеда на каленях сяду,— пішчыць, падскокваючы, Слаўка.— І буду мяска любіва есці.

— Еш, унучак,— смяецца дзед.

Сквірчыць у печы патэльня, а шумлівае застолле дружна налягае на свежыну. Хутка ў Слаўкі блішчыць падбародак ад туку, хочацца яшчэ мяска, ды жывот больш не прымае. Слаўка выкараскаўся з-за стала і пугае ля вядра ваду. «Хіба што ёсць смачнейшае за свежыну?» — думае ён.

На двары чуецца скрып снегу, нехта шкрабецца ля парога, потым бразгае клямка, у хату заходзіць Папіха.

— Так і знала, што спазнюся! — расчаравана гаворыць яна.

— Праходзь, дачушка,— падымаецца з-за стала дзед.— Хопіць тут на ўсіх. І яшчэ можна прыпячы.

— Праходзь, Альбіна,— запрашае і бацька.— Чарачку во выпі.

Папіха частуецца свежанінай, а потым бярэцца памагаць бабулі. Яна і прыйшла дзеля таго, каб памагчы. Гэтыя ж яе шалахвосткі, Зіна і Волька, нічога не разбіраюцца ў такіх справах. У начоўках з вадой ляжаць вантробы. Іх трэба разабраць, аддзяліць здор, пачысціць кішкі.

— Кілбасы будзем рабіць? — калупаючыся ў начоўках, пытае Папіха.— На лета добра было б.

— Хто яго ведае? — задумваецца бабуля.— Мяса каб хоць на вяселле хапіла. Япрук-то вялікі, але худы быў.

Папіха падымаецца ад начовак, бярэ гладкую дошку і пачынае асцярожна, каб не парваліся, саскрабаць з кішак слізь. Потым мые іх у цёплай вадзе, правярае, ці няма дзірак. Бярэ кішку, зашчэмлівае адзін канец у пальцах, а другі прыкладае да рота і надзімае. Кішка выпростваецца, робіцца круглай — ну, рыхтык лычка кілбасы, адно што прасвечваецца наскрозь. Папіха задаволена зазначае:

— Цэлая!

Задумаўшыся на момант, яна надымае спалоханыя вочы на бабулю:

— Чуеш, мама? А Лазіна не прыедзе па япрука?

— Ці ж я ведаю? Мо і прыедзе.

— І як тут быць? Не аддаваць жа ёй япрука?

— Канечне, не аддамо,— рашуча гаворыць бабуля.— Хіба задарма цэлую зіму ён нашым дабром карміўся?

Слаўка слухае размову, і яму становіцца смешна. Аднойчы Лазіна прыедзе і сунецца ў хлеў, а там пуста. Во смеху будзе! Але Лазіна, калі і прыедзе, то не скора. І з Паначы, і з Ясянца цяпер нялёгка выбрацца на кані. Дарогі скрозь перагароджаны вялізнымі белымі мядзведзямі сумётаў.

## 2

Многа вяселляў пабачыў на сваім вяку Ясянец, які ўвогуле любіць і пагуляць, і паспяваць, забыўшы ўсе свае беды і клопаты. Помніць ён і тыя даўнейшыя вяселлі, калі маладых выправоджвалі з хаты і сярод белага дня пад насмешлівыя гукі гармоніка вялі ў пуню, а падлеткі, ды не так падлеткі, як самі дарослыя, бессаромна заглядвалі ў шчыліны. Помніць Ясянец і тыя вяселлі, калі ў войта былі адзіныя на ўсю вёску боты і вясковыя дзяцюкі па чарзе жаніліся ў іх, пакуль ад ботаў не засталіся адны халяўкі. Многа розных вяселляў згуляў на сваім вяку Ясянец. Але, мабыць, не было яшчэ тут такога сумнага вяселля, як гэта.

Госці ў новы дом пад старой самотнай бярозай пачалі сыходзіцца надвячоркам, надаіўшы дома кароў і абагрэўшы напач хаты. Ставяць на кухонны шкапчык сумкі, а самі ідуць у святліцу. Паўз сцены тут упрытык настаўлены сталы, а на сталах пітво і закусь. Напатупалі каля печы Напіха з бабуляй, па-

рачкавалі, затое не сорамна перад гасцямі. Хоць, зрэшты, і цяпер яшчэ не ўсё пароблена. Але памочнікаў ужо хапае. Жанкі не сядзяць на месцы: раскладваюць па сталах відэльцы, ставяць шклянкі. Каму ж не хапіла і такой работы, паціху перамаўляюцца, чакаючы свадзёбных з той далёкай Звонкі, што каля Сіняўкі.

— Нешта ж доўга не едуць? — з трывогай пытаецца Гэлька Струкачова.— Мо што ў дарозе здарылася?

— Прыедуць. Усё-такі і няблізкі свет ехаць.

Бабуля заклапочана снуе па хаце, аглядвае сталы — ці ўсё на іх у парадку? Вочы ў яе зажураныя, заплаканыя. Яна, мусіць, успомніла Анюту, сваю першую нявестку, і не стрымалася, захліпала носам. Госці глядзяць на бабулю, разумеюць, чаму ў яе такія чырвоныя вочы, і гутарка ў хаце сама па сабе сціхае. З бярозы ля акна цярусіцца іней, і госці глядзяць туды, на двор. На бярозе сядзіць чарада варон. Яны чагосьці непакояцца, крычаць, пераскокваюць з галінкі на галінку. Таму і сыплецца з бярозы іней.

— То ета ж вяселле едзе! — кажа нехта, і ўсе лезуць у вокны, а хто быў бліжэй да дзвярэй, дык бяжыць на вуліцу.

— Прыехалі, слава богу,— узрадавана ўздыхае Гэлька.

На двары ўжо блізка храпуць коні, рыпяць палазы, пілікае гармонік і глуха, з ляпотай, бухае бубен. Сані спыняюцца, і з іх, накалеўшыся ў дарозе, злазяць разадзетыя людзі. Ля пярэдняга вазка стаіць і атрэпваецца Снягурка. Але гэта, вядома, не Снягурка, а Слаўкава новая мачыха. Бацька бярэ яе за руку і кіруецца ў хату. Жанкі, напускаючы вясёлы выгляд, падбягаюць да маладой, распранаюць і вядуць за стол. Каля яе на покуці садзіцца бацька. Нешта ўспомніўшы, ён падымаецца і гаворыць да гасцей:

— Ета Кацярына Раманаўна. Так што, як кажуць, прашу любіць і жалаваць.

Дапытлівыя позіркі кабет утаропліваюцца на Кацярыну Раманаўну, і яна адчувае гэтыя праніклівыя позіркі, чырванее, бянтэжыцца, саромеецца людзей, з якімі цяпер давядзецца жыць побач. Яна саромеецца зморшчак каля вачэй, саромеецца свайго носа, трохі велікаватага для круглага, увогуле прывабнага твару.

— Трошкі нос псуе, а так нічога,— шэпча суседцы Гэлька Струкачова.

— Але, людская кабеціна.

Відно, што бабы не даюць ганьбы маладой, паблажліва адносяцца да яе. Кацярына Раманаўна асвойтваецца за сталом, ужо смялей глядзіць на людзей. Нахіліўшыся да бацькі, яна нешта шэпча яму на вуха. Той зноў падымаецца з-за стала і пытаецца ў Папіхі:

— А дзе ж Слаўка?

— Тут ён. Толькі што ля грубкі стаяў.

Слаўку знаходзяць на ложку за печкай, і вось ён, надзьмуты, як малады індычок, на людскіх руках плыве над сталамі проста на калені Кацярыне Раманаўне. Яна туліць Слаўку да сябе, цалуе ў шчочку і дае нейкі знак сваім таварышкам. Цяпер на тых жа руках на покуць плыве вялізны папяровы куль. Кацярына Раманаўна разрывае паперу і падае куль Слаўку.

— Ета табе. Тут цукеркі. Любіш цукеркі?

— Люблю.

— То еш, Слаўка, і не саромейся мяне. Не будзеш?

— Не-а, не буду.

Увагай Кацярыны Раманаўны завалодваюць суседкі, просяць выпіць з імі, і яна падымае шклянку. Слаўка не горш за вавёрку трушчыць цукрыстыя

цукеркі, і яму нечакана становіцца добра на чужых каленях. Кацярына Раманаўна зноў нахілілася да яго, але Слаўка ўжо спіць. Яго, соннага, перадаюць з рук у рукі і кладуць на ложку за грубкай.

Спіць Слаўка, а побач з ім ляжыць вялізны папяровы куль. Нічога не чуў Слаўка, як шумелі людзі, як бухаў бубен, як госці позна разыходзіліся па хатах. Прачнуўся ад таго, што адчуў на сабе дотык чужой рукі. На ложку сядзіць Кацярына Раманаўна і гладзіць Слаўку па галоўцы.

— Спі яшчэ, хлопчык.

Прытуліўшыся спінай да грубкі, побач стаіць бацька. Ён глядзіць прама перад сабой, на сцяну, дзе вісіць асадка з фатаграфіямі. Кацярына Раманаўна заўважае яго позірк і пытае:

— Ета яна, Анюта?

— Яна, нябожчыца.

Кацярына Раманаўна ўважліва вывучае маміну фатаграфію.

— Прыгожая была. Трэба павялічыць картачку і зрабіць новую рамку.

Бацька здзіўлена глядзіць на Кацярыну Раманаўну.

— Яно, канечне, можна і павялічыць.

Слаўка нацягвае штонікі, выглядвае з-за грубкі і бачыць, што, акрамя іх, у хаце поўна людзей. Зіна і Волька прымаюць са сталоў пусты посуд, праціраюць відэльцы і лыжкі. Бабуля падмятае падлогу, а смецце і недакуркі кідае ў грубку. Бабулі пасабляе Тома, і не столькі той помачы, як Томе хочацца зблізку паглядзець на Кацярыну Раманаўну.

— Слаўка, ідзі сюды,— кліча Тома. Выводзіць яго на кухню і шэпча: — Дай цукерак, то нешта скажу.

Слаўка вяртаецца ў святліцу, нясе папяровы куль і сыпле цукеркі Томе ў прыгаршчы.

— Кажы цяпер.

— Бабка гаварыла, што Кацярына Раманаўна ёй падабаецца. І мне таксама.

— От здзівіла!

У хаце раз-пораз адчыняюцца дзверы. Па адным, а то купкамі прыходзяць учарашнія госці. Вяселле яшчэ не скончылася. І ўсё-такі сумнае яно, гэтае вяселле. За сталамі ціха, няма звычайнай ажыўленай гаманы. Антось Струкач быў паспрабаваў зацягнуць сваю франтавую песню, але на яго цыкнула Гэлька, што спявак адразу змоўк. Весялей у тым куце, дзе сядзяць прыезджыя госці — там чутны і задзірысты смех, і застольная песня. Прыезджых, мусіць, не цікавіць, хто раней жыў у гэтым новым доме, і весяляцца, як умеюць.

Але вяселле не любіць суму. Як бы там ні было, а павесяліцца трэба, калі сабраліся дзеля такой падзеі. На кухні запілікаў гармонік, ударыў бубен, і вось ужо ў віхурнай польцы закружыліся першыя пары. Ля акна дасціпная Папіха сабрала людзей і цешыць іх сваімі фокусамі. У руках яна трымае грапёную шклянку і заўзята спрачаецца з Баразной.

— Глядзі, Сцяпан! Нізавошта шклянка не паб'ецца!

— Хе-хе! На ашкалёпкі разляціцца.

— Эх, ты, корч стары! Глядзі!

Папіха размахваецца шклянкай і з усёй сілы апускае на падлогу. Шклянка звініць, круціцца ваўчком, а хоць бы пакалолася, хоць бы трэшчынка з'явілася. Папіха падымае шклянку, зноў шпурляе на падлогу, і зноў шклянка застаецца цэлай.

Сцяпан Баразна чухае патыліцу. Яму не верыцца, што шкло нельга разбіць.

— Дай-ка, я сам грукну. Далібог, адны пырскі паляцяць!

Але і ў яго шклянка не б'ецца — таксама круціцца ваўчком па падлозе.

— Глядзі ты! — дзівіцца Баразна.

Суседзі рагочуць, таму што пра Папісіну шклянку, якая не б'ецца, многія ўжо чулі. На кожнае гульбішча Папіха бярэ яе і цешыць сваімі фокусамі людзей. Папіха нагінаецца, ловіць пальцамі дзіва шклянку, пры гэтым траціць раўнавагу і падае на калені. Стаіць несупынны смех, а з-за чужых спін нечакана вылазіць кій з жалезнай булдавешкай і таўчэ вастрыём Папісе ў сцягно. Папіха пазнае, чый гэта кій, і ў момант цверазее. Калі дзед Васіль злосны, з ім жарты дрэнныя.

— Бессаромніца! — лаецца дзед на дачку.— От я табе загалюся прылюдна!

— Татачка, не чапайце...

— Падымайся, распусніца...

— Дык што там такое? — раптам падхопліваецца Папіха і з выклікам глядзіць на дзеда.— Ну, бі мяне. Хіба мне і павесяліцца нельга? І так увесь век гарую.

Ад крыўды, ад сораму, што на яе пакрычалі пры людзях, Папіха пачынае плакаць і, падхапіўшы сваю знакамітую шклянку, хаваецца на другой палавіне хаты.

Дзед уздыхае, глядзіць ёй услед, пасля паварочваецца да Сцяпана Баразны:

— Што ж ты, сваток, гасцей пакінуў? Скора і каравай дзяліць.

Пачуўшы пра каравай, Слаўка хоча схавацца, але позна: бабуля ўжо трымае яго за руку, вядзе ў камору. Там на абечку з-пад дзяжы ляжыць круглы і вялізны, як кола, пірог з цукрыстымі шышкамі на жоўтай бліскучай скарынцы. Караваі не падобны на сябе. Тут, на бліскучай скарынцы, павінны быць яш-

чэ і запечаныя цукеркі-падушачкі, але там, дзе яны былі, засталіся толькі ямкі.

— Твая работа? — дапытваецца бабка.— Гавары, нягоднік.

— Мая... Яшчэ ўчора я павыдзіраў цукеркі...

— Што ж мне цяперака рабіць? — хапаецца за галаву бабуля.— Ганьба на ўсё сяло.

Слаўка хныкае, шкадуе бабулю, і раптам твар яго святлее:

— Бабка, а ў мяне яшчэ многа падушачак засталося.

— Так чаго ж ты маўчыш? Нясі іх хутчэй сюды.

Слаўка пабег у хату, прынёс цукеркі і такім чынам выратаваў бабулю ад вялікай ганьбы і сораму, а бабуля хуценька паўціскала падушачкі ў скарынку, вярнуўшы караваю яго ранейшы выгляд. Калі трывога ўляглася, яна дакорліва паківала пальцам:

— Распуснікам ты расцеш, Слаўка.

У камору зайшоў Сцяпан Баразна і разам з абечкам панёс каравай у хату. Да стала, за якім сядзяць бацька з Кацярынай Раманаўнай, па адным падыходзяць госці і разгортваюць перад сабой хустачкі. Сват кладзе ім па кавалачку караваю і дае выпіць. Тут жа сядзяць музыканты і кожнага, хто падыходзіць да стала, сустракаюць музыкай. Але вось каравай падзелены, і гэта значыць, што вяселле скончылася.

Госці пачынаюць разыходзіцца. Першымі выходзяць Струкачы. Гэльцы стала нядобра, і Антось вядзе яе пад руку. Бацька з Кацярынай Раманаўнай праводзяць гасцей са Звонкі.

— Бывайце здаровы, жывіце багата,— заспяваў нехта на пярэдніх санях.

Кацярына Раманаўна плача, цалуецца з сваякамі і выцірае хустачкай чырвоныя вочы.

На парозе стаяць Зіна з Волькай. Ім ужо няма

чаго рабіць у гэтым новым доме з блакітнымі аканіцамі, і яны збіраюцца ісці на свой хутар. Волька, нешта ўспомніўшы, вярнулася ў хату і скора выбегла з Лазініным пудэлкам у руцэ.

— Забрала во. А то і етая пачне яшчэ пудрыцца.

Вольцы вяселле не спадабалася, а гэта значыць, што не спадабалася яно і ўсяму Ясянцу, які пабачыў на сваім вяку нямала куды цікавейшых вяселляў.

## 3

Да чаго ж нудна і дакучліва гудзе чмель! Адкуль чмялю быць у хаце, калі на дварэ бушуюць завеі?

Кацярына Раманаўна распальвае ў грубцы, падкладвае бярösту пад сырыя альховыя плашкі і, відаць, не чуе, што ў хаце паявіўся чмель. Слаўка заціскае далонямі вушы, а чмель гудзе, не перастаючы. Аднастайны, нудны і дакучлівы зык гоніць Слаўку на ложак. Нацягваючы на сябе коўдру, ён паспявае заўважыць, што коўдра чорная з абодвух бакоў. І сонца, і калодзеж на ёй — усё чорнае. Але і пад коўдрай ад чмяля не схаваешся — гудзе і гудзе.

— Праганіце чмяля! — задыхаецца Слаўка.— Ён укусіць мяне.

Кацярына Раманаўна падыходзіць да ложка, нагінаецца над Слаўкам.

— Што з табой, хлопчык? — яна паспешліва мацае яго лоб.— Дык ты ж з агню гарыш.

— Чмель гудзе! Праганіце чмяля,— ліжа Слаўка перасмяглыя губы.

— Дзе, які чмель? — спалохана азіраецца вакол сябе Кацярына Раманаўна.— Ніякага чмяля не бачу.— І яна вобцасам бяжыць па бабку Мотру.

А чмель гудзе — чорны, вялікі, бухматы чмель. Слаўка ўжо бачыць яго — бачыць махнатыя лапкі, чорныя, з жоўтымі крапінкамі крыльцы. Адно дзіў-

на: адкуль у хаце чмель, калі на двары столькі снегу? Чмялі на зіму пахаваліся ў куп'і, а гэты, бачыш, выбраўся на волю.

— Праганіце чмяля!

На нейкі момант чмель перастае кружыцца перад вачыма, і тады хату зацягвае густы, чорны туман. Скрозь туман ледзь-ледзь прасвечваецца сонца. Зрэшты, гэта і не сонца, а лямпа. «Пасярод хаты вісіць дзед лупаты». Гэта маміна загадка пра лямпу. Але ж чаму яна, лупатая лямпа, не разгоніць густы, чорны туман?

Часам туман радзее, а з белага прасвету паказваюцца такія ж белыя рукі. Яны падымаюць Слаўку з ложка і носяць па хаце. Ад грубкі да стала, ад стала — да грубкі. Рукі стамляюцца, ім цяжка насіць Слаўку. Рукі кладуць яго на ложак, але адпачыць ім не ўдаецца, таму што з чорнага туману зноў вылазіць надакучлівы бухматы чмель.

— Ой, чмель! Праганіце чмяля!

І белыя рукі зноў без пярэдыху носяць Слаўку па хаце. Ад грубкі — да стала, ад стала — да грубкі. Часам на змену стомленым рукам прыходзяць другія рукі — валасатыя, мазолістыя, цвёрдыя. Слаўка не любіць гэтыя валасатыя мужчынскія рукі, і ён пачынае плакаць, прасіць, каб яго зноў насілі па хаце тыя першыя рукі — белыя і мяккія, цёплыя і пяшчотныя.

А чмель гудзе і гудзе над вухам. Цяпер ён не толькі гудзе, цяпер ён яшчэ і кусаецца. Ах, як балюча кусаецца гэтае чорнае лугавое стварэнне! І заўсёды цаляе джалам у адны і тыя ж месцы — то ў ручку, то ніжэй пояса. Слаўка ўскрыквае ад болю, на які момант расплюшчвае вочы і бачыць каля сябе яшчэ дзіўнейшае стварэнне. Чмель чорны, а гэтае стварэнне, наадварот, белае-белае ад галавы да ног.

І яна, гэтая белая здань, таксама кусаецца, як чмель. То ў ручку, то ў сцягенца.

На момант свядомасць праясняецца, і Слаўка шчыра дзівіцца. Гэта ж ля яго сядзіць Дуся Яўсеева ў белым халаце. Чаго яна тут, адкуль узялася? Мусіць, няпраўда, што Дусю павесілі немцы? Вось жа яна, жывая і здаровая, а ў руцэ трымае той самы бліскучы шпрыц, які вясной Слаўка знайшоў на старым котлішчы. «Адкуль ты? — хоча спытаць Слаўка.— Цябе ж павесілі немцы. Там, у Сіняўцы...»

І зноў чорны туман засцілае вочы. Праз яго слаба прабіраецца сонца. І зусім гэта не сонца, а лямпа. «Пасярод хаты вісіць дзед лупаты». Маміна загадка.

І зноў бухматы чмель гудзе і гудзе, балюча кусаючыся. З туману высоўваюцца белыя рукі, падымаюць Слаўку з падушкі, калышуць, носяць па хаце. Ад грубкі — да стала, ад стала — да грубкі. То ў чорны туман, то з туману. Слаўку мрояцца розныя пачвары, з акна высоўваецца і тут жа знікае патлатая твар Інго Мэгуся. Слаўка хоча закрычаць, ды не стае сіл.

Чорны бухматы чмель кружыць і кружыць па хаце. Але і чмель, мусіць, разумее, што цяпер не лета, што зімой трэба і яму спаць. Зрабіўшы некалькі кругоў над Слаўкавай галавой, чмель раптам знікае ў акне. Праскочыў праз шкло, быццам сонечны зайчык. Чмель знікае, і ў хаце становіцца ціха-ціха. Рассейваецца, прападае чорны туман.

І Слаўка расплюшчвае вочы. Усё яму дзіўна ў хаце: і сцены светлыя, і коўдра ўжо не чорная. У хаце ён, аказваецца, не адзін. Каля стала сядзіць бацька — ён увачавідкі пастарэў, зарос шчэццем. На куфар залезла Папіха, а каля грубкі стаіць бабуля. На табурэтцы каля яе Слаўка бачыць Кацярыну Раманаўну. Яна плача і ражком хусткі выцірае чырвоныя вочы. І яшчэ адзін чалавек аказаўся ў хаце — Папісіна То-

ма. Яна першай заўважыла, што Слаўка расплюшчыў вочы, і радасна крычыць на ўсю хату:

— Слаўка прачнуўся!

Бабуля хрысціцца на абраз, які вісіць на покуці:

— Ажыў, ажыў унучак! З таго свету, знацца, вярнуўся.

Радасна, стомлена ўсміхаючыся, Кацярына Раманаўна стаіць ужо каля ложка. У яе вельмі белыя рукі, і Слаўка адразу пазнае іх — то ж яны высоўваліся з чорнага туману і насілі яго на хаце.

— Цяпер на папраўку пойдзе,— радуецца Кацярына Раманаўна.

— А што са мной было? — нічога не разумее Слаўка.

— Хварэў ты,— тлумачыць бацька.— Без памяці ляжаў. Усё нейкага чмяля прасіў прагнаць.

— Не помню.

— Дзіва што! Мы каля цябе і днявалі і начавалі. Вунь у Кацярыны Раманаўны гузы на руках, як цябе насіла.

Слаўка сцягвае коўдру, садзіцца на падушку.

— А дзе ж снег? У вокнах зусім шэра.

— А мой жа ты міленькі. Снег даўно растаў,— смяецца Кацярына Раманаўна.— Разводдзе было — страх цэлы! Канава разлілася, дык вада да самага дома даставала.

Пакуль Слаўка хварэў, у Ясянцы, аказваецца, адбылося нямала добрых падзей. І Дуся яму прымроілася не выпадкова. У вёску прыслалі новую дакторку, і яна кожны дзень прыходзіла рабіць Слаўку ўколы. Вось чаму ў яго баляць ручкі, паколатыя шпрыцам. Амбулаторыя цяпер у школе, пад яе адвялі асобны клас, які ўсё адно пуставаў — пасля вайны мала дзяцей нарадзілася ў Ясянцы. І яшчэ навіна. Прыходзіла Лазіна і нарэшце такі забрала сваю ясёнку і стаптаныя чырвоныя чаравікі. «Добра хоць, што

пра гузікі не ўспомніла»,— думае Слаўка. Хоча яшчэ спытаць у бабулі пра япрука, але падбягае Тома і шэпча па вуха, што ў Гэлькі Струкачовай радзілася дзяўчынка, а Фафана ледзь не выключылі са школы, таму што страляў у класе з самапала. Вось колькі навін адразу!

Кацярына Раманаўна бярэ Слаўку на рукі, нясе да акна. Там стаіць бяроза. На ёй ужо не вісяць шапкі снегу і кудысьці паўцякалі вароны.

— Скора пацяплее, зазелянее траўка.

— І я буду гуляць на траўцы?

— Будзеш, будзеш. Толькі ачуньвай скарэй.

І Слаўка папраўляецца, вычухваецца пасля доўгага ляжання. У яго было запаленне лёгкіх і адзёр. Маладая дакторка Аксення Іванаўна ледзь выхадзіла Слаўку ад хвароб. Кожны дзень ён цяпер п'е сырадой і адчувае, як прыбаўляюцца сілы. Але Кацярына Раманаўна не пускае з ложка: кажа, каб яшчэ дужаў, крапчаў. Бацька прыходзіць з работы рана і кожны раз што-небудзь прыносіць — то абаранак, то мармеладу.

— Еш, сынок,— просіць ён і сам садзіцца побач.— Ачуньвай, каб на лета здаровы быў.

— А што летам?

— Па грыбы будзем хадзіць, па ягады.

Кацярына Раманаўна вешае на вокны новыя фіранкі, выразаныя з газет.

— Хутка ж вялікдзень,— тлумачыць яна.— Сёння хадзіла ў краму, дык набрала добрага корту. Трэба к святу які касцюмчык пашыць Слаўку. Ты, Юзік, не ведаеш, хто тут, у Ясянцы, шые?

— Хто яго ведае? — думае бацька.— Здаецца, ці не Косцік Падгайскі займаецца шыццём? Малады хлопец, а, кажуць, шые спраўна.

— То і добра,— радуецца Кацярына Раманаўна.— Ты мне пакажаш, дзе ён жыве.

На ложку, у Слаўкавых нагах, скруціўшыся ў клубок, спіць Капрыз. Спіць і ў сне мурлыкае нейкую сваю песеньку. Тое, што адсеклі хвост, відаць, пайшло на карысць кату: ён пакруглеў, стаў сыты, а поўсць ажно блішчыць. Але нічога, хутка паправіцца і Слаўка.

— Ноччу ты не ўставай,— кладучыся спаць, просіць яго Кацярына Раманаўна.— Не хадзі босымі нагамі па падлозе. Я табе вядро ля ложка паставіла.

— Добра, не буду ўставаць.

— Глядзі ж, а то хвароба зноў адкіне.

Слаўка яшчэ слабы, каб хадзіць па хаце: іншы раз яшчэ кружыцца галава, на лбе выступае пот. Ён заплюшчвае вочы, прыслухоўваецца да начной цішыні, але вялізны чорны чмель болей не гудзе над яго галавой.

### 4

Слаўка вярнуўся з таго свету. І ўсё, што зацвітае, расце, стаіць на гэтым — белым — свеце, цяпер зноў нераздзельна належыць Слаўку. Многа што на разбуджанай веснавой зямлі належыць яму: і новы дом, і гразкая яшчэ вуліца, і маўклівая бяроза ля акна. У Слаўкі незвычайны поспех: ён зноў навучыўся хадзіць, не падае, як першы раз, калі падняўся з ложка. Бабка Мотра адпаіла сырадоем, і слабасць прайшла, ногі папрутчэлі і акрэплі.

— Хачу на вуліцу,— папрасіўся Слаўка.

На двары стаяла вясна, свяціла сонейка, на платах апантана чырыкалі вераб'і, і Слаўка ўжо не мог спакойна глядзець з акна на бліскучыя лужыны, на чародку курэй, якія, напэўна, былі здзіўлены, што даўно іх ужо не ганяе брахлівае калматае стварэнне. Толькі цыбаты певень яшчэ не здагадваецца, што Курашчупа ўжо няма, і з асцярогай азіраецца па баках.

— Хачу на вуліцу.

— Ідзі пагуляй,— дазволіла Кацярына Раманаўна.— Адно глядзі, ногі не прамачы.

Гэты свет, на які вярнуўся Слаўка, дужа прывабны, прыгожы і ласкавы. Пасля зімовых крутавеяў на поўныя грудзі дыхае зямля, ачмурэла пахне вербнік каля канавы. Уздоўж платоў зялёнымі лапікамі выбілася маладая крапіва. І больш ніякай зеляніны яшчэ няма, нават вербнік на поплаве толькі пачынае распускацца.

Каля бярозы зямля падсохла, і тут, на прыгрэве, гуляе Слаўка, а заадно пільнуе, каб Капрыз не разгавеўся з добрай прычыны. Паміж вокнамі пры сцяне пачэкваецца на дратах насілка з двума свінымі кумпякамі, падсушанымі на сонцы. Гэта ўсё, што засталося ад Лазінінага япрука. Капрыз знізу паглядае на мяса і, напэўна, моліць свайго кацінага бога, каб кумпякі адарваліся і ўпалі на зямлю. Але кумпякі не падаюць, і вочы ў Капрыза, здаецца, зацягнуты смуткам.

— Ух, якія ладныя кумпячкі! — прысвістае нехта з-за бярозы.

Слаўка азіраецца і бачыць Фафана. Калі ён падкраўся, Слаўка нават не пачуў.

—І ў нас дома вісяць,— цыркае слінай Фафан.— Але меншыя.

Над Ясянцом крыляюць вялізныя шэрыя птушкі. Яны радасна крычаць у паднябессі — курлы, курлы.

— Жураўлі,— пазнае Слаўка шэрых птушак.— З выраю ляцяць.

— І буслы ўжо прыляцелі,— гаворыць Фафан.

— Ты бачыў, як ляцелі?

— Не-а, не бачыў. Але ведаю, што вярнуліся з выраю.

— Адкуль ведаеш?

— Помніш, бусько ў мяне быў? Зімаваў у хляве.

То ручны быў, а цяпер не падысці — дзяўбецца. І клякеча на ўвесь хлеў. Хочаш, пакажу буська.

Азірнуўшыся на блакітныя вокны, Слаўка нерашуча топчацца на месцы.

— Калі пайду, дома будуць крычаць,— Слаўка яшчэ не ведае, як яму лепш называць Кацярыну Раманаўну.

— А ты ўцячы,— раіць Фафан.— Калі і пакрычыць, то што табе станецца?

— Тады пабеглі.

Бусел сустрэў іх гартанным клёкатам. Як толькі адчыніліся вароты, падскочыў, замітусіўся, але паляцець не змог, таму што крылы звязаны вяровачкай. За зіму чырвоная дзюба як бы выцвіла, учарнела.

— Асцярожна, бо дзеўбане,— папярэджвае Фафан.— Ён буслоў чуе, на волю хоча, таму і злосны такі.

— Выпусці, хай ляціць.

Фафан не ведае, што рабіць: яму, мабыць, і шкада птушку, і не хочацца выпускаць яе на волю. Хто ж будзе кнігі ў школу вазіць, як падсохне дарога? І ўсё ж жаласць бярэ верх.

— Ладна, выпушчу.

Бусел бачыць у праёме варотаў блакітнае неба і з клёкатам ірвецца на двор. Фафан адной рукой трымае растрывожаную птушку, а другой развязвае крылы. З падскокам бусел бяжыць цераз панадворак і, набраўшы разгон, падымаецца ў неба. Цяпер ён не кружыць над Ясянцом, як увосень, а мкне адразу ў бок лесу. Хутка бусел знікае з вачэй.

— Паляцеў,— уздыхае Фафан.— І не вернецца болей.

— Чаму?

— Буслянят яму трэба выседжваць.

Фафан з сумам глядзіць на лес, за якім схаваўся ручны бусел, і раптам пытае:

— Слаўка, а ты не ведаеш: буслоў можна есці?

Фафан такі: і сам дзіўны хлопец, і пытанні ў яго дзіўныя.

— Канечне ж, не. Каб елі, то ў кожнай хаце іх, як індыкоў, гадавалі б.

— І добра, што не ядуць.

— Чаму, Барыс?

— Чаму, чаму? — раптам злуе Фафан.— Маці сварылася за бусла. Зарэзаць збіралася.

Слаўку чамусьці ўжо не хочацца гуляць з Фафанам.

— Пайду, а то ножкі баляць.

— Ну і валяй. А я караблікі буду пускаць па вадзе.

Хартонаў лужок, на якім Фафан падбіў з рагаткі бусла, разліўся шырока, вада плешчацца ля самай дарогі. Слаўка помніць наказ і старанна абмінае лужыны, каб не намачыць ногі. Над лужком высока ў небе ззяе сонца, а другое такое ж сонца адбілася ў чорнай вадзе. Лужок яшчэ не ажыў: не крумкаюць жабы, не таўкуцца кучамі камары. Пацяплее, дык адразу ажыве старая неглыбокая сажалка.

Слаўка бяжыць праз чорную ваду, і дыхаецца яму незвычайна лёгка. Мо таму, што ўсё навакол цяпер належыць яму, што гэты свет, на які вярнуўся Слаўка, такі прыязны і ласкавы. Як жа добра, што ў яго ёсць Ясянец, а ў Ясянцы ёсць новы дом, ёсць кот Капрыз. Слаўка сам будзе яго лячыць, калі захварэе. Трэба толькі знайсці той Дусін шпрыц, які з мінулай вясны ляжыць пад бярозай. А белая маўклівая бяроза яшчэ здалёк махае гнуткім веццем. Усё-такі ён забавіўся ў Фафана, і трывога бярозы зразумелая.

«Ат, няма чаго баяцца,— думаў Слаўка.— Кацярына Раманаўна ўсё адно не будзе біць».

Ён адчыняе дзверы і здзіўляецца: у хаце чамусь-

ці многа людзей. Ля акна на табурэтцы сядзіць Сцяпан Баразна, зацята курыць і моўчкі глядзіць праз акно на белую бярозу. Ля грубкі стаіць Кацярына Раманаўна, па яе зблажэлым твары Слаўка адчувае новую бяду. Чамусьці дома аказаўся бацька — ён жа павінен яшчэ быць на рабоце. Бацька сядзіць ля стала, і за яго шырокімі плячыма Слаўка не адразу ўбачыў яшчэ аднаго чалавека. Той мыляў губамі, слініў хімічны аловак, пакрэктваючы, штосьці пісаў на лістку паперы. Чалавек гэты быў у даўжэзным паліто, крыссе якога ажно ляжала на падлозе, а на нагах паблісквалі наваксаваныя хромавыя боты. Слаўка глядзеў на бліскучыя боты і здзіўляўся, як гэты пісака не выпацкаў іх, бо на вуліцы столькі ж гразі.

Бацька маўчаў, нервова камячыў у руках шапку. Маўчаў і Сцяпан Баразна. Нарэшце даўжэзнае паліто перастала крактаць, палажыла аловак на спісаны ліст паперы і павярнулася да мужчын:

— Знацца, будзем гаварыць далей. Іосіф Васільевіч, ці была вашай жонкай грамадзянка Вера Антонаўна, ураджоная Клявец?

Бацька разгублена круціць галавой, азіраецца на Кацярыну Раманаўну і з неймавернай цяжкасцю выціскае:

— Як тут сказаць? Я і сам не ведаю. Во гэтая — законная, распісаліся мы з ёю ў сельсавеце. А тая? Мо і была... Жылі разам.

Пытанні ў даўжэзнага паліто калючыя, з'едлівыя. Пальцы, крывыя і чырвоныя, як струкі перцу, перабіраюць на стале паперы, адзін лісток падаюць бацьку.

— Не ведаеце? Дык я памагу вам. Вот чытайце.

Бацька ўглядаецца ў пакамечаны лісток, у каравы почырк, чырванее і апускае голаў:

— От це і на.

— Вот бачыце. У дакуменце прама напісана, што вы «сочетались законным браком» з грамадзянкай Верай Антонаўнай Клявец. Ёсць і пячатка Панацкага сельсавета.

— Выходзіць, так,— згаджаецца бацька.

Паліто радуецца, што грамадзяніна Іосіфа Васільевіча Давыдчыка ўдалося збянтэжыць важкім дакументам з пячаткай, і яно сыпле новыя пытанні:

— Скажыце яшчэ такую рэч. Вера Антонаўна прывозіла ў пасаг кормнага япрука?

— Якога кормнага? — абураецца бацька яўнай хлусні.— Адны рэбры прывязла. Здох ён, той япрук.

— Але, здох,— пацвярджае Сцяпан Баразна.— У Стаўпішча вывезлі і закапалі. Можам паказаць...

Слаўка быў у Стаўпішчах. Гэта тут, недалёка. Па дарозе на Паначу ёсць лясок-могільнік. Там усюды валяецца чарэп'е і косці. Сцяпан Баразна хітры: ведае, куды весці дакучлівага чалавека. Але ў Стаўпішча трэба ісці цераз грэблю, а гэтаму пісаку не надта хочацца пэцкаць свае бліскучыя боты.

— Ладна,— гаворыць ён.— Мне ўсё роўна: здох япрук ці вы яго з'елі. Важна, каб быў пацверджаны факт, што япрука ўсё-такі прывозілі з Паначы.

— Ат, што тут гаварыць,— махае рукой бацька.— Пацвярджаю.

— Тады падпішыцеся.

Бацька, а затым Сцяпан Баразна па чарзе распісваюцца на лістку, а даўжэзнае паліто складвае паперы ў жоўтую тэчку і шыбуе да дзвярэй.

— Да пабачэння!

— Хто гэта быў? — пытаецца Слаўка.

— Судовы спраўнік, ці як цяпер — спаўніцель,— гаворыць Кацярына Раманаўна, і твар у яе белы, як мел.— Во бацьку твайго судзіць будуць.

Пакуль той уедлівы чалавек не схаваўся за ха-

тамі, Сцяпан Баразна глядзеў у акно, а пасля павярнуўся да бацькі:

— Усё-такі неважнецка выйшла. Адсудзіць Лазіна палову хаты.

— І не кажы, браток,— згаджаецца бацька.— Аднаго не помню: калі ета я апісаў хату на Лазіну? І што распісваўся з Лазінай, не помню. Хоць забі, не помню. А подпісы — мае...

— Няхітрая штука,— разважае Сцяпан Баразна.— У Паначу ты ездзіў? Ездзіў. Гарэлку піў? Піў! Во і падсунулі п'янаму паперкі... Што ж тут думаць доўга?

Бацька адварочваецца ад Кацярыны Раманаўны, унурана разглядае наскі кірзачоў, заляпаных гразёй. Яму, мусіць, сорамна перад Кацярынай Раманаўнай. На лбе выступіў пот, твар як бы ўчарнеў. Пасядзеўшы, бацька падымаецца з услона.

— Ліха з ім. Што ўжэ будзе. Толькі каб хоць за япрука не прыйшлося сплочваць.

Кацярына Раманаўна стаіць каля грубкі — невясёлая, прыгнечаная, але яна не дакарае бацьку. Сцяпан Баразна з увагай глядзіць на яе і спаважна, марудна ідзе да дзвярэй.

— Вы тут не вельмі бядуйце. Як-небудзь перамелецца.

— Ды ўжэ ж так,— уздыхае Кацярына Раманаўна.

Маладое вясновае сонца заглядвае ў вокны. Каля хаты трывожна шапоча веццем старая бяроза, а Слаўка сядзіць ля акна, глядзіць на вуліцу, і ўсё там здаецца яму шэрым. Свет, на які вярнуўся Слаўка, толькі звонку аказаўся такім прыгожым і чароўным.

## Раздзел сёмы

### 1

Стаіць цяплынь. На дзедавых сотках з успучанай, набрынялай зямлі выбіліся фіялетавыя стрэлкі хрэну. Ля канавы за адзін дзень зазелянеў поплаў, над ім закружыліся белыя і жоўтыя матылькі. І ўсё было б добра, калі б Слаўка не ўбачыў, што па грэблі, пераскокваючы з кладкі на кладку, ідзе Лазіна.

— Тата, паглядзі на грэблю,— барабаніць Слаўка ў шыбіну.— Скоранька...

Бацька глядзіць у акно і без шапкі, у адной рубашцы выбягае на двор.

— Усё-такі прыйшла.

У бацькі ўчарнелы твар, а сум у вачах не праходзіць з таго дня, як яго выклікалі ў суд. Вярнуўся з Ганцавіч, апанаваны горам, маўклівы і самотны, таму што паўдома прысудзілі Лазіне. Апошнім часам бацька жыў надзеяй, што яна перадумае, адмовіцца ад сваёй долі, нават збіраўся паехаць у Паначу, але сёння прапала і гэтая надзея. Лазіна ўжо выбралася з гразкай грэблі і проста нацянькі, цераз пустку, шыбуе сюды.

— Добры дзень, Юзік! — вітаецца яна і з'едліва пытае: — Ці мо ўжо не пазнаеш?

— Чаму ж, пазнаў. Яшчэ там, на грэблі,— бацька як бы вінавата адводзіць вочы ўбок.— Цябе за вярсту ўгледзіш.

На Лазіне яркая квяцістая кофта і рыжая саржавая спадніца, падпярэзаная тоненькай папружкай з бліскучай спражкай. Лазіна перацікнулася так, што збоку падобна на асу — у поясе, здаецца, можна перашчыкнуць.

— Здагадваешся, чаго я тут? Прыйшла па сваю долю. А хату, бачу, ты і не думаеш прадаваць.

— Пакупцоў не было,— хлусіць бацька.— А доля твая... Во ад сіраты дом забіраеш.

— Пра сірату трэба было думаць тады, калі за мяне не заступіўся,— не паддаецца на жаласць Лазіна.— А цяпер позна... Думаеш, задарма я з табой ночкі каратала!

— Ціха, сараматніца! Дзіця побач.

Лазіна паварочваецца да Слаўкі, з ног да галавы разглядае яго.

— І як жа жывецца без мяне? Нешта ж худы, як шкілет. Відаць, добра глядзіць цябе твая новая мама?

— Я хворы быў,— насупіўшыся, гаворыць Слаўка.

— А ў мяне дык не хварэў,— чамусьці радуецца Лазіна і зноў глядзіць на бацьку.— То што будзем рабіць? Калі мне па грошы прыходзіць?

— Пачакай якога паўмесяца,— чухае патыліцу бацька.— Калі прадам дом, то я накажу ў Паначу.

— І пра япрука не забудзь,— напамінае няпрошаная госця, адыходзячы.— Я замуж збіраюся. Сам разумееш: грошы трэба.

— Начыста абабрала,— плюецца бацька ўслед Лазіне.

На парозе стаіць Кацярына Раманаўна. Яна бачыла праз акно Лазіну, здагадвалася, хто гэта, але на двор не выходзіла, а цяпер выбегла і глядзіць на грэблю, дзе мільгаецца стракатая, квяцістая кофта.

— Хто ета быў?

— Хіба не ведаеш? — чамусьці злуецца бацька.— Тая, панацкая, сатана.

— Што ж цяпер будзе? — бядуе Кацярына Раманаўна.— Каб дзе пазычыць грошай?

— Грошай? — няўцямна глядзіць на яе бацька.— У каго ж па сённяшнім часе знойдуцца такія вялікія грошы? Круці не круці, а дом прыйдзецца прадаць.

Махнуўшы ў адчаі рукой, ён ідзе ў хату, а гэтыя яго словы, мусіць, чуе сарока і паўсюль разносіць

на сваім хвасце вестку, што ў Ясянцы прадаецца зусім новы дом. Пакупцы паваліпі валам. Яны прыдзірліва аглядалі дом, лазілі на гарышча, але ганьбы жытлу не давалі і пачыналі цанавацца:

— Колькі ж хочаш, чалавеча?

— Менш як за дваццаць тысяч не прадам.

— Во загнуў! Пабойся бога — такая цана.

Пакупцы ішлі ні з чым, здалёк азіраючыся на несусветна дарагі дом, а бацька круціў мо пятую самакрутку, прысеўшы на прызбу. З каморы вылазіў Капрыз, грэўся на сонцы, плюскаючы вачыма, як быццам і ён нешта разумеў і радаваўся, што торг не адбыўся.

Бацька не думаў, што будзе столькі пакупцоў. Як толькі найшоў погалас пра хату, яны кожны дзень наведваліся ў Ясянец. У навакольных вёсках яшчэ было многа пагарэльцаў з вайны. Яшчэ многія жылі ў зямлянках, а каму не хацелася мець добры дах над галавой? Бацька, апусціўшы вочы, называў ранейшыя грошы, не спускаў ні капейкі, і пакупцы, крыўдзячыся, вярталіся назад.

— Яно, канечне, дарагавата,— апраўдваўся бацька больш перад сабой, чым перад пакупцамі.— Адкуль цяперачы ў людзей лішняя капейка? А што я? Больш вазьму, больш і сабе застанецца. Мо зноў прыйдзецца будавацца?

Але аднаго дня, здаецца, у нядзелю, калі ўсе былі дома, прыйшоў пакупец, які толькі глянуў на дом і не стаў цанавацца:

— Добрая хата, добрая! Ат, чалавеча, называй цану. Колькі скажаш, столькі і заплачу.

Пакупец, каржакаваты, лысы і надзіва рухавы, як скора высветлілася, прыехаў з Сіняўкі. Пакупец быў у адных гадах з бацькам і папрасіў, каб яго называлі проста Мікалаем. Прозвішча ў яго было Пішчык, і Слаўка здзівіўся, што ў такога мажнога дзядзькі

такое «камарынае» прозвішча. Пішчык, відаць, меў неблагі заработак, таму што не спалохаўся тых вялікіх грошай, якія назваў бацька.

— Па руках, не будзем таргавацца. З мяне яшчэ і барыш,— расшчодрыўся Пішчык.— А скажы, чалавеча, мусіць, не з дабра прадаеш такі ладны дамок?

Бацька сумна ўсміхнуўся:

— Прыспічыла, дык прадаю... Доўга расказваць...

Мужчыны зайшлі ў хату, пакупец даў задатак, і бацька старанна пералічыў шырокія, як ручнікі, бо-ценныя паперкі. Пішчык развязаў торбу, выняў бохан сітнага хлеба і адрэзаў вялікую скібку. Слаўка хутеў сітніцу, і яму было шкада свой новы дом, які хутка перавязуць у Сіняўку. Цяпер зноў трэба будзе жыць у старэнькай дзедавай хатцы, а там не вельмі разгонішся.

— Адным словам, дамовіліся,— падняўся з-за стала Пішчык.— Як толькі падсохне дарога, дык і прыеду забіраць.

— Хата добрая, Мікалай,— бацька бярэ з услона шапку і ідзе праводзіць Пішчыка.— Для сябе рабіў...

— Яно і бачна. Нават аканіцы з цацкамі выштукаваў.

Слаўка цяпер кожны дзень глядзіць на дарогу, па якой, міма Хартонавага лужка, людзі ездзяць у Сіняўку. І бацька ходзіць самотны, задуменны. Толькі адзін дом не ведае, што яму пагражае, і стаіць такі ж, як стаяў — прыгожы, блакітнавокі. А дарога? Божа мой, як хутка падсыхае дарога! Яшчэ ўчора на вуліцы стаялі лужыны, а сёння засталіся толькі сырыя грудкі гразі.

— Усё, трэба перабірацца,— сказаў бацька.— Заўтра можа Пішчык заявіцца.

— Давай,— уздыхнуўшы, ціха гаворыць Кацярына Рамапаўна і пачынае здымаць з вокан фіранкі.

Пярэбары зусім не такія вясёлыя, як увосень, ка-

лі яшчэ пры маме з дзедавай хаткі пажытак пераво-зілі ў новы дом. Цяпер усё наадварот. Лыжкі, разаб-раўшы на палавінкі, бацька пераносіць на плячах. Цяжкі, акаваны жалезам куфар едзе на каламажцы. Упёршыся ў дышаль, каламажку папіхвае бацька, а збоку яму памагае Кацярына Раманаўна. Дзед пад-трымлівае куфар, каб не ўпаў.

— Трэба было б каня запрэгчы,— кажа дзед.— Усё-такі лягчэй было б.

— Няма калі бегчы па каня...

На калгасным двары на тым тыдні закончылі ка-нюшню, і дзед завёў Жука ў табун.

— Колькі тут етага скарбу,— гаворыць Кацярына Раманаўна.— І без каня ўправімся.

Потым дзед і бацька вязуць па каламажцы шкапчык, а Слаўка едзе за імі на качарзе. Ад качаргі ў пяску застаецца глыбокая разорка. Вілкі і чапляю нясе Кацярына Раманаўна. Вяртаецца, здымае са сцен асадкі з фатаграфіямі, сцірае пыл. З-за рамкі, дзе мамін партрэт, падае на падлогу кавалачак воску.

— Мне ад спужання воск вылівалі,— тлумачыць Слаўка.

— А чаго ж ты спужаўся?

— Інго Мэгусь у акно глядзеў. Вось я і спужаў-ся,— расказвае Слаўка, але Кацярына Раманаўна нічога не разумее.

Слаўка пакрыўджана змаўкае. Кацярына Рама-наўна ходзіць па хаце, глядзіць, ці не засталося што-небудзь вартае. На камінку знаходзіць парваныя панчохі і ўважліва аглядае іх.

— Шкада выкідаць. Калі зацыраваць дзіркі, дык уга яшчэ колькі можна насіць,— ці то сабе, ці то Слаўку гаворыць яна.

— Гэта Лазіціны панчохі.

— Цяпер усё адно... Пайшлі адсюль.

На парозе Слаўка аглядаецца. У хаце цяпер ні-

чога няма, і пустая яна здаецца непрыветнай і сіратлівай. Адны голыя сцены ды вялікая — на палавіну кухні — печ. Сёння печ ужо не падміргвае чорнымі вейкамі юшак, як тады, калі Слаўка лез па каву. Уздыхнуўшы, ён хуценька зачыняе дзверы.

Ля дзедавай хаты самотна шумяць дрэвы. Яны быццам разумеюць Слаўкаву скруху і сваім шумам, пэўна, хочуць падбадзёрыць яго. Слаўка гуляе на вуліцы, таму што ў дзедаву хату існі не хочацца. Там цёмна і цесна, усе праходы застаўлены розным скарбам. Цесна так, што прыйшлося зноў выкінуць на двор клышаногі стол, за якім летась мама частавала гасцей з Паначы.

Слаўку сумна бегаць па двары, але як на злосць, ніхто не праходзіць паўз бярозу — ні Фафан, ні Тома. Слаўка ўзіраецца ў бок школы і раптам, захваляваўшыся, хаваецца за бярозай. Па вуліцы ідзе Аксення Іванаўна, новая дакторка. Яна, напэўна, ходзіць па хатах і робіць уколы малым дзецям. З-за бярозы Слаўка цікуе: куды ж кіруецца дакторка? Каля дома, дзе жыве Антось Струкач, Аксення Іванаўна адчыняе брамку і заходзіць у хату. Слаўка з палёгкай уздыхае. У Гэлькі Струкачовай малая дачка, і дакторка часта бывае ў іх. Але цяпер новы клопат у Слаўкі: убачыўшы Аксенню Іванаўну, ён успомніў пра шпрыц, які летась схаваў пад бярозай. Слаўка ведае, каму трэба аддаць шпрыц з бліскучай іголкай: Аксенні Іванаўне, то мо не будзе рабіць яму ўколаў.

З новай радасцю ён бярэцца за працу. Трэскай калупае і калупае падатлівую, сырую зямлю пад бярозай. Ужо і сонца апусцілася над Ясянцом і прыкметна пасвяжэла, а шпрыц усё не знаходзіцца. З дзедавай хаты выходзіць Кацярына Раманаўна і, убачыўшы Слаўку ля бярозы, кліча яго:

— Ідзі ў хату. Будзем вячэраць.

— Добра, іду.

Слаўка кідае трэску і нехаця адыходзіцца ад бярозы. Шпрыц усё-такі трэба знайсці. А на Ясянец апускаецца ціхі, спакойны вечар. На канаве ля Хартонавага лужка крэкчуць жабы, у паветры хмаркамі таўкуцца камары.

Такая ж цяплынь стаяла і летась, калі бацька пачынаў будаваць новы дом.

## 2

Па даху, па самым яго вільчаку, ходзіць паласаты кот. Ён не ведае, як спусціцца на зямлю, мяўкае ад страху. Каля дома, які дажывае тут свае апошнія хвіліны, гуртам стаяць ясянчане. Збоку можна падумаць, што кот цікавіць іх больш, чым сам дом, прададзены ў Сіняўку. Людзей здзіўляе не тое, што кот ходзіць па вільчаку, ясянчан турбуе другое пытанне: як ён, пярэсты сваволльнік, забраўся туды? На гэтую праблему кожны мае сваю думку:

— Высока ж залез, паразіт!

— Пэўне, браўся па вуглу дома. Кіпці ж у катоў вострыя.

— А можа, ён з бярозы пераскочыў?

— Ну, што ты, Сцяпан? Ета ж не ваверка, каб лётаць. Бачыш, які вялікі прасвет паміж сцяной і бярозай?

— І то праўда.

Бацька стаіць збоку, не ўмешваецца ў гаворку. Ён круціць самакрутку, і Слаўка бачыць, што рукі ў яго ўздрыгваюць, прасыпаючы тытунь на сырую зямлю. Ясянчане ведаюць, чаму прададзены новы дом, але гэта як быццам іх мала турбуе. Яны стараюцца не глядзець на бацьку, у якога дзіўна блішчаць запалыя вочы, а ўсю сваю ўвагу скіроўваюць на Кап-

рыза. Падыходзіць сіняўскі Пішчык і таксама задзірае голаў уверх.

— Ета ж трэба,— цмокае ён языком.— Зараз наробім груку, дык злезе.

Пішчык паварочваецца да хмурных дзядзькоў, якіх прывёз з сабой, і дае каманду:

— Можна пачынаць. Сонца вунь як паднялося.

Прыезджыя цесляры прыстаўляюць да сцяны лесвіцу і асцярожна, каб не ўпасці, лезуць на дах. Капрыз, убачыўшы іх, знікае з другога боку страхі. За сякеры бяруцца Антось Струкач і Сцяпан Баразна — Пішчык і іх наняў разбіраць хату. Яны асцярожна здымаюць з завесаў блакітныя аканіцы, адрываюць ліштвы, і дом адразу траціць сваю прывабнасць. Баразна бярэ палавінкі аканіц і носіць іх пад бярозу.

— Не хадзі блізка,— крычыць ён Слаўку.— Упадзе што, то і каўкнуць не паспееш.

Зверху на зямлю сыплюцца кавалкі шчапы: цесляры чамусьці не ашчаджаюць яе. Падсоўваюць сякеры пад латы і здзіраюць шчапу жыўцом, не шкадуючы, што яна ломіцца. Бацька пахмурна глядзіць на яўны разбой, але маўчыць — дом ужо не належыць яму. Пішчык не ведае, як прыйшлася гэтая шчапа, каб ведаў, то мо не даваў бы такой волі сваім цеслярам. Бацька стаіць, маўчыць і, напэўна, прыгадвае леташнюю халодную зіму. У самы мароз ён загадзя парабіў вокны, а напрадвесні прывёз і ўстанавіў у дзедавай паветцы станок. Яшчэ з восені тут ляжалі асінавыя плашкі. Упрогшыся ў дышаль станка, мужчыны рэзалі шчапу. На другім канцы дышля быў нож, і з кожным пацягам з-пад яго выскоквала гатовая дошчачка. Пад паветкай пахла горкай асінавай карой, марожаным дрэвам. Бацька лічыў шчапу, складваў у стос і турбаваўся, каб хоць хапіла накрыць дом. І вось тая шчапа, якую так ашчаджаў

бацька, ляціць долу, паламаная і знявечаная сякерамі.

Усё-такі бацька не вытрымлівае, як не з абурэннем гаворыць Пішчыку:

— Пабойся бога, Мікалай! Шчапу навошта глуміш?

— Якое ж ета крыццё шчапой? — здзіўлена глядзіць Пішчык.— Адно глупства. Год-два — і згніе дах. А я дом шыферам буду крыць.

— Хіба што шыферам!

Бацька сёння позніцца на работу. Ён раптам успамінае гэта і, крута павярнуўшыся, крочыць з двара на вуліцу. Ідзе, угнуўшы галаву, спяшаецца, як быццам уцякае ад таго месца, якое нядаўна было яго цёплым гняздом. Ідзе, не азірнуўшыся, не пацікавіўшыся, як цяпер выглядае дом здалёк.

А дом мяняецца проста на вачах. На страсе, каля коміна, дзе нядаўна пахаджваў Капрыз, ужо завіхаецца Антось Струкач. Ён разбірае комін, а цагліны пускае па дошцы ўніз. Адна за другой яны сунуцца па дошцы і, набраўшы хуткасць, мякка падаюць на зямлю, у кучу кастрыцы. Пішчык ледзь што не на ляту хапае іх, саскрэбвае гліну і складае ў шліхту. Часам якая цагліна ўсё ж разбіваецца, і тады Пішчык вохкае, збіраючы палавінкі, дакорліва крычыць уверх:

— Асцярожней, чалавеча! Усю цэглу панішчыш.

— Дастаў шыферу, то і цэглы дастанеш,— не надта прыслухоўваецца да яго просьбы Антось Струкач.

— І ўсё ж паласкавей там будзь,— просіць Пішчык.

Сцяпан Баразна таксама сядзіць на хаце. З таго боку страхі, дзе шчапа ўжо садрана, ён адрывае латы ад кроквяў. Скрыгочуць цвікі, не хочуць лезці з дрэва: цвікі новыя і ўчэпіста трымаюцца за латы.

— Халера б на вас,— ледзь што не мацюкаецца Сцяпан Баразна. Яму не вельмі хочацца знішчаць тое, што рабіў сам.

На скорую руку мужчыны палуднуюць і зноў бяруцца за работу. Ля старой бярозы не сціхае шум і грукат. Вось ужо разабраны комін да самай столі, вось ужо і латы ляжаць у кучы. Шчыты мужчыны не разбіраюць: апускаюць на зямлю цэлымі. Там, на новым месцы, з імі менш марокі будзе. Над домам стаіць воблака пылу, таму што цесляры пачынаюць зрываць столь, засыпаную пяском.

Пішчык круціцца каля цесляроў і, здаецца, толькі перашкаджае ім. Зверху падаюць дошкі, і Пішчык, убачыўшы дзяцей блізка ля зруба, злуе.

— Пайшлі, гіцлі, прэч! Шчэ катораму хрыбетнік пераб'е.

К вечару дом не пазнаць: няма крокваў, няма столі, толькі адзін зруб зеўрае чорнымі праваламі вокан. Сонца садзіцца за лес, увачавідкі вечарэе, і зруб тады здаецца чорным, як з вугалю. Прыезджыя збіраюцца ісці начаваць да Сцяпана Баразны, а бабуля, падаткнуўшы хвартух, збірае аскабалкі шчапы і носіць да сябе пад паветку.

— Усё адно прападзе,— кажа яна,— а так улетку будзе хоць чым картоплю спрашчыць.

Бабуля носіць у хвартуху абломкі асівавых дошчачак і штохвіліны ўзіраецца ў прысмерк вуліцы. Але бацька сёння позніцца, і позніцца, мусіць, знарок, каб не бачыць такі рэзрух на сваім дварышчы. Прыходзіць позна, калі ўжо добра сцямнела. Пакуль распранаецца ў парозе, бабуля з трывогай глядзіць на яго. Упэўніўшыся, што бацька не п'яны, яна кліча яго да стала:

— Вячэрай. Я ж, грэшная, падумала, што зноў да чаркі прыклаўся. Не давядзі госпадзі! Хопіць ужэ, што такі даміска прагуляў з Лазінай.

— Не лезь, мама, у душу,— гаворыць бацька, і ў яго голасе больш скрухі, чым злосці.— І без таго моташна.

— І праўда, памаўчыце вы,— просіць бабулю Кацярына Раманаўна.

Бацька вячэрае, але бачна, што яда не лезе яму ў горла. Падняўшыся з-за стала, ідзе спаць. Слаўка туліцца да яго калючай, непаголенай шчакі.

— Не бядуй, сынок,— гладзіць Слаўку шурпатая, цяжкая далонь.— Мы сабе новы дом зрубім. Яшчэ лепшы.

— А калі?

— Паглядзім. Мо і етым летам. Як лесу расстараемся.

Слаўка, узрадаваўшыся, што бацька збіраецца будаваць новы дом, засынае, і ў сне да яго прыходзіць мама. Яна сядзіць ля ложка і просіць, каб Слаўка слухаў Кацярыну Раманаўну. Ён туліцца да матчыных цёплых рук і чуе, што рукі пахнуць спелым жытам. Мама прыйшла да Слаўкі якраз на світанні і цяпер баіцца, каб хто яе не ўбачыў у хаце. На двары, за вуліцай, чуецца грукат, і мама, уздрыгнуўшы, растае ў паўзмроку, нічога не сказаўшы на развітанне.

— Мама!

Слаўка прачынаецца і расчаравана глядзіць на табурэтку. Падалося ўсё: мамы ля ложка няма. Затое з двара ясна чуецца стук сякер. Цесляры падняліся рана, бо ім трэба разабраць зруб, пакуль з Сіняўкі прыйдзе машына. Слаўка злосны на цесляроў. Навошта спалохалі маму?

Ля печы стаіць Кацярына Раманаўна і лыжкай мяшае ў гаршку вару. Слаўка хоча непрыкметна выскачыць на двор, але не ўдаецца. Толькі ўзяўся за клямку, як азвалася Кацярына Раманаўна:

— А ты чаму не спіш?

— Не хочацца.

— Скора снедаць будзем.

— Я потым прыбягу.

На дварэ яшчэ сыра, сонца толькі выглянула з-за лесу, але мужчыны, шчыруючы на зрубе, аж увапрэлі, расчырванеліся ад работы. Яны зрываюць бэлькі і па сцяне асцярожна спускаюць уніз. Вось ужо і ачэпы едуць па сцяне. Цесляры пачынаюць зрываць плашчакі. Відно, што дом рубілі хвацкія майстры. Плашчакі ляжаць шчыльна, як улітыя. Сцяпан Баразна забівае ў пазы драўляныя кліны, і плашчакі са скрыпам усё ж вылазяць з гнёздаў. Іх трэба спускаць на зямлю яшчэ асцярожней, каб не збіць вуглавыя замкі. З пабітымі вугламі плашчакі хоць выкідвай.

Ля бярозы, як і ўчора, сабраўся гурт людзей. Хто ні ідзе міма, дык спыніцца, пастаіць. Тут і цётка Альбіна. Яна бяжыць у Кругловічы па пошту.

— На цэлы век рабілася,— кажа Папіха жанкам.— Бачыце, як мужыкі мэнчацца.

— Хто ж ведаў, што так выйдзе,— уздыхае Гэлька Струкачова.— Добра, што нябожчыца Анюта нічога етага не бачыць.

— І не кажы, матка.

Сонца ўвачавідкі падымаецца над Ясянцом. Яно заблыталася ў кронах дзедавых вязаў і, здаецца, ніяк не можа адкаснуцца іх учэпістых, крывых галін. Папіха глядзіць на сонца, папраўляе па плячы брызентавую сумку і кажа кабетам:

— Пабягу я. Вачыма бядзе не паможаш...

На зрубе не сціхае стук сякер, а на падворку ўжо нельга прайсці — усё тут загрувашчана разабранымі часткамі дома. У шліхце стаіць цэгла, да бярозы прыслонены вокны. Плашчакі мужчыны таксама складваюць у кучу. Куча расце, а зруб усё меншае. Нарэшце запыханыя дзядзькі дабіраюцца да падвалін. Падважваюць іх лягарамі і адкочваюць убок. Сцяпан Баразна па чарзе абыходзіць вуглы былога дома, на-

гінаецца, нешта падымае з валуноў, на якіх ляжалі падрубы.

— Слаўка, ідзі ка мне.

Слаўка падыходзіць, і Сцяпан Баразна сыпле яму ў жменю некалькі манет. Манеты зялёныя і цьмяныя ад таго, што ляжалі ў сырасці.

— Вазьмі, мо якіх падушачак купіш.

Мужчыны, паскідаўшы з сябе кашулі, мыюцца каля калодзежа. Тужліва рыпіць журавель, самотна пазвоньвае вядро.

Антось Струкач выцірае шыю ручніком, глядзіць на загрувашчаны пляц і ціха гаворыць:

— Хаты як і не было. Ажно рукі гудуць...

— Век бы не бачыць такой работы,— хмурыцца Баразна.

Пішчык стаіць побач, але ён не чуе, аб чым гавораць мужчыны.

Сіняўскі таўсцяк пільна ўглядаецца ў дарогу і прыслухоўваецца, ці не гудзе машына.

— Чэрці! Хутка паўдня, а іх няма. Казаў жа, каб раней выехалі.

У кожнага свой клопат. Пішчык хвалюецца, што позніцца машына. Слаўка не ведае, што рабіць з медзякамі. А па пляцы ходзіць Капрыз. Кот не можа ўцяміць, куды прапала хата, і таму без канца ходзіць па котлішчы. Ён маркоціцца па цёплай печы, а можа, проста ў кучы смецця і друзу пачуў мыш?

## 3

З боку калгаснага двара, які свеціцца стрэхамі новых пабудоў, далятае гул машыны. На прасецы, мабыць, яшчэ не падсохла гразь, і машына раве натужна, з завываннем. Гул з кожнай хвілінай нарастае, і вось ужо з-за беластрэхіх кароўнікаў паказваецца ве-

лізарны грузавік з прычэпам. Ля Хартонавага лужка машына лёгка выбіраецца з гразкай нераточыны і вырулёўвае на вясковую вуліцу.

— Студар! Амярыканскі,— тлумачыць Фафан.

Ясянец яшчэ з сівой мінуўшчыны славіцца кемлівасцю і дасціпнасцю дзяцей. Во і Фафан — сказаў і азірнуўся: ці ж хоць усе пачулі? Але, на жаль, дарослыя не заўважылі замурзанага, хоць і вельмі дасведчанага падшыванца. Страціўшы ўсялякую надзею на павагу ясянчан, Фафан тлумачыць ужо аднаму Слаўку:

— Хвайная машына! Яны ў нас ад вайны засталіся.

— Ажно зямля дрыжыць, як ідзе,— захапляецца машынай і Слаўка.

«Студар», хутаючыся сінім дымам, тармозіць побач з пляцам, які загрувашчаны разабраным домам. З высокай падножкі на зямлю спускаецца шафёр, а з другога боку кабіны вылазіць нейкае дзіўнае бялявае стварэнне з чырвонымі банцікамі ў валасах. Яно стаіць на падножцы і радасна пляскае далонькамі. Дзяўчынка некага шукае ў натоўпе і, убачыўшы яго, тоненька пішчыць:

— А вось і я! Мяне мамка пусціла.

Падыходзіць Пішчык, але, па ўсім відаць, ён не вельмі задаволены, што на машыне прыехала дачка.

— Вот яшчэ! Дзе я тут з табой дзенуся? — бурчыць Пішчык.— От бо назола.

— Я табе не буду замінаць.

Лысы таўсцяк здымае дзяўчынку з падножкі і, убачыўшы хлопцаў, вядзе чырвоныя банцікі да іх.

— Пагуляйце хіба з маёй Зойкай. Няма мне калі з ёю важдацца.

Фафан адразу пагардліва капыліць губы:

— Знайшлі нянек.

А Слаўка не рашаецца пярэчыць, хоць і не ведае,

што яму рабіць? Ці то ўцячы, ці то ўзяць Зойку за руку.

— Не саромейся, хлопчык. Хораша ж тут гуляйце.

— Ыгы,— гыкае Слаўка.

— Мы будзем хораша гуляць. Праўда, хлопчык? — важна, як дарослая, кажа Зойка.

— Ыгы.

Слаўка гыкае, а самому хоць праз зямлю праваліся ад сораму. З вуліцы добра відаць, як з хаты выйшла Кацярына Раманаўна і вывешвае на плоце паласаты сяннік. На сенніку расплылася вялікая жоўтая пляма, і гэта турбуе, непакоіць Слаўку. Варта толькі Зойцы глянуць у той бок, і яна здагадаецца пра паходжанне жоўтай плямы, якая заняла добрага паўсенніка. Слаўка забягае наперад Зойкі, засланяе сабою Кацярыну Раманаўну, а тут яшчэ гэты ўсёведны Фафан — паглядае на плот і хіхікае.

— Які праціўны хлопец! — шэпча Зойка.

Слаўка не ведае, што рабіць, што казаць балбатлівай госці з чырвонымі банцікамі. Але — ура! Па вуліцы тэпае Папісіна Тома. Гэта яго, Слаўкава, выратаванне. Толькі ж і Тома не вельмі здагадлівая, тэпае марудна, як чарапаха, а няма таго, каб бягом падбегла.

— Вунь і наша Тома ідзе,— бярэ Слаўка Зойку за руку.— Пабеглі насустрач.

— Пабеглі.

Тут жа і бегчы — усяго крокаў дзесяць. Але для Слаўкі важныя і гэтыя дзесяць крокаў, бо крыху далей стаіць тоўсты вяз, засланяючы сабой дзедаў двор, дзе на плоце сушыцца сяннік з падазронай жоўтай плямай.

— Мяне Зойкай завуць.

— А мяне Томай.

Дзяўчаты не ведаюць, што трэба казаць далей,

і стаяць моўчкі, глядзяць, як дзядзькі грузяць дом на машыну. Мужчыны, сагнуўшыся, носяць на плячах цяжкія, сырыя плашчакі, і твары ў іх потныя, чырвоныя ад натугі. Нічога цікавага тут няма.

— Пайшлі на грэблю,— прапанавала Тома.— Будзем слухаць, як вада журчыць у рэчцы.

Ніякай рэчкі ў Ясянцы, канечне, няма. Але калі на бязрыб'і і рак рыба, то і канава, зараслая алешнікам і вярбой, на бязводдзі можа здацца рэчкай.

— Пайшлі,— ахвотна згаджаецца сіняўская госця.

Грэбля, пасля дажджоў гразкая нават улетку, цяпер падсохла, выветрылася. У калдобінах, праўда, яшчэ стаіць каламутная вада, але ж хто ходзіць па калдобінах? Для гэтага ёсць сцежачка, якую людзі пратапталі ўздоўж грэблі. Сцежачка быццам разумее, што Томе і яе сябрам трэба абавязкова паслухаць, як бруіцца вада, і прыводзіць іх проста на стары, драўляны мосцік, з незапамятных дзён перакінуты цераз канаву.

— Ой, як тут хараша! — радуецца Тома.

Яна стаіць пасярод мосціка, і вецер скубе на ёй сукеначку, агаляе калені. Тома нічога не заўважае, глядзіць на поплаў, жмурачы вочы ад сонца. Тут, па мосціку, сонца чамусьці яркае, сляпучае, рассыпалася залатымі бліскаўкамі па канаве. Вада бруіцца, журчыць, шуміць, з пенай вырываецца з другога боку мосціка. Абапал канавы раскінуўся поплаў, каля вербніку прабіваецца маладая траўка, а там-сям на ўтравянелай аселіцы жаўцеюць кветачкі. Ад цеплыні, якая стаяла апошнія дні, зацвіла лотаць.

— Як добра, што зацвіла лотаць,— пляскае ў далоні Тома.— Я цэлы букет нарву і ў школу занясу.— Тома глядзіць на Зойку: — А ты любіш кветкі?

— Люблю. Толькі не гэтыя, жоўтыя. Я падснежнікі люблю.

Вада пад мосцікам журчыць, бруіцца. Яна чыстая

і празрыстая, прасвечваецца наскрозь. Дзе самая плынь, на дне жаўцее пясок.

— А ў нас навіна,— хмурыцца раптам Тома.— Наша Волька пойдзе замуж за Родзю. Дзіцёнак у іх будзе. А Зіна на ферме цяпер за даярку. Я адна дома — і бялізну мыю, і картоплю абіраю. Хоць парвіся адной.

Зойка зусім не хоча слухаць пра Томіны клопаты: шалее, бегае па мосціку, кідае ў чыстую ваду грудкі гразі, разганяючы ад берага жучкоў і лупатых трытонаў, якія таксама вылезлі пагрэцца на сляпучым сонцы.

— А ў мяне дома веласіпедзік,— хваліцца яна.— Татка купіў. Трохколавы, куды захачу, туды і еду.

Томе няма што на гэта сказаць, і яна ўздыхае:

— І добра ж табе, Зойка. У цябе бацька жывы, бо з хронту вярнуўся.

Затое Слаўка не падае так нізка перад Зойкай.

— Што веласіпедзік! Вось у мяне шпрыц е. Блішчасты. З іголкай. Каму хочаш магу зрабіць укол.

Чырвоныя баццікі ад такой навіны прыходзяць у захапленне.

— А не хлусіш? У цябе і праўда ёсць шпрыц?

— Я ніколі не хлушу,— злуе Слаўка.— Шпрыц я знайшоў на старым печышчы. Толькі цяпер яго няма. Шпрыц я схаваў пад бярозай і пакуль не знайшоў.

— То ёсць, то няма,— крывіць губкі зласлівая Зойка.— Хлус ты, Слаўка.

— Не сварыцеся, дзятва,— па праву старэйшай прыкрыквае на іх Тома.— Пайшлі от лепш лотаць ірваць.

Тома першай збягае з мосціка, і яе босыя ногі ўжо мільгаюць ля алешніку, дзе іскрацца жоўтыя кветкі. Зойка глядзіць на свае белыя сандалікі і не рашаецца ісці на поплаў: там сыра. Слаўка тут у

выйгрышы — у яго моцныя чаравікі, не прамокнуць. Хацеў зняць, ды Кацярына Раманаўна не дазваляе: кажа, яшчэ рана хадзіць басаніж.

— Пайшлі і мы,— кліча Слаўка чырвоныя банцікі.

Зойка ўсё-такі, відаць, рашылася б ісці на сыры поплаў, але тут пачуўся гул, «студар» каля бярозы ахутаўся дымам.

— Ад'язджае,— затрывожылася Зойка.— Ану іх, з гэтымі кветкамі.

Нават здалёку бачна, што «студар» загружаны даверху. Стаіць пад бярозай, хутаецца дымам і, здаецца, чакае, калі падбягуць дзеці.

— Жаніх і нявеста! — з'едлівым смехам сустракае Слаўку Фафан. Ён яшчэ тут, нікуды не пайшоў.

— Цыц, нягоднік! — злосны Пішчык праганяе ад машыны Фафана і кажа сваім чырвоным банцікам: — Мо ты, дачушка, пабудзеш тут? Мы яшчэ раз прыедзем.

— Добра, пабуду. Толькі ты не баўся.

Слаўка аглядае пляц: мужчыны пагрузілі на машыну добрага паўдома. Засталіся толькі шчыты, кроквы, вокны, цэгла. Дзіва што забяруць за два разы —машына ж такая пакоўная.

— Адыдзіцеся, дзеткі! —высоўваецца ўжо з кабіны Пішчык.— А то ненарокам яшчэ...

Дрыжыць зямля, хістаецца ад гулу вецце бярозы. У нос лезе едкі, смярдзючы дым. «Студар» марудна паўзе па вуліцы.

— Пайду і я,— развітваецца Тома.— Яшчэ ў школу спазнюся.

Мужчыны, якія памагалі Пішчыку грузіць машыну, разыходзяцца, таму што падаспеў абед. З хаты выходзіць Кацярына Раманаўна і кліча дзяцей палуднаваць. Слаўка слупянее: сяннік! Цяпер Зойка абавязкова ўбачыць жоўтую пляму. Слаўка з жахам глядзіць на дзедаў двор, але на плоце сянніка ўжо

няма. Высах, дык Кацярына Раманаўна забрала ў хату.

— Пайшлі, Зойка,— круціцца Слаўка ля чырвоных банцікаў. Адкуль і ветлівасць узялася!

У хаце Зойка неахвотна выпівае кубачак малака і соладка пазяхае:

— Спаць хачу.

Зойка спіць, накрытая той самай коўдрай, на якой намаляваны сонца і калодзеж. Зверху — чырвоныя, а з другога боку — чорныя. «Хай сабе спіць, калі такая песта»,— думае Слаўка і бяжыць на двор. Азірнуўся, ці няма каго, скінуў цяжкія чаравікі і прабегся босымі нагамі каля бярозы.

— На цвік не ўпарыся! — ля дзвярэй стаіць Кацярына Раманаўна і дакорліва хітае галавой.

Вось табе і маеш! Але перасцярога не шкодзіць. На пляцы сапраўды многа цвікоў — і вялікіх, і малых. Іх трэба пазбіраць. Цвікі — такая рэч, што заўсёды спатрэбіцца. Слаўка знайшоў іржавую бляшанку і кідае ў яе сабраныя цвікі. Яшчэ і бляшанка не напоўнілася ўкоптур, як з-за калгаснага двара зноў далятае гул машыны. Неўзабаве «студар» раве ўжо блізка, на вуліцы.

Гэты раз мужчыны грузяць машыну марудней. І не дзіўна: адна драбяза засталася. Дзядзькі спачатку носяць цэглу ў кузаў, а потым зацягваюць наверх дошкі, кладуць шчыты і латы, а вокны прывязваюць вяроўкамі, каб не ўпалі ў дарозе. Калі ўсё зроблена і на пляцы нічога не застаецца, акрамя друзу, Пішчык дзякуе мужчынам і лезе ў кішэню па грошы, каб расплаціцца за работу.

— Не думайце, што пакрыўджу,— чмыхаючы носам ад пылу, кажа ён.— І цябе, Сцяпан, і цябе, Антось. Два дні — і дома як не было.

Чырвоныя банцікі ўжо тырчаць у кабіне. Ляснуўшы дзверцамі, туды ж залазіць Пішчык, і «студар»

раве на ўвесь Ясянец. Ледзь толькі скрануўся з месца, як раптам быццам міна ўзарвалася. Стрэліла так, што яха пайшла. Машына асела перадком на левы бок, са спушчанага кола зашыпела, выходзячы, паветра.

Шафёр, спалохаўшыся выбуху, выскачыў з кабіны і яшчэ не ведае, што здарылася. Нагінаецца, разглядае скат і, нешта выцягнуўшы з-пад яго, паказвае мужчынам:

— Чорт вазьмі! Нехта «кошку» паставіў.

Слаўка дзівіцца. Шафёр трымае ў руцэ дошчачку, у якой забіты тры вялікія цвікі, а гаворыць, што гэта кошка. Мужчыны, ахаючы, разглядаюць з усіх бакоў дашчаную «кошку». Пішчык, затрывожыўшыся не на жарт, таксама вылез з кабіны.

— Ета той смаркач зрабіў, што круціўся тут,— адразу здагадваецца ён.— Пакажыце, дзе ён жыве, я вушы яму паадрываю.

— Неразумнае дзіця, што з яго возьмеш,— заступаецца за Фафана Сцяпан Баразна.— Сіратой расце.

— Неразумнае, кажаш? А такое ўчварыў, што і стары не дадумаўся б.

Шафёр шырока расчыніў кабіну, падняў ніжняе сядзенне і калупаецца ў жалезнай скрынцы, беручы патрэбны інструмент. Злосць у яго прайшла, ён амаль ужо весела падміргвае Слаўку:

— А баявы ў цябе дружок! Нічога — праз гадзіну паедзем. Яшчэ добра, што запаску ўзяў.

Шафёр мяняе кола, бразгае ключамі, а Слаўка з трывогай пазірае на вуліцу: хоць бы не ішоў Фафан. Калі пападзе пад гарачую руку, то вушам чырванець, як маку. Але Фафан не такі дурань, каб несці свае вушы ў Пішчыкавы рукі. Вуліца пустая.

— Вось і ўсё. Можна ехаць,— гаворыць шафёр і анучкай выцірае замасленыя рукі.— Калі зноў не напорамся на «кошку».

— Ад таго гіцля што хоч можна чакаць,— азіраецца па баках Пішчык і, пакрэктваючы, лезе ў кабіну.

Праводзіць машыну з хаты выходзяць Кацярына Раманаўна, бабуля і дзед. Бабуля выцірае ражком хусткі вочы і глядзіць услед машыне.

— Хай едуць сабе. Тут абышло шчасце, дык мо там, у Сіняўцы, дом будзе шчаслівы.

Дзед стаіць, апёршыся на кій, хоча нешта сказаць, але махае рукой і моўчкі ідзе ў хату.

«Студар» праехаў паўз Хартонаў лужок, мінуў калгасны двор. І там, на прасецы, што вядзе да Арэшніцы, суседняй вёскі, гул машыны паступова сціхае.

## 4

Пасля цёплага дажду, які прайшоў ноччу, пасвяжэла зямля, затравянела аселіца, распусцілася старая бяроза. Яна ўхуталася зялёным дымам і хоць трошкі прыхарошвае пляц, дзе яшчэ нядаўна стаяў новы дом з блакітнымі аканіцамі.

Па пляцы цяпер басанож не прайсці. Слаўка, праўда, пазбіраў цвікі, але ўсё ж засталося многа чаго, чым можна парэзацца. У нозі колецца кастрыца, якой закрывалі столь, каб з хаты не выходзіў цёплы дух. Вецер ганяе абрыўкі газет, сухі мох, падымае пыл. Там, дзе была кухня, з норак на камяні павылазілі жабы і грэюцца на сонцы. Недзе ў кастрыцы папіскваюць мышы. «Вось каб ката на іх напусціць»,— думае Слаўка. Падумаў пра ката і затрывожыўся. Капрыза, аказваецца, ён не бачыў з учарашняга дня. Слаўка бяжыць у хату, заглядвае ў хлеў, пад паветку. Зноў вяртаецца пад бярозу, а Капрыза нідзе няма.

Па вуліцы, размахваючы зрэбнай торбачкай з кнігамі, ідзе Фафан.

— Ты мо ката шукаеш? — здзекліва пытае ён у Слаўкі.

— Адкуль ты ведаеш?

— Не шукай нават. Учора я звязаў Капрызу лапы і цішком укінуў у кузаў. У Сіняўцы твой Капрыз.

Фафан рагоча, задаволены сваім жартам, а ў Слаўкі на вачах выступаюць слёзы. Як жа так? Яшчэ нядаўна было ўсё: і мама, і новы дом, і Курашчуп, і Капрыз. Як жа так, што сёння ад усяго гэтага багацця не засталося і знаку? Знак, праўда, застаўся — загрувашчаны, закіданы смеццем пляц пад зялёнай бярозай.

— Ты... ты бандыт! — выкрыквае Слаўка і з кулакамі накідваецца на Фафана. Лупіць па шчоках, па плячах. Той адступае, але не таму, што баіцца Слаўкі, а таму што сюды ідзе яго бацька. І не адзін, а з Кацярынай Раманаўнай. Фафан, пагразіўшы кулаком, уцякае.

— Што тут у вас? — падыходзячы, пытае бацька.

— Фафан учора нашага Капрыза закінуў у кузаў машыны,— скардзіцца Слаўка.— І кот у Сіняўку паехаў.

— Не плач, сынок. Завядзі сабе новага ката. Вунь іх колькі бадзяецца па Ясянцы. А ў мяне і без цябе турбацыі хапае.

Бацька ходзіць па пляцы, які загрувашчаны рознай непатрэбшчынай, нешта думае, разважае, а ўслых кажа:

— Тут жа і будзем будавацца.

Слаўка адразу перастае хныкаць.

— Хай бы не на тым самым месцы,— трывожыцца Кацярына Раманаўна.— Кажуць, няможна будавацца там, дзе ўжэ была бяда.

— Канечне, можна і адступіць ад вуліцы. Але, можна адступіць. Так яшчэ лепей будзе.

Бацька ходзіць па пустцы, крокамі мерае сваю будучую сядзібу, потым зноў вяртаецца пад бярозу.

— Вось тут будзе хата,— паказвае ён рукой.— Там паставіцца хлявец, а там — варывенька.

— І садок трэба пасадзіць,— уступае ў гаворку Кацярына Раманаўна.— Каб ета не было свайго яблыка? У нас, у Звонцы, многа садоў.

— Можна і садок. Усё можна. Абы ціха на свеце было.

Слаўка слухае і радуецца: у яго зноў будзе новы дом! І бяроза, здаецца, шуміць вецццем ужо не так журботна, як раней. «Трэба папрасіць бацьку, каб прынёс сіняй фарбы,— думае Слаўка.— Абавязкова трэба, каб у новым доме вокны былі блакітныя».

— Добры дзень, суседзі! Няйнакш будавацца надумалі?

Па вуліцы праходжваецца Струкач. На руках ён трымае дачку, на якую разжыўся, калі Слаўка хвараў. На дварэ стаіць цяплынь, ласкава-пяшчотна грэе сонейка, дык грэх у такое надвор'е трымаць малую ў хаце. Вось Струкач і праходжваецца па вуліцы.

— Добры дзень, Антось! — адказвае на яго прывітанне бацька.— Думаць думаю, а што з тых думоў выйдзе?

— Як што? Новы дом. Лесу сельсавет пэўна дасць.

— Быў я там. Напісаў заяву.

— То чаго бядуеш? Дадуць лесу. Пакуль ільгота, то хутка дадуць. Многія ж яшчэ будуюцца.

— І я так думаю,— згаджаецца бацька і выцягвае капшук.

Малую з Антосевых рук бярэ Кацярына Раманаўна, а мужчыны, адступіўшы пад бярозу, закурваюць. З недалёкага дома на двор выбегла Гэлька Струкачова, з хвіліну паўглядалася на пляц і шыбуе проста сюды.

— Во куды яны дзеліся!

Мужчыны курацъ, а жанкі стаяць зводдаль, любуюцца малой, якая, прыгрэўшыся на сонцы, спіць у цёплай коўдры. У жанок і размова жаночая.

— Была прыхварэла малая,— расказвае Гэлька.— Мо ночаў дзве я не спала. Хвала богу, што доктар цяпер на месцы. Аксення Іванаўна прыйшла і дала ўкол, сказала, як глядзець дачушку... І дзе толькі прастудзілася малая, у галаву не дабяру?

— Мала дзе магла прастудзіцца,— выказвае сваю думку Кацярына Раманаўна.— Адчыніш дзверы, і ўсё — свяжак.

— І так магло быць. А дакторка добра ўмее лячыць.

— Ну, але. Кажуць — талковая.

Мужчыны ўжо адышліся ад бярозы, паселі на камянях. Струкач дыміць самакруткай і здалёк любуецца дачкой.

— Спіць малое. Прыгрэлася на сонейку, дык спіць.

— А які ёй клопат яшчэ?

— Яно ж так. Была б цыцка, і якое ёй гора?

Струкач хоча яшчэ нешта сказаць, але, глянуўшы на вуліцу, замаўкае, як бы там нешта дзівіць яго.

— Зірні. Ці не Інго Мэгусь валачэцца каля школы?

Бацька ўглядаецца ўздоўж вуліцы, аж прыўстае з каменя і гаворыць з нейкай прыкрасцю і скрухай у голасе:

— Такі ж ён — Мэгусь. Яшчэ адну зіму перакідаўся.

— Дзіва што. Сабаку ўжо мо не аднаго з'еў. А сабачы тлушч, кажуць, і праўда памагае ад сухотаў.

Інго Мэгусь калдыбае па вуліцы ў гэты бок, прыпадае на пакалечаную нагу, цяжка апіраецца на кій. На павадку за ім сунецца худы, рабрысты сабака.

Сабака ліняе, і з яго бакоў ашмоццем звісае рыжая поўсць.

— І куды ж ты сабраўся? — Струкач рогатам сустракае Інго Мэгуся.— Ці не на паляванне часам? Вунь якога ганчака закілзаў?

— Смяешся, Антось! — спыняючыся побач, крыўдзіцца Інго.— Якое тут паляванне? Во іду і ад ветру магу зваліцца.

Мэгусь, канечне, прыбядняецца. Выглядае ён не так ужо і марна. Шчокі за зіму папаўнелі, нават румянец з'явіўся на іх. Восенню Інго быў худзейшы. А каб яшчэ пагаліў бараду, то і зусім добра глядзеўся б.

— І ўсё ж, куды кіруешся? — не адступае Струкач.— Ды яшчэ з такім ваўкадавам?

Інго глядзіць спачатку на худога, аблезлага сабаку, потымківае на Слаўкавага бацьку.

— Во да яго, да Давыдчыка. Сабаку я прывёў. Узамен таго, беленькага.

Бацька ад здзіўлення падхопліваецца з каменя.

— Ты што? Здзекуешся з мяне? Ды я табе за Курашчупа галаву хацеў скруціць!

— Невінаваты я,— канькае Мэгусь, збянтэжаны такім паваротам справы.— Хворы ж я. Ужэ даўно прыглядаўся, каб якога сабачку залавіць. Сказалі: здорава памагае. А той белячок сам у катушок забег.

Кацярына Раманаўна глядзіць на сабаку, крывіцца ад агіды.

— Тфу, якая брыдота! І навошта нам такі здыхляк? Пайшлі адсюль, Юзік.

На пляцы, пад бярозай, застаюцца Слаўка і Інго Мэгусь, які страціў усякую надзею апраўдацца за Курашчупа. Мэгусь уздыхнуў, наважыўся ісці, пацягнуў за сабой сабаку. Той упіраецца, клацае зубамі за вяровачку, хоча вырвацца на волю, таму што,

відаць, чуе сваю пагібель. Інго спыняецца, скідае аброшак з сабачай шыі.

— Гуляй сабе. Усё адно з цябе ніякага лою не натопіш.

Мэгусь сунецца далей па вуліцы — сагнуты, згорблены, а лядашчы сабака адбегся за пляц і стаіць там, не верачы, што ўдалося вырвацца на волю. Нечакана з-пад бярозы ляціць камень і цаляе акурат па худых сабачых рэбрах.

Віскнуўшы, сабака бяжыць на поплаў, хаваецца ў алешніку.

Слаўка азіраецца. Ну, канечне ж,— гэта ён, Фафан. З-пад паламанага брыля шапкі на Слаўку глядзяць лупатыя вочы, а круглы твар скаліцца шчарбінамі ў роце.

— Папаў! Здалёк папаў! — рагоча Фафан, задаволены сабой.

— Не трэба было біць сабаку. Ён і без таго худы.

— От яшчэ што!

Апоўдні па небе паплылі хмурынкі, а цяпер, бліжэй к вечару, з-за бярозы зноў выглянула сонейка і зноў на крушню павылазілі жабы. Яны грэюцца на санцапёку, цешацца цеплынёй і дабратой, якая стаіць у свеце.

Фафан угледзеў, што жабы вылезлі пагрэцца, і задзірыста крычыць:

— Ого, колькі іх тут! Пачакайце ж трохі...

Фафан нагінаецца, падымае з зямлі кавалак цагліны і з размаху папускае ў крушню. Жабы, мільгануўшы белымі лапкамі, хаваюцца ў свае норкі, а адна — расплясканая — застаецца на камені. Камень мокры ад жабячай слізі і крыві.

— Папаў! — зноў хваліцца Фафан.

Уздрыгваючы ад жаху, ад агіды, Слаўка туліцца за бярозу. Яму хочацца заплакаць, але тут, за бярозай, дзе няма цяню, у вочы раптам кальнулі сляпучыя

сонечныя промні. Сонца шчыруе на небе, а промні бліснулі ад зямлі, нават не ад зямлі — адбіліся яны ад дробных шклінак, рассыпаных каля ног. Слаўка зажмурыўся і адразу ўспомніў, што якраз тут ён летась закапаў бліскучы Дусін шпрыц. Цяпер ад яго засталіся адны ашкалёпкі, бо якраз у гэтым месцы буксануў «студар», раздушыў шпрыц і выграб наверх шкельцы. Ад іх пырскаюць ва ўсе бакі сонечныя зайчыкі.

На вачах у Слаўкі круцяцца слёзы. Ён нагінаецца і падымае з зямлі кавалачкі тонкага шкла. Усё ж шкада, што машына раздушыла шпрыц. А як жа ўдала можна было завесці дружбу з Аксенняй Іванаўнай. Цяпер што? Дакторка прыйдзе і вельмі проста зробіць укол.

Фафан бачыць слёзы ў Слаўкавых вачах і ў першы момант быццам палохаецца:

— Ты што, плачаш? Жабу шкадуеш?

— І зусім не жабу. Шкельцы — во... Бачыш?

— Бачу! А што? Кінь ты іх. Я табе каляровых шкельцаў прынясу.

— Не трэба мне каляровых шкельцаў.

— Румза! — паціскае плячыма Фафан і, памахваючы торбачкай з кнігамі, ідзе з-пад бярозы.

Але Слаўка не плача. Нешта супакойвае яго, суцяшае, і ён стараецца ўбачыць, адкуль прыйшоў гэты спакой. Над ім пахіствае веццем бяроза, шамаціць зялёнымі лісцікамі, і мо гэта яна, бяроза, супакоіла Слаўку? Ужо нізка над Ясянцом вісіць сонца, у вочы лезуць мошкі, з канавы далятае жабячы крэкт. Слаўка адыходзіць ад бярозы, ля дзедавай брамкі азіраецца, і яму здаецца, што старая бяроза за дзень пазелянела яшчэ больш, чым была зранку.

## Раздзел восьмы

### 1

Бяроза, ахутаная светленькім зялёным дымком, засланяе сабой добры кружок заваложанага неба. Дзіўна толькі, што стаіць яна не на пустцы, не насупраць дзедавай хаткі, а зеляніцца пры шашы, на людным месцы, сярод гаманы, таўкатні, гармідару. Прымроілася Давыдчыку. Пасвятлела ў вачах, і адразу стала бачна, што гэта зусім не бяроза, а звычайная таполя, пад якой Давыдчык стаяў раніцой. Таполя выплывае з туману, вось яна ўжо блізка, так блізка, што нават відны ўсе шурпатасці на кары.

Калі таполя набыла акрэсленыя контуры, аказалася, што яна зусім не зялёная, а шэрая, і ўслед за гэтым недзе знік, прапаў белы туман. Тое, што хавалася разам з туманам, было не казкай, не сном — было балючай рэальнасцю, далёкай і незабыўнай. Давыдчык не ведаў, колькі часу ён быў у тым белым тумане. Мо гадзіну, мо дзве, але факт, што быў вельмі доўга. А цяпер трэба падымацца, трэба ісці шукаць свой аўтобус. Скінуўшы рэшткі мрояў, Давыдчык заўважыў, што на лаўцы ён сядзіць абсалютна адзін. Дзядуля з сеткай, поўнай ружовых шпалераў, прахапіўся ад дрымоты раней і, хутчэй за ўсё, даўно паехаў дахаты. Ім было па дарозе, але Давыдчык не шкадаваў, што прапусціў аўтобус, на якім паехаў яго выпадковы знаёмы.

Два дашчаныя ларкі абапал аўтакасы па-ранейшаму гандлявалі півам, пячэннем, таннымі цукеркамі. Давыдчык падняўся з лаўкі, узяў у руку чырвоную сумку з пакупкай. Яму зноў трэба куды-небудзь ісці, каб не скіроўваць на сябе ўвагу людзей. Аўтобус на Ганцавічы адправіўся, наступны будзе яшчэ не скора, але ж і пехатою не пойдзеш — трэба

чакаць новай аказіі. Давыдчык ловіць сябе на думцы, што яго зусім не турбуюць аўтобусы — ні першыя, ні апошнія. Зараз, калі ў памяці многае праяснілася, ён больш не дакарае сябе за гэтую сваю недарэчную паездку, наадварот, ён павінен знайсці лагічную сувязь паміж сённяшнім днём і мінулым, якое на нейкі час выплыла тут з белага туману.

Тады, у дзяцінстве, Давыдчык быў занадта малы, каб да канца ўсвядоміць, асэнсаваць смерць маці. Усё гэта: і спалох, і збянтэжанасць — прыйшлі пазней, калі Давыдчык адчуў сябе нечакана сталым і ўраўнаважаным чалавекам. Думаць пра маці Давыдчык усё часцей пачаў пасля трыццаці гадоў, з той самай ночы, калі пасля сваіх імянін прачнуўся ў ліпкім халодным поце. Ён, напэўна, закрычаў, таму што, калі расплюшчыў вочы, каля яго сядзела жонка.

— Станіслаў, што з табой? Ты ж трызніш у сне! — спалохана спытала Ліля.

— Прымроілася штосьці. Мабыць, спаў на левым баку,— адказаў ён і потым ужо не мог заснуць.

Мабыць, упершыню ён тады падумаў, што смерць маці не была выпадковай. Здагадка скаланула яго. Аднойчы ў сне ён нават убачыў мамінага забойцу. Давыдчык амаль фізічна адчуваў яго прысутнасць. Забойца быў побач, дыхаў на яго, стараючыся хапіць за горла кашчавымі пальцамі. Давыдчык бараніўся, засланяўся рукамі, але забойца стаяў над ім і рагатаў, рагатаў, цешачыся сваёй уладай над безабаронным, бездапаможным чалавекам. Гэта было страшна, жудасна і агідна.

Прачнуўшыся, Давыдчык не адразу супакоіўся. Потым падумаў: «Цьфу ты! Якое глупства, якая недарэчнасць!» Ён жа добра помніць: як маме стала блага, як яе выносілі на воз, каб везці ў Ганцавічы. Мама памерла, не даехаўшы да радзільнага дома, і прычым тут агідны, страшны чалавек, што добрай

паўночы скавытаў, рагатаў над Давыдчыкам? Але чым больш Давыдчык аналізаваў даўнія падзеі, усё часцей прыходзіў да высновы, што тут няма выпадковасці. Забойца ўсё ж быў, але ўдарыў ён не прама па маме. Забойца парваў сувязі між людзьмі, парушыў камунікацыі ў жыццёвай згодзе, вырваў з яе звенні, і з той пустаты, якая засталася пасля гэтых звенняў, вырваўся ўдар, нацэлены на маму.

Едучы ў Сіняўку, каб высветліць, калі ўдасца, узнікшыя пытанні, Давыдчык са скрухай думаў, што ён амаль забыў вобраз мамы. Вобраз яе адлюстроўваўся, як у разбітым люстэрку. Але з паасобных рысак нельга дакладна скласці яе позірк, яе ўсмешку. У Давыдчыка было адчуванне, што яго абакралі — забралі, выхапілі з-пад носа маміну ласку і пяшчоту.

Амаль кожны год, увесну, ён прыязджаў у Ясянец і разам з Кацярынай Раманаўнай ішоў на могілкі.

— Прабач, Анюта, але больш я да цябе не прыйду,— казала Кацярына Раманаўна, выходзячы з агародкі.— І сама я ўжэ старая...

Але мінаў год, раставаў снег на палях, падсыхала дарога, і пастарэлая, гарбаносая Кацярына Раманаўна, уздыхаючы, зноў збіралася ісці на могілкі. І Давыдчык быў шчыра ўдзячны ёй за гэта, час ад часу прывозячы з горада недарагія гасцінцы. Побач з Кацярынай Раманаўнай, гэтым залатым рублём, жухнуў цьмяны, як пятак, вобраз Лазіны, знікаў, ледзь акрэсліўшыся ў памяці. Пасля таго як прадалі дом, яе Давыдчык амаль не сустракаў, а каб сустрэў, то мо ўжо і не пазнаў бы. Тады ж, калі дом паехаў у Сіняўку, бацька пайшоў у Паначу, панёс грошы Лазіне. Але не паспеў вярнуцца назад, не паспеў высушыць боты, як у дзедавай хатцы паявілася цётка Зося.

— Што вы, людцы, нарабілі! — адразу з парога закрычала яна.— Чаму я нічога не ведаю, што ў вас такая бяда? Хай бы сказалі мне, то мо і не прыйшлося б прадаваць дом.— Цётка Зося выняла з сарафана скрутачак.— Во грошы прынесла.

— Адкуль яны? — здзівіўся бацька.— Не такая ж ты багатая, каб грашыма кідацца.

— Ды ета ж не мае. Твае тут грошы. Я іх у Веркі адабрала, хай ёй будзе пуста!

Бацька паглядаў то на цётку Зосю, то на Кацярыну Раманаўну, яшчэ нічога не разумеючы.

— Вазьмі, твае тут грошы,— паўтарыла цётка Зося.— Верцы я пакінула як за япрука, а ўсе астатнія адабрала. І чаму ж я не ведаю, што ў вас начаўплося?

Каля старой бярозы ўжо нанава быў расчышчаны пляц, ужо і ляснік адбіў з дзесятак сосен на новы дом, апроч таго, дзірак на рублі было, як у тым рэшаце, але бацька адмовіўся ад газетнага скрутачка з грашыма. Цётка Зося паглядзела на яго, як на дурня, і паціху пайшла на грэблю, мусіць, адчуваючы і сваю віну за ўсё, што здарылася ў Ясянцы. Яна азіралася на бярозу — дома з блакітнымі аканіцамі не было.

Канечне, гэта выпадковасць, што сіняўскі Пішчык аказаўся багацейшым за купцоў, якія прыязджалі да бацькі з-пад Лунінца і нават з-пад Пінска. Канечне, дом зусім выпадкова апынуўся ў Сіняўцы, дзе немцы калісьці павесілі Дусю Яўсееву, але якраз у гэтым Давыдчык убачыў нейкую сувязь, убачыў нейкую яшчэ не ўсвядомленую сімволіку.

Пра гэта яму падумалася, калі ён перайшоў шашу, мінуў шэрую таполю і пачаў спускацца ў лагчыну. Давыдчык спускаўся ў лагчыну і ведаў, што ідзе правільна, што яму трэба абавязкова пабываць у тым доме, які, магчыма, яшчэ помніць маміны крокі, усмешку, яе голас. Вулічка, на якую ён выбіўся, ака-

залася надзіва гразкай, але гэта мала турбуе Давыдчыка. Запырскваючы гразёй туфлі і калашыны штаноў, ён ідзе на сустрэчу з даўняй сваёй стратаі, якая праз многа гадоў усё ж наклікала да сябе.

Дом, бокам уціснуты паміж яблынь і сліў, абнесены высакаватым плотам. Дом жмурыцца вясёлымі вокнамі, і ажно не верыцца, што гэта той самы дом, які стаяў некалі ў Ясянцы пад старой бярозай. Яму, даўняму знаёмаму, трэба было б падабраць нейкія асаблівыя словы прывітання, але Давыдчык, уражаны сустрэчай, ні да чаго не мог дадумацца. «Добры дзень!» — занадта афіцыйна. «Здароў, браток!» — вельмі ж па-сяброўску. Так нічога і не сказаўшы, Давыдчык стаяў каля весніц, глядзеў на блакітныя аканіцы, на жоўтую шалёўку, на шыферны дах. Але дзіўна: першапачатковае ўражанне змянілася. Зблізку дом аказаўся не такім высокім, як помніўся з маленства. Цяпер дамы будуюць куды прастарнейшыя, чым тады, пасля вайны. І гэты аказаўся меншы, чым здаваўся здалёк. Праўда, дом дагледжаны добра: фарба на ліштвах яшчэ свежая, не палопалася ад сонца, нават з'явілася зашклёная веранда — раней яе не было. Панадворак чыста падмецены, а на вокнах вісяць цюлевыя фіранкі.

Давыдчык разглядаў дом, потым зняў зашчапку, але зайсці на панадворак не паспеў. На горцы, дзе стаяла школа, раптам зазваніў галасісты званок. Давыдчык зірнуў туды і ўбачыў, што з горкі ў гразкі завулак спускаецца жанчына, модна апранутая і яшчэ не старая — хутчэй за ўсё мясцовая настаўніца. Жанчына глядзела ў гэты бок, і Давыдчыку трэба было апраўдацца перад ёю за сваю прысутнасць ля чужых весніц. Як толькі жанчына параўнялася, Давыдчык адступіў ад весніц і спытаў:

— Прабачце, але вы не маглі б сказаць, хто жыве ў гэтым доме?

Настаўніца мелькам глянула на дом з блакітнымі аканіцамі, затым уважлівым позіркам акінула Давыдчыка з галавы да ног.

— Зоя Петух. Касіркай на аўтастанцыі працуе. А што?

— Хачу на кватэру наняцца,— хутка знайшоўся Давыдчык і здзівіўся сваёй кемлівасці.— Я сюды на работу прыехаў.

— Не ведаю, ці выйдзе ў вас што,— паціснула плячыма жанчына.— Нешта не чуваць было, каб Петухі бралі кватарантаў. Я тут па суседству жыву, дык мо чула б.

— На ўсякі выпадак зайсці варта. Як вы думаеце?

— Зайдзіце. Папытацца можна.

— Дзякую вам.

— Калі не тут, дык на другой вуліцы папытайце.

Жанчына дала такую людскую параду і пайшла далей, а Давыдчык усё яшчэ стаіць каля весніц, не рашаючыся пераступіць дошчачку ўнізе паміж двух слупкоў. Дошчачка як быццам аддзяляе мінулае ад сённяшняга дня. Але гэта быў той самы дом, які, пэўна, яшчэ помніць маміны крокі, яе голас і ўсмешку. Давыдчык павінен быў зайсці туды, урэшце, ён меў выпакутаванае права на свой візіт.

Адчыніўшы весніцы і заносячы нагу над дошчачкай, Давыдчык азірнуўся. Убачыў каля аўтастанцыі таполю, падобную на паветраны шар, убачыў плошчу, на якой стаяў вулічны ліхтар з непатушанай лямпачкай, і гэта натхніла яго зрабіць рашучы крок.

## 2

Перад ім стаяла маладая кабеціна, мо трохі маладзейшая за Давыдчыка, апранутая ў пярэсты байкавы халацік. Яна выйшла на стук і цяпер спрабавала

зразумець: што трэба гэтаму незнаёмаму, суроваму на выгляд чалавеку? І ён стаяў перад пярэстым халацікам разгублены, збянтэжаны ад праніклівага позірку маладой жанчыны. Давыдчык стаяў на ганку, цёр падэшвамі анучку, разасланую ў парозе, яўна зацягваючы час, каб лепей разгледзець мілавідны жаночы твар. У ім не было ніводнай знаёмай рыскі, і Давыдчык жахнуўся: няўжо гэта тая самая Зойка з чырвонымі банцікамі, якая калісьці скакала на масціку ў Ясянцы і слухала, як у канаве журчыць вада? Тады па гразнай грэблі бегала ганарлівае, бесклапотнае дзяўчо, а зараз перад сабой ён бачыў распаўнелую, трошкі стомленую кабету з першымі зморшчкамі каля вачэй.

Давыдчыку трэба было нешта сказаць, нешта прыдумаць, каб апраўдаць свой прыход, каб гэтая стомленая жанчына не падумала дрэнна аб ім. Зноў, падзівіўшыся ўласнай кемлівасці, Давыдчык успомніў рантам пра сваю прафесію, якая прыйшла яму на выручку:

— Прабачце, я з Сельэнерга. Трэба паглядзець талоны, праверыць электралічыльнік.

Суровы, пахмурны выгляд мужчыны, які стаяў на ганку, хвіліну назад абяцаў жанчыне нешта незвычайнае, нешта таямнічае, але даведаўшыся, што перад ім звычайны электрык, Зойка, тая колішняя ганарліўка з двума чырвонымі банцікамі, была яўна расчаравана. Страціўшы ўсялякую цікаўнасць да манцёра, яна нават і не хацела гэтага свайго расчаравання хаваць, даволі суха сказала:

— Ды была ўжо тут на днях кабеціна, правярала плату за электрычнасць.

— У бухгалтэрыі нейкая памылка выйшла. Быццам бы паказанні лічыльніка не сыходзяцца,— зноў знайшоўся Давыдчык і зразумеў, што стаў вялікім

хлусам.— Начальства паслала,— апраўдваецца ён,— а калі начальства загадвае, то трэба слухаць.

— Я разумею,— ужо больш лагодна гаворыць маладжавая гаспадыня. І запрашае: — Праходзьце ў хату, не стойце на парозе.

Цераз кухню яна вядзе Давыдчыка ў суседні пакойчык, садзіць за стол, пакрыты жоўтым плюшавым абрусам.

— Пачакайце трохі. Я талоны пашукаю.

— Добра, пачакаю.

Гаспадыня выйшла ў спальню, дзверы за сабой не прычыніла, і збоку было відаць, як яна высоўвае шуфлядкі ў шафе, перабірае нейкія паперкі. Чакаючы яе, самазванец-электрык разглядае пакой і нічога ў ім не пазнае. Сцены заклеены квяцістымі шпалерамі, падлога пафарбавана жоўтай эмалевай фарбай і блішчыць, як люстэрка. Пры дзвярах стаіць грубка, але і яна маленькая, не тая, якую запомніў Давыдчык — шырокую і высокую аж да столі. Святліца перагароджана на два пакоі, раней гэтай перагародкі не было: і святліца, і спальня — усё было разам. Праходзячы цераз кухню, ён запомніў, што там стаіць газавая пліта, а печ, такая маленькая, што на ёй не ўмясціўся б цяпер і адзін чалавек.

Дом змяніўся. Разглядаючы яго ўбранства, Давыдчык злавіў сябе на думцы, што яму хочацца, каб у хаце запахла сырой глінай, мохам, жывіцай. Лясным водарам калісьці пахла падлога пасля таго, як яе вышаруюць дзеркачом і змыюць бруд цёплай вадой. Падлога тут пафарбавана і лесам не пахне. Затое ў пакоі ўецца тонкі водар жаночых духоў. Флакончык з духамі стаіць на серванце, і Давыдчыку чамусьці хочацца хапіць гэты флакончык і выкінуць, каб духі не перабівалі пах жывіцы, які здаля пачуўся яму.

— І куды я талоны запраторыла? — разводзіць

рукамі гаспадыня, выходзячы са спальні.— Ніяк не магу ўспомніць. От трымаю чалавека дарма.

— Вы не турбуйцеся,— паспяшыў супакоіць яе Давыдчык.— Часу ў мяне стае.

— Пагляджу хіба ў серванце.

Пярэсты халацік мільгаецца каля вялізнай квадратнай скрыні, зробленай з арэхавага дрэва, пухлыя рукі адчыняюць дзверцы, выцягваюць шуфлядкі, а Давыдчык зусім не глядзіць туды, таму што халацік адхіліўся і агаліў Зойчыны ногі чуць вышэй калень. Увагу яго раптам прыцягнуў фотаздымак, які вісеў на сцяне над самым сервантам. На фотаздымку быў лысаваты, з падмаляванымі ружовымі шчокамі мужчына, і Давыдчык улавіў у ім нейкія знаёмыя рысы.

— Насілу знайшла. Вось яны.

Гаспадыня кладзе на стол стосік сініх квіткоў. Давыдчык выняў ручку і спісвае з талонаў лічбы на лісток паперы, час ад часу кідаючы позірк на сцяну, дзе вісіць лысаваты падмаляваны мужчына. І не стрымаў сваёй дапытлівасці, спытаў:

— Скажыце, калі ласка, хто вунь там на сцяне?

Гаспадыня прысела за стол насупраць, азірнулася на партрэт і сказала неяк раўнадушна і ціха:

— Гэта мой бацька. Цяпер ён у Карагандзе жыве, у маёй старэйшай сястры.

— А-а,— працягнуў Давыдчык, і яму адразу ўспомніўся рухавы сіняўскі дзядзька, які купіў вось гэты дом, не вельмі скупячыся на грошы. Пішчык тады быў намнога маладзейшы, чым зняты на картачцы.

Давыдчык спісваў лічбы з талонаў і вопытным вокам электрыка бачыў, што тут усё ў парадку, што можна ўжо і пайсці, але нейкая сіла прыцягвала яго да крэсла. На момант яму ўявіўся іншы дом, іншыя людзі. Вось тут, каля грубкі, у тым доме стаяў драўляны ложак, а на покуці, дзе зелянеюць гаршкі з ва-

зонамі, сядзелі мужчыны, якія прыйшлі стрыгчыся да бацькі. На ложку сядзела мама. Па хаце плыў сіні дым, а ў вачах мамы быў смутак.

— Многа спажываеце электраэнергіі,— пазбавіўшыся мрояў, раптам зазлаваў Давыдчык.— Во якая куча талонаў.

— Было б дзіўна, каб мала спажывалі,— нічуць не збянтэжыўся пярэсты халацік.— Ёсць жа і халадзільнік, і пральная машына, і тэлевізар, і радыёла. Два сыны як прыйдуць са школы, дык да вечара ад тэлевізара не адыходзяць. Вось і круціцца лічыльнік.

— І муж, напэўна ж, ёсць? — астываючы, пацікавіўся Давыдчык.

— А як жа! Ён механікам на маслазаводзе робіць. Сёння акурат у змене.

У хаце было незвычайна ціха, чыста, утульна, і Давыдчыку не хацелася падымацца з-за стала. Гаспадыня, мусіць, была вельмі руплівай і акуратнай: яшчэ там, на грэблі, Зойка старанна абмінала лужыны, каб не запэцкаць белыя сандалікі. Але Давыдчыку не верылася, што перад ім сядзіць тая ранейшая Зойка з чырвонымі банцікамі. І каб не мучыць сябе пытаннямі, ён, гледзячы на вазоны, спытаў:

— Кветкі, відаць, любіце?

— Люблю. Але больш люблю падснежнікі. А вазоны гэта так, мяшчанства.

Цяпер Давыдчык не сумняваўся, што перад ім сядзіць ранейшая бялявая Зойка. Пастарэла толькі, а валасы з белага колеру сталі каштанавымі. Яна была яшчэ даволі прывабнай і нават прыгожай, нягледзячы на тое, што нарадзіла двух сыноў.

— Дзе тут у вас лічыльнік? — нарэшце падняўся з-за стала Давыдчык.— Мне трэба запісаць паказанні.

— На кухні ён.

Гаспадыня адчыніла філёнчатыя дзверы, і Давыдчык спыніўся ад нечаканасці. На кухні ля парога,

просячыся на двор, сядзеў Капрыз — рыжы паласаты кот. Ну, канечне ж, Капрыз быў акурат такім, хоць дзіўна было б, каб ён дажыў да гэтага часу. Кот мяўкаў, тапырыў вусы, крыўдуючы, што яго не выпускаюць на двор.

— Які сярдзіты кот! — уголас здзівіўся Давыдчык.— Паласаты, як тыгр.

— У нас заўсёды былі такія,— сказала гаспадыня, выпускаючы Капрыза на двор.— Я была яшчэ малая, калі бацька недзе расстараўся рыжага ката. З таго часу і вядуцца.

— Што ж, добры кот.

Гаспадыня паставіла табурэтку, Давыдчык запісаў паказанні лічыльніка. Рукі яго ўздрыгвалі ад хвалявання.

— Усё тут у парадку. Не разумею, як у бухгалтэрыі маглі наблытаць? — сказаў ён, злезшы з табурэткі.— Добра, што прыйшоў, а то лішнія грошы плацілі б за электраэнергію.

— Там могуць,— дакорліва ківае каштанавай галавой гаспадыня.— Там жа, у Сельэнерга, Галя Зайцава бухгалтарам. Такая ветраная, скажу вам, дзеўка. Ведаеце вы яе?

— Галю Зайцаву? Ведаю,— Давыдчыку прыйшлося зноў хлусіць.— За хлопцамі ўсё бегае.

— Але ж бегае. Ды ніхто не бярэ, хоць і грошай мае на «Жыгулі».— Зойка дапытліва глядзіць на Давыдчыка.— Скажыце, а вы жанаты?

— Жанаты. І сына ўжо маю.

— Шкада. А так маглі б жаніцца на Галі, дык адразу «Жыгулі» ля варот стаялі б.

— Ці ж у «Жыгулях» шчасце?

— Так-то яно так. Але свет цяпер такі — без машыны ні на крок. Во і мы грошай сабралі, у чарзе стаім. А Галя — багатая.

Давыдчыку не хочацца больш слухаць пра незнаё-

мую Галю Зайцаву, яму трэба ісці, але ў Зойкі, відаць, узнікае нейкае падазрэнне, і яна пытае:

— Вы даўно працуеце ў Сіняўцы?

— Нядаўна. Два тыдні, як прыехаў.

— Я-то бачу — твар як быццам знаёмы. І — голас...

— Магчыма, сустракаліся дзе на вуліцы,— не хочучы, каб Зойка пазнала ў ім ранейшага замурзанага Слаўку, адказаў Давыдчык і паспешліва развітаўся: — То бывайце. Усяго вам добрага. Не давайце, каб дзеці бесталку круцілі электралічыльнік.

— Ды буду ўжо праганяць ад тэлевізара.

Гаспадыня правяла яго цераз калідор, зачыніла за сабой дзверы. Жмурачыся ад сонца, Давыдчык які момант стаіць на ганку, адчуваючы, што цікаўнасць не ўлеглася, а душа яшчэ больш узрушана і растрывожана. Не на ўсе свае пытанні ён знайшоў адказ у гэтым утульным, абывацельскім доме. З чырвонай сумкай у руцэ Давыдчык спускаецца з ганка і бачыць, што каля прызбы, на санцапёку, сядзіць паласаты патомак Капрыза. Дом, у якім толькі што пабываў Давыдчык, не пах жывіцай, дом назаўжды, відаць, забыў маміны крокі, яе голас, і адзіным напамінкам аб мінулым застаўся гэты сыты, дагледжаны кот, які драмаў на прыгрэве.

— Кіс-кіс! Кіс-кіс!

Давыдчык паклікаў ката, і той, прачнуўшыся, заплюскаў жоўтымі вочкамі. Падбег да незнаёмца, даверліва пацёрся аб калашыну штаноў.

І гэта быў той самы момант, калі Давыдчык, не помнячы, што робіць, нагнуўся, хапіў ката за шкірку і, расшпіліўшы сумку, пачаў запіхваць туды паласатага патомка Капрыза. Паплаціўшыся за даверлівасць, кот кусаў за пальцы, драпаўся вострымі кіпцюрамі. З сумкі выпаў пакунак, абгортка парвалася, і Давыдчык убачыў, што гэта шалік, куплены за пяць

рублёў у сіняўскім прамтаварным магазіне. Падхапіўшы шалік, Давыдчык закруціў у яго ката і, цяжка дыхаючы, зашпіліў чырвоную сумку. Кот, апынуўшыся ў цемнаце, супакоіўся на момант, перастаў мяўкаць, відаць, не разумеючы, што з ім здарылася.

Зрабіўшы такую чорную справу, Давыдчык апамятаўся, калі выбег з двара на гразкую вуліцу. Пакуль усё абышлося добра, таму што гаспадыня не пачула шуму і не выглянула ў акно. І Давыдчык, залізваючы языком абадраны палец, быў удзячны ёй за гэта.

## 3

Давыдчык, як злодзей, уцякаў па гразкім завулку. Ён і праўда зрабіў вялікае глупства. Не кожны чалавек у яго ўзросце надумаўся б красці чужога ката. Але гэта быў не зусім звычайны кот, і Давыдчык, расплёскваючы туфлямі гразь, ціснуўся ў завулак, радуючыся, што гаспадыня не выглянула ў акно і не бачыла разбой на сваім панадворку.

Насустрач, трымаючыся бліжэй да плота, ідзе тая самая жанчына, што надоечы так міла размаўляла з Давыдчыкам. Убачыўшы настаўніцу, ён пачырванеў, абліўся потам, таму што кот у сумцы ўжо не сядзеў спакойна, а драпаў кіпцюрамі і мяўкаў, просячыся на волю. Настаўніца можа пачуць вэрхал у сумцы, можа пацікавіцца, ці ўдалося ўладкавацца на кватэру, а ў такім становішчы Давыдчык, канечне, не мог дазволіць сабе гэтую сустрэчу.

Крута павярнуўшыся, ён пашыбаваў назад па завулку, не азіраючыся, мінуў дом, дзе толькі што быў, параўняўся з горкай, на якой стаяла школа. Настаўніца засталася ззаду, рэпутацыя, такім чынам, была выратавана, але затое ў канцы завулка аказалася балацявіна, залітая бруднай вадой. Тут, відаць, ніхто не ходзіць, таму што ніякіх слядоў няма. Упе-

радзе хат не ўдаць. Адразу за балацявінай пачынаўся поплаў, шырокай палосай агінаючы Сіняўку.

Іншага выйсця ў Давыдчыка не было, і ён смела палез цераз балацявіну, з першага кроку начэрпаўшы ў туфлі вады. Калі выйшаў на груд, туфлі захліпалі і зачвякалі. На поплаве рос хмызняк. Давыдчык скіраваў туды, каб знайсці ў кустах якое прыстанішча і выліць халодную ваду з туфляў. Пад нагамі шоргаў леташні сухі сівец, часам трапляліся лагчынкі, дзе ўжо выскачыла зялёная траўка.

Цяпер, калі побач нікога не было, Давыдчыку і самому стала смешна ад сваёй нядаўняй прыгоды. Хто б гэта мог падумаць, што ён здатны на такое — украсці чужога ката? Давыдчык шукаў апраўданне свайму ўчынку і знаходзіў яго. А калі думаў, што б сказала пра гэта Зойка, то ніякага апраўдання сабе не бачыў. Каму б было цікава слухаць, што даўным-даўно дзесьці быў кот, вельмі падобны на гэтага, што драпаецца ў сумцы?

Давыдчык праставаў цераз поплаў у хмызняк, адчуваючы, што раптоўная весялосць ужо прайшла. Сапраўды, каму які клопат, што было ў ягоным жыцці калісьці? Для чужога вока ў гэтым учынку ўсё ж мала прыстойнага. А для Давыдчыка? Тут усё наадварот. У сумцы ён нёс не проста ката — нёс часцінку сваёй колішняй страты, і таму гэтая часцінка была для яго асабліва дарагая. Зноў жа, як яшчэ паглядзець па яго ўчынак — ці ўкраў, ці проста ўзяў тое, што яму належала па праву?

Пад нагамі шоргае сухі сівец, чвякаюць мокрыя туфлі. Пачаўся хмызняк, і, ледзь углыбіўшыся ў кусты, Давыдчык бачыць перад сабой пляскаты валун, падыходзіць, садзіцца на яго. Разуўшыся, выліў з туфляў ваду, выкруціў мокрыя шкарпэткі. Сумка стаяла каля валуна, і кот, пачуўшы цішыню, замяўкаў галасней. «Можа, выпусціць цябе на волю, каў-

казкі палоннік?» — падумаў Давыдчык. Ён расшпіліў сумку, заглянуў усярэдзіну. Кот ужо выблытаўся з шаліка і плішчыўся ўверх, каб вылезці з сваёй цямніцы. Зблізку аказалася, што кот мала падобны на Капрыза — і хвост кароткі, і вусы малыя, толькі ў масці ёсць нейкае падабенства. «Выпусціць, ці што?» Але ці варта было рызыкаваць, лезці ў лужыну? Усё ж гэта была часцінка дома, які калісьці належаў Давыдчыку. «Завязу дахаты,— рашае ён.— Хай Толік пацешыцца». Давыдчык зноў закруціў ката ў махрасты, мяккі шалік, запхнуў жывы скрутак назад у сумку. Замок да канца не зашпільваў, пакінуў адтуліну, каб кату было чым дыхаць.

— Прабач, друг, што так выйшла,— сказаў уголас.— Калі ты і праўда патомак Капрыза, то паедзеш на радзіму продкаў.

Кот аказаўся намнога разумнейшы, чым паказаў сябе спачатку: прыціх у сумцы, стаіўся і цярпліва чакае, што будзе далей. Давыдчык сядзеў на камені, глядзеў на голы яшчэ хмызняк, і яму чамусьці падумалася, што з гэтага боку Сіняўка вельмі ж падобна на Ясянец. Так, падобны і гэты поплаў, і кусты, што тоўпяцца на ім. Цікава, а ці расце тут лотаць? Там, у Ясянцы, ад яе вясной усё жоўта. У той далёкі дзень, калі дом перавозілі ў Сіняўку, лотаць толькі пачынала зацвітаць. Тома Папісіна рвала жоўтыя кветкі, а Слаўка пільнаваў на мосціку ганарлівую Зойку, яшчэ не ведаючы, што Фафан звяжа Капрызу лапкі і ўкіне ў кузаў «студара». Распускны быў, задзірысты хлопец.

Зусім жа нядаўна Давыдчык сустрэў Фафана ў Ганцавічах. Ішоў цераз скверык з хлебнага магазіна і зацікавіўся мужчынамі, якія пад наглядам міліцыянера падграбалі на дарожках леташняе лісце. Давыдчык прайшоў бы міма, не пазнаў бы Фафана, але той сам спыніў яго:

— Здароў, Іосіфавіч! Закурыць не знойдзецца?

— Знойдзецца, чаму ж не,— адказаў Давыдчык, адразу пазнаўшы земляка. Падаў пачак цыгарэт і, кіўнуўшы на граблі, спытаў: — Ты што, Барыс, у міліцыі цяпер працуеш?

— У якой міліцыі? — шчыра здзівіўся Фафан.— Ты ж ведаеш: трактарыст я, у сваім жа калгасе і раблю. А чаго я тут? Дык дзела, брат, было. Хапянуў лішняга, а жонка ў міліцыю пазваніла.

— Якая кепская жонка! — не без іроніі паспачуваў Давыдчык.— Сама пазваніла?

— Сама. А цяпер харч прывозіць. Мо і сёння прыедзе.

Давыдчык з цікаўнасцю разглядаў аднавяскоўца. Фафан, нягледзячы на сваё становішча, надта не бедаваў. Ён быў апрануты ў зашмальцаваную ватоўку, на барадзе адскочыла шчэць, і па яе даўжыні можна было меркаваць, што лісце ён падграбае не першы дзень. Давыдчык быў залішне цікаўны, таму што Фафан перахапіў яго позірк і паўтарыў:

— Трактарыст я. А ты, Іосіфавіч, на інжынера вывучыўся?

— Але, на інжынера. Па электрычнасці.

— Голаў меў, што вучыўся,— са смуткам у голасе сказаў Фафан.— Ды і бацька, відаць, прыціскаў. А я без бацькавай папругі гадаваўся, сам сабе гаспадар. І ось бачыш — усё яшчэ бузую.

— Нічога, перамелецца як-небудзь...

— Бывай, Іосіфавіч,— падаў руку на развітанне Фафан.— Пайду, а то вунь паглядае.

У тым, што тут, на сіняўскім поплаве, успомніўся Фафан, Давыдчык не бачыў нічога дзіўнага. Усе гэтыя дні, калі ў душу прыйшло ўзрушэнне, ён толькі і жыў вобразамі людзей, якія акружалі яго ў маленстве. З прадоння памяці выплывалі то Сцяпан Баразна, то Антось Струкач. Іншы раз Давыдчык бачыў

аброслую морду Інго Мэгуся. Але гэты паказваўся толькі на момант і адразу ж знікаў. Вельмі добра Давыдчык помніў маршчыністы твар бабулі, успамінаў дзеда, а вось матчын вобраз уяўляўся слаба — то паасобнай дэталлю, то паасобнай рыскай. Вельмі ж рана мама пайшла з Ясянца, каб сын мог запомніць яе.

Думаючы пра маці, Давыдчык раптам аж падхапіўся з каменя: яна ж магла б яшчэ жыць! Жыць пры адной умове. Маці засталася б жыць, калі б у той вечар пад рукой аказалася Дуся. Канечне, маці не сканала б, каб жыла Дуся. Адной яе і не хапіла, каб памагчы маці ў яе пакутах. Пакуль на скрыпучым возе дапхаліся да Ганцавіч, ужо было позна. Дусіна смерць рыкашэтам ударыла па маці. У жывым людскім ланцугу было вырвана цэлае звяно, і цяпер нічым той пустаты не запоўніш. На міг Давыдчыку падалося, што ён зноў бачыць, фізічна адчувае перад сабой мамінага забойцу. Давыдчык расплюшчыў вочы і ўбачыў голыя кусты, поплаў і блакітнае неба ўдалечыні. Нікога побач не аказалася.

Уздрыгваючы ад хвалявання, падняў з зямлі сумку, уважлівей агледзеў поплаў, на якім апынуўся так неспадзявана. Аселіца, шырокай палосай агінаючы Сіняўку, адным канцом упіраецца ў шашу. Калі мінуць поплаў і выбіцца на шашу, то па ёй можна дайсці да аўтастанцыі, толькі ўжо з другога боку. Давыдчык праставаў цераз поплаў, пад нагамі шоргаў сухі леташні сівец, ішоў і ўжо ведаў, што прыехаў сюды нездарма. Калі не ўсё, то, прынамсі, многія пытанні былі высветлены, і гэта супакойвала яго.

Цяпер Давыдчык думаў пра Дусю, пра яе загадкавую смерць і вельмі шкадаваў, што ў Дусі няма магілы, каб прыйсці да яе і проста пастаяць над пясчаным грудком з непакрытай галавой. Гэтага Дуся за-

служыла тым, што не скарылася ворагам, што, не пабаяўшыся Інго Мэгуся, лячыла параненых партызан. Давыдчык ішоў і думаў, што вось прыедзе дамоў і адразу напіша куды трэба пісьмо. Тут, у Сіняўцы, павінен быць помнік, бо не толькі ж дзеля аднаго чалавека немцы рабілі вісельню. Так, ён напіша пісьмо, і помнік будзе стаяць на плошчы, дзе Дуся Яўсеева ў апошні раз бачыла сонца. Яна ж не вінавата ў тым, што адтуль, з чорнага небыцця, не змагла больш памагаць людзям.

Давыдчык заходзіў у Сіняўку з супрацьлеглага боку, ішоў смела, не крадучыся, як злодзей. Ён ужо не баяўся выпадкова сустрэцца з Зойкай, тым больш што і кот вёў сябе ў сумцы адносна спакойна — не мяўкаў і не драпаў кіпцюрамі. Давыдчык не глядзеў у той бок, дзе быў пагорак са школай, а ўнізе стаяў дом з блакітнымі аканіцамі. Давыдчык наогул не думаў пра Зойку, таму што было нешта вышэйшае за яе цёплае і ўтульнае мяшчанскае шчасце.

Пад абцасамі гулка адзываўся асфальт шашы, Давыдчык спяшаўся на аўтастанцыю, каб не спазніцца, каб захапіць свой апошні аўтобус. І ён меў рацыю, таму што сонца ўжо нізка схілілася над лесам. Давыдчык заходзіў у Сіняўку з супрацьлеглага боку, спяшаўся — трэба было ехаць. Ужо блізка была аўтастанцыя, ужо былі відны аўтобусы каля яе, калі Давыдчык раптам спыніўся — уражаны, здзіўлены, збянтэжаны. Ён быў збянтэжаны не тым, што ўбачыў праваруч ад шашы, а тым, што дапусціў у сваім роздуме грубую, дзікую памылку. Ён дакараў сябе за гэта, глядзеў на скверык, які аказаўся справа ад асфальту, і з аблёгкай, нават з радасцю думаў, што ніякага пісьма цяпер яму не прыйдзецца пісаць.

## 4

Справа ад шашы быў скверык. Клінам ушчаміўшыся паміж вясковых хат, сваім вострым канцом ён падступаў блізка да плошчы, дзе і цяпер ліхтар стаяў з непатушанай лямпачкай. Ходзячы каля аўтастанцыі, Давыдчык бачыў гэты сквер, але адтуль ён быў падобны на чыйсьці садок, тым больш што побач былі хаты, і гэтае падабенства ўвяло Давыдчыка ў зман. Ён таму і не звярнуў увагі на гэты маленькі скверык.

Цяпер жа, уваходзячы ў Сіняўку з другога боку, Давыдчык добра бачыў, што гэта не сад, а звычайны вясковы скверык, да таго ж акуратна сплапаваны і не менш акуратна дагледжаны. Улетку тут, мабыць, незвычайна прыгожа, таму што дрэвы ў скверыку растуць густа — адно пры другім. Пакуль жа дрэвы яшчэ не пачалі распускацца, скверык быў шэры, і, магчыма, ён не прыцягнуў бы ўвагу, калі б у цэнтры яго Давыдчык не ўбачыў скульптуру жанчыны.

Так, гэта быў помнік. Давыдчык здалёк глядзеў на яго і радаваўся, што сваю памылку выявіў да таго, як сесці ў аўтобус. У яго душы засталося б на адну трывогу больш, і хто ведае, як спалася б яму гэтай ноччу? Давыдчык радаваўся такой неспадзяванцы і ўжо не шкадаваў, што даў добрага кругаля, уцякаючы на поплаў па гразкім завулку.

Перад ім быў помнік, пра які так многа думалася Давыдчыку, і ён ішоў да яго, не зважаючы, што ідзе нацянькі, збочыўшы з шашы, і што ў сумцы пачаў непакоіцца і драпаць кіпцюрамі кот. Давыдчык ужо ішоў па скверыку, міма голых, крыху зеленаватых ад кары дрэў, дзе ў самым цэнтры на высокім пастаменце стаяла скульптура жанчыны. Скульптура была высечана з шэрага граніту, і ўсёй сваёй паставай, сваім гордым позіркам яна сімвалізавала Перамогу.

На выцягнутых руках жанчына трымала сцяг, на чырвоным палотнішчы зелянела галінка алівы. Зялёнай гэтая галінка застанецца назаўсёды.

Давыдчык стаяў, глядзеў на скульптуру, потым перавёў позірк уніз, на пастамент. Выбітыя ў граніце, на ім гараць золатам два словы «Вечная памяць». Ніжэй, пад гэтымі апякаючымі словамі, у пастамент умуравана пліта з чорнага мармуру. Дзвюма калонкамі на пліце высечаны прозвішчы тых, хто не вярнуўся ў Сіняўку з вайны. Давыдчык чытаў гэтыя дарагія прозвішчы, напоўненыя жахлівым сэнсам, і чым больш чытаў, тым большае хваляванне працінала яго. Спіс быў доўгі, Давыдчык счытваў прозвішчы, пакуль не наткнуўся на тое імя, якое шукаў. «Дуся Яўсеева» — было напісана пасярэдзіне пліты, а ніжэй зноў ішлі прозвішчы, сярод якіх усё часцей трапляліся жаночыя імёны. Сіняўка хораша ўшанавала сваіх землякоў-герояў, не забыўшы і пра тых, хто загінуў, не пабываўшы на фронце. І Давыдчыку тым больш было не па сабе: сем разоў правер, а потым кажы сваю думку.

Пасвяжэла. Нізка над Сіняўкай апусцілася сонца. У голлі дрэў, чуючы вечар, заклапочана шасталі верабʼі, а жанчына на высокім пастаменце святкавала вясну, святкавала сваю Перамогу. Перад помнікам у кошыках стаялі кветкі, да пастамента былі прыслонены вянкі, сплеценыя з яловых лапак. За зіму іголкі не асыпаліся, і вянкі выглядалі зусім свежа. Давыдчык стаяў перад помнікам і ўжо шкадаваў, што не мог расстарацца якіх кветак. Яго біла ліхаманка. Ён падняў руку, каб зняць капялюш, і, толькі дакрануўшыся пальцамі да валасоў, зразумеў, што ўжо даўно стаіць з непакрытай галавой, а капялюш трымае ў руцэ разам з сумкай.

Давыдчык стаяў перад помнікам, і яму трэба было развітвацца з Дусяй, трэба было ісці, каб паспець

па транспарт — у гэты перадвячэрні час на Ганцавічы цераз Сіняўку праходзіць брэсцкі аўтобус. І Давыдчык развітаўся з Дусяй, пайшоў па заасфальтаванай дарожцы, азірнуўся толькі на выхадзе са скверыка. Выйшаў на плошчу і, яшчэ адзін раз азірнуўшыся, зразумеў, чаму помнік не відзён ад аўтастанцыі. У скверыку ўздоўж агароджы растуць кусты акацыі і бэзу.

Давыдчык праставаў цераз пясчаную плошчу, праходзіў каля слупа з непатушаным ліхтаром і думаў, што ў Сіняўку ён прыехаў не марна. Цяпер ён ведаў забойцу сваёй маці, ведаў забойцу Дусі Яўсеевай. Давыдчык нават мог уявіць адкормленае эсэсаўскае мурло, перад якім знявечаная, са звязанымі за спіной рукамі, ішла ў сваю апошнюю дарогу незабыўная Дуся.

Давыдчык цяпер ведаў у твар забойцу, які прыходзіў у кашмарныя сны, і яго скаланала агіда. І гэта тым больш было прыкра і агідна, што фашыст уявіўся ў той самы час, калі на душы ў Давыдчыка паспакайнела, калі ён адчуў аблёгку, і балючыя пытанні пераставалі мучыць яго. Гэта быў нейкі кашмарны, неверагодны дзень, і ўсё ж Давыдчык радаваўся, што паехаў у Сіняўку, дзе пачаў разблытвацца тугі вузел яго пакут.

Давыдчык спяшаўся на аўтастанцыю. І бег нездарма. Аўтобус на Ганцавічы ўжо адпраўляўся, і Давыдчык на хаду ўскочыў у салон. Купіўшы ў вадзіцеля білет, сеў на свабоднае месца, і яму ўжо не было як углядацца ў акно, таму што ў сумцы, пачуўшы дарогу, заварочаўся кот, замяўкаў на ўвесь аўтобус. Чырванеючы ад цікаўных, дапытлівых позіркаў пасажыраў, Давыдчык супакойваў свайго палонніка і толькі краем вока паспеў выхапіць з мноства падобных дамоў, якія стаялі ў лагчыне, той адзіны, дарагі яму дом з блакітнымі аканіцамі.

# АПАВЯДАННІ

## ПАД МОКРЫМ КЛЁНАМ

Стары разлапісты клён угадаў, дзе яму трэба вырасці: ля канцавых хат, на скрыжаванні вуліцы і дарогі. Пад густой кронай зрабілі аўтобусны прыпынак, і людзям стала ўтульней чакаць тут спадарожны транспарт.

За ноч клён прамок наскрозь, увачавідкі пачарнеў, самотна схіліўшы парадзелую чупрыну. Перадзім'е: яшчэ не зіма, але ўжо і не залацістая восень. Зямля пад клёнам заслана шапаткім светла-жоўтым лісцем.

Дождж аціх пад раніцу. На сырым, калючым ветры нікому не хацелася гібець, але, раз-пораз кідаючы позіркі на пустэльную вуліцу, людзі сінелі ад холаду, глыбей утульваліся ў каўняры, а дахаты не ўцякалі. Над мокрым клёнам плылі нізкія, груваcткія хмары, з хвіліны на хвіліну зноў мог лупянуць слотны асенні дождж.

Сымоніха заклапочана глянула на шэрае неба і пашкадавала, што не апранулася цяплей. Пазнілася, то ўжо на хаду ўхапіла старэнькую, выпацканую ў муку ватоўку. Але, выходзіць, дарма бегла: таго ж Алеся Шостака, калгаснага шафёра, яшчэ не відаць і не чуваць.

— То мо ён ужэ паехаў адзін? — занепакоена спытала Сымоніха ў Андрэя Зялёнкі, які стаяў побач і таксама не зводзіў вачэй з пустой вясковай вуліцы.— Стой тут цяперака ды мерзні.

— Як ён мог паехаць? — здзіўлена ўскінуў бровы Зялёнка.— Учора ж дамовіліся. Мы прыйдзем сюды на прыпынак, а Шостак будзе ехаць і забярэ. Пастой, рана яшчэ.

— Калі б цёпла, то можна і пастаяць.

— Не скалееш. Акурат і сонца выбліснула.

Сымоніха і Зялёнка едуць на станцыю па вотруб'е. Учора вазілі цэлы дзень, але не перавезлі ўсё — засталося яшчэ на машыны дзве. А брыгадзір, хітрун кудлаты, ведаў, каго трэба паслаць варочаць тое вотруб'е шуфлямі. Ні Сымоніха, ні Зялёнка не скардзяцца на сілу. Абое плячыстыя, абое раслі на лес гледзячы. У адным прагадаў брыгадзір. Сымоніха любіць пагаманіць, а Зялёнка, наадварот, маўчун. І брыгадзір не падумаў, што камусьці з іх будзе сумна.

— Ну, дзе наш Алесь прапаў? — заныла Сымоніха.— Мо хто другі паехаў на станцыю?

— Не хныч, Марыля! — зыркнуў з-пад ілба Зялёнка.— Кажу, што дамовіліся.

Сымоніха з'едліва ўсміхнулася, тужэй завязала пад барадой канцы хусткі.

— І Філёза калісь з паяздком дамовіўся. Помніш, Андрэй, як Філёза з паяздком...

— Во трапло! Канечне, не забыў. Сам тады з балота ішоў.

— Гэта ж цэлую брыгаду падвёў Філёза трыбухаты,— не зразумела намёку Сымоніха і дакорліва, як быццам той Філёза быў тут, пахітала галавой.— Ага, усю брыгаду! Помніш, як то было? Выйшлі касцы з Бабовішча, а да нашага Сяла адтуль, сам ведаеш, вярстоў дваццаць. Селі, папалуднавалі, адале

дамоў сабраліся тэпаць. «Куды вы? — спыніў Філёза.— Я з паяздком дамовіўся. Будзе ісці, то ўсіх забярэ». Сядзяць людзі пры калейцы, паяздка чакаюць. Нямашака, не ідзе. Ужэ і сонейка апусцілася, ужэ і холадна ў плечы. Раптове — шум з бору. Паяздок! Паўставалі мужчыны, косы, торбы пахапалі. А паяздок з дрывамі на возіках — свісь, свісь, і пайшоў, не прыпыніўся нават.

Зялёнку зусім не цікава слухаць пра тое, што бачыў на свае вочы.

— І не абрыдла, Марыля, бесталку языком мянташыць?

— Я ж і кажу, што праз Філёзу брыгада паўдня змарнавала,— працягвала Сымоніха.— Пасярод ночы ў Сяло заявіліся. Дык, можа, і ты дамовіўся так, як Філёза з паяздком?

— Ну во! Зноў завяла,— абурыўся Зялёнка і, адышоўшыся на колькі крокаў, схаваўся за мокрым камлём.

— Не мне ж цяляты язык аджавалі,— фыркнула Сымоніха.

Сонца быццам у хованкі гуляе: то выблісне, то зноў схаваецца за хмары. І адразу жухне жоўтае, з празалаццю, лісце клёна, шэранню атульваюцца хаты і пустыя, халодныя сады.

— Вунь і Селівончык ідзе,— азірнуўшыся на ціхую вуліцу, паведаміла Сымоніха.— І куды гэта ён выбраўся?

Зялёнка прамаўчаў, унураны ў нейкія свае думы, а Селівончык падышоў, скінуў з пляча квадратную скрыню, завязаную ў старую выліНялую дзяружку.

— Ву-ух! Ледзь давалок,— выдыхнуў ён і, перахапіўшы Сымонішын дапытлівы позірк, растлумачыў:— Цялявізар тарабаню ў рамонтню. Андове вазіў, ды, бачна, не ўсё ў ім наладзілі талкова.— Селі-

вончык зняў шапку, выцер падшэўкай узмакрэлы лоб і плюнуў з прыкрасцю.— Майсцяра мне называецца!

— На станцыю машына павінна ісці,— падказала Сымоніха.— Акурат будзе па дарозе.

— Навогул я аўтобусам збіраўся ехаць,— надзяваючы шапку, сказаў Селівончык.— Але калі свая машына, то яшчэ лепей. Не трэба будзе цераз увесь горад пхацца з грузам. Папрашу шахвёра, каб стаў ля рамонтні.

— Стане, стане! Шостакаў хлопец паслушны.

— Я і заплаціць магу.

— Не возьме Алесь грошай. Ад сваіх, вясковых, і — грошы браць?

Сымонісе цяпер, напэўна, не будзе сумна, бо і Селівончык, калі трэба, па кожнае слова не лезе ў кішэню і за дрэва не пабяжыць ад бабы хавацца. Сонцу захацелася глянуць на такога смелага чалавека — шуснула на момант у прагал паміж хмурын, а клён, высокі і разложысты, як сціртa, пасвятлеў, засвяціўся ад нізу да верху. І яму, і тым, каго ён хаваў пад шырокай кронай, стала ўтульней і весялей. Сымоніха ўжо і забылася пра Філёзу, а ён, мядзведзь тамбоўскі, лёгкі на ўспамін: ідзе па гразкай вуліцы і яшчэ здалёк сіліцца пазнаць людзей, якіх прытуліў ад непагадзі стары клён.

— Яшчэ адзін бядак сунецца,— чамусьці зарадавалася Сымоніха.

— Філёза! — пазнаў Селівончык.

Зялёнка вытыркнуўся з-за дрэва і нічога не сказаў.

— Дзянь добры! — павітаўся Філёза.

— Які ж ён добры, калі халодны,— паказала вачыма на шэрыя аблокі Сымоніха.— Каб хоць дождж не пайшоў. Вымакнем да ніткі.

— І такое можа быць.

Філёза апрануты як у дарогу: на ім яшчэ саматканага сукна бравэрка з авечым каўняром, новыя ялавыя боты. Марудны і кароткашыі Філёза ў гэтай сваёй бухматай бравэрцы падобны на рыжага мядзведзя.

— Шостакаў хлопец яшчэ не ехаў? — засяроджана папытаў Філёза.— Учора вазіў вотруб'е, то і сёння павінен вазіць.

— Самі во чакаем. І подаўна ўжэ.

— Мусіць, матор сапсуўся,— выказаў здагадку Селівончык.— Ці доўга жалезу зламацца?

— Дык жа машына яшчэ новенькая. Як магла зламацца? — не пагадзіўся Філёза.— Тут другое, відаць. Хутчэй за ўсё гэты Шостак ваш надзюдзюкаўся ўчора, ляжыць у пасцелі і лыча не падыме.

Сымоніхе не спадабалася, што Філёза неабдуманымі словамі крыўдзіць Алеся.

— Не нападай на хлопца без дай прычыны,— папракнула яна.— Алесь з людскай сям'і. Надоечы разам палуднавалі ў сталоўцы, дык ён і піва нават не ўзяў,— шукаючы падтрымкі, Сымоніха зазірнула за клён.— Праўда ж, Андрэй, не піў Шостакаў хлопец тае конскае пены?

— Хіба я ў рот яму глядзеў? — адгукнуўся з-за дрэва Зялёнка.

— Я ж і кажу: не п'яніца Алесь.

— Табе б адно заступацца, не падумаўшы,— пакрыўджана чмыхнуў у ноздры Філёза.— Але чаму, па-твойму, не едзе той матросік Шостакаў?

— Матор, мусіць, сапсуўся,— паўтарыў Селівончык.

З сумкі, якую Філёза трымае на згібе локця, вытыркваюць белыя палатняныя мяшкі, скручаныя ў сувой. Сымоніха хацела яшчэ нешта сказаць насуперак, але раптам убачыла белыя мяшкі ў Філёзавай сумцы і, не тоячы цікаўнасці, папытала:

— Куды ж ты, Казё, з мяшкамі? Муку будзеш свінням браць?

— Якую табе муку! Па капусту ў Ганцавічы еду.

— Па капусту? — здзівілася Сымоніха і ўтаропілася на Філёзу, спрабуючы пазнаць: праўду кажа ці хлусіць? — То чаму ж ты, Казё, сваёй не пасадзіў?

Філёза памыляў сінімі губамі, буркнуў пад нос:

— На халеру яе садзіць! У засуху адной вады на градкі не наносішся.

— Неразумна гаворыш. Як гэта, каб сваёй капусткі не мець? Зіма доўгая, чалавеча. Усё з'есца, усё падмяцецца.

Сымоніха стаяла з такім выглядам, быццам хацела сказаць усяму свету: глядзіце, што за дурны чалавек — капусты не садзіць!

— Думаеш, Марыля, я ўжэ і капусту не люблю? — крыва ўсміхнуўся Філёза.— Ем, ажно за вушамі трашчыць. Во пад'еду да садовага ларка і тры мяшкі капусты вазьму. А што, адно гарадскім купляць?

— Ніхто цябе і не вінаваціць.

— Ага, я сам сабе гаспадар.

— Але ж ты і хітры, Казё: панам робішся! — сказала нядобрым голасам Сымоніха.— Вунь якія шчокі выклаў — па пуду! Аладкі, мусіць, ужэ на два бакі мажаш?

Селівончык маўчаў, не ведаючы, чыю руку ўзяць,— паглядаў то на Сымоніху, то на Філёзу.

— І чаго тут дзівіцца? — сказаў няпэўна.— Грошай у людзей хапае.

— Ага, хто ў Сяле цяперачы кепска жыве — падхапіў Філёза, адчуўшы ў словах Селівончыка спагадныя ноткі.— І жывём добра, і культуры пабольшала. Во цялявізары глядзім.— Філёза кіўнуў на Селівончыкаву квадратную дзяружку.— Не ведаю, як каму, а мне абрыдла ў зямлі калупацца. Хіба ж кепска што кажу? З агародам гэтым адна марока. То зелле паспя-

вай выполваць, то яшчэ якая трасца. І нашто тую капусту садзіць, калі можна гатовай купіць? Садовы ларок увесь ёю завалены. Толькі табе і клопату, што машыну наняць.

— Гэта з якога боку глядзець,— разважліва азваўся з-за клёна Зялёнка.— Купіш ты, дык другому можа не хапіць.

— Што вы, людцы! Ці ж наясіся купленага? — Сымоніха гаварыла так, быццам збіралася пераканаць Філёзу, каб не ехаў па капусту.— Сваё ўсё спарнейшае — і капуста, і скварка. Купіш чаго, а яго ўжэ і няма.

— Кожны сваім розумам жыве,— павучальна сказаў Філёза і даў гэтым зразумець, што ў яго вельмі ясны і практычны розум.— Цераз лета я, мабыць, і карову прадам.

Пад клёнам стала ціха. Сымоніха разгубілася, не ведала, чым і як запярэчыць Філёзе. Яна хуталася ў ватоўку і, як малое дзіця, гуляла наском бота з мокрым кляновым лістком. Селівончык нешта думаў, моршчыў белы пукаты лоб. Філёза быў упэўнены, што сказаў праўду, калі ўсе збянтэжыліся — павярнуўся ад ветру, пачаў корпацца ў кішэнях, правяраючы, відаць, ці не забыў кашалёк з грашыма. Зялёнка, мусіць, зусім замёрз, укарчанеў на холадзе: стаіць за дрэвам, не варушыцца, голасу не падае.

Стары клён раптам прасвятлеў — заківаў галінкамі, затрымцеў мокрым, абвіслым лісцем. Ён першы пачуў гул машыны і хацеў паведаміць пра гэта людзям. Але ехаў не Шостакаў хлопец. Выкаціўшыся з-за панурых дамоў, каля клёна прыпыніўся ранішні запырсканы гразёю аўтобус. З бразгатам рассунуліся пярэднія дзверцы. Шафёр піпікнуў, запрашаючы пасажыраў, але ніхто не захацеў пакарыстацца гэтай яго дабратой, і аўтобус пакрыўджана фыркнуў, шустра пакаціўся па няроўнай дарозе.

— Ад вакзала далёка было б цягнуцца з цялявізарам цераз увесь горад,— быццам апраўдваючыся, сказаў Селівончык.

— Дарма не паехаў,— пашкадаваў Філёза і з не падробным сумам паглядзеў услед аўтобусу.— Точна: запіўся матросік ваш.

— Чуеце: едзе! — наструнілася, прыслухоўваючыся, Сымоніха.— Гэта ён, Алесь, едзе.— З выклікам зірнула ў твар Філёзе: — Ну, дзе твая праўда? Не п'янствуе Алесь.— Памаўчала.— Едзе, бядак, у мае рукі. От дам пытлю, каб другі раз не пазніўся!

Стары клён, не перастаючы трымцець лісцямі, свеціцца ўвесь ад камля да макаўкі, бо зноў паказалася сонца, скупа кінула святло на шэрыя хаты і прысады, на шэрую доўгую вуліцу, па якой — блізка ўжо — гудзе новая бартавая машына. Яна выруліла на абочыну, рыпнула тормазам. Шафёр, малады хлопец у чорным матроскім бушлаце і пляскатай белай кепачцы на галаве, апусціў бакавое шкло і высунуўся з кабіны.

— Заждаліся, відаць? Памерзлі? — паспачуваў ён.— Халера! Гэта ж цвік злавіў, ды здаравенны такі. Цэлую раніцу скат мяняў.

Сымоніха адразу передумала сварыцца: невінаваты Алесь, што той здаравенны цвік прапароў шыпу. Замест сваркі мірна і заклапочана спытала:

— Брызент хоць узяў? Пойдзе ненарокам дождж, то адно цеста прывязем.

— Узяў, узяў! І шуфлі ў кузаў укінуў.

Выходзіць, не сварыцца, а хваліць трэба разумную белую кепачку.

— Я так і думала, што не забудзеш.

— Сядайце, паедзем.

Людзі пад клёнам заварушыліся. Зялёнка памог Селівончыку паставіць у кузаў тэлевізар. Філёза абабег машыну спераду і пачаў турзаць ручку дзверцаў.

Ён правільна рашыў, што ў кабіне будзе ехаць цяплей і ўтульней.

— Э, не, дзядзька Казё! — запярэчыў Алесь.— У кабіне паедзе жанчына.

Філёза скрывіўся, як ад зубнога болю, стаў на падножку і з крэктам пабраўся ў кузаў.

— Алесь! На сядзенні хай едзе Зялёнка,— чапляючыся рукамі за борт, сказала Сымоніха.— Ён даўжэй за мяне мёрз на холадзе.

— Зялёнка дык Зялёнка.

— У цябе там карасінай пахне. А ў мяне ад карасіны галава баліць.

Зялёнка ласкавей і лагодней глянуў на Сымоніху, але адмаўляцца не пасмеў: палез у кабіну і, каб не сумняваліся, што ён ужо там, моцна ляснуў дзверцамі.

— Алесь, ты мяне каля бытавога дома скінеш,— папрасіў Селівончык.— Я ў кабінку пабарабаню, каб не забыў.

— А мяне ля садовага ларка,— перагнуўшыся над бортам, сказаў Філёза.— Там, дзе капусту прадаюць. Добра?

Алесь на момант задумаўся:

— Не купіце вы сёння капусты!

— Чаму не куплю?

— А таму, што ў Ганцавічы я вас не павязу.— Алесь вылез з кабіны, стаў на падножку — адну руку паклаў на верхняе рабро дзверцаў, другою ўзяўся за мокры кант борта.— Гультаі на маёй машыне не ездзяць.

— Хто, гэта я гультай? — збянтэжыўся, а потым і зазлаваў Філёза.— А рукі ты мае бачыў? А мазалі ты гэтыя мацаў?

— Злазьце, дзядзька Казё!

У голасе Алеся не адчувалася жарту. І Філёза

зніякавеў, раптоўная злосць схлынула, па твары прабегла трывога.

— Не гані ты мяне, Шостакаў хлопец,— пачаў прасіцца Філёза.— Я ж некалі з тваім бацькам таварышкаваў.

— Злазьце, бо часу мала. А капусту трэба сваю садзіць. У горадзе на асфальце яна не расце. Чуеце, дзядзька Казё?

— Чую, чую.

Селівончыку, які зручна прымасціўся на скрутку брызенту, шкада стала збянтэжанага Філёзу, і Селівончык, прыпадняўшыся з брызенту, папрасіў Алеся:

— Годзе табе збыткаваць з чалавека. Вазьмі завязі ў Ганцавічы.

— Такі ж вазьмі,— заступілася за Філёзу і Сымоніха.— Што машыне зробіцца? А на другое лета ён сваю капусту пасадзіць. Праўда ж, Казё, пасадзіш?

— Дальбо, пасаджу,— заківаў абрадавана Філёза.— Займу абедзве градкі, што за хлявом.

— Калі так, то вазьму,— згадзіўся, усміхаючыся, Алесь. Сеў у кабіну і весела падміргнуў Зялёнку: — Здаецца, ніхто сабе пасарамаціў за капусту?

— Ат, што там капуста! — абыякава махнуў рукою Зялёнка.— На другое лета ён і карову дакляраваў збыць.

Алесь пасур'ёзнеў, весялосць з твару прапала. Перад тым як апусціць бакавое шкло, па шафёрскай звычцы папытаў:

— Усе паселі?

— Усе!

— Асабліва не вытыркайцеся з кузава. Спаткае Вярбіла, то правы ў мяне забярэ.

Машына тузанулася, стрэліла дымам. Калываючыся ў калдобінах, яна пакіравалася на гарадскую шашу.

Філёза сядзеў каля Селівончыка — бурачковы з

твару, насуплены і потны. Калі машына выкацілася за ваколіцу Сяла, ён забубніў:

— Вярбіла — не дурыла! Ведае, у каго трэба правы забіраць. Смаркач Шостакаў! Наглытаўся спозаранку і добрых людзей няславіць. І дзе на яго той Вярбіла?

— Сціхні, Казё,— паказала Сымоніха на кабіну.— Пачуе Алесь, то і не прывязеш ты капусты.

— Маўчу, маўчу! Дальбо, з гэтым смаркачом жарт малы.

Стары клён, усё аддаляючыся, свяціўся зноў, гарэў пазалотай шырокіх, махнатых лісцяў. Яму, відаць, было прыемна, што ў непагадзь людзі бягуць хавацца пад яго гасцінную, утульную крону.

## ГРОМ НАД СЦІРТАЙ САЛОМЫ

На сваю ганьбу і сорам, яна даўно бачыла звычайны сялянскі воз. Стары, пашарпаны воз, даганяючы, ужо блізка пазвоньваў атосамі, рыпеў восямі, і ёй вельмі захацелася пад'ехаць. Нылі стомленыя ногі, у правай руцэ важка адчуваўся ёмісты саквояж. Саступіўшы на абочыну дарогі, у густую лебяду і касцярогу, яна пачала чакаць фурманку.

У аглоблях быў немалады ўжо конік — марудлівы і хітры, з доўгаю, да самых персяў, грывай. Праходзячы міма, ён нават не скасавурыў вока на абочыну, бо няма дурных браць на воз абы-каго, ды яшчэ з такою цяжкай паклажай. Але жанчына не пакрыўдзілася на рыжага коніка. Яна з радасцю глядзела, як сухі пясок, выхаплены з каляіны гузаватым вобадам, струменьчыкам ацякае назад па жалезнай бліскучай шыне. Кола зачаравала яе ўсяго толькі на

імгненне, і яна падняла шэрыя і вялікія вочы на фурмана:

— Гэта ты — Сяргей? Божа мой, няўжэ гэта ты?

— Зінка!

Павольны конік гучна чмыхнуў у ноздры, але, адчуўшы знаёмы рух лейцаў, спыніўся паслухмяна і адразу пацягнуўся мордай да зялёнай травы. Пры дарозе паміж касцярогай і лебядой грыўкамі выбілася дзікая канюшына з белымі і ружовымі кветкамі. Конік выскуб немалое каліва канюшынкі і, падняўшы галаву, ужо раўнадушна каштаваў белыя і ружовыя кветкі. Па вопыту даўгагрывы хітрун ведаў, што яго часцей спыняюць тады, калі ў дарозе сустракаюцца добра знаёмыя людзі.

— Не думала, што першага цябе ўбачу,— сказала, радуючыся, Зінка.

— І я не думаў. Пазнаваў здалёк: ты ці не ты?

— Чаму ж не запрашаеш на сваё таксі?

— Сядай во тут.— Сяргей падварушыў побач з сабой жмак сена, узбіў, як падушку.— Саквояж давай.

— Ой, асцярожна! Торт у мяне там. На гасцінец маме вязу.

Якраз над возам, у сонечным і спякотным небе, трапечучы крыльцамі, вісеў малады і вельмі цікаўны жаўрук. З блакітнай і мройнай вышыні ён бачыў, як жанчына ў расшпіленай зялёнай кофце лезла на воз, і, калі яна, шчасліва засмяяўшыся, асунулася Сяргею на рукі, жаўрук мацней затрапятаў крыльцамі, зазваніў галасней і пяшчотней. Нябесны кандуктар падаваў знак рыжаму коніку: усё, можна ехаць. І даўгагрывы зразумеў, што на возе ўсталяваўся поўны парадак. Паматваючы галавой, конік марудна, няспешна пацягнуў воз, а цікаўны жаўрук, абвясціўшы свету, што жанчына ўдала знайшла палёгку сваім нагам, прапаў, кудысьці знік — паляцеў, мусіць, шукаць іншых, такіх жа, як і сам, шчаслівых людзей.

— Хараша тут у вас. Прыволле якое,— азіраючыся вакол, сказала Зінка.— Я даўно і забыла, як пяюць жаўранкі.

— А што ім? Маладыя, толькі вывеліся.

Зінка ўжо добра асвойталася на шапаткім сене: скінула туфлі, паварушыла набраклымі пальцамі, проста і шчыра ўсміхнулася Сяргею, зялёнаму полю, спякотнаму і душнаму небу. Тут, на возе, асабліва адчувалася, што ногі змарыліся ісці пяшком, а рукі пякуць і смыляць пасля цяжкай ношы. Цяпер Зінцы было прыемна — адпачывалі ногі і рукі, адпачывала стомленае маладое цела, і яна з удзячнасцю пагледзела на рыжага коніка, потым зазірнула ў твар Сяргею. Зблізку ў вочы адразу кінулася, што за гэтыя гады Сяргей пасталеў, узмужнеў, крутыя плечы наліліся неверагоднай мужчынскаю сілай.

— То расказвай, Сяргей, як жывеш? — адводзячы дапытлівы позірк убок, папрасіла Зінка.— Ты ж, здаецца, раней на машыне ездзіў.

— Чаму раней? Я і зараз шафёрам раблю.

— Але ж ты на возе едзеш?

Сяргей быў збянтэжаны, што Зінка ўбачыла яго з вераўчанымі лейцамі і доўгім дубцом у вялікіх парэпаных руках.

— Гэта я пляменіцу на шашу падвозіў,— як быццам апраўдваючыся, растлумачыў ён.— Да нас па гэтай дарозе цяпер ні машыны, ні аўтобусы не ходзяць. Яшчэ ўвесну на бродзе размыла мост, дык толькі канём і льга праехаць.

— Я, мусіць, не перайшла б цераз той брод? — спалохалася Зінка.

— Перайшла б! Вады там па калена. Зняла б туфлі і перайшла б.

— Калі вады не шмат, то, канечне, перайшла б,— супакоілася Зінка.

Рыжы конік, забыты фурманам, цягнуў воз як

хацеў — ківаў галавой, марудна ступаў клышаватымі нагамі. Абапал дарогі праплываў зялёны абшар. Цвіла малінавым цветам бульба, у разорах сям-там жаўцела свірэпка, цацачнымі елачкамі стаяў хвошч. Блізка каля бульбоўніку, у лагчыне, зарослай трыпутнікам і бадзяком, хадзіў белы бусел і нешта шукаў там, апусціўшы чырвоную дзюбу. Зінка любавалася каляровым абшарам, але ранейшай радасці ў вачах ужо не было. У яе вачах можна было заўважыць дрэнна прытоены боль і смутак.

— У госці, мабыць, прыехала? — спытаў Сяргей і кіўнуў на саквояж, які стаяў у перадку воза.— Цяпер, летам, да нас многія з'язджаюцца.

— Якія госці? Назусім вярнулася. Во абрадую маму.

— А дзе ж Валодзя? — здзіўлена ўскінуў бровы Сяргей.— Вы ж такія неразлучныя былі.

— У Іркуцку застаўся. Разышліся мы. Купіла білет, здала рэчы ў багаж, і, можна лічыць, ужэ дома.

— Чаго ж вы не падзялілі? — спытаў Сяргей і тут жа спалохаўся, што не трэба было малоць такое глупства.— Зрэшты, якая розніца.

— Валодзя, сам ведаеш, гарачы, што кіпень, а я — шалапутная. Во і не падзялілі.

— Муж і жана — адна сатана.

Цыбаты бусел, відаць, ужо знайшоў тое, што шукаў на абмежку поля, паміж кусцікаў бадзяку, трыпутніку і конскага шчаўя, радасна заклекатаў, рэзка падскочыў, як апёкся аб крапіву, і з подбегу лёгка падняўся ў неба. Ляцеў плаўна і спаважна, шырока распластаўшы белыя, з чорнай каймою, крылы і ледзьледзь варушачы імі. Бусел, мабыць, ведаў сабе цану, разумеў, што на зямлі ён менш прыгожы, чым у небе, помніў, што людзі заўсёды любуюцца яго палётам, і таму ён павярнуўся назад, зусім нізка праляцеў над скрыпучым возам, над пыльнай селавой дарогай.

— Ці праўда, што буслы дзяцей укідаюць у каміны хат? — з журбой у голасе спытала Зінка і доўга глядзела на мройнае неба.— А нас з Валодзяй буслы абмінулі. З-за дзяцей і развод узялі.

— Прыкра вельмі выйшла.

— Хай ужо будзе як ёсць.— Зінка скінула з сябе кофту, бо прыпарваць пачало мацней, падставіла грудзі слабаму ветрыку і раптам з цікаўнасцю зазірнула Сяргею ў глыбокія, з густымі вейкамі вочы: — А ў цябе дзеці е?

— Поўная печ.

— Не смейся. Праўду скажы.

— Не, і да мяне не прылятаў бусел.

— Жанаты хоць?

— Адзін жыву,— неахвотна, скрозь зубы выціснуў Сяргей.— Маму яшчэ тым летам пахавалі.

Яму, канечне, балела, яму было горка і пакутліва жыць старым халасцяком. Сяргей да дваццаці пяці год не ажаніўся сам, да трыццаці — не ажанілі людзі, а цяпер, мусіць, ужо і чэрці не ажэняць.

— Калісьці ты здорава дзяўчат баяўся,— згадала Зінка.— Але і мы добранькія былі. Смяяліся, кпілі з бедака.

— Не ўспамінай леташні снег!

— Што праўда, то праўда: ціхоняў мы не любілі.

Дарога ўперадзе прыкметна пагоршала. Цераз поле бегла ўкатапая машынамі дарога. Яшчэ з вясны на ёй пакінулі свае глыбокія сляды трактары. У каляінах пачала трапляцца зялёная, забраснявелая вада, колы да самых восей хаваюцца ў рытвінах і калюжынах. Цягнуць воз стала цяжэй, і конік мацней натужваўся, аж выпростваўся ў аглоблях.

Дарога спускалася ў лагчыну.

— Хутка брод будзе,— паказаў дубцом Сяргей.— Вунь за тым алешнікам.

— Ці ж хоць нераедзем?

— Пераедзем, не турбуйся.

Калі алешнік расступіўся, вачам адкрылася шырокая і гразкая ўпадзіна, залітая вадой. Насып дарогі ўперадзе быў размыты, зеўраў глыбокай прамоінай. На тым беразе бязладна скінуты шэрыя бетонныя кадаўбы — з іх будуць рабіць новы мост. Над бродам крылялі ластаўкі, яны звонка шчабяталі, безупынку чыркалі белымі грудкамі аб ваду і зноў, як бы чаго спалохаўшыся, узвіваліся ў блакітнае неба.

Ластаўкі заўсёды купаюцца перад дажджом.

Убачыўшы падводу, яны зашчабяталі галасней, замітусіліся. Рыжы конік мог скаламуціць чысты брод, а такая распуста ластаўкам не падабалася. Але воз, гонячы жоўтыя хвалі, ужо ехаў па вадзе, з-пад капытоў у бакі разляцеліся пырскі. Вада пад коламі ўзбурылася, забурліла — дзве каламутныя дарожкі працягнуліся цераз брод.

Конік пачаў узбірацца на верх насыпу, воз пахіліўся, ледзь што не лёг бокам.

— Падаем! Трымай, Сяргей! — крыкнула Зінка.

Воз усё хіліўся і хіліўся, але Сяргей не спалохаўся, не пабялеў з твару. Яшчэ ж і як добра, што насып такі круты, што воз хіліцца і хіліцца! Зінка страціла раўнавагу, зляцела са свайго месца і з усяго маху ўткнулася ў Сяргея. Незразумела, дзіўна і хораша запахла духамі. Сяргей не хацеў, каб Зінка першай упала ў ваду, і локцем, бо рукі былі заняты, прытрымаў яе, прытуліў да сябе. Якое шчасце, што воз падае разам з гэтым баязлівым і стройным целам, з дзіўным і п'янлівым водарам духоў! Але шчасце, на жаль, было кароткім. У самы небяспечны момант, калі воз ужо ледзь ліпеў, Сяргей ачомаўся, зразумеў, што п'янлівы пах не прынясе дабра, і моцна тузануў правую ляйчыну. Бедны конік напружыўся з апошняй сілы, не даў упасці Зінцы — адным духам выкаціў воз на грэбень насыпу, проста на здзіўленне вы-

бавіўшы Зінку і Сяргея з вялікай бяды, з гразкага, пахучага і каламутнага броду.

— Ой, сэрца ў пяткі зайшло! — весела і радасна прашаптала Зінка і не адсунулася на ранейшае месца.

— Маглі і выкупацца,— сказаў Сяргей і не захацеў разлучацца з п'янлівым і дзіўным пахам духоў.

За бродам дарога была раўнейшай, без каляін. Намучаны конік тут пайшоў лягчэй, зарыпелі гужы і драўляныя восі. За бродам было другое поле. Абапал дарогі тут цвіў лён — вялікае блакітнае возера. Прыгледзеўшыся, можна было заўважыць, што запыленыя кветкі пакурчыліся, завялі на санцапёку. Зямля смягла, знемагала ад гарачыні.

— Прыпарвае, аж млосна,— выціраючы потны, чырвоны твар, паскардзілася Зінка.

— Пэўна, дождж будзе.

Сяргей азірнуўся і зразумеў, што стаў цудатворцам, бо, сам таго не ведаючы, сказаў праўду. Фурманку даганяла вялізная ліловая хмара. Ціхая, маўклівая і чамусьці страшная, яна імкліва плыла з-за далягляду, увачавідкі расла, набракала, займаючы ўсё большы абшар неба. Яшчэ не жахалі маланкі, яшчэ не буркатаў гром, але адчувалася, што навальніца будзе лютай і грознай. Ужо і Зінка насцярожылася, затурбавалася, улавіўшы нейкія перамены ў прыродзе. Зінка азірнулася ўслед за Сяргеем і здзіўлена прашаптала:

— Хмара, ці што?

— Хмара! І адкуль толькі ўзялася?

— Паганяй, Сяргей! Можа, яшчэ дахаты паспеем?

— Не паспеем.

На ўсялякі выпадак Сяргей тузануў лейцы, у руцэ свіснуў дубец, і конік пабег спарней — зазвінелі атосы, дробна заляскацелі лёсткі ў драбінах. Але і хмара не чакала. Схавалася сонца, вакол пацямнела,

падзьмуў парывісты вецер. У нізкім паклоне на полі схіліўся лён, па ім з краю ў край пабеглі блакітныя хвалі. Над самымі галовамі сляпуча бліснула маланка, заракатаў гром, і на дарогу, адразу тонучы ў пылюкім, сухім пяску, упалі белыя гарошыны граду.

— Я ж казаў, што не паспеем,— без жалю і крыўды апраўдаўся Сяргей.

— Гузакоў град наб'е,— весела засмяялася Зінка.

Але іх выратаванне было побач. Уперадзе, каля самай дарогі, чарнела сціртa леташняй саломы — доўгая і ўвагнутая, як старая абора. Паўз бакі тут не раз, відаць, шараваліся каровы, людзі выскубвалі салому, і сціртa была вузейшая знізу, а ўверсе заканчвалася спаховай стрэшкай. Лепшай схованкі ад граду і дажджу нельга было прыдумаць, і Сяргей скіраваў каня да шэрай сціртaы. Саскочыў з воза, выграб у прэлай саломе кубло, схаваў туды Зінку, а потым зашыўся ў нару сам. Над сціртай ятрылася навальніца, шумеў дождж, ільняное поле было поўнае грому і маланак. Праз адтуліну ў саломе быў відзён бедны конік. Прыгнуўшы галаў, ён стаяў побач, і па доўгай грыве цурчэла вада.

— Як уцячэ, тады пяшком пойдзем,— сказала Зінка з прытворным жахам.

— Не ўцячэ, я лейцы сабе да нагі прывязаў,— супакоіў Сяргей.— Калі што-якое, то адразу пачую.

У нары было цёмна, пахла цвіллю, мышамі і прэснай саломай, але ніякі пах не мог перабіць тонкага водару жаночых духоў. Зінка, прыціхшы, дыхала побач, і Сяргей, напэўна, быў бы дзіваком, калі б не помніў пра гэта. Яшчэ ў дарозе ён не траціў марна часу і ўпотай выглядзеў, што ў Зінкі стройнае, тугое цела, што ў яе шэрых вачах шмат выкліку і пакоры. Цяпер у яго было менш розных клопатаў, яго хвалянне даўно выспела ў ім. Ён не помніў, як усё гэта зрабілася, а зрабілася гэта само сабой, і Сяргей ад-

чуў на сабе пякучы агонь падатлівых вуснаў. Трэба быць шчырымі: ён не дужа ўмеў цалавацца і саромеўся сваіх няўмелых грубых пацалункаў. І Зінка гэта бачыла, разумела, але яна не смяялася, яна проста ашчаперыла яго шыю і пацалункамі ў адказ даверліва і пяшчотна выпраўляла ўсе яго хібы і памылкі. Божа мой, які ж ён няўдалы і сарамлівы!

Сціpта ўся — ад нізу да верху — прапахла навальніцай і духамі, на свеце быў адзін толькі гэты дзіўны пах, і ён усё больш і больш захмельваў Сяргея. Над сціртай шумела вада, недзе, блізка зусім, стрэліў пярун — суха, з працягам, быццам зверху скацілася жалезная бочка, і Зінка ад страху і жаху мацней прытулілася да Сяргея, з яшчэ большай пяшчотай даводзячы да ладу яго няўмелыя пацалункі. Зінка адразу не паверыла, потым здзівілася, потым пакрыўдзілася, што Сяргей раптам пачаў знікаць, прападаць у саломе. Яна не пускала яго, учапіўшыся за шыю, але ён упарта ўцякаў ад яе. Знікаў Сяргей неяк дзіўна — паўзком, нагамі ўзад, хапаючыся рукамі за сціpту. Зінка ўслед за ім выцерабілася з нары, яна хацела вярнуць, хацела спыніць Сяргея, бо невядома да чаго давядзе чалавека гэтая яго залішняя сарамлівасць.

З утульнай і цёплай нары Зінка выбегла ў густы, шалёны лівень, у гром і сляпучыя маланкі. Яна спачатку знямела, аслупянела, пасля нястрымна зарагатала. Сяргей усё яшчэ ўцякаў ад яе. Ён поўз па мокрай зямлі, па льнянішчы, шырока распластаўшы рукі, брыкаючы адной нагой. За другую нагу былі прывязаны лейцы, і Сяргей, як сноп, цягнуўся за возам, не могучы падняцца. Рыжы конік, спудзіўшыся грому, трохі ачухаўся, пашкадаваў таптаць высокі лён і адным махам вымчаў Сяргея на дарогу, у яшчэ большую гразь і макрэчу, у белыя гарошыны граду. Зінка даўно прамокла навылет, на ёй ужо не было

сухога рубца, але яна не зважала на такія нязручнасці. Яе душыў бязлітасны, жорсткі і з'едлівы смех.

— Сяргей, а куды ж ты?

Дзікі, шалёны смех, які разлягаўся над полем, апёк Сяргею вушы, прыдаў яму сілы і злосці. Ён усё ж падхапіўся з дарогі і, бегучы за возам, сумеў неяк зняць з нагі лейцы. Жоўтая кашуля на ім намокла, зрабілася чорнай, на каленях грудамі вісела гразь. На хаду, не атрэпваючыся, Сяргей ускочыў на воз, хапіў з сена дубец і сперазаў коніка па мокрых клубах. Сяргей цяпер па-сапраўднаму наважыўся ўцякаць, і, калі б Зінка памарудзіла хоць хвіліну, ужо было б позна даганяць стары, скрыпучы воз. Але яна адразу здагадалася, што Сяргей будзе ўцякаць, і з усёй сілы пабегла цераз поле. І яна, запыханая, растрыханая, дагнала воз, хапілася рукой за лёстку. Спатыкаючыся, яна бегла за возам, пакуль Сяргей не зжаліўся, не пашкадаваў яе.

— Ладна! Лезь ужэ на воз,— дазволіў ён і падняў на Зінку свае пакрыўджаныя, сарамлівыя вочы.

Сяргей плакаў. Зінка адразу пазнала, што Сяргей плакаў. Ён увесь быў выкачаны ў гразь, у яго быў брудны і мокры твар, але Зінка, толькі глянуўшы, адрозніла на мокрых шчоках дзве дарожкі ад слёз. І яна здагадалася, што пакрыўдзіла Сяргея. Прыкра і дзіка, калі плачуць мужчыны. Зінка папракнула сябе за свой недарэчны смех, прыгарнулася да Сяргея і злізала слязінку на мокрай шчацэ.

— Не плач, дурнененькі. Гэта ж я такая шалапутная.

— Што ты, Зінка! Хіба я плачу? — змушана ўсміхнуўся Сяргей.— Выдумала, што плачу.

— Не ведаю, можа, і падалося.

Градавая хмара ўжо мінула льняное поле, чорную сцірту леташняй саломы. Не так сляпуча бліскалі

маланкі, усё слабей, аддаляючыся, пагрымліваў гром. Вецер аціхаў. Лівень нарабіў людзям клопату. Лапікамі лён зблытаўся, палёг. Зінка глянула сабе пад ногі і ўбачыла, што дождж выгнюсіў яе зялёную кофту, наліў вады ў чорныя лакавыя туфлі. На рытвінах саквояж расшпіліўся, вечка зляцела з кардонкі, і гэта была сапраўдная бяда. У скрынцы торта не было — на дне ляжала мокрая, раскіслая груда цеста.

— Вось і прывезла маме гасцінец.

Зінка разжалілася. Ёй стала шкада, што торт змакрэў і раскіс, яе агарнула скруха, яна пачала шкадаваць сябе, маму, Сяргея. Яна і праўда была шалапутная і бязвольная, бо ці ж варты той размоклы торт яе шчырых і гарачых слёз? Уткнуўшыся Сяргею ў плячо, Зінка заплакала — горычна, праўдзіва, наўсхліп. І яе раптоўны плач спалохаў, збянтэжыў Сяргея.

— Ты чаго, Зінка? — здзівіўся ён.— То пра мяне гаварыла, то сама плачаш.

Адной рукой Сяргей трымаў лейцы, кіраваў возам, другой суцяшаў Зінку, гладзіў яе па мокрых валасах, а над полем зноў бралася на пагоду, узбоч дарогі зіхацеў расой пакамечаны, зблытаны лён, і Сяргей зусім не да месца падумаў, што лён пасля буры заўсёды лёгка выпростваецца.

## ДЫНАМІК НА ШКОЛЬНЫМ КОМІНЕ

Усе суседзі ведалі, што Рэня прыняла сабе прымака.

— Не мела баба клопату — купіла парася,— сказаў першы.

— Ну, што вы! Як жа з такім калекаю жыць? — сказаў другі.

— Не ваша дзела! — сказала, як адрэзала, Рэня.— Я, можа, на руках яго буду насіць.

Доўга і цярпліва прывыкаў Рэнін запусцелы двор да новага гаспадара. Над гнілой канавай, што цякла блізка каля хаты, над пахілымі вербамі і алешнікам праляцела, як адзін дзень, чарада гадоў, і даўно ўжо можна было забыць чарнявага і рослага Альбіна, які пайшоў калісьці ў польскія салдаты, а вярнуўся толькі пасля вайны, ды і то не адразу — на трэцяе лета. Альбін змяніўся. Яго доўга не маглі пазнаць ніцыя вербы і зруднелы алешнік. Па Рэніным панадворку хадзіў чужы, невясёлы і вельмі ж няўклюдны чалавек. Убачыўшы яго, з-пад ганка ўроссып разляталіся куры, бо ўжо не раз было, што гэты няўклюдны, зарана пасівелы чалавек наступаў ім на хвасты.

— Асцярожней, Альбін,— прасіла Рэня.— Пастой, я карыта прыму. Упадзеш — нос расквасіш.

— Мілая, не турбуйся. Я ўжэ добра ведаю, дзе сцежка.

Першыя дні Альбіна з хаты выводзіла Рэня. Але, ужыўшыся ў нязвыкла горкую цішыню двара, ён пачаў прагульвацца без павадыра. Хадзіў адзін — ад хаты да хлява, ад варыўні да калодзежа. Староннi чалавек мог бы западозрыць у Альбіна шляхецкую пыху і ганарлівасць, бо хадзіў ён з высока паднятаю галавой, прамы, як палка, быццам нёс перад сабою налітую з беражкамі талерку. Але гэтая ўяўная ганарлівасць была ад слепаты. У Альбіна былі ўстаўныя вочы, і ён хадзіў так, як ходзяць сляпыя: асцярожна, навобмацак, баючыся спатыкнуцца і ўпасці.

Дактары ўдала падабралі Альбіну вочныя пратэзы. Яго страшнае калецтва не заўважалася з першага позірку. Толькі добра прыгледзеўшыся, можна было з жахам убачыць, што вочы ў Альбіна пустыя, халодныя, без ніякага намёку на пробліск жывой думкі. Альбін агрубеў з твару за доўгія гады салдат-

чыны. Над брывамі і дзе-нідзе на шчоках з'явіліся прадаўгаватыя, як ад гарачых пырскаў, рубцы. Якраз яны і прыдавалі твару веліч і суровасць, веялі на людзей глыбокай тайнай, якую Альбін, мусіць, і не збіраўся нікому расказваць. Ён хадзіў па двары задуменны, самотны, перажываючы на адзіноце сваю трагедыю.

— Прагнала б ты мяне з хаты,— ці то жартам, ці то ўсур'ёз сказаў аднойчы Альбін.— Які цяпер з мяне памочнік?

— Ці ж можна казаць такое? — пакрыўдзілася Рэня.— Пражывём як-небудзь.

— Пенсію мне, мабыць, дадуць.

— Шурыка падгадуем. Ты хоць не злуешся, што ў мяне Шурык е?

— Што ты, Рэня! Дадуць пенсію, то «Арлёнка» Шурыку куплю.

— Ну во! Балаваць ужэ пачаў.

Альбін гаварыў мала. Рэня помніла яго вясёлым, гаваркім хлопцам, а зараз Альбін болей маўчаў — хадзіў па двары, панура звесіўшы галаў, і маўчаў. Ён, здаецца, быў нават рады, што яму не задаюць ніякіх пытанняў пра жыццё на чужыне.

— Не хочаш расказваць пра сябе, дык і не трэба,— прымірэнча сказала Рэня.— Думаеш, мне вельмі цікава, як тыя снарады людзей калечаць?

— Праўда, мала цікавага.

— То ж і майго Хведара снарадам парвала.— Рэня праслязілася, ражком хусткі выцерла звільжэлыя вочы.— Я табе нічога не гаварыла пра майго Хведара?

— Не, здаецца, не гаварыла.

— Забіла ж яго. Як Познань бралі. Шурык во застаўся.

— Выгадуецца, не бядуй.

Рэня доўга чакала Альбіна. Яны гадаваліся па суседству, часам нават елі з адной міскі. І калі Альбін

пайшоў у салдаты, Рэня чакала яго. Чакала лістоў, хацела, каб ён хутчэй вярнуўся з войска. Разумны і службісты, Альбін неспадзявана праславіўся тым, што ўшанаваў сябе чынам паручніка. Лісты Рэні пайшлі радзей. Потым Альбін і зусім перастаў пісаць. Рэня зазлавала і, насуперак свайму жаданню, выйшла замуж за Хведара Краўцова. Тады яшчэ ніхто не ведаў, што вайна жорстка назбыткуе з людзей.

— Не думай, Альбін, нічога,— падымаючыся з табурэткі, папрасіла Рэня.— Я і Хведара помню, і цябе буду добра глядзець.

І ўсё сапраўды было б ціха і добра, калі б са шпіталя не вярнуўся пакалечаны Дзям'ян Заяц. Ён прынёс з сабою жахлівую і недарэчную вестку. Калі верыць ёй, то Альбін зусім і не быў на фронце. Вочы яшчэ да вайны яму быццам бы высмаліла кіслатой раўнівая каханка з Варшавы. Рэня, вядома, не паверыла яўнай бязглуздзіцы, але з большай трывогай пачала ўглядацца ў Альбінаў твар, у ледзь прыкметныя рубцы вакол невідушчых вачэй.

Прыкрая хлусня ці горкая праўда, хто ведае, як яно там было, пякучай стрэмкай упілася ёй у сэрца. Рэня саромелася людской спагады і здалёк абмінала шумныя бабскія зборні. І калі ўжо трываць не хапала сіл, калі абрыдла лавіць на сабе спачувальныя жаночыя позіркі, яна набралася храбрасці і папытала:

— Альбін! Тут людзі пра цябе баюць такое, што і слухаць не хочацца. Бытта на фронце ты не быў і бытта вочы табе не снарадам высмаліла?

Альбін як прастагнаў — сказаў глуха, з болем:

— Калі гавораць, то, значыць, праўда.

— Ой, Альбін! Маўчы лепей. Не палохай мяне.

— Чаго таіцца. Вінаваты я,— уздыхнуў Альбін, і яго пальцы нервова забарабанілі па стале.— Адна толькі намова, выдумка... Быў я на фронце, ваяваў.

— Забудзь, не ўспамінай ліха.

Рэня ўжо не саромелася суседзяў, не абыходзіла бокам шумныя людскія зборні. Тая навіна, якую прывёз Дзям'ян Заяц, аказалася з добрым дамешкам хлусні, і таму Альбінава ганьба не выглядала ўжо такой прыкрай і страшнай. Рэня з дня ў дзень тупала каля хаты, палола градкі, сушыла зелле, але крыўда, што ўпілася ў сэрца, не праходзіла. Магчыма, гэта была нават не крыўда, а рэўнасць. Рэня раўнавала Альбіна да незнаёмай паненкі, што так жорстка, не па-чалавечы абышлася з ім. Альбін, канечне, вінаваты сам: выслужыў афіцэрскі мундзір, дык трэба было пасцерагчыся, не лезці сляпіцай да маладых дзяўчат. І гэтая здагадка хвалявала Рэню, не давала спакою. Пасярод ночы Рэня разбудзіла Альбіна і, не тоячы сляпой рэўнасці, спытала:

— Скажы, Альбін, а яна хоць прыгожаю была?

— Хто — яна? — не зразумеў заспаны Альбін.

— Паненка твая варшаўская?

— Што цяпер гаварыць? Я ўжэ не помню яе.

Было відаць, што Альбін хлусіць, што яму не хочацца ўспамінаць сваю ганьбу, і Рэня сказала без горычы:

— Спі ўжэ, не хвалюйся. Я ж нічога не хацела. Я хацела толькі спытаць, ці прыгожаю яна была — тая твая паненка?

— Рэня, мілая. Ты харашэйшая за яе. Калі б не вайна, то адразу да цябе вярнуўся б.

— Спі, галубок. Хутка світаць пачне.

Рэня прытуліла голаў на Альбінавым плячы і заснула. І спала яна спакойна, і, калі прачнулася, рэўнасць ужо не мучыла яе.

— Не крыўдуй, Альбін, за ўчарашняе. Што дурной бабе ў галаву не ўзбрыдзе?

Альбін прыжыўся ў Рэнінай хаце, зусім асвойтаўся з чужым дваром. За зіму неспадзявана высветлі-

16. Зак. 3716

лася, што Альбін не развучыўся трымаць у руках сахор і сякеру. Увесну, хоць Рэня пратэставала і прагапяла, ён выкідаў з хлява гной, потым павобмацак паладзіў стары, струхлелы плот. Неўпрыкмет Альбін налаўчыўся калоць дровы. Рэня радавалася такой помачы, але па дрывотню не хадзіла: баялася глядзець, як вострае лязо ўпіваецца ў дрэва побач з Альбінавымі пальцамі.

Рэнін двор таксама прызнаў Альбіна за свайго. Куры ўжо не ўцякалі з-пад ног, а карова, убачыўшы гаспадара на сцежцы, падыходзіла і торкалася пысай у жывот, каб гаспадар чухаў яе каля вушэй. Альбін спытаў, якой масці карова, і калі пачуў, што карова чорная, як галка, чамусьці ўсцешыўся. Яго любімым цяпер быў чорны колер. Але на свеце было мноства іншых дзівосных фарбаў, і Альбін не хацеў іх забываць. Ён часам прасіў Шурыка нарваць лугавых кветак і, перабіраючы іх у руках, па паху вызначаў, якія гэта кветкі.

— Медуніца! Ах, як пахне! А гэта рамонак. Пах у яго нейкі прэсны,— Альбін усміхнуўся, шчыра радаваўся.— Скажы, што не рамонак? Рамонак! А ты, Шурык, мусіць, рыжы, як сланечнік?

— Рыжы! А вы адкуль ведаеце? — спалохаўся Шурык.— Хіба вашы вочы пачалі бачыць?

— Дзе там бачыць. Проста я твайго бацьку, Хведара Краўцова, ведаў. Рыжы ён быў, як сланечнік.

Рэня радавалася, што Альбін і яе сын умеюць так хораша дружыць і цэлыя дні праводзяць разам. Шурык вадзіў Альбіна ў ляшчыннік, а назад яны цягнулі поўную торбу спелых арэхаў. Увосень, калі ў садку капалі бульбу, Альбін насіў цяжкія мяшкі, і ён не баяўся ўпасці, зачапіць галавой яблыню, таму што ў варыўню яго за руку вёў Шурык. Рыжы сланечнік ахвотна хадзіў з айчымам у магазін, бо вясковы крамнік, калі да яго прыходзілі Альбін з хлопчыкам,

кожны раз бядпеў на вялікі куль цукерак-падушачак. А яшчэ абое яны — і стары, і малы — любілі тыя дні, калі з шумам і грукатам у вёску прыязджала кінаперасоўка.

Клуб толькі пачаў будавацца, і кіно да пары да часу ставілі ў старой школе. Калі ісці нацяпькі, то гэта і не далёка ад Рэнінай хаты. Трэба толькі выбіцца на поплаў, перайсці па кладцы гнілую канаву, прабегчы паўз Куксачоў плот, і вось яна — школа. Але школа — гэта не магазін які, і Шурык звычайна не браў айчыма з сабою. Што там рабіць з устаўнымі вачыма? І Альбін заставаўся дома. Ён падоўгу прастойваў каля веснiц, абапёршыся грудзьмі на частакол і з ледзь улоўным хваляваннем прыслухоўваўся да навакольных гукаў. Галасы, шум і песні, што чуліся каля школы, цераз поплаў далятали на Рэнін панадворак.

Песнямі здагадлівы кіншчык зваблiваў гледачоў у школу. Праславіўшыся незвычайнай кемлівасцю, прапаганду кіно ён вёў на самым высокім узроўні, які толькі можна было прыдумаць. Спачатку дынамік стаяў на ганку школы, потым вісеў на збуцвелым шуле, але галава кіншчыка была шчодрай на выдумкі, і ён, калі дазваляла надвор'е, заносіў вялікі, як чамадан, дынамік на комін школы. З даху злазіў шчаслівы, бы сам цудатворац, уключаў грамафон, і над прыціхлымі хатамі і садамі грымеў, разлягаўся ўладны і поклічны голас нейкага дужа шаноўнага спевака.

Альбін любіў такія падвячоркі, калі на коміне школы па-звярынаму роў дынамік, склікаючы людзей на вячэрні сеанс. Альбіну ніхто не перашкаджаў. Рыжы сланечнік круціўся дзесьці каля школы, а Рэня, длубаючыся на градах, не падыходзіла блізка: хай слухае музыку, хай цешыцца чалавек, бо не багата выпадае яму радасці ў той сваёй прыкрай чарнаце. Альбін стаяў каля веснiц, і твар яго ажываў, святлеў,

свяціўся лагодай і ўцехай. Рэні ўжо і самой хацелася, каб кінішчык у вёску прыязджаў часцей, і ў тыя надвячоркі, калі нема завываў школьны комін, ёй таксама было весела. Яна не хацела турбаваць Альбіна, спакойна шчыпала на градцы раннюю салату, але тут прыбег Шурык і так злякаў маці, што кволыя лісцікі салаты зялёнымі матылькамі выпырхнулі з пальцаў і пападалі ў разору.

— Мама, ты хіба не бачыш? — азіраючыся на двор, спалохана прашаптаў Шурык.— Дзядзька Альбін стаіць каля брамкі і плача.

— Авой! Ды што з ім такое?

— Відаць, у кіно хоча,— здагадаўся Шурык.

Альбін стаяў на тым жа месцы, каля брамкі, і не ведаў, што за ім сочаць дзве пары растрывожаных, спалоханых вачэй. Ён не пачуў шоргат босых ног па траве і таму не выцер на шчоках буйныя, як пацеркі, слязінкі. Ён бы і не падаў выгляду, што плача, калі б мог бачыць у сябе за спіной Рэню і Шурыка. Але з усіх бакоў Альбіна асланяла шчыльная, густая, цёмная ноч, і ён, не баючыся нікога, плакаў, сумаваў па чымсьці далёкім і незабытым, і плечы яго ўздрыгвалі, а сам Альбін увачавідкі падрабнеў і сутуліўся. Рэня не магла зразумець, чаму плача дарослы чалавек, і з трывогай прыслухоўвалася да журлівай мелодыі, што далятала сюды з гарластага дынаміка на коміне школы.

— Альбін, хадзі вячэраць,— блізка не падышла, а паклікала здалёк Рэня.— Салаты во нарвала. Халадніку смачнага зраблю.

— Рабі. Я іду ўжо,— сказаў глуха Альбін і правёў рукавом пінжака па мокрых шчоках.

Рэня адразу і забыла б пра дзіўныя, незразумелыя Альбінавы слёзы, але і ў другі раз, калі на школьным пляцы паспешліва застракатаў рухавічок кінаперасоўкі, Альбін зноў стаяў каля весніц, і пле-

чы яго ўздрыгвалі ад плачу. Што ўспаміналася яму, якія думкі мроіліся ў пасівелай галаве? Рэня перапалохалася, бо і спаў цяпер Альбін дрэнна — усхліпваў у сне, скрыгітаў зубамі. І ўжо зусім збянтэжылася Рэня, калі сярод ночы побач з сабой — як гром з яснага неба — пачула жаночае імя.

— Прачніся! — затрасла яна Альбіна за плячо.— Ты ж скрыгічаш у сне і нейкую Караліну клічаш.

— Падалося табе, мілая. Нікога я не клікаў.

— Хто яго ведае, можа, і падалося? Спала ж на левым баку.

Рэня здагадвалася, чаго плача і трызніць начамі Альбін. І ў грудзях пасяліўся боль, яшчэ вастрэйшая, чым раней, стрэмка ўпілася ў сэрца. Цішком назіраючы за Альбінам, Рэня дакладна ўлавіла час, калі ён пачынаў плакаць, сумуючы, відаць, па далёкіх гадах, па сваім паручнікаўскім мундзіры. Хто паверыць, што столькі бяды нарабіла адна жменька самых просценькіх слоў, падсалоджаных журлівай, дасціпнай мелодыяй? Тую журлівую песню гарлаў чорны чамадан на коміне школы:

Не могу я тебе в день рождения
Дорогие подарки дарить,
Но зато в эти ночи весенние
Я могу о любви говорить...

І тады, калі кіншчык па некалькі разоў за падвячорак круціў грампласцінку з гэтай няхітрай песенькай, у Альбіна па шчоках спаўзалі слязінкі, а сам ён мізарнеў, сутульваўся — стаяў каля весніц, нічога не чуючы, апроч любімай мелодыі:

Я могу в ожиданьи свидания
До зари простоять под окном...

Рэня зненавідзела кіншчыка, не ўзлюбіла яго чартоўскія песні, са страхам глядзела на гарласты школьны комін. Яна не жадала, каб Альбін пакутаваў

з-за нейкай малёванай шалахвосткі. От бо ўрэдзіна: і чалавека скалечыла, і іншым жыццё каламуціць! Але Рэня не такая, каб даць сябе ў крыўду, каб Альбінавы пакуты засталіся без помсты. Рэня не спала адну ноч, не спала другую, а на трэцюю ноч, сто разоў пакруціўшыся з боку на бок, яна прыдумала, што ёй трэба рабіць.

Раніцай, на хвіліну заглянуўшы ў кладоўку, Рэня бразнула весніцамі і выбегла на поплаў. Падсыхала трава, не блішчэла сярэбранай расой, і гэта значыла, што Рэні варта спяшацца. Яна бегла цераз поплаў, і ёй было цяжка бегчы, потым яна пераходзіла кладку на канаве, і тут ёй трэба было ісці асабліва асцярожна, каб не ўпасці, не шуснуць у халодную ваду. Бегчы Рэні перашкаджаў нязвыкла вялікі жывот, але яна паспела на школьны пляц акурат у той час, калі кіншчык — малады і рухавы — ужо грузіў на воз драўляныя скрынкі з апаратурай. Тут быў і жахлівы чорны дынамік, які нахабна і бесцырымонна трывожыў спакой Рэнінага двара.

— Ад'язджаеш ужэ? — запыніла Рэня кіншчыка каля ганка.— А пласцінкі дзе твае? Тыя, што граюць?

— Вунь у скрынцы ляжаць,— паказаў кіншчык і здзіўлена паглядзеў на Рэню.— Навошта яны вам?

— Ты аддай мне адну, дзе пра любошчы пяюць.

— Дык у мяне ўсе такія пласцінкі.

— Я ж не за так прашу,— сказала Рэня і адхіліла крысо шэрага сачыка, паказаўшы зялёную пляшку.

Кіншчык пракаўтнуў сліну.

— Скажыце, як хоць называецца?

— Там якісьці жабрак дарунка не мае за што купіць.

— А-а! Ё ў мяне такая песня.— Бялявы хлопец з аблупленым ад сонца носам пакалупаўся ў скрынцы з пласцінкамі і выцягнуў бліскучы чорны дыск.— Во яна. Бярыце, калі так патрэбна.

Рэня як не подбегам бралася паўз Куксачоў плот, і грампласцінка, схаваная пад сачыкам, прыбаўляла ёй злосці і рашучасці. Ужо нішто не магло б выратаваць жывы чалавечы голас, які прытаіўся ў гэтым чорным дыску. Апынуўшыся на поплаве, Рэня азірнулася, нікога побач не ўбачыла — ні каля трухлявага плота, ні каля пахілых вербаў, выхапіла з-пад сачыка ненавісную грампласцінку і з усёй сілы шпурлянула вобзем.

Павесялеў поплаў, варухнулі абвіслым веццем зялёныя вербы над канавай. З двара, дзе ля весніц маўкліва горбіўся Альбін, ветрык данёс церпкі пах яблыневай і вішнёвай квецені. Сад цвіў, стаяў як абліты малаком, і Рэня адчула яго ачмурэлы веснавы пах. Яна грабянула нагой чорныя ашкалёнкі, азірнулася на пусты школьны комін і пайшла цераз поплаў — цяпер ужо марудней, спаважна. Ёй, тоўстай і непаваротлівай, зноў давядзецца пераходзіць гнілую, з рыжымі п'яўкамі, канаву, дык трэба адпачыць, набрацца сілы, каб не спатыкнуцца і не ўпасці на коўзкай кладцы.

## СЕНЬКА І ГАЛУБЫ

Цэлая вуліца бязбацькавічаў.

Стасевага бацьку забілі на Вісле, Міколкавага — пад Берлінам, Цімкавага тату замучылі бандыты, якія пасля вайны хаваліся ў Машукоўскім лесе. Не памятае свайго і Сенька Марыльчын. Яго бацька, гвардыі сяржант Хведар Дрозд, таксама не вярнуўся з фронту.

Але на сірочай вуліцы болей за ўсіх не пашанцавала Тэклінаму Алёшку. У яго і бацькі няма, і сам калечка. Ходзіць Алёшка на арэхавых кійках: адзін

зашчэмлівае пад пахай, а на другі — карацейшы — апіраецца правай рукой. Гэтак і ходзіць — кульгець, кульгець. Ступак левай нагі ў Алёшкі дзіўна завернуты набок, а сама нага тоненькая, аж свіціцца. Нарадзіўся такім. Алёшка не гуляе ў хованкі, не папускаецца, як гранатамі, кукурузнымі катахамі — абедзве рукі ў яго заўсёды заняты. А старая Тэкля глядзіць на свайго калечку, і на вачах у яе слёзы.

Стась з дзядзькам Міхалем драпае кукурузу, Міколка пасе статак на выгане, Цімка яшчэ з раніцы пабег у лес — там сама што паспелі чарніцы. Сенька па-свойму зарабляе працадні. І толькі адзін Алёшка нідзе не ўладкаваны. Вадзіць каня, як Стась, ён не здолее, за каровамі не ўбяжыцца, нават у лес па ягады яго не возьмеш — адстане. Хай бы Алёшка лепш і не прыходзіў на калгасны двор, не глядзеў зайздросна, як Стась запрагае Каштанчыка.

Алёшка пастаяў каля свірна, уздыхнуў і, налягаючы на свае арэхавыя хадулі, паклыпаў дахаты. А Сенька застаўся. Яму трэба быць на службе. Сеньку наняў сам кладаўшчык Генюсь Пакумейка. Хто ведае, які ён гаспадар у свірне, а на выгляд Генюсь — чалавек самавіты. Ходзіць у зялёным галіфэ і такой жа зялёнай гімнасцёрцы. У Генюся густы рыжы чуб, рыжыя бровы, і, каб не гэтае рыжоцце, то і наогул ён не меў бы сабе раўні. І чаму толькі дзяўчатам падабаюцца ўсе высокія і рыжыя? Не проста ж так сабе лупіць на Генюся зекры гэтая губатая Манька Тадорчына. Яна памагае наводзіць парадак у свірне, мые арфу, раз-пораз зыркаючы на рыжага Генюся, а на Сеньку нават і не гляне.

Сеньку дзявочая няўвага мала абыходзіць. Хай ужо рыжы Генюсь цешыцца сваёй Манькай. Сеньку абы працадні ішлі. Кладаўшчык цэлую кучу іх наабяцаў. Праўда, не адразу ён рашыўся аддаць столькі багацця ў хлапечыя рукі, яшчэ і перапытаў:

— Ты вушлы хлопец, Сенька?

— Але, дзядзька Генюсь. Вушлы, вушлы! — паспешліва адказаў Сенька і, дзеля нагляднасці, памацаў свае вушы.

— Сам бачу, што вушы ў цябе, як талеркі,— зморшчыўся рыжы Генюсь.— Я не пра тое. Я пытаю: ці хітры ты?

Сенька ўспомніў, што Тадорка, Маньчына маці, і да гэтага часу не ведае, хто зняў з шула дзіравы алюмініевы саганок і прадаў у краму на цукеркі, і адказаў без ашуканства:

— Хітры, хітры!

— Я-то і бачу,— зусім задаволена ўсміхнуўся рыжы Генюсь і ўзяў Сеньку на работу.— Калі будзеш старацца, то можаш зарабіць мяшок збожжа. Працадні ў мяне не палявыя — асаблівыя. Па тры кіло жыта буду даваць.

Гэта яшчэ і як добра, што працадні ў рыжага Генюся такія жытныя. Кепска другое: служба Сеньку трапілася сядзячая. Трэба сядзець на памосце каля свірна, глядзець у неба, і — усё, і ніякіх больш табе клопатаў. Хопіць ужо, што губатая Манька бегае па свірне за дваіх. Яна памыла арфу, прыбрала на прасходзе, а цяпер мокрай анучай праціpae дошкі ў засеках, усё далей адыходзячыся ў глыб шэрай будыніны.

Пры Маньцы рыжы Генюсь як перарадзіўся: вельмі стаў рухавы і шустры. То быў павольны, як мул, а тут і спрыт аднекуль узяўся. Зялёная гімнасцёрка не адыходзіцца ад Манькі — падасць то анучу, то вядро з вадою. А калі Манька лезе абмятаць павуцінне са сцен, Генюсь трымае лескі, каб не ўпала. Вясёлая ў іх работа. Манька смяецца на ўвесь свіран, а рыжы Генюсь, відаць, любіць яе смех: раз за разам казыча Маньцы босую пятку, каб памочніца яшчэ больш смяялася.

— Ой, не казычыся, Генюсь! — просіцца Манька.— Не казычыся, а то ўбрыкну.

Аднаму Сеньку сумна. Перакінуцца слоўцам няма з кім, і гуляць не пабяжыш, бо выгодную службу страціш. Трэба цярпець, калі ўзяўся за гуж. Але ж і абед ужо хутка. У бязвоблачным небе прашмыгнула чародка галубоў, недзе ў застрэшку чырыкнуў верабей. У свірне, як мыш, піскнула Манька і адразу заціхла. І добра ж ёй памагае рыжы Генюсь! Яны, мусіць, і не думаюць пра абед? Не, думаюць. Першай выбегла з дзвярэй Манька — румяная, вясёлая, паправіла хустку і хуценька спусцілася па прыступках з памоста. Рыжы Генюсь выйшаў павольна, на хаду папраўляючы гімнасцёрку. Убачыў Сеньку, сказаў:

— Ідзі ўжэ і ты абедаць.

Бегчы дахаты Сеньку ўсяго некалькі хвілін. За сталом ён сядзіць, нібы турэцкі султан. Падавай, маці, хутчэй яечню! Бачыш, як нарабіўся твой сын. Але яечню маці не падае: нясе шчаўе, засмачанае смятанай. Сенька бярэ лыжку, акраец хлеба.

— Еш памочнічак мой,— глядзіць збоку маці.— Стаміўся, нябось.

На ўслоне каля акна сядзіць Тэкля. У яе вечна чаго-небудзь не хапае: соль пазычае, па запалкі прыходзіць. А калі зойдзе ў хату, то можа прасядзець цэлы дзень.

— Дзіва што стаміўся,— кажа Тэкля.

— А вось і не стаміўся,— пярэчыць ёй Сенька, адарваўшыся ад міскі.— Я цяпер на штатнай рабоце. У свірне я цяпер. Сам кладаўшчык наняў.

— І што ты там робіш, Сенька? — дзівіцца маці.— Жыта арфуеш?

— Якое ж сёння жыта? — пацепнуў плячукамі Сенька.— Вераб'ёў і галубоў пільную, каб не ляцелі ў свіран. Генюсь там парадак наводзіць, а пташкі, самі ж ведаеце, што могуць... От і пільную.

— Нявеж праўда? — падсунулася да стала Тэкля.— Галубоў пільнуеш? І толькі ўсяго?

— Трэба мне хлусіць,— пакрыўдзіўся Сенька.— Генюсь наняў. Ён мне за гэта яшчэ і працадні піша. У яго нейкія асаблівыя працадні — не палявыя. Па тры кіло жыта будуць даваць за кожны.

— Тры кіло? — здзівілася Тэкля.

— Ну, я пайшоў, мама,— падняўся з-за стала Сенька.— Генюсь, напэўна, без мяне свіран не адчыняе.

Тры хвіліны лёту, і — Сенька на службе. Манька шаруе засекі, бразгае вядром. Сенька сядзіць на памосце, пільнуе галубоў. А рыжы Генюсь зноў стаіць у парозе свірна і задае ўсё тое ж пытанне:

— Пільнуеш, Сенька?

— Пільную, дзядзька Генюсь.

— Глядзі ж, не праваронь. Каб ні адзін голуб у свіран не заляцеў. Чуеш?

— Чую, чую.

— Я там буду мяшкі зашываць. Калі пакажацца хто блізка, таксама не забудзь свіснуць.

— Свісну, свісну!

Сенька стараецца, добра пільнуе галубоў, і нечакана яму прыходзіць думка, што ці варта было б плаціць столькі жыта за такую марную работу? Птушкі, хоць ты плач, не ляцяць у свіран. Мабыць, здагадваюцца дармаедкі, што збожжа тут і каліва няма. Хоць бы той абшчыпаны верабейчык прыляцеў, які перад абедам чырыкаў у застрэшку. Але што гэта? Невысока над свірнам пракрулявала чародка галубоў. Няўжо і гэтыя праляцяць міма? Такога здзеку над сабой Сенька не дапусціць. Пальцы самі просяцца ў рот, а калі пальцы ў роце, то і свістаць трэба. Сенька свішча — раз, другі. Свісту, аднак, мала, і Сенька ў дадатак яшчэ і крычыць:

— Эге-ге-гей, галубы! Эге-ге-гей!

У свірне гудзе падлога, дрыжаць сцены, звіняць вёдры. Спатыкаючыся ўпоцемках, гупаціць ботамі рыжы Генюсь. Як жа ён, бедненькі, спалохаўся Сенькавага свісту! Выбег у расхрыстанай гімнасцёрцы, без папружкі, з растрэпаным рыжоццем на галаве.

— Што, дзе? — дрыжыць у Генюся голас.— Хто там ідзе?

— Ніхто не ідзе,— смяецца Сенька.— Галубы вунь кружацца.

Дзіўна, што Генюсь не сварыцца на Сеньку: задзёр галаў у неба, убачыў там галубоў і адразу палагаднеў, уздыхнуў з аблёгкай:

— Ат, хай сабе кружацца. Столькі тут бяды. А ты, хлопча, не свішчы без патрэбы.

Сенька чырванее. Цяпер ён не будзе з-за дробязі палохаць рыжага Генюся — хай ужо спакойна зашывае свае мяшкі. А тым больш і свістаць няма на каго, бо галубы падражніліся з хлопцам і прапалі за засмужаным лесам. Ад суму можна памерці.

Але Сенька не памірае, а ўсяго толькі дрэмле, прыгрэўшыся каля сцяны. Сенька дрэмле і не ведае, што трэба свістаць, спіць, бядак, і не бачыць, што каля свірна мільганулася квяцістай хусткай старая Тэкля. Вось яна высунулася з-за вугла, вось ужо, цяжка сапучы, падымаецца па скрыпучых прыступках на драўляны памост. За рукаво Тэкля цягне свайго няздалага Алёшку. Ён упіраецца, хныча, грукаючы аб дошкі арэхавымі кійкамі. Ад скрыпу і шуму Сенька прачынаецца.

— Цётка, куды вы?

— Генюся шукаю,— азірнулася Алёшкава маці.— Дзе ён тут? Дальбо, нічога не бачу.

Сенька свішча.

— Ды сціхні ты! Свістун мне знайшоўся,— абураецца Тэкля.— Іш, як ён працадні зарабляе! Дрыхне сабе, як паўпанак.

Зноў гудзе падлога, бразгацяць вёдры. У гэты канец свірна з-за арфы бяжыць рыжы Генюсь. Пакуль ён мыляе губамі, дзівячыся, адкуль тут з'явіліся госці, старая Тэкля водзіць вачыма па столі, па сценах, выцягваючы шыю, зазірае ў засекі.

— Праўду Сенька казаў. Анбар прыбралі, як да вялікадня. І галубоў не відаць.

— Якіх галубоў? — не разумее рыжы Генюсь, ужо крыху супакоіўшыся.— Нешта верзяце вы.

Цётка Тэкля падазрона глядзіць на кладаўшчыка.

— Бытта ён не ведае! Іш, хітрун! А Сеньку дзеля чаго наняў? Каб галубоў у свіран не пускаў. Во!

Цяпер чырванее рыжы Генюсь. Ён то хавае рукі ў кішэні, то вымае назад і, здаецца, з лютай нянавісцю глядзіць на Сеньку.

— Слухай, міл-чалавек,— лагаднее цётка Тэкля.— Наняў аднаго, то і другога вазьмі. Алёшку я прывяла. Не глядзі, што калечка. Будзе добра на галубоў свістаць.

— Жарт гэта. Нікога я не наймаў,— разводзіць рукамі кладаўшчык.— Яй-богу, пажартаваў.

— Добрыя жарты, калі па тры кілі жыта даеш за выхад.— Не верыць цётка Тэкля.— Чуеш, вазьмі Алёшку!

Рыжы Генюсь разгублена лыпае вачыма:

— Узяў бы, каб льга было. Пакпіў я з Сенькі. Ну, чэснае слова, пакпіў.

Старая Тэкля ўжо і сама бачыць, што кладаўшчык не хлусіць. Які момант яна стаіць змрочная, расчараваная. Потым хапае з Алёшкавых рук арэхавы кіёк і тыцкае ім перад самым носам рыжаму Генюсю.

— Акаянец ты! — крычыць Тэкля.— Зладзюга рыжы! Ці ж можна з дзяцей збыткаваць?

— Не хацеў жа я,— спрабуе абараніцца Генюсь.— Само ўсё выйшла.

— Ды я ж табе бельмы выкалю...

Цётка Тэкля гоніць перад сабой рыжага Генюся — тупаціць нагамі, трасе кіем. Генюсь адступае ў цёмны канец свірна, засланяецца далонямі. Звініць пад ботамі вядро. З-за арфы на шум выглядвае Манька Тадорчына і тут жа хаваецца назад. Толькі на міг паказаліся зіркатыя вочы, але і гэтага хапіла Тэклі, каб убачыць і пазнаць Маньку.

— Не хавайся! Бачу, бачу! — свішча ў паветры арэхавы кіёк.— Іш, ты! Хаваецца...

Рыжы Генюсь, збялеўшы, мабыць, ад страху, мінуў ужо арфу, і цётка Тэкля апынулася акурат каля раскудлачанай Манькі, якая, спрабуючы падняцца з наўколенцаў, хуценька папраўляе валасы. Разгневаная Тэкля зыркае то на Маньку, то на Генюся, і нейкая здагадка асвятляе яе маршчыністы твар.

— Ага, вось як вы анбар мыеце! І Сеньку яшчэ нанялі...

— Цётачка, не кажыце мацеры! — галосіць Манька.— Яна ж заб'е мяне...

Тэкля стаіць каля арфы — немаладая, спрацаваная кабета, і гнеў у яе праходзіць, гасне румянец, які кружкамі выступіў на абветраных шчоках. Яна глядзіць на Маньку, глядзіць на Генюся і раптам пачынае смяяцца:

— Ха-ха-ха! Дальбо, не магу. Гэта ж так рассмяшылі. Ха-ха-ха!

Смех у Тэклі нервовы, нейкі траскучы, з перахліпамі.

— Гы-гы-гы! — выйшаў з утрапення і ўслед за цёткай забухаў, як у бочку, рыжы Генюсь.— Гы-гы-гы!

Манька глядзіць, глядзіць на іх і таксама пачынае смяяцца. Смяецца Манька, смяецца Сенька, усміхаецца Алёшка.

— Ха-ха-ха! — рагоча чысценькі, падмецены, вышараваны свіран.

— Ой, дайце радачкі! Бокі баляць,— выцірае нарэшце слёзы цётка Тэкля.— Пайду я. Якое мне дзела да вас.

Яна бярэ Алёшку за рукаво, цягне на выхад. Ужо каля парога азіраецца, ківае пальцам рыжаму Генюсю:

— А Сеньку дарма ты ашукаў. Ды што Сенька! Я і сама, дурніца, паверыла.

Трэба ўжо ўцякаць і Сеньку. Рыжы кладаўшчык, напэўна, зараз, як абцугамі, ушчаперыцца пальцамі за вуха. Ён бокам ціснецца да дзвярэй, не зводзячы вачэй з ашуканца. Але дзіўна: той не бяжыць, не даганяе хлопца.

— Сенька, куды ты? — кліча рыжы Генюсь, і голас у яго нейкі ціхі, вінаваты.— Ідзі сюды.— Я табе працадзень запішу.

— Не пайду!

Рыжы Генюсь выцягвае з халяўкі бота згорнуты ў трубку сшытак і, схіліўшыся над арфай, нешта крэмзае ў ім.

— От глядзі — запісаў...

Але паказаць працадзень няма каму — Сеньку як вецер вымеў са свірна. Ён бяжыць паўз трухлявыя платы і яшчэ не ведае, ці варта яму крыўдзіцца на Генюся. Жаніцца, мабыць, будзе рыжы падманшчык. Таму і наблытаў з гэтай Сенькавай службай.

Сенька думае пра сваю крыўду і нечакана прыцішвае крок.

Уперадзе перад ім па няроўнай вуліцы ідуць цётка Тэкля і яе кульгавы Алёшка. Тэкля спяшаецца, ідзе порстка, пылячы босымі нагамі, але і Алёшка не адстае. Кульгець, кульгець — толькі арэхавыя кійкі мільгаюць. Тэкля нешта гаворыць сыну, і Алёшка ў адказ ківае галавой.

Сеньку не хочацца даганяць іх.

# ЗМЕСТ



---

ВИКТОР КОНСТАНТИНОВИЧ ГОРДЕЙ

**Дом с голубыми ставнями**

**Повесть и рассказы**

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар І. І. Кананові ч
Мастак А. А. Мацюшэўская
Мастацкі рэдактар М. Я. Янчук
Тэхнічны рэдактар А. Б. Барадзіна
Карэктар Л. Т. Калюжная

ІБ № 1472

Здадзена ў набор 07.06.83. Падп. да друку 07.12.83. АТ 08753. Фармат 70×100[1]/32. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 10,32. Ум. фарб.-адб. 10,32. Ул.-выд. арк. 11,24. Тыраж 12 000 экз. Зак. 3716. Цана 90 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

З набору Мінскага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбіната МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23, друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка», 220600, Мінск, Ленінскі праспект, 69. Зак. 110.